




# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

12 (1020)

СНЕЖАНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года


## ЗМЕСТ

**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ПАСЛЯ ВАЙНЫ

*Раман**

## VIII

Час ад часу ў Пруску стала прыязджаць кінаперасоўка. Сялянская фурманка з канём — гэта кінамеханік Радзівон Сапега са сваёй кінагаспадаркай. Першымі пра кіно звычайна даведваліся дзеці, паведамляючы пра гэтую не абы-якую падзею бацькам. Апроч таго, Сапега вывешваў на магазін, з дазволу Салівэся, аркуш паперы, на якім невыразнымі крывымі літарамі была напісана назва фільма. Карціны самыя розныя: «Гэта было ў Данбасе», «Зыгмунт Каласоўскі», «Два байцы», «Цырк», «Яна абараняе Радзіму» і інш. Усе яны пасля прагляду горача абмяркоўваліся, пераказваўся змест, смакаваліся падрабязнасці.

Пасля кастрычніцкага свята прывезлі карціну «Апошні этап». Сеанс, як звычайна, наладзілі ў школе на першым паверсе, расчыніўшы створку паміж двума класамі. Народу — як селядцоў. Білет не дарагі — рубель, а нехта, карыстаючыся начным змрокам, пралез і ў акно. Сапега корпаўся каля кінапраектара і за вокнамі ўсачыць не мог. Гледачы аб чымсьці перамаўляліся, у зацемненым памяшканні стаяла гамана. На прынесеных з настаўніцкай крэслах сядзелі Мікалай Фаміч і Аляўціна Дзіядотаўна. Размясціліся на выгадных месцах, у глыбіні залы, каб не ўпрытык з экранам, бо надта мігцела ўваччу. Сярод гледачоў — Амелія ў напятай на плечы цяжкой хустцы і старым капялюшыку. Ніводнага сеанса яна не прапусціла. Як адданую кінаглядачку Радзівон пусціў яе бясплатна.

Самыя малыя, хто пралез у акно, сядзелі на падлозе.

Сеанс пачаўся. За спінамі гледачоў мітусіўся Радзівон, як бусел на клуні, клекатаў яго кінапраектар. Позіркі сышліся на квадраце мігатлівага экрана, на якім адбываліся нейкія падзеі, перамяшчаліся постаці.

— Надта мільгае, цяжка ўсачыць, — паскардзілася Хрысія Хлябіч, не адрываючыся ад экрана. Усе глядзелі ўважліва, баючыся прапусціць штонебудзь важнае, цікавае.

...На чыгуначнай платформе разгружаўся эшалон з яўрэямі. Што гэта яўрэі, можна было пазнаць па характэрных рысах, па выглядзе, па начэпленых на грудзі зорках Давіда. Стамлёныя, знямоганыя людзі з убогімі клункамі ды торбамі. Маці сутаргава прыціскалі да грудзей дзяцей. Усё выглядала

---

* Працяг. Пачатак у № 11, 2014 г.

вельмі страхотліва. Навокал варта — узброеныя эсэсаўцы з аўчаркамі. Подых жорсткасці і асуджанасці. Жах. Стан трагічнай бездапаможнасці.

— А можа, гэта нашы, камянецкія? — з уздыхам вымавіў нехта ў зале.

Пачуліся іншыя галасы:

— Ці не Роза гэта?

— А вунь, здаецца, Хаечка...

На экране з'явіўся здаравеннага росту эсэсавец з пісталетам у руцэ.

— Ordnung, Ordnung![1] — крычаў ён, размахваючы сваёй зброяй.

Яўрэяў ставілі ў калону і кудысьці вялі.

— Ой, што ж гэта такое? — занепакоілася Дзякрэта.

— Куды ж іх вязуць, людкове? — спытала Параска, якая сядзела побач з Аркадзем.

— Куды гэта? — загаманіла зала.

— А што вы не ведаеце! — не вытрымала Амелія. — На той свет вязуць! — Яна ўспомніла, як у 1940 годзе і яе самую — жыхарку і службістку грэшнай «трынаццаткі» ў Брэсце — таксама маглі вывезці ў такім жа вагоне ў Казахстан, і невядома, што з ёю было б. Яна глыбока ўздыхнула.

— Напакуталіся яўрэі, — азваўся Мікіта Галёнка. — Гэта не сакрэт. Нацярпеліся.

У зале завойкалі, застагналі.

Падаў голас Цярэшка Макацёр:

— А разгавор у немцаў і яўрэяў адзін, мова адна, а вось што палучаецца...

Прускаўцы ведалі пра трагічны лёс камянецкіх яўрэяў, з якіх мала хто пасля вайны застаўся ў жывых.

Гледачы стаілі дыханне, запанавала поўная цішыня. Толькі чутно было, як шаптала Амелія:

— Што робяць, Божа мой, што робяць...

З прагляду — была ўжо глыбокая ноч — разыходзіліся моўчкі.

У Камянцы да вайны жылі дзве з палавінай тысячы яўрэяў, цяпер амаль нікога з іх не засталося. А якія майстры былі! Кавалі, краўцы, маляры, шаўцы, бляхары, пекары, сталяры, цеслі, піівавары...

* * *

Пачалі вяртацца франтавікі. Адным з першых прыйшоў з вайны Ляксандар — сын Павала Гальяша. Цэлы і неўрадзімы, як казалі ў Прусцы.

Дэмабілізаваўся Апанас Хомка. Сынам Жоржыку і Толіку — школьнікам — прывёз па трафейнай аўтаручцы, Дзякрэце — шоўкавую сукенку. Прымераўшы сукенку, якая, на жаль, аказалася крыху цеснаватай, расстроеная Дзякрэта не ўтрымалася і папракнула мужа:

— Хоць бы пачку якую прыслаў! Людзі слалі...

— Чаго захацела! За тыя грошы, што нам давалі, шмат не купіш, — знайшоў што адказаць Апанас.

Прыйшоў з тугім салдацкім рэчмяшком Оргій Ламака, якога па незразумелай прычыне звалі Багдан. Мянушка, калі прычэпіцца, дык надоўга, на ўсё жыццё. Валодзік з аднагодкамі, сабраўшыся ў Оргіевай хаце, бачылі, як гаспадар развязаў гэты мяшок, дастаў адтуль некалькі каляровых алоўкаў і перадаў іх сваім

---

[1] — Парадак! Парадак! (*ням.*).

сынам — Васілю і Сашку. Адзін з алоўкаў Оргій даў Ахрэмаваму Сашку, бацька якога загінуў у час акупацыі. Забілі паліцаі, і Сашку не было каго чакаць. Надзяліўшы алоўкам Сашку, агледзеў кампанію падлеткаў. Зірнуў на Грышу Гальяша. Даў аловак і яму. Грыша выглядаў сумным і панылым. Яно і зразумела: яму таксама не было каго чакаць з фронту. Бацька, былы солтыс, Хрысан, сядзеў у турме. Арыштавалі нкусаўцы. Атрымаў дзесяць гадоў зняволення. Нядаўна прыслаў ліст — знаходзіўся на прымусова-папраўчых работах у Варкуце.

Стала вядома, што геройскі, смерцю храбрых, загінуў на ратным полі Грышка Шаўчук. Аўдавела жонка Люба і асірацелі дзве дачкі — Вера і Ліда.

У чаканні Васіля Прося выконвала ўсю гаспадарчую працу: закладала агарод, садзіла бульбу, касіла, назапашвала на зіму сена, палівала малады сад. І па хаце шмат клопатаў. Дапамагалі, вядома, Лявон з Фёклай.

У канцы чэрвеня, на святога пакутніка Ціхана, аціхлі пеўчыя птушкі, гадавалі птушанят, навокал запанавала цішыня. Буяла зеляніна дрэў. Закрасаваў, а потым і зацвіў сінімі агеньчыкамі лён. Марудна цягнулася лета. Стаяла добрае надвор'е. Красавала і налівалася жыта. Зрэдку асвяжалі паветра кароткатэрміновыя дажджы. Варочаўся, бурчэў у хмарах гром, але праз нейкі час над камянецкім гасцінцам ізноў высока ўзнімалася сонца.

Васіль вярнуўся ў жніўні. Раней нельга было, бо ахоўваў Патсдамскую канферэнцыю. Дабіраўся з Берліна пехатой, у прасоленай ад поту гімнасцёрцы, з рэчмяшком за плячыма. Часам трапляла спадарожная машына. Чыгунка была занятая — вывозілі з Германіі трафейную маёмасць. Хоць пяшком, але ляцеў як на крылах, сігаў шырокімі крокамі. Асабліва, калі дабраўся да Брэста і стаў пазнаваць знаёмыя мясціны.

Каля Пацавага фальварка, не заходзячы да кума, ужо ў вечаровым сутонні, перайшоў праз кладку раку. Ветрык данёс пах мядовых сотаў з Пацавага пчэльніку. Далей ішоў берагам. Мінуў Крухмальню, абышоў сажалкі, яшчэ з часу вайны, калі немцы будавалі тут лінію абароны, заваленыя спілаванымі дрэвамі, і вось ён ужо і дома. Вось царква, каменная агароджа, каля якой калісьці паставіў, каб расстраляць, драпежны Свісціян. Было гэта не так і даўно, у 1944-м вясной, але столькі з таго часу пражыта, што, здавалася, — вельмі даўно. У шчаку зноў тыцнуўся вецер, і Васіль адчуў, пазнаў, успомніў, што гэта той вецер, мяккі, пяшчотны, свой. Да хаты падыходзіў, чуючы, як неўтаймоўна грукоча, тахкае ў грудзях непаслухмянае сэрца. Вось пасаджаны ім калісьці перад хатай куст бэзу, за кустом — ганак і дзверы. Бэз шырока разросся, падступіўшы да самай сцяжыны.

Загаўкала як на чужога Нэрка, а потым неяк радасна заскуголіла.

— Нэрка, Нэрка, — ціха паклікаў ён.

Пачуўшы сваю мянушку, Нэрка з прыемнасцю вільнула хвастом, лізнула яму рукі — раз, і два, і тры, але ён пазнаў яе язык адразу. Прылашчыў, пагладзіў між вушэй. Хутка падняўся на ганак і ўзяўся нарэшце за клямку, адчыніў дзверы. Апроч Просі, у хаце знаходзіліся Лявон з Фёклай, за сталом вячэралі, бразгалі лыжкамі, дзеці. На стале ляжаў хлеб, у кубках бялела малако. Гарэла падвешаная да столі газавая лямпа.

— Добры вечар!

Усе зірнулі ў бок раскрытых дзвярэй, дзе ў праёме стаяў Васіль. Гэта была нечаканасць.

— Вася! — гукнула Прося, калі ўбачыла яго на парозе. Разам са свякроўкай кінулася яго абдымаць. Адчула, як свежай скурай запахла яго новенькая партупея. — Вася! Вася! — Прося заплакала, выціраючы фартушком твар. Па-дзіцячы ўздрыгвалі яе плечы, калі яна прыціснулася да яго, забыўшы пра

ўсё ад шчасця. Ён моцна сціснуў яе ў шчыльных абдымках, яшчэ і яшчэ раз пацалаваў.

— Вася! Вася-ятка! — стагнала і тулілася да сына Фёкла. Абедзве плакалі, але гэты былі слёзы радасці. Ад Васіля пахла дарожным пылам і потам.

— З вяртаннем! — павіншаваў і абняў Лявон.

Хата ў адзін міг напоўнілася весялосцю, ва ўсіх падняўся настрой, заблішчэлі вочы ў дзяцей. Васіль зняў з плячэй рэчмяшок. Малыя — Валодзік, Віталік і Лёнік — пазіралі на бацьку з печы, дзе прыладзіліся на яго старым цёплым кажуху. З печы хуценька спусціліся на падлогу, кінуліся да бацькі. Васіль абцалаваў сыноў, адзначыў, што падраслі, з любасцю паўзіраўся ў сямейнікаў, у іх мокрыя ад слёз вочы, успомніў, што прывёз падарункі і стаў распакоўваць рэчмяшок. Кожны нешта атрымаў. Просі прывёз адрэз на сукенку. Яна ажно зардзелася ад радасці і шчасця, што вярнуўся муж. Маці дастаў хустку. Лявону — фацэтную зімовую шапку з казырком, чым вельмі яго ўзрадаваў. Галоўнае, што падышла па памеры. Валодзік атрымаў кароткія штонікі з чорнага вельвету. Такіх у Прусцы ні ў кога з дзяцей не было. Хлопец адразу іх і надзеў. Віталікаў падарунак — чырвоны самаход з завадным ключом. Самы малодшы, Лёнік, атрымаў губны гармонік.

— А сабе што прыдбаў? — пацікавілася Прося. — А то ўсё нам і нам.

— Усю Германію праехаў, а туфляў на сваю нагу не знайшоў. Затое ў аднаго немца-шаўца боты пашыў, — Васіль нагнуўся, паляпаў далонню па хромавых халявах.

— Дабрэнныя! — пахваліў айчым.

— Дзякуй богу, што хоць жывы вярнуўся, — азвалася маці. — Мы так баяліся!

— Кантузіла трохі, але падлячыўся і прайшло. Прапанавалі між іншым на два гады ў Берліне застацца, у адміністрацыі папрацаваць, але я не згадзіўся. Дадому цягнула, да вас.

Радасць сустрэчы перажывалі ўсе, з захапленнем пазіралі на бацьку дзеці. На грудзях у яго знак «Гвардия» і два медалі. І ажно тры лычкі на пагонах.

Лявон, радасна варухнуўшы вусамі, пабег па гарэлку. Прося збірала на стол закуску — свежыя гуркі з агарода, цыбулю, укроп. Паставіла варыцца маладую бульбу. Стаўшы каля пліты, стала смажыць яечню.

— А мы Домне напісалі і ад яе ліст атрымалі! — пахвалілася Фёкла.

Цётку сваю Домну Васіль ведаў, памятаў, хоць і слаба, бо з'ехаў з Запалоннага малым.

— Ну а як яны там?

— Цяжка ім, працуюць, у нястачах жывуць.

— Рускія вельмі смелыя і кемлівыя — у гэтым я на фронце пераканаўся. Пасля вайны справы павінны пайсці.

Прося пазірала на мужа. Васіль расшпіліў белы падшыты каўнерык гімнасцёркі, у Брэсце паспеў пагаліцца ў цырульні і цяпер выглядаў не з горшага.

Вярнуўся Лявон з бутэлькай «карчоўкі», прыхапіў кавалак сала. Прося прынесла з каморы буханку хлеба з рэшткамі запечаных кляновых лісцяў. Наразаць хлеб узяўся Васіль, пяшчотна тулячы буханку да грудзей.

Лявон наліў у кілішкі. Выпілі за Васілёва вяртанне, за тое, што пашанцавала, з Божай дапамогай ацалеў.

— Шмат чаго бачыў, раскажу калі-небудзь.

Прыспешваць франтавіка ніхто не стаў, лічыліся з яго настроем. Пачалі закусваць, хрумсталі свежымі, з градкі, гуркамі. Прося паставіла на стол, на драўлянай падстаўцы, скавараду з яечняй.

— Худы, затое, здаецца, ростам вышэй стаў, — адзначыла Фёкла.

— Такі як і быў, — усміхнуўся сын.

— Не-е, — не згадзіўся Лявон, — ты ж вайну прайшоў, у цябе за плячыма ваенны досвед. Ты ўжо іншы, ты ўжо больш самастойны, сталы. На ўсё нагледзеўся.

— Тое-сёе, тато, пабачыў. А вы як жывяце?

— Жывём, на долю не наракаем, — за ўсіх адказаў Лявон, прыгладзіўшы рукою пасмачку валасоў над ілбом. — У хлеб грэцкую муку дамешваем, бульбу...

— Дамешваем! — азвалася Фёкла. — Усе дамешваюць.

Прося паднялася, зняла з пліты чыгунок з гатовай бульбай, адцадзіла, высыпала ў верцяху і таксама паставіла на стол. У рандэліку з доўгім тронкам падсмажыла сала з цыбуляй і тлушчам паліла бульбу. Пасыпала ўкропам. Усе адчулі прыемны пах варанай бульбы з салам і ўкропам.

— Тыдні два, як сталі есці маладую бульбу, — расказала Фёкла. — Якраз к твайму прыходу.

— Дзякуй, мамо! — хітнуў галавою Васіль. Невядома з якой прычыны яму ўспомніўся пах гарачых снарадных гільзаў на батарэі пасля стрэльбаў. Але гэта ўжо засталося ззаду.

— Цябе чакалі, — сказала Прося, сеўшы каля мужа. Папраўіла валасы, залажыўшы іх за вушы. Не спускала з мужа вялікіх, крыху зеленаватых вачэй. Той таксама часта лавіў яе позіркам.

— Я б, можа, і раней дэмабілізаваўся, — апраўдваўся Васіль, — але Патсдамская канферэнцыя затрымала. Сталін у Патсдаме, гэта пад Берлінам, сустракаўся з Чэрчылем ды Трумэнам, а мы ў ахове былі. Чэрчыля за два крокі бачыў. Вось так, як вас. Апранутыя чыста, але не ўрачыста, не па-народнаму, а хутчэй па-дзелавому.

— Хацелі мяне ў Маскву паслаць, на парад Перамогі, але ў акупацыі быў, не паслалі.

— Дык хіба гэта мы вінаватыя, што пад немцам апынуліся? — абурыўся Лявон.

— Без віны вінаваты стаў! — далучылася да яго Фёкла.

— Не трэба надаваць гэтаму значэння, — супакоіў родзічаў Васіль. — Галоўнае, што перамаглі, што ворага адолелі.

— Што жывым вярнуўся, — дадала Прося.

— А служыў я пад камандай маршала Жукава. На яго, як на Бога, усе глядзелі. Са стратамі не лічыўся. Уперад і ўсё! Нават мянушку брыдкую займеў.

Стаў казаць Лявон:

— Кузёмка заходзіў дык казаў, што Сталін у Берлін ехаў праз Мінск і ў Мінску на перон выйшаў. Зірнуў, а горад увесь у руінах. Бамбілі яго і тыя, і тыя. Дык Сталін і кажа Панамарэнку: «Памоч вам трэба!» А той, каб выслужыцца, адказвае: «Самі справімся. Паднатужымся і справімся». Адмовіўся ад дапамогі.

Васіль на гэта нічога не адказаў, толькі спытаў:

— А Кузёмка ўсё ходзіць?

— Ходзіць! — азвалася Фёкла. — Усе навіны прыносіць.

Лявон зноў нецярпліва крануў пасмачку над ілбом, як бы нешта дужа яго цікавіла. Нарэшце спытаў:

— А ці бачыў амерыканцаў?

— А вось так, тато, як вас. З адным нават абняліся, і ён мяне віскі пачаставаў. На нашу самагонку падобнае, мяккае.

— Мяккае, смачнае, я піў!

— Чорных сярод іх шмат.

— Гэта — негры!

Лявон пра нешта задумаўся, мабыць, успамінаў, потым абвёў вачыма застолле і зноў наліў.

— Давайце за Просю, — пахваліў ён нявестку. — Яна ў цябе тут, браце, усю гаспадарку вяла!

— Малайчына! — далучылася да пахвалы Фёкла. — І дзетак дагледзела.

Яны выпілі, пачалі закусваць. Васіль абняў жонку, пацалаваў у шчаку.

— А як там кум Якаў Арыстархавіч? — пацікавіўся ён. — Прайшоў каля яго хаты, але не было часу зайсці. Жывы-здаровы?

— А што яму зробіцца! — пасміхнулася Прося.

— У яго ўсё добра, — адказаў Лявон. — Мірык у Берасць падаўся; відаць, там працуе. Пракідкі! Гэткі не прападзе, выплыве. А Хвядося і Амброжый тут.

— Калі царкву наведваюць, дык часам заходзяць вады папіць, — дадала Прося. — Гэта я пра Якава Арыстархавіча кажу — кума нашага, ды пра Амброжыя. Харошыя людзі.

Лявон паглядзеў на Фёклу, на Валодзіка. Пара было ісці дадому, у сваю хату. Надта парадаваў сёння Васіль сваім вяртаннем. Пара было даць яму адпачыць з дарогі.

Пасля таго, як яны развіталіся і пайшлі, Прося паклала дзяцей — Віталіка з Лёнікам (яны спалі на адным ложку), паслала Васілю і сабе.

— Прося, дарагая, я гляджу на цябе, я кахаю, як калісьці.

— Ой, надта чакала я гэтага дня, калі вернешся, калі ўбачуся з табою, — шэптам сказала яна, абдымаючы мужа. На яе нахлынула хваля пяшчоты і замілаванасці...

## IX

Ноччу снілася вайна, пярэдні край, артналёт. Густа, з завываннем, клаліся снарады, калацілася як у непрытомнасці зямля, буйнымі камякамі ападаючы на дол, у акопы. Ад выбухаў ён прачынаўся і шчыльней ціснуўся да жонкі, нібы шукаў у ёй паратунку. Прося таксама абуджалася ад сну, а можа, і зусім не спала, моцна абдымала, тулілася да яго, як бы не даючы камусьці адарваць ад сябе.

Назаўтра была якраз нядзеля, Васіль пагаліўся, апрануўся ўсё яшчэ ў вайсковае, пачапіў цераз плячо партупею і планшэтку на доўгім раменьчыку, вырашыў паглядзець на Пруску, убачыцца з аднавяскоўцамі. Прося вычысціла яго адзенне, боты, нагрэла вады, каб памыць у жлукце бялізну.

— А снедаць? — схамянулася яна.

— Вярнуся.

Надта захацелася пабачыць аднапасельцаў. Палюбаваўся маладым садам, што рос за хатай, некаторыя дрэвы ўжо пладаносілі, там-сям між лісцяў можна было ўбачыць яблык ці грушку.

Салівэсь ўжо адчыніў лаўку. Васіль зайшоў, павітаўся з лавачнікам. Маларослы Салівэсь зірнуў на ўвайшоўшага з цікавасцю, пазнаў, пасміхнуўся, але нічога не сказаў. Васіль агледзеўся. Тут можна было купіць газу, запалкі, соль, мыла, мазь, нават з жалеззя тое-сеё. З бочкі — жалезная бочка стаяла за прылаўкам, каля сцяны, — несла гарэлкай. Побач з гэтай бочкай яшчэ адна — меншая, з камсой.

У магазін зайшла Софа — жонка Восіпа Дзванарыка з пустой пляшкай у руках, папрасіла, каб Салівэсь нацадзіў гарэлкі.

— Нешта Восіп мой сумуе, — паскардзілася яна.

— Пахмяліцца яму трэба. Шкада. Без гэтага ён пакутуе, а я так шкадую яго, беднага, так шкадую...

— Разваротлівей трэба быць — жыццё такое, — сказаў Салівэсь, невядома каму адрасуючы сваю параду. Магчыма, самому сабе. Зачарпнуў гарэлкі і асцярожна, над бочкай, наліў у бутэльку, заткнуў папяровым коркам.

Софа хуценька расплацілася і панесла гарэлку Восіпу, а Салівэсь уздыхнуў і зрабіў колькі крокаў за прылаўкам. Аб сабе ён, відаць, быў вельмі высокай думкі, размовы не пачынаў і, магчыма, чакаў, што спытае пакупнік. Але жадання што-небудзь купляць у Васіля не было, ён па-вайсковаму прыклаў далонь да казырка, павярнуўся і пайшоў. Ідучы па вуліцы, стройны, статны, падцягнуты, адчуваў у сабе нейкую неўсвядомленую яшчэ мэтаімкнёнасць, рух і энергію, якія пасля франтавой службы жылі ў яго істоце. Аднапасельцы пазнавалі, віталіся, распытвалі пра здароўе.

У буднія дні, але асабліва ў нядзелю, мужчыны па даўняй завядзёнцы збіраліся каля Галёнкавай хаты, якая знаходзілася побач з сядзібай Натолія і Мішы Латушкі. На Галёнкавым прыгуменні, каля Натоліевага склепа, красавалася ўсё тая ж мажная, разложыстая ліпа. Калі яна цвіла, дык далёка навокал распаўсюджваўся мядовы водар яе жоўтай, купчастай квецені. Але ўжо адцвіла. Тут, пад ліпай, ужо стаяў, успёршыся на Мікітаў плот, з цыгаркай у роце, Цішка Пахолак, прускаўскі каваль. Быў ужо, па ўсім відаць, на падпітку. Гаманіў пра нешта з прыяцелем сваім Хвядзюшкам Шпунтам. Хвядзюшка — упаўнаважаны ў Прусцы. Невялікі, але ўсё адно начальнік, і ўжо тое-сёе зрабіў на гэтай пасадзе, у прыватнасці, загадаў пранумараваць хаты. Васіля сустрэлі з усмешкай, парукаліся.

— Наваяваўся? — спытаў Хвядзюшка, нахіліўшы ўбок галаву.

— Хапіла, — прызнаўся дэмабілізаваны, пацiснуўшы рукі аднаму і другому. Адчуў поціск Цішкі: рука ў яго дужая і моцная, як кавальскія клешчы. Усе ведалі, як хвацка ён б’е малатком па кавадле, распрамляючы і расціскаючы разагрэтае да чырвані жалеззе. Кавальская праца зрабіла яго сутулым, нават прыгорбленым. Твар цёмны, нібы прыкопчаны, над вачыма навісалі густыя, крыху прысмаленыя бровы. Увесь прапах жалеззем, кузняй. Цяпер ад Цішкі пахла яшчэ і гарэлачным духам.

— Але жывы! — матлянуў галавой Хвядзюшка. — Цэлы!

— Жывы, як бачыш.

— Пашанцавала, — уздыхнуў Цішка, успомніўшы, напэўна, свайго стрыечнага брата Паўла. Павел, які пайшоў на фронт у сорак чацвёртым, не вярнуўся, прыйшла пахавальная, загінуў смерцю храбрых на Сандамірскім плацдарме, над Віслай. З навакольных вёсак не вярнуліся многія: хто над Віслай галаву злажыў, хто над Вартай, хто над Бзурай, хто над Одэрам. Рэк у Польшчы і ў Германіі шмат.

— Тры лычкі зарабіў! — адзначыў Цішка, агледзеўшы Васілёвы пагоны. Пад верхняй губой у каваля паблажліва паблісквала жалезная фікса. — Ты не падумай, мы тут таксама без справы не сядзелі. Цалюткі дзень у гарачай кузні, дык пад вечар поўныя боты поту, хоць вылівай!

— Няўжо ты гэтак пацееш? — не паверыў Хвядзюшка.

— А ты як думаў?!

Падышлі Аляксандр Гальяш і Оргій Ламака. Адзін і другі ў гімнасцёрках, але пагонаў няма — засталіся на плячах толькі зеленаватыя сляды.

— Цішка, — звярнуўся да каваля Ламака, — а ў мяне зубы ў баране сцерліся, натачыць трэба.

— Прынось, натачу. Ты ж ведаеш, у мяня раз-два і гатова.

Паснедаўшы, да кампаніі далучыўся асцярожны Арцік Каленік, потым з’явіўся Апанас Хомка.

— Ну, як жыццё? — папытаўся Васіль, павітаўся з дружбакамі.

— Байкі, — адказаў незадачлівы Ляксандар.

— Мы ж таксама нядаўна вярнуліся, — дадаў Оргій, і ўсе дружна і з задавальненнем заўсміхаліся.

— Ідзе дэмабілізацыя, а ці не рана? — як бы самому сабе сказаў Хвядзюшка і з сумневам павёў галавой.

«Ого! Разважае, як палкаводзец, хоць і ў войску не пабываў», — падумаў Васіль, але нічога не сказаў. Прамаўчалі і астатнія. Толькі Арцік, невядома з чаго, засмяяўся. Хвядзюшка не пераносіў, калі хто побач смяяўся, — яму здавалася, што смяюцца з яго. Прускаўцы жартавалі, што Нінка — Хвядзюшкава жонка — пагладзіла яго патэльняй па галаве, ад чаго ён такі прыдзірлівы.

— Што гэта ты смяешся? — непрыязна зірнуў Хвядзюшка на «перасмешніка» — гэтак аднапасельцы называлі Арціка. — З каго смяешся?

— Гэта я так сабе, не зважай, — бараніўся той.

Яны закурылі. Міма прасунуўся Грышка Латушка, але прыпыняцца не стаў, даў «добры дзень» і пасунуўся далей. Барада, яшчэ ў вайну запусціў і нажніцамі карыстаўся рэдка, ускалмачаная. Пануры і ваўкаваты ад прыроды, палахліва міргаў маленькімі сваімі вочкамі. У царкву Грышка не хадзіў, свят не пільнаваўся. Відаць было, што і на гэты раз ішоў па нейкіх сваіх справах.

Паказаўся на парозе яшчэ сонны Мікіта Галёнка, угледзеў Васіля, падышоў, і яны моцна пацiснулі адзін аднаму руку. Пахолак пачаставаў самасадам, і яны ўсе разам закурылі.

Прысунуўся Гамон, без якога ў Прусцы па-ранейшаму нічога не абыходзілася. Як заўсёды, крывіў на бок тонкую шыю, на якой матлялася ў розныя бакі вялікая і, мусіць, цяжкая галава з глыбока насунутай старой шапкай-аблавушкай. Аблавушку падтрымлівалі адтапыраныя вушы. Здзівіўся, убачыўшы Васіля.

— Як маецеся, дзядзьку? — па-вясковаму непасрэдна спытаў Васіль.

— Клемаю патроху, — адказаў Гамон, прыадкрыўшы шчарбаты рот і ўсміхаючыся бяззубымі дзяснамі. — Жмотка[1] даймае.

— Дык ты на няспелыя слівы накінуўся! — упікнуў яго Пахолак.

— А што рабіць, калі есці хочацца. Чакаць, калі паспее?

Калі іх прайшоў Павал Гальяш. Не спыняўся, а толькі сказаў:

— Гарачыня-я! Мусіць, і ўвесь жнівень будзе такі. Застаецца толькі ў клуні на таку ляжаць.

У Васіля было такое ўражанне, што ў Прусцы нічога не памянялася, нічога не адбылося, усё засталося, як было. Нібы спыніўся сам час. «Вёска!» — падумаў ён. — У вёсцы заўсёды так».

Міма праехаў на ровары Восіп Дзванарык. Кіраваўся, як звычайна, у суседнюю Выгнанку да Гялені па самагонку. Возьме бутэльку, вып’е, тады іграе на скрыпцы. Праўда, і сам на скрыпку высах, схуднеў надта. Адны казалі, што гэта ад скрыпкі, другія — што ад самагонкі. Не злазячы з ровара і не спыняючыся, кіўнуў мужчынам, павітаўся.

[1] Жмотка — позыў пры паносе.

Пасля таго, як Восіп праехаў, Мікіта запрасіў кампанію да сябе ў хату. Мікітава хата стаяла амаль пасярэдзіне вёскі. Не хата, а, дакладней сказаць, хаціна, халупа. Надта старая, стогадовая, з крывымі сценамі і пахілым дахам, яна па вокны ўрасла ў зямлю і была падобная на карабель, які вытрымаў працяглы, знясільваючы шторм і цяпер ледзь трымаецца на аціхлых хвалях. Дым з нізенькага закуранага коміна сведчыў, што на гэтым караблі яшчэ доўжыцца жыццё і ёсць людзі. Людзі, дарэчы, тут таўкліся заўсёды: свае і чужыя. Мужчыны збіраліся сюды на свае сходкі-пасядзенькі. Абмяркоўвалі навіны, гулялі ў карты, курылі.

Яны зайшлі ўсе за адным скрыпам. Дзверы надта нізкія, і давялося прыгінацца. Дол у хаце гліняны.

— А падлогу так і не паслаў, — папракнуў гаспадара каваль.

У кутку пры ўваходзе на лаўцы стаяла вядро з вадой. Першае, што зрабіў Мікіта, — зачарпнуў поўны кубак і прагна выпіў. Пасля таго страшнага выпадку, што здарыўся год назад, у сорак чацвёртым, калі гітлераўцы за выбух на гасцінцы (згарэла іхняя, падарваўшыся на міне, якую паставілі пасля свайго рэйду каўпакаўцы) аўтамашына, меліся расстраляць усю вёску, Мікіта запаў на незвычайную хваробу. Разам з Кухтам па загадзе солтыса Хрысана ён баранаваў гэты гасцінец, выкалупваў міны, пасля чаго і прычапілася да яго гэтая дзіўная хвароба. Перажыў нервовы шок і пачаў шмат піць. Добра яшчэ, што не гарэлку, а ваду. Смажыла яго ўвесь час, асабліва ноччу. Вядро, што стаяла ў кутку, поўнае з вечара, пад раніцу пусцела. Гэтак жа часта Мікіта выходзіў за хату апаражняцца.

Амаль паўхаты займала вялізная печ. За печчу — нары для спання з шырокім саламяным сяннікам, посцілкай-набіранкай. Спалі таксама і на печы. У Мікіты шасцёра дзяцей, і ўсе хлопцы. Каля пліты завіхалася старая Аляксейчыха — маці Мікіты, варыла бульбу. Галава павязана цёмнай хусткай, а доўгая спадніца падмятала гліняны дол. Васіля пазнала, прыязна пасміхнулася:

— Прыйшоў?

— Прыйшоў.

— Добра, што хоць ацалеў, не забілі.

Побач са свякроўкай корпалася нявестка Таіса — Мікітава жонка. Засцілала нары. Была яна жанчына дзетная, пад кофтай пукліліся цяжкія грудзі. Малака ў Таісы ніколі не бракавала. Дзіця ссала грудзі датуль, пакуль не нараджалася наступнае.

Таіса — маладзіца, здавалася б, ціхманая, але пры немцах, у часе акупацыі, здзейсніла не менш як гераічны ўчынак. Прыставў быў да яе нямецкі афіцэр, згвалціць намагаўся. Таіса баранілася, прасілася, казала, што хворая, што толькі што нарадзіла. А той ці не разумеў, ці не верыў, ужо быў і сукенку на ёй парваў. Таіса ад злосці і абурэння падхапілася, адскочыла на крок убок, дастала цыцку, набраклую малаком і сціснула, накіраваўшы нахабніку ў твар. Пырснуў тугі струмень, заліўшы нягодніку і нос, і вочы, і мундзір з сярэбранымі пазументамі. Толькі тады нахабнік ачомаўся і адступіў.

Мікіту на фронт не ўзялі — прызналі глухаватым. Ён і сапраўды часам рабіў выгляд, што не чуе.

Мужчыны прайшлі за бэлёк, паселі на лаўкі і на столакі, што знаходзіліся ў хаце. Усе паздымалі шапкі, апроч Гамона, на галаве ў якога глыбока сядзела старая аблавушка. На стале з'явілася бутэлька «карчоўкі», якую выняў з кішэні і паставіў Ляксандар.

Быццам учуўшы яе пах, адчыніў дзверы Цярэшка Макацёр. Сарочка на ім наросхрыст. Крывы на адно вока — другім, здаровым, агледзеў застолле.

Павітаўся з Васілём і ўсім астатнім падаў руку. Знаходзіўся ў добрым настроі. Нядаўна сям'я справіла наваселле. Пашанцавала. Апусцелі сядзібы палякаў-каланістаў, што жылі паабапал гасцінца, які вёў у Ратайчыцы. Гаспадары выехалі за Буг. Многія паспелі прадаць свае хаты, некаторыя проста пакінулі як ёсць. У хату, дзе жыла Домця — гэта быў хутар — перайшла Цярэшкава сям'я. Выхаваны Цярэшка ў цяжкай долі, бязбацькавіч, да таго ж аднавокі, але ад прыроды аптыміст, духам не падае.

Выпівалі па чарзе. Разліваў Мікіта, дастаўшы аднекуль кілішак з тоўстага зеленаватага шкла. Першаму наліў Васілю.

— Выпі!

Васіль не адмаўляўся, выпіў, наліў Цішку, які сядзеў побач. Чарка ішла «па сонцу». Цішка, сказаўшы суседу злева Гамону «Будзь здароў!», апаражніў, паставіў кілішак, рукою выцер вусны.

— І не скрывіўся! — зарагатаў Цярэшка, усёй істотай адчуваючы, што неўзабаве чарга дойдзе і да яго і ён, таксама вып'е ў асалоду.

Як і ўсе, выхіліў кішак у рот Гамон.

— Ты ж баптыст, — пасміхнуўся з яго Пахолак, — а жлукціш! Дазваляюць?

— Не, мне з імі не спулка, — зняважліва крутнуў галавою Гамон, які і сапраўды адзін час прымкнуў быў да мясцовых баптыстаў. — Я сабою хачу быць. У іх глупства шмат. У іх адно ў жыцці: працуй і працуй, без перадыху.

— Не хочуць яго нашы, — пачула іхнюю размову Аляксейчыха, якая сама належала да баптысцкага згуртавання. — Не дапусцілі яго да хросту. Бязбожнік!

Гамон нічога не адказаў, толькі рукой махнуў.

— Таіса, дай што прыкусіць! — павярнуўся Мікіта да жонкі.

Таіса ў прыполе прынесла некалькі зялёных гуркоў, паклала на стол, каваль узяў адзін і захрумстаў. Потым падала міску з варанай бульбай.

— А мая Матрона гароху напражыла! — пахваліўся Гамон, агаліўшы ўсмешкай бяззубыя дзясны. — Здаецца, еў бы і еў. Смаката!

Праз акно паклікалі старэйшага сына Мікіты Жэніка, які гуляў з падлеткамі ў «чыжыка». Цішка паслаў хлопца па гітару: «Скажы жонцы, што я казаў! Люська дасць».

— Карніла з вайны так і не вярнуўся, — адгукнулася Аляксейчыха. Яна сядзела каля парога і абірала бульбу. — Які дужы быў! Высокі! Галавою неба пратыкаў!..

— Забіла, забі-і-ла, — нараспеў сказаў Хвядзюшка, жуючы агурок. У голасе яго чулася звыклая абыякавасць.

— Ой-ой, а па іншых сёлах колькі не вярнулася! — уздыхнула Таіса.

— Не дай божа! — азвалася Аляксейчыха, выціраючы рукавом вочы. — Баптысты не прызнаюць ні зброі, ні вайны.

Затым Таіса са свякроўю, не змаўляючыся, выйшлі з хаты на двор, на свежае паветра. Хай мужчыны пагавораць. А мужчынам, вядома, хацелася пагаварыць, падзяліцца перажытым. Пачаў расказваць крыху захмялелы Ляксандар Гальяш:

— Я вызваляў Клайпеду. Быў у 3-м Беларускім пад камандай Васілеўскага. Па загадзе вайсковых улад на вызваленай тэрыторыі ў Савецкую Армію прызываліся і іншаземцы, для папаўнення. Я служыў і з французамі, і з італьянцамі. Паміж сабою мы гаварылі на нямецкай мове.

— Дык ты і па-нямецку ўмееш? — здзівіўся Макацёр.

— А як ты думаў! Спачатку мы капалі акопы непадалёк Клайпеды. Але падышоў час і нас рашылі перакінуць на перадавую. Памятаю, як перад

выездам на фронт паставілі ў шарэнгу і на «Смірна!» слухалі мы Гімн Савецкага Саюза...

Запомнілася і першая бітва. Прайшла яна на ўскрайку лесу. Сігналам да атакі была чырвоная ракета. Калі яна ўзляцела ўгару і рассвятліла цемрадзь ночы, мы кінуліся з гучным «ура» наперад. Беглі побач засекаў з калючага дроту, якія знаходзіліся перад бункерамі. Раптам я ўбачыў, як у маім напрамку ляціць граната. Схапіў я яе быццам мяч і адкінуў убок. Граната ўзарвалася. Далей дайшло да рукапашнага бою. Немцы не чакалі атакі рускіх і таму пачуўшы громкае «ўра», кінуліся ўраспалох. Мы іх даганялі ў акопах і дабівалі штыкамі. Я ўпершыню паглядзеў смерці ў вочы. Немцы двойчы намагаліся прарваць рускую лінію пад Кёнігсбергам. Першую контратаку рускія адкінулі. Другой не вытрымалі. Вымушаны былі адступаць. Я быў паранены, кантузіла. Параненых адсылалі на тылы. Памятаю, як спыніліся ў Інстэрбургу, затым падаліся ў Коўна. Адтуль трапілі ў Маскву. Параненых перамяшчалі таварнымі вагонамі. Сталіца была перагружана раненымі. Затым перамясцілі нас у Разань, у вайсковы шпіталь № 32-37. У лістападзе 1945 года ў Разані я прайшоў камісію. Пасля разгледжання маіх вайсковых лячэбных дакументаў мяне звольнілі з арміі і перанеслі ў запас. Затым з Разані адправіўся ў Маскву, а пасля ў Брэст.

— Дык ты герой! — павярцеў галавою Арцік.

Ляксандар нічога не адказаў. Аднавяскоўцы пазіралі на яго са здзіўленнем і з павагай.

Прыбег з гітарай Жэнік. Гэта быў стары інструмент, які Цішка прывёз калісьці, яшчэ да вайны, з Канады. З таго часу лак на гітары пацямнеў, не хапала адной струны.

— Шэсць струн было, — патлумачыў Цішка, беручы ў рукі інструмент, — засталося пяць, адна парвалася. Кухта парваў, бабнік гэты! Бабам рамансы спяваў і парваў. Вярнуў без струны. Я хоць і каваль, жалеззе ведаю, а струну для гітары стачыць не магу. — Ён правёў рукою па струнах, потым бразнуў пальцамі грамчэй. Павярнуў галаву набок і заспяваў:

Кому-то выдала судьба-а
За что-то все земные блага.
А нам досталась лишь борьба
И до безумия-я отвага…

Усе ўважліва слухалі, глухаваты Мікіта нават прыклаў да вуха далонь. Хацелі паслухаць песню, але спявак спыніўся, прыціснуў струны рукою і перастаў спяваць. Відаць, не ведаў працягу песні, не запомніў словы. Пачаў высвістваць толькі мелодыю.

— Хто цябе такой песні навучыў? — смеючыся, спытаў Хвядзюшка. Ад выпітай гарэлкі ён стаў развязны і пачаў блазнаваць.

Пахолак, як бы апраўдваючыся, патлумачыў:

— Саветы на пастоі ў мяне былі, афіцэр спяваў... Возьме вось гэтую гітару і спявае. Артыст! Ад яго і навучыўся.

— А ты ведаеш, што за гэту песню і цябе, і афіцэра таго арыштаваць трэба і строга пакараць. Там жа насмешка ёсць!

— Чаму? — не зразумеў хітраваты Арцік.

— А таму, — напудзіўся на яго Хвядзюшка, нібыта працверазеўшы, што гэтая песня, нутром чую, як бы смяецца з нас, дурнямі лічыць. Не, брат, меня не правядзеш, я чую.

— Ярунда! — засмяяўся, агаліўшы дзясны, Гамон.

— Не ярунда! — злаваўся Хвядзюшка. Яму перашкаджала засяродзіцца нейкая дакучлівая муха, якая лётала вакол яго і часам садзілася на лоб ці на нос. Хвядзюшка ад яе адмахваўся. — Калі я кажу, то слухай!

— Перастаньце, хлопцы, не варта з-за гэтага сварыцца! — умяшаўся Васіль. — Супакойцеся! Усё гэта — дробязі.

— Я ведаю, я разумею! — не сціхаў Гамон.

— Што ты разумееш, — строга зірнуў на яго Апанас. — Ты ж не ваяваў.

— Ну, абкачаешся з нашага Гамона, — пазяхнуў павесялелы Мікіта. — Як вып’е, дык пачынае мараль чытаць, павучаць. Ну, не раўняючы, як святар.

— Гы-гы-гы! — зарагатаў Макацёр.

— А мне здаецца, што так яно і ёсць, — загаварыў Васіль, нібы штосьці ўспамінаючы, — адвагі ў рускага шмат. Адвага і напор! Давай і давай!

— А табе адкуль вядома? — зірнуў на Васіля Хвядзюшка.

— Выпадак быў... Зімой, ужо ў сорак пятым, у Польшчы. Снегу — па пояс. Наш узвод, значыцца, у баявым ахраненні знаходзіўся, — пачаў Васіль, але Цішка падняў руку.

— Давайце яшчэ па адной, — прапанаваў ён.

Шклянка зрабіла яшчэ адзін круг. Выпіўшы, Васіль працягваў:

— Аднойчы ноччу атрымліваем загад тэрмінова пакінуць ахраненне і адысці, значыцца, у асноўныя траншэі батальёна. Крыху назад. Наша месца заняў афіцэрскі штрафны батальён — штрафбат. У штрафных ротах — радавыя, а ў штрафбатах — афіцэры, ад лейтэнанта і вышэй. Афіцэры хоць і разжалаваныя за нейкую правіну, але афіцэры. Малодшыя там былі, і старшыя, і нават ужо добра пасівелыя. Відаць, палкоўнікі.

— Хто? — перапытаў Мікіта, які крыху недачуваў.

— Палкоўнікі! І вось недзе пасля апоўначы, без папярэдняй разведкі, значыцца, без устанаўлення праходаў, як гэта звычайна рабілася, у нямецкіх умацаваннях, без якой бы там ні было агнявой падтрымкі пагналі той штрафны батальён у атаку. Немец сядзеў сабе на вышыні якраз насупраць нас, добра ўмацаваўшыся. Дык вось гэтую вышыню і пачалі штурмаваць штрафнікі. Да траншэй не дайшлі — нарваліся на калючы дрот і мінныя палі. Фашысты ўчулі і з пераляку адкрылі страшэнны, ну проста ўраганны, агонь з усіх відаў зброі.

У гэтым месцы расказчык не вытрымаў, спыніўся і, карыстаючыся тым, што паблізу не было ні жанчын, ні дзяцей, па-мужчынску мацюкнуўся, махнуў рукой, але аповед свой прадоўжыў:

— За нейкія паўгадзіны было знішчана больш як палавіна таго штрафбата. Хто жывы застаўся — адступілі ў нашы траншэі. На досвітку рэшткі штрафбата пагналі на месца бою — падабраць і вынесці забітых і параненых. Пакуль яны тое рабілі, загінула, значыцца, яшчэ некалькі дзясяткаў. Было іх больш за дзвесце, а ў жывых засталося васямнаццаць. Але слухайце далей. Вышыню, вядома, не ўзялі, ды, як аказалася, яе і браць не трэба было, таму што праз якіх двое сутак на правым флангзе абароны пачалося агульнае наступленне, і немцы на той вышыні самі, баючыся трапіць у акружэнне, пакінулі свае пазіцыі і адступілі. Вось так! Вось вам і адвага.

Прысутныя былі ўражаныя пачутым і загалдзелі ўсе разам.

— Маніш! — не паверыў Цярэшка.

— Не, не маню.

— Я такога не чуў, — прамовіў Апанас, які да гэтага маўчаў, — у нас такога не было.

— Дзіва што, — глуха адгукнуўся Гамон, напомніўшы аб сваёй прысутнасці. — Змысліў! Ад сябе прыбавіў!

— Не прыбавіў! — пакрыўдзіўся Васіль. — Расказаў, як было. Мяне таксама куля па руцэ джгнула, рубец астаўся, магу паказаць.

— А ў нас, — загаварыў Апанас, паварушыўшы тоўстымі вуснамі, — таксама рознага хапала. Дужа маркотна перад боем. Чаго толькі не перадумаеш! Сяджу я ў акопе. Прыходзіць сяржант Чукічоў — прозвішча. Зваць — Сапрон. Надта сумны, ну, такі сумны, як бы паміраць сабраўся. І кажа мне: «То ты яшчэ жывеш, бо я чуў, што цябе забілі». І яшчэ сказаў, што яму стала шкада, што мяне забілі.

— Пашкадаваў, — пракаменціраваў Гамон.

— Не перашкаджай! — цыкнуў на яго Мікіта. — Ты там не быў.

— Дык і ты не быў, — не здаваўся Гамон.

— Я яму кажу: «Жывы я, як бачыш». — «Табе-то што, — кажа, — як і загінеш, а ў мяне горай, бо дома жонка і двое дзяцей». — «Дык і ў мяне двое падшпаркаў», — кажу. На фронце смерць доўга чакаць не трэба. Праз дзень Сапрон загінуў, калі мы пакідалі першую лінію акопаў. Усё адно як ведаў. — Апанас, паводле яго слоў паводзіў сябе на фронце па-баявому. Будучы чалавекам непаспешлівым, гаварыў у замаруджаным тэмпе, і цяжка было дачакацца, калі ён нешта вымавіць. Памаўчаўшы, ён сказаў:

— Фарсіравалі Віслу, дык я капіцу сена ў плашчпалатку загарнуў і завязаў і гэтак пераплыў. Плашчпалатку кулямі пакалашмаціла, а мяне не дастала. А на тым беразе блізка каля мяне снарад так бухнуў, што пілотка з галавы зляцела, але пашанцавала. Герояў было шмат! Але ж і палягло шмат, асабліва пяхоты! Ой, колькі пяхоты палягло!

Оргій Ламака якім быў, такім і застаўся: ціхі, як стаячая вада. Ён моўчкі слухаў, але потым уцягнуўся ў размовы і ён:

— Хто героем быў, той загінуў, — нахмурыў ён бровы. — Я з адным на танку сядзеў, на брані, у іншае месца пераязджалі. Ціха было, ніхто не страляў, але, ведаеце, танк той на хуткасці перакуліўся, у абрыў упаў. Я саскочыць паспеў, а таварыш, той, геройскі хлопец, надта адважны, загінуў, пад танк трапіў. Пахавалі бедалагу. Наша аўтаматная рота 312 чырвонага стралковага палка Кёнігсберг штурмавала. Сёмага красавіка, як зараз помню. Амаль усе загінулі, васьмёра нас засталося, у тым ліку і я.

— Калі шчасце, дык і з мяшка вылезеш! — адгукнуўся Цішка, і ўсе з нейкай палёгкай заўсміхаліся. Кожны спадзяваўся на сваё шчасце.

— Лейтэнанта нямецкага ў палон узялі, дык ён крычаць пачаў: «Фэршайст дэн крыг!» — Крычыць і рукой махае. Усё адно як здурнеў.

— А што ён крычаў? — пацікавіўся Хвядзюшка.

— «Прафукалі вайну!»

— Гэта не сакрэт, — уставіў прывычную сваю рэпліку Мікіта.

— Германію прайшоў і нічога! — пахваліўся ахмялелы Ламака. — Жывы застаўся.

— Немцы багата жылі, — зноў уступіў у размову Васіль. — У кватэры чысціня і парадак, посуду шмат, дываны, буфет з лікёрамі...

Ламака, які, ухмыляючыся, і зусім не да месца, сказаў:

— Калі трапляеш у кватэру, дык немкі самі майткі здымаюць...

— Пералякацыя, — сказаў Арцік.

— Баба ёсць баба, — махнуў рукой Цярэшка і ў чарговы раз зарагатаў.

Васілю не надта падабаўся такі паварот у гаворцы, і ён, спаслаўшыся, што трэба наведаць бацькоў, пайшоў.

## X

Айчыма застаў у клуні. У царкву Лявон не пайшоў, чакаў Васілёвага прыходу.

— Добра выглядаеш! — азваўся ён, убачыўшы пасынка. — Заходзь!

Яны прывіталі адзін аднаго. Наверсе, на клуні, дзе было яго гняздо, заклекатаў бусел, нібы таксама вітаў Васілёва з’яўленне. Гэта быў унук таго бусла, якога застрэліў ледзь не ў першы дзень вайны нямецкі аўтаматчык.

— Унук! — сказаў Лявон.

З дзвярэй, чагосьці спалохаўшыся, выпырхнуў верабей.

«Усё, як і раней», — пераканаўся Васіль. Клуню яны з айчымам дзялілі на дваіх, напалавіну, кожнай сям’і — застаронак. Тут усё на сваім месцы, ток чыста падмецены, пахла свежым сенам. «Ну, малайчына! — з удзячнасцю падумаў пра Просю. — Запаслася ўжо сенам на зіму, значыць, і малако будзе, а калі да малака яшчэ і бульба, дык і зусім добра».

— Гэта ўсё Прося сенавала, — пацвердзіў Лявон, угадаўшы Васілёвы думкі, — яна старалася. А травастой быў неблагі. Сена салодкае, пасля такога сена карова тры вядры вады выпівае. Ну, пойдзем у хату!

Але ўчарашні воін не спяшаўся, адчыніў хлеў, павеяла каровіным цяплом. Красуля была ўжо на пашы, пагнаў Валодзік.

— А як Паня? — пацікавіўся ён, адчыняючы другія дзверы, за якімі стаяла кабыла з такой мянушкай. Яе ў сорак чацвёртым пакінулі савецкія абознікі, што рухаліся за наступаючым фронтам. У Кужалёў да гэтага быў конь Юша, яго забралі, а ў абмен далі замуляную і параненую Паню.

Паня стаяла ў хляве, жуючы аброк, які даў на сняданак гаспадар. Па часе кабыла выгладзілася, карак, які зачапіла куля, зажыў, поўсць ад догляду пацямнела і нават стала ільсніцца. У Просінай гаспадарцы каня не было. Брала, калі што, Лявонаву Паню.

— Каня няма, — уголас памеркаваў Васіль, — каня недзе прыдбаць трэба.

— Раней можна было ў Высокім купіць, на конскім базары, — разважыў айчым. — Некалі на конскі базар у Высокае з’язджаліся купцы з усёй Еўропы, але перавяліся конскія базары ў нашым наваколлі, і ў Высокім таксама. Ведаеш, бліжэйшы базар, на якім гандлююць коньмі, ажно ў Ковелі, на Украіне.

— Далекавата.

— Туды ездзяць купляць.

Яны накіраваліся ў хату. У хаце сядзела Дзякрэта — зайшла пазычыць круп. У руках трымала глыбокую верцяху.

— З прыбыццём! — павіншавала яна Васіля. — А мой Апанас ужо вярнуўся. Дзякуй богу, цэлы, не зачапіла.

— А як жыццё? Як дзеці?

— Цяжка! Хлопцам маім адзення не напасешся. За лета па пары штаноў здзіраюць.

— Гэта такі ўзрост.

Фёкла кінулася збіраць на стол. Васіль спрабаваў адмаўляцца, спасылаючыся на тое, што толькі што быў у Галёнкі, выпівалі, але бацькі праявілі настойлівасць. Лявон схадзіў у камору па пляшку. Васіль агледзеўся, зірнуў на даўно знаёмыя рэчы. На сцяне вісеў усё той жа гадзіннік з півачом — цікаў, адлічваў час. У кутку стаяла швейная машынка «Singer», на якой шыла маці. Налева — дзверы на кухню.

— І мой Апанас да Мікіты накіраваўся, — сказала Дзякрэта і, нібы хвалячыся, дадала: — Але ён у мяне не такі, каб напіцца, свой розум мае. Іншы нап’ецца, сляпы, як дым, робіцца, а мой не.

Фёкла адсыпала ёй з мяшэчка круп, і суседка пайшла. Чутно было, як на сцяне ціктакаў гадзіннік. Побач з ім віселі пісаныя алеем, у рамачках, партрэты Лявона і Фёклы. Мясцовы мастак пісаў іх з фатаграфій, зробленых у маладыя гады. Лявона — з амерыканскага здымка, а Фёклу — з таго, на які яна знялася яшчэ ў Расіі, як толькі з Лявонам пазнаёміліся. Васіль гэтыя партрэты ведаў.

— Апетыт прыходзіць у час яды, — сказаў Лявон, сядаючы за стол і адкаркоўваючы пляшку.

— У войску апетыт ніколі не пакідае, — пасміхнуўся Васіль, — асабліва на фронце.

— Мне гэта таксама знаёма, — уздыхнуў айчым, — па той яшчэ, па царскай.

Фёкла прынесла з кухні закуску: патэльню з яечняй, бульбу, запраўленую здорам, маласольныя агуркі, сыр. Хлеб ляжаў пад абрусам. На талерцы ружавела нарэзанае дробнымі скрыльцамі сала. Васіль прысеў на столак. Запрасілі Фёклу, якая ў дадатак паставіла на стол талерку з даспелымі яблыкамі.

З’явіліся ўнукі Віталік з Лёнікам. Абодва ў новых сарочках. Гэта Фёкла пашыла з кавалка матэрыі, якую выменяла ў вандроўнага гандляра з Брэста за кілаграм сала. Цяпер унукі і фарсілі ў тых сарочках. З’еўшы па аладцы, разам з Валодзікам пабеглі на вуліцу. Прыйшла хутканогая, па-святочнаму апранутая Прося. Прыгожа аздабляла яе цёмная кофтачка з белым каўнерыкам. Зубы іскрыліся ў вясёлай усмешцы. Лявон наліў ёй у высокі кілішак на тоўстай ножцы, які калісьці, яшчэ за польскім часам, купіў у Камянцы.

— А Саньку нашага, Растатуева, помніш? — спытаў Лявон, калі яны выпілі па чарзе. — У сорак трэцім у партызаны пайшоў.

— Чаму ж не, помню, добра помню. Забіла яго, у апошнім баі, калі ўжо нашы тут былі.

— Сябар яго Мачалаў, той, што ў дзядзькі Хведара жыў, таксама прыпіснік, на Маньцы Шведавай ажаніўся. Старшынёю сельсавета ў Ратайчыцах быў, а цяпер у Камянец на павышэнне пайшоў.

— А на якую пасаду?

— Загадчык сельгасаддзела.

— Уладкаваўся. Я помню яго.

— Займеў уладу, але галава, здаецца, не закружылася. Даецца гаварыць. Дзелавы. У Камянцы ўжо МТС працуе, два трактары маюць і дзве сеялкі.

— Усё, што да вайны было, аднаўляецца.

— У нас лаўка адчынілася.

— Я звярнуў увагу, калі ішоў.

— Гандлюе Салівэсь з Ліпны. Гарэлку ўразліў прадае, з бочкі чэрпае. Побач закуска — бочка з камсой. Але апроч гарэлкі і камсы больш нічога няма.

— Салівэсь парцейны, — сказала Прося, — простага, абы-каго, не паставяць.

Навін усё ж такі нам мала. Васілю цікава было ўсё, пра што расказвалі бацькі і Прося.

— А ці чулі, тата, што пра Афінагенава? Ён у вайну тут хадзіў, партызанку наладжваў...

— Той, што да вайны кума твайго Якава Паца дапрошваў?

— Той самы. Ці знайшоў ён той архіў, што ў вайну прапаў?

— Не чуў. Але дзе ты яго знойдзеш! Скурылі, напэўна, мужыкі той архіў. Паперы не было, дык скурылі.

Лявон нешта яшчэ хацеў сказаць, але прамаўчаў, пачаў наліваць гарэлку. Выпілі яшчэ па паўкілішка. Прыгубілі і Фёкла з Просяй.

— А нам з табой сажалкі ачысціць трэба, — пачаў будаваць планы Лявон. Жыла ў ім мужыцкая практычнасць і настойлівасць. — Там здаровае дрэва, толькі што ў вадзе ляжала, больш як год. Высахне — на дровы парэжам.

— А як выцягваць тое дрэва? — спытаў Васіль.

— Лябёдку ў Паца пазычым, у яго ёсць, і Паня дапаможа, — патлумачыў Лявон, маючы на ўвазе сваю каняку, якая можа быць прыдатная ў гэтай справе.

— Гэта па восені, — зноў умяшалася Фёкла, — а цяпер са жнівом трэба ўправіцца.

— Пэўна так, ты маеш рацыю, — згадзіўся Лявон, прыгладжваючы над ілбом непакорлівую пасмачку.

Бразнула клямка, дзверы адчыніліся, і на парозе з’явіўся Кухта. Даведаўся, што вярнуўся Васіль, і зайшоў. Даў «добры дзень» і з усімі патрымаўся за руку. Асабліва доўга трос Васілёву:

— З прыбыццём, з прыбыццём!

Кухта ўжо далёка не малады, але па-ранейшаму ўвішны, энергічны і рэзкі ў рухах. Адпусціў вусікі і акуратную бародку. Апрануты ў летні гарнітур з нявыбеленага льну. Аднак гады бралі сваё. Не абмінулі яны сваёй увагай і прускаўскага дзяка Кухту, хоць Лаўр Яўсеевіч — так звалі Кухту — усё яшчэ меў выгляд чалавека, які не здагадваецца, што ён ужо ў паважаным узросце, можна сказаць, стары. Пасля Лявонавага запрашэння прысеў да стала.

— Прашу прабачэння! — сказаў ён і расшпіліў гузік у пінжаку.

У Пруску ён заявіўся калісьці, гадоў з пятнаццаць таму, яшчэ да вайны, маладжавым, кавалерыстам — з таго часу скроні былі ўжо добра-такі аснежаны сівізной. Жонку, невядома па якой прычыне, кінуў. Засталася з сынам недзе ў Драгічыне.

— Ну, вярнуўся, як здароўе? — агледзеў дэмабілізаванага сваімі вострымі і быстрымі вачыма.

— Байкі, — адказаў Васіль, успомніўшы, як адказваюць звычайна на гэтае пытанне прускаўцы. — А ў вас што новага, Лаўр Яўсеевіч?

Лаўр Яўсеевіч апроч таго, што служыў дзячком у прускаўскай царкве, кіраваў хорам, меў яшчэ і сваю, хоць і слабую, гаспадарку — каня, карову, пабудовы, інвентар. Але найбольш «праславіў» сябе як «бабскі ўгоднік», перабраў, здаецца, усіх саламяных удоў-амерыканак, чые мужыкі яшчэ за польскім часам з’ехалі ў Амерыку ці ў Парагвай ды так і не вярнуліся.

Лаўру Яўсеевічу налілі кілішак, і ён, не адмаўляючыся і не даючы сябе ўгаворваць, выпіў. Фёкла прынесла на талерцы каўбасу, так званую «пальцам пханую», парэзаную на кружочкі, і ўсе пацягнуліся з відэльцамі, каб паспытаць на смак.

— А ў нас жніво надыходзіць, — сказаў Лаўр Яўсеевіч, як бы гэтага хтосьці не ведаў. — Гаспадарка адпачыць не дае — то адно, то другое. — Ён паклаў руку на стол і нервова забарабаніў пальцамі.

— Нешта ў вас настрою няма, Лаўр Яўсеевіч? — заўважыла Фёкла.

— Волька, прашу прабачэння, сапсавала, не глядзіць за мной, не даглядае, нават калі хварэю. Голас павышае, крычыць на мяне: «Ты на чужой пасцелі згарэў, а я табе яечню смажыць павінна?!» Я, вы ведаеце, чалавек палітэсны, ні з кім не хачу псаваць стасункаў, а тут такое...

Волька Хомкава жыла з Кухтам без шлюбу — прычэпа. Прыйшла аднойчы ноччу па сваёй ініцыятыве. Ён і не пачуў, калі яна паціху прывалілася да яго пад коўдру, стала яго пасцельніцай. Жылі разам у адной хаце. Ён дапамагаў ёй па гаспадарцы, выконваў мужчынскую работу — касіў, сеяў.

— Вы ж ладзілі! — здзівілася Прося.

Апошнім часам яны і сапраўды былі ўжо неяк паразумеліся і аціхлі, асабліва пасля таго, як Волька спякла Лаўру Яўсеевічу яечню, але адносіны, аказваецца, зноў пагоршыліся.

— Я ўкроп люблю, — сказаў ён, — укроп ем, надта карысны, а яна яго не сее. Пераб’ешся, кажа, без укропу.

— Пайду нарву! — падхапілася Фёкла.

— Не, я к слову толькі.

— Не прымайце блізка да сэрца, — паспачувала Фёкла. — Без мужыка жанчыне дрэнна. Хоць які, але каб быў.

Крыху кальнула гэтае неасцярожнае «хоць які», але Лаўр Яўсеевіч не падаў выгляду, сцярпеў, хіба толькі энергічней, чым звычайна, чмыхнуў носам.

— Не чакаў я, што яна такі фартэль выкіне. «Не муж, — кажа, — ты мне, а пастаялец». Я ведаю, гэта каваль Цішка яе на мяне нацкоўвае. Даўні мой непрыяцель, на нервы мне дзейнічае. — У вачах Кухты бліснуў агеньчык крыўды, прыкметна задрыжэла шчака. Яна ўздрыгвала ў Лаўра Яўсеевіча з ваеннага часу, калі ён разам з Мікітаю Галёнкам па загадзе нямецкіх улад баранаваў з канём камянецкі гасцінец, даставаў з зямлі партызанскія міны.

— Дык вы ж, Лаўр Яўсеевіч, добра жылі, — як бы напомніў Лявон, зноў наліваючы дзяку ў кілішак. — Волька — жанчына прыгажавітая.

Кухта выпіў, нахіліў кілішак у рот, хрумснуў агуркам і зрабіў няпэўную міну на твары:

— Калі тое было! Ды і характар у яе дрэнны, можна сказаць, паганы. Невераятна, аднак факт: уладнічаць стала. Ты, кажа, атруціў мне жыццё. Да харыстак мяне раўнуе. Да чаго дайшло — згубіцелем мяне называе!

— Характар у Волькі не падарунак, — згадзіўся Лявон.

— Дрэнь! — устрапянуўся Кухта і затрос галавой, паказваючы сваю прыроджаную запальчывасць. — Не ведаю, што і рабіць!

У доказ сваіх слоў ён расказаў, як аднойчы, будучы разам з Волькай у гасцях у айца Клаўдзія, седзячы за сталом, выпусціў з рук відэлец з кавалкам вяндліны, які зваліўся пад стол. Лаўр Яўсеевіч нагнуўся, каб падняць, і з жахам убачыў, што Вольчыны ногі спляліся з нагамі суседа насупраць! Восіпа Дзванарыка!

Устанавілася цішыня. Невядома было, верыць ці не верыць Лаўру Яўсеевічу. Падобна, што чалавек усё прыдумаў, змысліў, як казаў у такіх выпадках Гамон. Гэта — па-першае. Па-другое, нашто ён усё гэта расказвае? Не надта прыемна было гэта чуць.

— Тут і параіць штокольвечы няпроста, — паспачуваў Лявон.

— Яно, канешна, і я не без граху, але ж я, прашу прабачэння за напамінак, духоўная асоба. З ёй мне не сполка.

Васіль нешта хацеў сказаць, але ўстрымаўся.

— Дачка ў Волькі прыгажуня. Людачка. Залюбавацца можна, — сказала Фёкла.

— Малая яшчэ, яшчэ дзяўчук.

— А да жонкі вяртацца не збіраецеся? — з уласцівай ёй наіўнасцю запытала Фёкла, асмялелая ад выпітай чаркі.

Лаўр Яўсеевіч зноў незадаволена чмыхнуў сваім крыху звернутым на бок носам і працёр яго ўказальным пальцам. Напамінак пра жонку не спадабаўся.

— Не. Але Вальдэмар мае прыехаць. Не малы ўжо, гадоў з пятнаццаць будзе.

— А хто гэта? — пацікавіўся Васіль.

— Сын. Даўно не бачыліся, не ведаю нават, які ён цяпер. Пры маці жыве, у Драгічыне.

— У школу будзе хадзіць, — падтрымала Прося.

Гарэлка схіляла на шчырасць.

— А што датычыць мяне, мае дарагія, — прызнаўся Лаўр Яўсеевіч, злёгку цярэбячы бародку, — дык мне пара ўжо станавіцца святаром. Я над гэтым ужо думаў.

Усе змоўклі, здзіўленыя такім нечаканым прызнаннем.

Закусіўшы, Лаўр Яўсеевіч памяняў тэму:

— Я ў Брэсце быў на мінулым тыдні, у кансісторыю[1] заходзіў, дык ведаеце, што чуў. На Беласточчыне, аказваецца, вайна працягваецца, банды аб'явіліся, вёскі паляць, людзей забіваюць. З'яўляюцца ноччу: «Otworz! W imeniu Polski Podziemnej...»[2] У Савецкі Саюз выганяюць. Кажуць: «Хай табе твой Сталін канфет дасць!» Святароў праследуюць...

Усе прыціхлі, не жадаючы абцяжарваць Лаўра Яўсеевіча лішнімі пытаннямі.

— І ў нас неспакойна, лесавікі ходзяць. За мною двое ўвязаліся, калі з Брэста ішоў. Паміж Лешнай і Алешкавічамі. Я прыбавіў ходу, і яны адсталі. Пэўна ж, лесавікі. Асцярожным трэба быць.

— Мы першы раз пра гэта чуем, — азваўся Лявон. — Не дай бог такога...

— Я сказаў, што ў Брэсце быў. Дык вось у кансісторыі мне прапанавалі рукапалажэнне на святара. Я думаю, а чаму б і не? Царкоўную службу я ведаю, промаху не дам.

Гэта прагучала нечакана, і зноў на нейкі час усталявалася цішыня. Азваўся Лявон, ухваліў, нават перспектыву намеціў:

— Спачатку прыходскім святаром будзеце, а потым, можа, якім архіерэем станеце.

Лаўр Яўсеевіч на гэта нічога не адказаў. Прабіў некалькі разоў, хрыпла, нібы кашляючы, гадзіннік. Лаўр Яўсеевіч агладзіў бародку, энергічна падняўся з лаўкі і пачаў развітвацца. На нагах стаяў не надта ўпэўнена.

— А ён не дурань, — сказаў Васіль, калі госць зачыніў за сабой дзверы і выйшаў на панадворак.

— Дзіва што! — адгукнуўся Лявон.

Сабраліся дахаты і Васіль з Просяй.

— Ну, што? — паглядзеў на яго айчым, расправіўшы плечы. — Заўтра ў поле з косамі?

— З косамі! — згадзіўся пасынак. — Даўно не трымаў у руках касу.

— Жніво ў гэтым годзе слабое, — адзначыў Лявон, — мала пасеялі. Вайна. На падаткі семяннное пайшло...

Ідучы, Васіль з Просяй сустрэлі Цімошу Хлябіча. Цімоша паціснуў Васілю руку, павіншаваў з вяртаннем «на мірныя рэйкі». Належаў ён да старэйшага пакалення прускаўцаў (некалі ездзіў разам з Лявонам і родзічам

[1] Царкоўна-адміністрацыйная ўстанова.

[2] «Адчыніце! Ад імя польскага падполля» (*польск.*).

сваім Піліпком у Амерыку), але, малады душой, льнуў да маладых. Першым пытаннем Васіля было:

— Пра Косцю што-небудзь вядома?

Косця — пляменнік Цімошы, былы капэзэбовец, падпольшчык, калісьці дужа сябраваў з Васілём.

— Ні слыху ні дыху. Як пайшоў тады з каўпакаўцамі, так і прапаў. Разведчык быў, падпольшчык...

— Пра гэта я ведаю. Можа, яшчэ адшукаецца...

## XI

Касу не трымаў у руках даўно, але жніво для Васіля справа знаёмая і прывычная і махнуць касой ён умеў. Калісьці лічыўся не з горшых касцоў. На сенакосе кум Якаў Арыстархавіч, да якога прускаўскія мужчыны наймаліся ў заробкі, ставіў яго наперадзе, каб вёў за сабой астатніх, каб не марудзілі.

Прачнуўся яшчэ да ўсходу сонца, прыцемкам, калі яшчэ не крычалі пеўні, дастаў з паддашка праверануючю сваю літоўку, адбіў і натачыў. Раніца дыхала чыстым, як пасля навальніцы, паветрам, бадзёрыла летняй свежасцю і прахалодай, цешыла спакойным пачаткам працоўнага дня. Ні хмурынкі, ні аблачынкі, ні ветрыку. Ад ранішняга сонца залаціліся верхавіны дрэў.

Прачнулася і Прося, згатавала сняданак — яечню з чатырох яек, кубак малака, хлеб. Васіль хуценька паснедаў і, прыхапіўшы касу, накіраваўся да айчыма. Лявон ужо чакаў, знаходзіўся ў поўнай гатоўнасці. Разам, закінуўшы за плечы косы, пайшлі пазаклунню пад Бярэзіну, дзе быў жытні палетак. Ішлі сцяжынай, таптанай дзядамі, ішлі басанож, і Васіль пашкадаваў, што не абуўся: з паверхні ўтоптанай сцяжыны тырчэлі каменьчыкі і, калі на які натрапіш, ён моцна калоў у падэшву. Сонечныя промні зіхацелі ў паветры, пяшчотна клаліся на зямлю, на навакольную прыроду, расліннасць, і на тое, што чалавек стварыў уласнымі рукамі. Усё ажывала, абуджалася ад ночнага сну, апладнялася. Белымі ветразямі плылі аблокі. На ўсе галасы гаманіў палявы абсяг.

Лявон быў расчулены. Васіля харaство гэтай часціны кранала, відаць, меней. Адвык. Прытупіла землеробчыя, так сказаць, пачуцці вайна.

Касцы падышлі да сваіх палосак, агледзеліся, паздымалі з плячэй косы. Лаваю стаяла жыта. Паспела ўжо запалавець, стаяла бледна-жоўтае, даспелае, з моцным сцяблом. Зрэдку, толькі там-сям, пракідаўся сінявокі васілёк, сцябло спарынні, белы рамонак. Затое густа зараслі быльнягом межы. Густа вытыркаўся з быльнягу прывялы палын. Па ўсохлым доле поўзалі божыя кароўкі. Зверху, над каласамі, танцаваў матыль, трапечучы крыльцамі.

— Расці нам жыта ў аглоблю, а картошка — у каляю! — Лявон уголас успомніў акружэнца сібірака Саньку і яго прымаўку, пачутую ад яго, калі сеялі калісьці ў ваенную пару. Нядаўна, здаецца, гэта было. Нядаўна і даўно. Няма ўжо Санькі, забылася яго постаць з сявенькай на шыі, калі ён з шырока расстаўленымі нагамі крочыў па мяккай раллі і кідаў жменю за жменяй.

Васіль набраў поўныя лёгкія паветра і з шумам выдыхнуў, адчуўшы як казыча ноздры водар спелай збажыны і палявых кветак. Махнуў касой раз, два, тры, пакідаючы за сабой пракос калючай сцярні. Роўна клалася на бок скошанае жыта. Тое ж самае рабіў і Лявон. Палоскі іхнія — Васілёва і айчымава — побач, вузкія, але доўгія, цягнуцца да самага лесу, да Бярэзіны. Касілі разам, размаўлялі, слухалі пяянне жаваранка, што купаўся недзе ў высокім блакіце.

Лявон — працоўнік па сваёй сялянскай прыродзе. Шумна гахкала яго каса, шырокім паўкружжом ахопліваючы непакорнае жыта, крута ўставаў пракос.

— Жаваранак! — Лявон задраў галаву ўверх, спыніўся махаць касой, прыслухаўся. Прыпыніўся і Васіль.

— Спявае, — азваўся ён, аціраючы з ілба пот. Дастаў мянташку і падправіў касу.

Лявон — пасынак рэдка бачыў яго такім — быў прыкметна ўсхваляваны.

— Гэта ж і нашы дзяды чулі гэтую песню, і прадзеды. І сто гадоў назад, і тысячу, і болей. Дзіва!

Унізе шамацела жыта, а ўверсе звінеў жаваранак, і ўсё навокал спявала, стракатала, падавала голас, жыло. Дыхне ветрык, і жытнія хвалі імкліва нясуцца ў далячынь, аж да камянецкага гасцінца, а ад яго да небасхілу. «Сапраўды, як неабсяжнае мора», — здавалася гэтая карціна Васілю. Ён адчуваў, як сціраюцца з душы напластаванні ржаўчыны, што з’явілася там за нялёгкія мінулыя часы, як усё прыходзіць да нормы. Аднавіла — ён заўважыў — сваю рабочую форму і сама каса, нібы памаладзела, набыўшы цёмна-сіні бляск гартаванай сталі.

Тут, на полі, Лявон з Васілём былі не адны. На суседніх загонах, непадалёку і далей, прыступалі да касавіцы іншыя аднапасельцы. Прыбегла, управіўшыся з хатнімі справамі, Прося. З сярпом у руцэ.

— Працаваць — добра, — сказаў айчым, напраўляючы касу. — Лішак энергіі забірае праца. Тады нармальна сябе пачуваеш.

Пасынак, заняты справай, нічога не адказаў. Нялёгкая праца касца. Махай сваёй прыладай, вастры і зноў махай. Спяваў жаўранак, спявала і яна — працаўніца-каса. Жыта непахілае, моцнае, сцябло — як дрот. Патрэбен напор і спрыт, каб сцяць яго сталёвай касой і паваліць на дол. Не адпачываючы, Васіль дайшоў да сасны — мяжухі. Далей пачыналася Бярэзіна, у якую хадзілі па грыбы. Гэта быў прыгожы лес, у ім, у белым бярэзніку раслі высокія ружовыя верасы і папараць.

— У лес не хочаш? — пасміхнулася Прося. Яна падбірала за касцамі.

— Не, толькі ж пачалі, — адмоўна хітнуў галавою Васіль.

З яго вяртаннем у ёй ізноў абудзіўся той унутраны жаночы агонь, які заўсёды тлеў у глыбінях яе істоты. Прося пазірала на мужа, і пачуццё шчасця прапінала ўсю яе істоту. Растаропная, хуткая ў рабоце, яна падбірала за касцамі, клала скошанае на перавяслы, вязала тугія снапы, ставіла іх у ляшкі. Разгарэлася ад працы і ад хвалявання, паружавела ў твары. Зрэдку бралася за серп, зжынала тое, каля мяжы, што заставалася пасля касы. Серп у яе востры, назублены.

Фёкла заставалася дома, з унукамі. Хацелася папрацаваць разам з усімі на жніве, як Прося, хацелася быць маладой і ўвішнаю, як кветка, але час браў сваё. Яе абавязак — гатаваць абед. Валодзік насіў абед у поле. Бабуля ставіла ў кошык збанок з баршчом, запраўленым смятанай, міску бульбы з салам, пару гуркоў, хлеб. Дастала з гарышча прыпасены яшчэ з зімы кумпячок, адрэзала кавалак і паклала ў кошык. Патрэбна сіла, каб махаць касою, на хлебе і вадзе касу не пацягнеш.

Несці полудзень касцам у поле прыемна, хоць і спякотна, і поле далекавата — пад самую Бярэзіну, і ногі коле пожня. Ідучы палявой дарогай, Валодзік успомніў, як з месяц назад, яшчэ да вяртання бацькі, яны з дзядулем Лявонам ехалі Малым Трыбам (так называлася гэтая частка поля) абворваць бульбу. Параўняліся з загонам высокага жыта, якое ўжо налівалася.

— Глядзі, наша різка![1] — адзначыў дзядуля. — Жыта, бачыш, як мур! Мыш не прабяжыць.

У голасе яго прагучала гаспадарская годнасць, нават, ганарлівасць.

— Жыта ў нас лепшае, як у іншых, паглядзі: колас на пядзю! — дадаў ён. — Наліваецца.

— Як наліваецца? — не зразумеў Валодзік. — Дзе ж тая вада?

— Сонцам, зоркамі. Сонца ў кожным зярнятку іскрыцца, — патлумачыў дзядуля.

Жыта ў Лявона ўдалае, каласістае. Сеяў ён, прыараўшы лубін, які таксама ўдаваўся, рос упояс. Валодзік успомніў, як бабуля Івана Каленіка Куліна казала: «Цяля не магла ўчора знайсці, а яно, гляджу, у Лявонавым лубіне спіць».

Успаміны перапыніў гук далёкага самалёта. Задзівіўшыся ў неба, убачыў, як крыху ніжэй воблакаў ляцеў самалёт-кукурузнік ды так марудна, што, здавалася, завіс на адным месцы.

Нарэшце абед дастаўлены да месца прызначэння, і касцы разам з Просяй селі палуднаваць. Тут, у полі, усё смачнае, елі з апетытам, а потым з поўгадзіны адпачывалі. Жнівеньскі дзень доўгі, а сонца пячэ неміласэрна, проста скварыць, але трэба паднімацца ды брацца за справу.

Лета выдалася гарачае, з навальніцамі. Пахла горкім настоем рамонкаў. Недзе далёка ўжо грымела — грозна і раскаціста. З Бярэзіны даносіўся голас івалгі, птушка, мяняючы голас, то быццам жартавала, то проста раіла, то чымсьці пагражала, і кожны раз як бы папярэджвала, што набліжаецца навальніца. Далёкае і легкадумнае воблачка хутка ператварылася ў калматую хмару на паўнеба. Нечакана абрынуўся ўдар грому, ды так пальнуў, як бы хто ёмкім каменем трапіў у шыбіну, — шкло разляцелася на дробныя кавалачкі і зашалясцела па падлозе. Васілю ўспомніўся фронт, артналёт, і навальніца здалася мірнай, прыемнай музыкай. Закрапаў дождж, прайшоўся па пожні, вільготнай свежасцю абдаў касцоў. Давялося хавацца ў лятку, пад снапы. Але навальніца працягвалася нядоўга, хутка спынілася, хмара паплыла далей. Раскошнай дугою выгнулася над полем вясёлка.

Нейкі час жыта сохла, і касцы зноў браліся за свае літоўкі. Працавалі штодня дапазна, да цыганскага сонца, з кароткай разрыўкай на абед. Пасля таго, як аджаліся, як снапы пастаялі ў ляшках, абветрыліся і прасохлі, іх звозілі ў клуню. Натужна рыпелі вазы.

За жытам скасілі ярыну. Па пустым полі, што горбілася знаёмымі хвалістымі ўзлобінамі, шырока разлёгся сонечны водбліск.

28 жніўня, на Спленне, прускаўскія жанчыны неслі ў царкву для асвячэння вяночкі са збожжа, кветак і галовак маку. Такі вянок трымалі потым цэлы год, аж да наступнага жніва. А яшчэ праз нейкі час у Лявонавай клуні ўжо звінела малатарня. Развязвала снапы і падавала ў барабан Фёкла. Лявон шопляй адгартаў намалочанае. Васіль з Просяй упраўляліся з саломай. Прыходзілі дапамагчы аднапасельцы. Каго Лявон не запрашаў, дык гэта Хвядзюшку. Ведаў яго ляноту і яшчэ адну асаблівасць. У Хвядзюшкі была жахлівая, паталагічная нянавісць да тых, хто жыве хоць крыху лепш, багацей за яго. Звычайна шчыра адгукаўся на просьбу дапамагчы Лявонаў сябар Павал Гальяш. З Выгнанкі прыбягала сястра Фядора. Часам яшчэ прыходзіла дапамагчы жонка Ляксандара Гальяша Арыся, — зграбна зграбала з кучы намалочанага зерня салому і адкідала далей на ток. Прыйшла яна і на гэты раз.

[1] Різка — загон (*мясц.*).

Лёгка малаціць авёс, зерне слаба трымаецца ў коласі і пакідае яго не затрымліваючыся. Цяжэй расстаецца з коласам жыта, але на тое і зубасты барабан, каб расцярушыць і спустошыць колас. У барабан падавала Фёкла. Выцерабленую салому Васіль з Паўлам выносілі за клуню. Лявон апекаваўся намалочаным зернем. Работа знаходзілася ўсім.

Валодзіка прызначылі пагонічам. Аднастайны занятак — паганяць запрэжаных у керат коней.

— Май цярпенне! — настаўляў Лявон. — Навука пагоніча простая: хадзі ды зрэдку пугай махай.

Але нялёгка хадзіць за коньмі, запрэжанымі ў керат. Замест аглобляў пастронкі, два ворчыкі, штальвага, счэпленая жалезным крукам з бервяном-дышалем. Надта аднастайна, круг за кругам, брысці і чуць адзін і той жа прарэзлівы гук-завыванне малатарні. Хлопец вырашыў крыху прыспешыць гэты працэс, замахнуўся пугай. Напалоханыя гэтай нечаканасцю коні кінуліся наперад, жалезны крук вырваўся з падгнілага бервяна, якое рэзка адскочыла назад і моцна ўдарыла пагоніча па каленях. Валодзік ажно перакуліўся ў паветры і, зрабіўшы сальта, ляпнуўся аб зямлю. Малатарня стала. Да пагоніча кінуліся малацьбіты, дапамаглі ўстаць. Валодзік трымаўся на нагах, і Фёкла з Просяй адвялі яго ў хату.

— Да вяселля зажыве! — суцешыў Павал. — Ногі ў яго, як лазінкі, гнуткія.

І сапраўды, абышлося. Пабітыя калені зажылі, і даволі хутка, не страціўшы «гнуткасці».

Скончылі малаціць па абедзе. Колькі там таго збожжа — няшмат.

— Ну, вось і ўсё, — сказаў Лявон, адхаркнуўшы з горла пыл.

Восенню на прускаўскіх прыгуменнях выраслі скірды абмалочанай саломы. Свежая, яна пахла хлебам і палявым прасторам. Любімы занятак прускаўскай дзетвары — гульня ў жмуркі, ці ў хованкі, як яшчэ называлі тут гэтую гульню. Церабілі норы, глыбокія лазы, лабірынты, якія наскрозь праціналі скірду і давалі магчымасць надзейна схавацца...

Асеннія работы завяршаліся. Прыворвалі пожню, сцярню. Аралі пад азіміну. Прыемна ісці баразною за плугам, сачыць, як лёгка лямех уваходзіць у мяккую зямлю. Касою Васіль нацёр мазалі, але яны хутка зажылі, далоні агрубелі, сталі цвярдзейшыя.

* * *

У верасні ачышчалі сажалкі на Крухмальні. Калісьці, яшчэ за царскімі часамі, тут было адпаведнае прадпрыемства, якое належала пану Падгурскаму. Праз гады прыйшло ў заняпад і аказалася разбураным. Падгурскі прадаў зямлю з рэшткамі цагляных пабудоў фальваркоўцу Пацу, а той па часе — Лявону. Паўтары тысячы злотых давялося заплаціць. Палавіна Крухмальні дасталася Васілю, калі ён ажаніўся на Просі. Пасля таго, як немцы высеклі сад, гэта была пустка, адны разваліны. Аднак «крухмальня» заставалася прыгожай мясцінай з каларытам старасветчыны, заімшэлыя руіны параслі чаромхай, парэчкамі, ажынаю, ляшчыннікам і хмызнякамі. Па карчах віўся хмель, лісце якога па восені набыло нейкі экзатычны фіялетавы колер. Фёкла выкарыстоўвала хмель, калі па сваім рэцэпце варыла піва.

У 1944-м, будуючы лінію абароны, немцы спляжылі ўсе дрэвы, што раслі навокал, і загацілі імі сажалкі. Некалі тут стаяў стары, яшчэ панскі, сад, але цяпер тырчэлі толькі пянькі. Засталася, магчыма, для арыенціру, на пагорку, толькі адна яблыня з рэдкімі галінамі, бязлістая, амаль усохлая.

Якаў Арыстархавіч Пац не адмовіў, пазычыў лябёдку, лёгкую і даволі спраўную, і яны пачалі. Пачалі з сажалкі, што была каля дарогі, найбольш захламленая ссечанымі дрэвамі і хмызам. Вольхі, вербы, асіны ляжалі ў вадзе. Сажалка занялася зялёнай раскай, жабурыннем, як тут казалі, пад якім стаілася балотная жыўнасць і жаўтабрухія карасі. Паваленыя дрэвы выцягвалі з дапамогай лябёдкі, тралявалі на высокае месца, абсякалі суччa, разразалі на бярвенні і грузілі на воз. Валодзік адцягваў і складаў у кучку абцярэбленае веццe. Работа ладзілася. Ад растрывожанай вады несла водарасцямі, намоклай драўнінай і рыбнай луской.

Валодзік не выцерпеў, збегаў па вудачку і закінуў, стаў ля самай вады, трымаючы ў руках вудзілішча і нецярпліва пазіраючы на паплавок, які зыбаўся на лёгкіх хвалях. Побач паставіў вядзерца з вадой, каб было куды кідаць злоўленую рыбу. Лавіць з сябрамі рыбу — вудачкай, сеткай, кломляй, калыскай, кошыкам — яго захапленне. Лавілі ў Лосьне і ў Плісе, што ўпадала ў Лосьну, утвараючы на сваім шляху, за прускаўскімі агародамі, шмат завоінаў. Не ўмеў ён яшчэ, на жаль, плаваць, але Пліса — рэчка плыткая, з залатым пясчаным дном. Плыткая, але рыбная. Трапляла розная здабыча, і не толькі коблікі ды плотка з краснапёркамі, але і акуні, шчупакі, сомікі з лінькамі, уюны. Апошнім разам, калі злоўленую рыбу дзялілі, Валодзіку дастаўся рак, якога Грышка Гальяш боўтам выгнаў з-пад карча. Рак быў стары і надта вялікі, з магутнымі клюшнямі, важыў, пэўна, з фунт, а можа, і болей. Адкуль ён прысунуўся ў гэту вузенькую пятлястую Плісу, невядома. Ніхто з хлопцаў не хацеў яго браць. Рак перапаў Валодзіку. Бабуля зварыла, і дзед Лявон вельмі ўзрадаваўся, убачыўшы на белай талерцы чырвонага варанага рака. Успомніў, як калісьці ў Амерыцы каштаваў піва з вустрыцамі. Параўнаўшы, прызнаў, што рак смачнейшы за амерыканскія вустрыцы. А калі б яшчэ і піва! «Малайчына!» — пахваліў «рыбака». Цяплей нават стала на душы ад яго пахвалы.

Стоячы з вудачкай, Валодзік пазіраў і на паплавок, і на дзядулю з бацькам, якія працавалі з лябёдкай.

— Калісьці, — успомніў Лявон, — былі ў мяне планы завесці тут рыбную гаспадарку, каб і сабе была рыба, і нейкі прыбытак давала, але па-іншаму ўсё атрымалася. Дык, можа, сёння паспрабаваць?

— Думка цікавая, — азваўся Васіль, — але ўзважыць трэба, пралічыць...

— Дык цяпер ужо і ўлада іншая.

Пагаварылі пра сёе-тое яшчэ. У лазовым карчы, нібыта папярэджваючы аб чымсьці, затрашчала сарока. Яны і не заўважылі, як побач, на дарозе, спынілася, цягнучы за сабою шлейф пылу, трафейная легкавушка. Дзверы доўга не адчыняліся. Магчыма, той, хто ў ёй сядзеў, чакаў, пакуль асядзе пыл. Нарэшце вылез невысокага росту круглатвары чалавек ў скуранай куртцы, штанах-галіфэ, ботах. На галаве фуражка, але ўжо не вайсковая, цывільная. Лявон пазнаў Пятра Мачалава.

— Добры дзень! — гукнуў той, падышоў бліжэй і павітаўся за руку, з Васілём нават абняліся.

— Дэмабілізаваўся?

— Прыйшоў.

— Ну, як жыццё? — спытаў Пятро, дастаў з кішэні пачак папярос «Казбек», пачаставаў, чыркнуў запальнічкай, даў прыкурыць і прыкурыў сам.

— Звычайна, — адказаў Лявон, зацягнуўшыся духмяным дымам. — Вунь дровы на зіму рыхтуем.

— За гаспадарку трымаецеся? Правільна.

— Трымаемся, а што рабіць?

— Правільна гаворыш, ацец!

— Трэба працаваць.

— Гэта добра, работы цяпер шмат. Жыццё наладжваем. Кроў з носа, а жыццё наладзім.

— Павінна наладзіцца, — адгукнуўся Лявон, запясцем выціраючы ўспацелы лоб з прыліплай пасмачкай. — Спадзяёмся на лепшае.

Мачалаў ацэньваюча паглядзеў на Васіля. Той пахваліў смак папяросаў.

— Як там Германія?

— Разбурэнняў шмат. Цяпер ужо, відаць, не хутка ачухаецца.

— Цяпер і Японія капітулявала! Чулі?

— З газет ведаем, — адказаў Лявон і дадаў: — Можа, нарэшце, міру дачакаемся.

— І ў мяне клопатаў шмат. Аднаўляем, што вайной разбурана. Гаспадарку аднаўляем, жыллё будуем. Шмат народу ў зямлянках жыве. У вас таксама: Ліпна, Зінькі... Словам, жыццё наладжваем, савецкую ўладу ўсталёўваем.

Лявон з Васілём уважліва слухалі, што казаў Пятро, які стаў цяпер вялікім начальнікам. Гэта было цікава. Рухі Мачалава неяк акругліліся, ён гаварыў і нібы сам услухоўваўся ў тое, што гаварыў.

— Адзежына на табе добрая, — па-свойску зазначыў Лявон, спыніўшы пагляд на мачалаўскай скуранцы.

— Амерыканская. ЮНРА дапамагае. Гэтая такая арганізацыя, створаная ў Амерыцы для дапамогі краінам, пацярпелым у вайну, — патлумачыў Пятро.

— На дапамогу амерыканцы здатныя! — пагадзіўся Лявон, якому, відаць было, да душы прыйшліся словы Мачалава. — Амерыканцы — народ дабрэнны, душэўны.

— Ляонцій Міхайлавіч, здзешнія людзі не менш душэўныя, — адзначыў Мачалаў, як бы пра нешта ўспомніўшы.

— Розныя ёсць, — усміхнуўся Лявон, — у кожнага свае недахопы. З людзьмі трэба ладзіць. Некалі ад аднаго чалавека я чуў такія словы: «Пакахайце нас чорненькімі — беленькімі нас кожны пакахае». Гэта дзед мой Кірыла казаў.

— Калі чорненькі, дык трэба адмыць, каб беленькі стаў! — у сваю чаргу пасміхнуўся Мачалаў.

Лявон зацягнуўся папяросай, выпусціў дым і спытаў:

— А дзядзьку Хведара даўно бачыў?

— Даўно. Ды ўсё, ведаеце, некагда. Дзялы...

Васілю захацелася дазнацца пра лёс Афінагенава.

— А як Іван Мітрафоравіч? Дзе ён?

— Жыве і здраствуе, толькі яго, праўда, у другую сферу перавялі, у гандлю. У яго непрыемнасці з архівам, — Мачалаў зірнуў на гадзіннік і заспяшаўся. На развітанне падаў руку, сеў у легкавушку і ад’ехаў.

— Манька ўжо дачку з ім прыжыла, — сказаў Лявон, калі легкавушка ад’ехала.

Валодзік злавіў-такі карася, выцягнуў на вудачку. Памерам ён быў крыху большы за далонь. Кінуў удачу ў вядзерца, аднак больш нічога на кручок не пападалася. Урэшце давялося выпусціць карасіка назад, у сажалку. Хай жыве!..

* * *

І яшчэ адна не абы-якая падзея. Лявон накрыў хату бляхай. Тая бляха, ацынкаваная, лістоў з дваццаць, ляжала ў клуні, у застаронку, яшчэ з даваенных часоў, і вось нарэшце гаспадар пусціў яе ў дзела. Дапамагаў Васіль. Знялі

стары, счарнелы саламяны дах. Агаліўся комін. Пры Польшчы коміны бялілі, не пабеліш — паліцыя аштрафуе. Але калі тое было! Дажджы і вецер ізноў зрабілі цэглу чырвонай.

Васіль сядзеў наверсе, на даху, чапляў лісты да лат, змацоўваў і прыбіваў. Чутно было, як вішчэла і скрыгітала ацынкованая бляха. Ззяла адбіткам сонечных промняў.

— Блішчыць, як Кузёмкавы боты! — засмяялася знізу Фёкла.

— Смяешся? — адгукнуўся Лявон.

— А што? Ужо і пажартаваць нельга?

У лаўку да Салівэся спяшаўся на веласіпедзе Шпронька. Затрымаўся, перастаў круціць педалі, ухапіўся рукою за плот, паглядзеў на Васіля.

— Ужо вярнуўся?

— Вярнуўся.

— Хутка!

— Гэта толькі здаецца...

— Добрая бляха! — пахваліў Шпронька. — Ну, Лявонцій Міхайлавіч, усіх перашчагаляў!

— Саламяны дах амаль згніў, — апраўдваўся Лявон, — гадоў сорак ляжаў, нават болей, працякаць стаў.

— Гэты не працячэ, — запэўніў Шпронька і пакруціў педалямі далей. Шпроньку ведалі як рэаліста і з тым, што ён сказаў, лічыліся.

— Добра было б ашаляваць, — разважыў Васіль.

— Ну, гэта можа калі потым, — адказаў Лявон.

Думкі пра будучае жылі.

## XII

У нядзелю, пасля наведвання царквы, да Васіля — хата побач — зайшлі Пацы: Якаў Арыстархавіч з Хвядосяй і Амброжый. Людзі набожныя і багамольныя, царкву наведвалі амаль у кожную нядзелю. Госці па-святочнаму апранутыя: Якаў Арыстархавіч пры гальштуку, з кульбай, Хвядося — у прыгожай хустцы-шаліноўцы. Якаў у пінжаку і нагавіцах з ільнянога палатна. Сярэбраны ланцужок, які звісаў з нагруднай кішэнькі, сведчыў, што гаспадар мае гадзіннік і свядома абыходзіцца з часам. Амброжый надзеў чорны гарнітур, ён ужо колькі месяцаў як удавец. Яго Стэпа заўсёды была нейкай хваравітай і нарэшце паціху зусім сканала, пакінуўшы яго аднаго.

— Наша шанаванне! — госці павіталіся ў другі раз, бо ў першы зрабілі гэта каля царквы, дзе звычайна сустракаліся ўсе родзічы і знаёмыя. Якаў Арыстархавіч павітаўся з кожным, даўшы адчуць пульхную цяжкасць сваёй далоні.

— Добры дзень, добры дзень! — гасцінна сустрэлі Васіль з Просяй, прапанавалі наталіць смагу, выпіць вады, бо дужа смачная, глыбокая, калодзеж стаяў на пагорку.

Тут, у Васіля, ужо знаходзіліся Лявон з Фёклай — завіталі па дарозе дадому. Бабуля дала ўнукам Віталіку і Лёніку па піражку, і малыя, атрымаўшы падарунак, панесліся на вуліцу, каб пахваліцца перад равеснікамі ды, можа, і пачаставаць.

— А мы і зайшлі вады папіць, — па-жаночы наіўна сказала Хвядося.

— Як здароўе? — пацікавіліся госці.

— Байкі, — адказаў Лявон.

Якаў Арыстархавіч, як заўсёды, выглядаў вальяжным і ўсмешлівым. Прынамсі, стараўся сябе такім паказаць. Твар чыста паголены, адзначаны годнасцю. Відаць было, што амбітнасці чалавеку пазычаць не трэба, яе ў яго хапае. Зняў з галавы капялюш, павесіўшы яго на цвік, кульбу паставіў у куток. Паправіў гальштук, завязаны буйным вузлом, і адпіў з кубка. Пакаштавалі вадзіцы Амброжый з Хвядосяй.

— Смачная, пітная! — пахваліў Амброжый. — Наша не такая. Мы часта з ракі бяром.

Аблічча ў гасцей спакойныя, без якога-небудзь ценю азмрочанасці. Якаў Арыстархавіч аднак зрабіў брату заўвагу:

— Не трэба ганіць ваду.

У хаце стаяў пах спелых антонавак, якія Васіль з Просяй паспелі ўжо зняць з дрэў і разаслаць на гарышчы. Прускаўцы заўсёды, яшчэ са старых літоўскіх часоў, лічылі, што з яблык лепш за ўсё пахнуць антонаўкі. Нават, казалі, перадаць нельга, які ў іх пах.

— Рады, куме, што ты ўжо дома, — пачаў Якаў Арыстархавіч, сеўшы ў крэсельца і паклаўшы нагу на нагу, — дзякуй богу, цэлым вярнуўся.

Прыязна паглядзела на Васіля Хвядося, расслабіўшы вузел завязанай пад барадой хусткі. Яна разам з дзеверам села на ўслон каля сцяны.

— Наваяваўся, — адзначыў Амброжый, наморшчыўшы мясісты лоб.

— Наваяваўся, — пацвердзіў Васіль, — усяго паспытаў, але неяк абышлося. Кантузіла, праўда, і асколак пад калена заляцеў.

— Глядзішся, хоба на яго, на ўсе сто! — Якаў Арыстархавіч прыўзняў вялікі палец.

Кум, пэўна, перабольшваў, бо ў Васіля нядаўна здарылася непрыемнасць, якая істотна азмрочыла настрой. Ездзіў ён, як айчым і параіў, у Ковель купіць каня. Ездзіў разам з Цімошам Хлябічам, якому таксама патрэбен быў конь. Коней купілі — і Цімоша, і Васіль. Купілі і прывялі дамоў. Цімошу не чапалі, а Васілю прышылі спекуляцыю, быццам ён гандлюе коньмі, нажываецца. Наклалі дадатковы падатак — тысячу рублёў. Дзякуй айчыму — дапамог, бо сам бы не справіўся.

Зноў загаманіў Амброжый:

— У заходніх краінах, кажуць, багата людзі жывуць, пры дастатку!

— Калі б не вайна. Вайна разбурыла. Таго ранейшага дастатку ўжо няма, але жылі там багата, — згадзіўся Васіль.

— Дзіва што! — падтрымаў гаворку Якаў Арыстархавіч.

З’яўленне такіх пашанотных гасцей узрадавала і Васіля, і Просю: не забылі, значыць, наведалі, не цураюцца.

— Мы на хвіліну, — сказала, як праспявала, Хвядося, — дома спраў шмат.

— Сёння ж нядзеля, — напомніла Фёкла. — Можна і даўжэй затрымацца.

— Ну і што ў вас новага? — спытаў Якаў Арыстархавіч, дастаўшы з кішэні пакамячаную хусціну і выцершы лоб і лысіну. — А то мы за ракою ў сваім Альбэрціне мала што і ведаем.

— Ніц не ведаем, — міла прызналася Хвядося.

— Мы на хутары, — палічыў патрэбным азвацца і Амброжый, — хутаранцы, старыя літвіны, як калісь казалі, стасункаў ні з кім не заводзім, навіны да нас слаба даходзяць.

— Ярыну скасілі, цяпер сажалкі чысцім, — азваўся Лявон, прыгладзіўшы пасмачку над ілбом.

— Мы ішлі, то бачылі, што ставы ўжо чыстыя, — не то пахваліў, не то проста засведчыў Амброжый.

«Крухмальню», пра якую згадаў Амброжый, з полем і сажалкамі Лявон з Васілём яшчэ да вайны, «пры Польшчы», купілі ў Пацаў. Размова пра сажалкі, аднак, відаць, мала цікавіла Якава Арыстархавіча.

— Ёсць навіны, хоба на яго, — сказаў ён, — але кепскія. Дацкевіча, я чуў пасадзілі. «Ты, — сказалі, — у партызанах не быў». Таго-сяго вывозяць, на ўсход вязуць.

— Не можа такога быць, — усумніўся, не паверыў Васіль.

— Хто ў парцізанах не быў — садзяць! — з упэўненасцю пацвердзіў Амброжый.

— Вам няма чаго баяцца, — супакоіў Лявон. — З партызанамі сувязь падтрымлівалі, не раз з лесу прыходзілі і начавалі не адзін раз, бялізну мянялі.

— Але даведкі пра сувязь з партызанамі, хоба на іх, не далі! А не пашкодзіла б мець такі дакумант і мне, і яму, — Якаў Арыстархавіч меў на ўвазе брата.

— Вы ж, я ведаю, і Янкелю прытулак далі, — дадаў Лявон.

Янкель — вандроўны пячнік, якога добра ведалі ў Камянцы і ва ўсёй ваколіцы. У першыя гады вайны хаваўся ў Пацаў у Альбэрціне.

— Але, але. У нас ён перахоўваўся, — заківаў галавой Амброжый. — У нас і ў Нупрэя нашага на яго хутары.

Нупрэй, пра якога ўспомніў Амброжый, быў яму і Якаву Арыстархавічу шваграм, жанатым на Настусі, роднай сястры Пацаў. Жыў на хутары, паблізу фальварка, меў дзесяць гектараў зямлі, атрыманай Настусяй у пасаг.

— Нупрэйка ў царкву не ходзіць, але вельмі набожны, — сказала Хвядося, — у лесе моліцца.

— Працуе шмат, — патлумачыў Амброжый.

— З Камянца на тым тыдні Афінагенаў з Мурашкам прыязджалі, — пачаў расказваць Якаў Арыстархавіч. — У Альбэрцін дарогу ведаюць, калісьці пад раніцу з лесу прывалакліся. Афінагенаў — гэта мой следчы, а Мурашка цяпер у Камянцы ў міліцыі. З Афінагенавым, хоба на яго, яшчэ да вайны пазнаёміліся, калі мяне арыштавалі. Помню, тады ён мне сказаў: «Лес сякуць, дык многа трэсак палучаецца, ляцяць трэскі».

— Ляцяць, — адгукнуўся Амброжый.

Кум уздыхнуў, успамінаючы размову са знаёмым сваім Афінагенавым.

— Пра многае гаварылі. А ён кажа: «Я ведаю, што сазнацельных сярод вас мала. Рэдка хто сазнацельны». А ў голасе, мне падалося, нейкі застарэлы боль чуецца. Як бы не давяраюць яму. Мурашка — той маўчыць. А потым ціха мне кажа: «Архіва свайго шукае». Я, калі б ведаў, кажу, з дарагой душой сказаў бы, дзе ён, архіў той, але не ведаю. Шкада чалавека...

— Ён і ў вайну яго шукаў, — успомніў Васіль. — Ці не скурылі тыя паперы, з папераю цяжка было. Развалаклі па вёсках і скурылі.

— Мы з Амброжыем выпіць паставілі, Хвядося мэду з тварагом прынесла. Любяць мэд, асабліва свежы.

— Любяць, — пацвердзіў Амброжый. — Свежы мэд надта спажыўны.

— Падпілі дык пчолак захацелі паглядзець, на пчэльнік пайшлі, а пчолы п'яных не церпяць, хоба на яго, накінуліся, асабліва на Мурашку. Можа таму, што больш выпіў. Надта пакусалі, твар апух, нос стаў як бульбіна, вочы не бачаць. Афінагенаў больш стрыманы, ён менш пастрадаў. І з сабой па слоіку мэду ўзялі. Пытаўся ў мяне Афінагенаў, колькі я тады не даседзеў. Абяцаў, калі што, падтрымаць.

— Падтрымае, калі абяцаў, — выказаўся і Лявон.

— Чалавек ён быццам і не благі, — уставіў слова Васіль, — ды і вайна розуму дадала, але цяпер ён, наколькі я разумею, у апале, ранейшай улады не мае, у гандлі працуе.

— У гандлі, хоба на яго, калі не дурны, калі галава на плячах ёсць, то можна працаваць! Гешэфт!

— Знаёмства за грошы не купіш, — глыбакадумна, зноў наморшчыўшы пукаты лоб, зазначыў Амброжый.

— Гэта так, — развражыў Якаў Арыстархавіч, — знаёмства і сувязей за грошы не купіш, бо ўсё астатняе можна.

— Так-так, — пагадзіўся з братам Амброжый.

— А наш Мірык у Берасці працуе, — сказала, як бы пахвалілася, Хвядося.

— А кім? — пацікавілася Фёкла.

— Уся гаспадарка на ім.

Мірык — сын Якава Арыстархавіча і Хвядосі, і бацькі, зразумела, ускладалі на яго немалыя надзеі.

— А дзе ён працуе? — запытаў Васіль.

— У абласной бальніцы служыць, заўхозам, — адказаў Якаў Арыстархавіч. — Людзям дапамагае.

У хату забег Валодзік — хрэснік Якава Арыстархавіча, павітаўся.

— Як вучышся? — спытала Хвядося.

— Стараюся.

— Падшпарак ужо! — пахваліў хросны і тут жа дастаў з кішэні партманет, узяў адтуль рубель і працягнуў хлопцу. Валодзік узяў.

— Пацалуй руку! — падказала Фёкла.

Унук, крыху саромеючыся, пацалаваў руку ў хроснага і ў Хвядосі. Такая завядзёнка, даўняя, і ад яе адступаць нельга.

Калі Валодзіка (гэта здарыцца яшчэ не хутка, праз гады) прызавуць у армію і ён будзе служыць далёка на поўначы, сумуючы па родных мясцінах і чакаючы адтуль вестак, ён атрымае ад Якава Арыстархавіча рубель, пакладзены ў звычайны канверт з пісьмом.

— Шкада, хоба на яго, што ляндрынак няма, а то б ляндрынкамі пачаставаў, — сказаў Якаў Арыстархавіч. — Спажыўная рэч! І ад нэрваў добра. Ляндрынку пасмактаць добра!

— Нічога! — усміхнулася Прося. — Мы ў Салівэся падушачак купім, карамелек.

Якаў Арыстархавіч уважліва пазіраў на хрэсніка, нарэшце паляпаў па плячы і сказаў:

— Нікога не слухай, сваім розумам жыві!

У хаце хлопец не затрымаўся, пабег на вуліцу шукаць братоў. Трэба ж было і рублём пахваліцца.

Амброжый паглядзеў услед.

— Прыўлеснае дзіця! — адзначыў ён.

— От каб ён у нас у папы пайшоў!? — мройна прамовіла Фёкла. — Гонар быў бы, павага...

— Гаворыць ён у нас хараша, не заікаецца, — дакінуў Лявон.

— Сарамлівы ён, — падзялілася сваёй думкай Прося. — Бацюшка ж казань гаворыць...

— Прыцясняюць цяпер папоў, — патлумачыў са шкадаваннем і прыцмокнуў языком Якаў Арыстархавіч.

— Каб на папа, дык трэба ў семінарыю, спачатку семінарыю скончыць, а потым хератанію трэба прайсці, — паказаў сваю дасведчанасць Амброжый.

— А ў нас Паўліна жыве, — паведаміла Хвядора, зірнуўшы на мужа. — З усходу прыехала, аднекуль ажно з-пад Мазыра. Згаладнелая — скура ды косці. Там у іх няма чаго есці, еміны няма.

— Худая! — як бы пацвярджаючы, хітнуў галавой Якаў Арыстархавіч. — Ты, Хвядося, мэду ёй давай, не шкадуй! — нагадаў ён. — Хай папраўляецца, тады, хоба на яго, і работу будзе рабіць.

— Але, але! — падтрымаў брата Амброжый. — Усім зараз кепска. Кругом, па ўсіх месцах, нэндза. Людзі ратуюцца, хто як можа. І наша Паўліна ратуецца.

Амброжый казаў праўду. Асабліва нацярпеліся за вайну ўсходнія раёны. Адтуль бясконцай плынню ехалі людзі ў пошуку заробку. Апранутыя невядома як — хто ў сярмяжным зрэб'і, хто ў вайсковых абносках. За плячыма — мяшкі. Ратаваліся ад голаду і нястач, якіх хапала ўсюды па Беларусі, асабліва там, адкуль яны ехалі.

— Трэба дапамагаць, — сказала Фёкла, уздыхнуўшы.

— Можа, паабедаеце? — прапанавала Прося.

— Не, дзякуй, — адмовілася Хвядося, — дома будзем абедаць. Паўліна, пэўна, прыгатавала...

Якаў Арыстархавіч выняў з нагруднай кішэні гадзіннік на сярэбраным ланцужку, зірнуў на цыферблат.

— Пара.

Ён падняўся і зняў з цвіка капялюш, дзелавіта насунуў на галаву, абмацаў полы капелюша, як бы хацеў праверыць, ці добра асадзіў.

— Жадаем благадзенства і дастатку! — дадаў кум, узяўшы прыткнутую да сцяны кульбу.

Яны развіталіся. Лявон з Васілём праводзілі гасцей за Крухмальню.

У Просі ў гародчыку каля хаты цвілі фіялкі.

— Якая прыгажосць! — з захапленнем прамовіла Хвядося. — Які далікатны пах!

Яны прайшлі паміж сажалкамі, каля пахілых вербаў і апынуліся на тым месцы, дзе некалі стаяла крухмальня пана Падгурскага. Ірдзелі гронкі каліны, што ўшчамілася расці сярод заімшэлых руін. Раскашавалі крапіва ды маліна з ажынаю. Жаўцела позняя трава. Усталявалася ранняя восень. Летняя спёка прыемна змяшалася з асенняй прахалодай. Але сонца ззяла яшчэ зырка, нават весела. Па парадзелых кустах з галінкі на галінку пырхалі бесклапотныя птушкі, быццам і не трывожыліся тым, што неўзабаве трэба будзе падавацца на поўдзень.

— Не шкадуеце, што купілі? — запытаў Якаў Арыстархавіч, папраўляючы на галаве капялюш.

— Не, — адказаў Лявон, — зямля тут добрая.

— Ну, то каб на спажытак! Гэта бацька калісьці ў Падгурскага купіў. Цяпер зямлю не купіш. Не прадаюць. Зямлі мала, а народу вунь колькі! Зрэшты, як сказаць. Нашы палякі-каланісты ў Польшчу вяртаюцца, на заходнія землі едуць, а тут зямлю пакідаюць. Зямля пасля іх застаецца, але не купіш. Дзяржаве, хоба на яе, усё належыць!

— Едуць на ziemie odzyskane[1] пад Вроцлаў, Шчэцін, Гданьск, — у тон брату дадаў Амброжый.

---

[1] Узнаўленне тэрыторыі (*польск.*).

— Чуткі ідуць! — варухнуў галавой Лявон.

— Я б табе пару вуллёў прадаў. А што? Меў бы свой мэд! — прапанаваў Якаў Арыстархавіч. — Я, ведаеш, ужываю мэд з цыбуляй, макаю цыбуліну ў мэд і гэтак ем.

— Я цыбулі не люблю, — пакруціў галавою Лявон.

— Дык ад прастуды мэд добры. Потым яшчэ ж і пярга, і матачнае малачко! Для мужчыны надта карысна. Фацэлію б развёў. Фацэлія — надта добры меданос.

Якаў Арыстархавіч залажыў рукі за спіну і меў выгляд упэўненага ў сябе чалавека.

— Калі будзеш заводзіць пчол, — працягваў ён пачатую тэму, — то купляй не два вуллі, а тры, каб не да пары, каб адна калода была лішняй. Так трэба! Пчолам лепш, тады яны іграюць лепш, танцуюць!

— Не, хіба, калі на будучае, а зараз — не. Хапае клопатаў...

У карчах прарэзліва галасіла нейкая птушка.

— Дык чарэшняў пасадзі! Вазьмі ў мяне атожылкаў і пасадзі! Прыгожае дрэва. Чарэшня першай зацвітае, яшчэ ў пачатку красавіка! І першай даспявае!

— Хіба пазней калі...

— А яшчэ лепш было б ахутарыцца, перабрацца жыць на хутар.

— Цяпер гэта нязбытна, — азваўся Васіль, які да гэтага маўчаў, пэўна, пра нешта думаў.

Хвядося чула гаворку мужчын, але сціпла, па-жаночы маўчала, у размовы не ўступала.

— А пра лесавікоў у вас што чутно? — спытаў Якаў Арыстархавіч.

Лявон паціснуў плячыма.

— Не чулі? Кажуць, Кучэўскага, хоба на яго, у лесе бачылі. Не паспеў, відаць, з немцамі ўцячы, а можа, не захацеў. Многія па лясах тояцца, каб у Сібір не вывезлі. Сібіры баяцца.

— «Грэчка» нейкі аб’явіўся, — загаманіў Амброжый. — Твар сажай выпацканы і накладная барада на гумцы. І зброі на ім столькі панавешана ўсякай, як груш на дрэве. На грудзях стужкі з патронамі крыж-накрыж ды рамяні, рамяні. Пагалоска пайшла, што магазіны чысціць, усё забірае, нават хамуты.

— Калі людзі кажуць, то недарэмна, — хітнуў галавой Лявон. — Мусіць, праўда.

— Але, але, — пахітаў пукатым ілбом Якаў Арыстархавіч. — Асцярожнаму трэба быць і пільнаму, а то цяперашнім часам хто яго ведае...

Далей пачыналася сенажаць — Перавоз. Лявон з Васілём спыніліся.

— Зіма, хоба на яе, халодная мае быць, — прамовіў Якаў Арыстархавіч, глыбей насоўваючы на галаву капялюш. — Пчолы амаль зусім лёткі заляпілі, толькі вузкія шчылінкі пакінулі. На халодную зіму!

— Пчолы, а разумныя! — дадаў брат.

На гэтым яны развіталіся.

— Заўтра будзем сеяць азіміну, — сказаў, нібы абвясціў, Амброжый. — З Шаліч прыйдуць людзі...

Якаў Арыстархавіч паглядзеў на Васіля і заклапочана прамовіў:

— А ветрака так і не купіў! А бацька наказваў, каб паставілі свой вятрак паміж абсадай і лесам. Паміраў, можна сказаць, з гэтымі словамі. Вятрак патрэбны...

Гісторыя з ветраком — даўняя. Васіль успомніў той падвал у Шчырчове, куды калісьці яго і Якава Арыстархавіча кінулі гестапаўцы. Нічога не адказаў куму, адно толькі падзівіўся яго памятлівасці.

## XIII

Прыйшло пісьмо ад Домны, з Запалоннага. Фёкла паклікала Лявона, які нешта рабіў у клуні, надарвала канверт і дастала згорнуты папалам ліст з вучнёўскага сшытка, працягнула мужу. Унук яшчэ не вярнуўся са школы. Лявон асядлаў нос акулярамі, узяў ліст і стаў чытаць. Фёкла прысела каля печы на маленькім зэдліку, пачала слухаць, лавіла кожнае слова. Яна любіла адзіную сваю сястру, сумавала па ёй, імкнулася ёй дапамагчы.

«Дорогая сестрица, дорогой дядя Леонтий и ты дорогой внучок Володзенька! Пишет вам Домна из села Заполонное. Дела наши пошли кажется на поправку, но не очень. Однако обо всём по порядку. Славу богу, наступил мир. Мой Флегонт, вернувшись с войны, работает на колхозном дворе. Детишки папане очень рады, не отстают...»

Чытанне перапыніў Васіль, які зайшоў у хату. Ён быў у Камянцы. Прускаўскіх франтавікоў выклікалі ў ваенкамат атрымаць медаля «За победу над Германией». Павітаўся з бацькамі.

— Чытаем пісьмо, Домна прыслала, — растлумачыла маці. Лявон працягваў:

«...На фронт от нас пошло 92 человека, вернулась третья часть, а то и менее. Много инвалидов и покалеченных. Бедные! Жалко, по-человечески жалко. Нам-то здесь в тылу тоже не легче было. Кошмар как мы здесь жили. 300 г хлеба и чай без сахара, но выдюжили. Теперь-то полегче, но снова неурожай. Не одно, так другое. А неурожай от сильной засухи. Мы здесь все крепко отощали, колхоз беден да и свое подворье не богатое, курица да полпоросёнка. Так-то вот».

— Пасляваенныя цяжкасці адчуваюцца ўсюды, — сказаў Васіль, прысеўшы каля маці на столак. — У іх таксама свае цяжкасці. І ў нас іх не бракуе.

«...Разруха у нас, милые мои, — чытаў Лявон, — большая разруха. Не достаёт сельхозпродуктов. В магазинах, особенно продуктовых, всюду очереди. Хлеба ждут долго, пока испечется. Привозят только к утру. Ну, конечно, все набрасываются. Пшеничной муки нет уже давно. Ржаной тоже. За хлебом ходили в Неприк. Вчера я несла оттуда хлеб. Две буханки лежали в мешке за спиной и, поверите, так пахли, что кружилась голова...»

У гэтым месцы Фёкла ўсхліпнула і прамакнула вочы ражком хусціны. Лявон працягваў:

«...Однако мой Флегонт духом не падает и нас утешает. Это, мол, временные трудности, недавно война была, столько горя, столько утрат. Чего повсюду много, так это черной икры. Икра не дорогая, и в бочках, и в баночках. Однако одной икрой сыт не будешь. Уродила капуста, так мы налегаем на щи. В доме постоянный щаной дух. Нет детской обуви. Ходим в галошах. Ну, конечно, воруют. Их содют, а они воруют еще больше. Колхоз наш «26 бакинских комиссаров» большой, но небогатый. Трудодень очень слабый. У нас говорят, что в Западной Белоруссии всё есть. Оно, конечно, за морем телушка-полушка, да рубль перевоз...»

— Телушка-полушка, да рубль перевоз, — азваўся Васіль, паўтарыўшы Домніну прымаўку.

«...На этом заканчиваем. Цалуем вас всех, дорогие сродственники, и крепко-крепко обнимаем, дай вам Бог здоровья!

Ваша Домна Немцова».

— Не пра ўсё ж напішаш, — заўважыў Лявон, скончыўшы чытанне.

— Не пра ўсё, — згадзіўся Васіль.

— Цяжка, цяжка ім, — уздыхнула Фёкла. Ёй захацелася яшчэ раз паслухаць, што піша сястра, і яна папрасіла аб гэтым унука, калі той вярнуўся са школы.

Забегла суседка — жонка Мішы Латушкі круглатварая Рузана з місачкай у руках.

— Можа, я круп у вас пазычу? Надта талакно надаела! Ужо каторы час адно талакно.

Засталася паслухаць пісьмо.

— Дык у іх у Расіі жыццё таксама не салодкае! — хітала галавою, слухаючы напісанае.

— Не салодкае, — уздыхала Фёкла. — Неўраджай.

Фёкла адсыпала суседцы круп.

— Пайду паршучка карміць і Мішу з дзецьмі, — сказала Рузана і заспяшалася дадому. — На тым тыдні аддам.

Праз колькі дзён паслалі ліст у Запалоннае, пад дыктоўку бабулі пісаў Валодзік.

«Дарагая сястрыца Домнушка, Флягонт і дзеткі! Ад усяго сэрца віншуем твайго Флягонта з вяртаннем. Слава богу, што застаўся жывы і здаровы. Дарагая сястрыца, сардэчна дзякуем за тваё пісямцо. Паведамляем пра нашы навіны. Вярнуўся з Германіі Васілій Аляксандравіч, мой сын. Да дзетак, да жаны сваёй Просі і ка ўсім нам. Вазвярнуўся ўгнаны ў Германію на работу ў час вайны сын маёй залоўкі Варкі Сенька. Многа даводзіцца працаваць, але нам не прывыкаць, сілы яшчэ есць.

Дарагая сястрыца, ты пішаш пра засуху. Мы вельмі вам спачуваем. Слава богу, у нас тут засухі няма, аднак бывае, што солнышка і прыпячот. Але калі рож не ўродзіт, дык спасае картошка. Калі летам засуха і няма дажджу, дык тут у Беларусі сыплюць у калодзеж мак. На наступны тыдзень абавязкова дождж.

Жніво мы ўжо скончылі і ўжо абмалацілі снапы. У гэтым гаду ўрадзіла рож, пудоў сорак сабралі. Пару мяшкоў пшаніцы, а таксама ячмень, проса. Дасць Бог, разлічымся з падаткамі і застанецца нешта і сабе...»

— Што яшчэ напісаць? — задумалася Фёкла.

Валодзік паціснуў плячыма.

У хату зайшоў Лявон, паслухаў.

— Пішы прыветы і паклоны! — сказаў ён.

Фёкла зноў пачала дыктаваць:

— Бальшой прывет Флягонту і дзеткам, каб былі вясёлыя і здаровенькія. Паклон усім родным і знаёмым. Паклон ад мужа майго Лявона. Перадаюць паклоны залоўкі мае Барбара з Фядорай. Яны мяне ўвесь час падтрымліваюць.

Застаюся любяшчая сястрыца твая Фёкла».

Фёкла рвалася як-небудзь дапамагчы роднай сястры. Дзяцей жа гадуе. Угаварыла Лявона паслаць трохі грошай. Паслалі сто рублёў з тых, што выручылі за яблыкі.

Восень саступала месца зіме.

Зацяжарыла Прося, аб чым першай паведаміла свякрові. Тая, ведаючы, на што цягне жанчыну ў гэткім стане, прынесла міску квашаных гуркоў.

— Ты яшчэ ў нас маладая, усё будзе добра! Падтрымала яна нявестку. — А мы дапаможам.

Прося нічога не сказала, толькі па-жаночы заклапочана ўздыхнула.

* * *

Даўно Кузёмкі не было, і вось нарэшце наведаўся, зайшоў. Пастукаўся і адчыніў дзверы. У хаце знаходзіліся Лявон з Фёклай — усё адно як чакалі. Вандроўнік даў «добры дзень», зняў шапку-магерку, абсыпаную снегам, і перахрысціўся, зірнуўшы ў кут, дзе знаходзіўся абраз. Пасля гэтага наблізіўся да вядра з вадой, відаць, дакучала смага, зачарпнуў.

— Вада з вашага калодзежа смачная, — адзначыў ён, выпіўшы поўны кубак. — П’еш і яшчэ хочацца.

— У нас усё смачнае, — засмяяўся Лявон.

— Надта смачная, скажу я вам, вада з журавінавага балота, — працягваў разважаць вандроўнік. — Балота, здавалася б, а вада добрая. Асабліва, калі смажыць. Спажыўная вадзіца!

Сагнуўся, патрабавальна агледзеў боты. Зіхотка бліснулі начышчаныя халявы. Астаўся задаволены. Ядлаўцовы кіёк прыпёр да печкі-галандкі.

— Кіёк пры мне, каб ад сабак адбіцца, калі што.

Фёкла яшчэ з учарашняга дня замачыла ў балеі бялізну і цяпер наважылася мыць. Кузёмка хоць і даўно ўжо не быў у Кужалёвай хаце, аднак пачуваў тут сябе па-свойску, як дома. Зняў і павесіў на цвік палатняную світку і ўжо добра паношаную шапку. Аблюбаваў крэсельца, прытуленае да сцяны, прысеў на яго, агладзіў валасы на скронях і на патыліцы. Кузёмкавы светла-блакітныя вочы яшчэ болей пасвятлелі, сталі амаль прызрыстыя.

— Ну, як маешся, гаспадынька?

— Ой, за цэлы дзень і не прысела.

— Як жа так! І пра сябе не трэба забываць! Адзін не дурны чалавек сказаў: «Калі я не за сябе, то хто за мяне? Але калі я толькі за сябе, то нашто тады я?»

— Мудрыя рэчы гаворыш, Кузёмка, адразу і не зразумееш.

— Каб ты ды не зразумела! А ты, гаспадар, як жывеш?

— Па-рознаму. Часам з квасам, а парою з вадою, — адказаў Лявон. — А ты?

— Я ў руху, між людзёў, хаджу. Вы за зямлю трымаецеся, а я ў руху. — Кузёмка загадкава ўсміхаўся.

— Ну, што, няма ўжо суседкі вашай Хомчыхі?

— Няма, — уздыхнула Фёкла.

— Гэта жыццё ўкаюкала. Надта цікаўная была. Усё пыталася: «Калі ажэнішся, калі ажэнішся?» Так ужо ёй хацелася. А які сэнс?

— Як які? — запярэчыла Фёкла. — Жонку б меў.

— Абыдуся.

— Даглядала б.

— Я пакуль што сам над сабой апякуюся.

Лявон расчыніў створкі акна, калыхнулася фіранка — патрывожыў ветрык. Госць быў настроены паразважаць.

— Жанчына — гэта зямля, яе трэба абрабіць, — працягваў ён, памаўчаўшы. — Якой абробіш, такая яна і будзе. А мне няма калі гэтым займацца.

— Табе няма калі, а некаторыя, апроч жонкі, яшчэ і каханку маюць, — пачаў пацвельваць Лявон.

— Здараецца, — пасміхнуўся Кузёмка. — У Адама ж, каб вы ведалі, апроч Евы, была яшчэ і палюбоўніца, звалі яе Ліліт. Прыгожая была, гэткая папялястая, а вочы мела блакітныя. Зводзіла таго Адама, як хацела, але дрэнна кончыла.

— Маніш, — не паверыў Лявон.

— Не, не маню, праўду кажу. Каб я з гэтай лаўкі не ўстаў.

— Ты гэтак расказваеш, быццам знаёмы быў з ёю, нібы разам час бавілі.

— Не, не бавілі, але ведаю. Я ўсё ведаю, — сказаў вандроўнік і памяняў гаворку на іншую тэму.

— У Баранках нядаўна выпадак быў. Баба, прашу прабачэння, прывязла з Берасця забітага мужыка. Нежывога. Дык людзі кажуць, што яна сама яго ахаладзіла. Вярталіся з базару — яна і цюкнула яго, соннага, абушком па патыліцы, а сказала, што бандыты перастрэлі.

— Нешта я не веру, — усумнілася Фёкла, — не можа такога быць.

Праз акно ў пакой заляцеў аксамітна-чорны, з залацістай шыйкай чмель, зазумкаў на адной ноце. Усе на яго загледзеліся, забыўшы на расказаную Кузёмкам гісторыю.

— Ну, а з Расіі што чуваць? — спытаў вандроўнік. — Даўнавата я там не быў. Расія — вялікая, там рознага народу шмат. Нацый шмат, і нацыянальнасцей, і нацменаў.

— Сястра мая Домна піша, што засуха ў іх, неўраджай.

— Супраць Бога не пойдзеш, неіспавядзімыя шляхі Гасподнія. Застаецца толькі здзіўляцца.

Валодзік краем вуха чуў гэтыя размовы. З іх вынікала, што свет незразумелы, няўтульны і невядома, што ад яго чакаць. Гледзячы на дарослых, ён думаў, што яны ведаюць нейкую таямніцу, якая дае ім магчымасць заставацца ўпэўненымі ў сабе і ў гэтым жыцці.

Фёкла прапанавала госцю падмацаваць сілы, той з прыемнасцю згадзіўся. Адчувалася, што чалавек згаладнеў.

— Як даюць — то бяры, а як б’юць — то ўцякай, — узрадаваўся ён.

Спачатку гэта быў кубак малака.

— Смачнае малако! — пахваліў Кузёмка.

— Смачнае, — пагадзіўся Лявон.

Гаспадыня пачаставала вандроўніка гарачай капустай, якую дастала з печы.

— А печ у цябе варыстая! — зноў пахваліў ён, з’еўшы цэлую варэйку.

— Варыстая.

— У вас тут яшчэ добра, а там, на ўсходзе, — вандроўнік кіўнуў галавой, — з лебяды суп вараць. Дзеці просяць з крапіўкі, крапіўка, кажуць, смачнейшая, але крапівы ўжо не знайсці, абарвалі. Людзі зноў успамінаюць, як пячы хлеб з лебяды, дубовай кары ды моху.

Фёкла з Лявонам ажно ўздыхнулі, спачуваючы гэткаму горкаму становішчу. Надта нелітасціва абыходзіцца з людзьмі лёс. Асабліва калі няма каму дапамагчы. Дзяржава наравіць болей узяць, чым даць.

Падмацаваўшыся, госць не забыў перахрысціцца і сказаць пацер. Лявон сядзеў моўчкі, пра нешта, відаць, думаў.

— Пра дрэннае не думай, — параіў Кузёмка, — бо калі будзеш думаць пра дрэннае, дык яно абавязкова здарыцца.

— А можа, ты і праўду, чалавеча, кажаш.

— Праўду.

Адпачыўшы, вандроўнік пайшоў сваёй дарогай. Лявон запрашаў крыху пабыць, адпачыць, аднак Кузёмка не згадзіўся.

— Далей пайшоў, — сказала Фёкла.

## XIV

У вайну жыццё прускаўцаў падпарадкоўвалася жорсткаму патрабаванню: усё для фронту, усё для перамогі. Даліся ў знакі і цяжкія пасляваенныя гады. У разбуранай вайной краіне панавалі разруха і голад. Народ, асабліва сялянства, абклалі падаткамі: грошы, збожжа, мяса, малако, яйкі, воўна, сена... І ўсё здай да першага кастрычніка. Фёкла цяпер кожны дзень насіла малако ў лік падатку. Падатковы прэс быў проста жахлівы. Першая «запаведзь» — разлічыцца з дзяржавай, астатняе — потым. Лявон прадаў яблыкі (вазіў у Брэст), трохі ўгандляваў, але ўсё пайшло на пакрыццё падаткаў. З Лявонавай гаспадаркі трэба было на мяса здаць цялушку. Дзякуй яму, увайшоў у «палажэнне» старшыня сельсавета Пятро Мачалаў: замест цялушкі (яна адна і была) дазволілі здаць тры авечкі. Жыта забралі чатыры цэнтнеры, ледзь не ўсё. Малако можна было здаваць маслам. Ездзілі ў Камянец, куплялі на базары масла, прывозілі і здавалі Багатэлю, які працаваў прыёмшчыкам.

Тым, хто пабываў калісьці ў бежанстве ў Расіі, гэта здавалася прадразвёрсткай. У хатніх размовах Фёкла казала: «Гэта, Лёня, яны нам развёрстку робяць». Людзі спадзяваліся, што пасля перамогі будзе паслабленне, але да лепшага становішча не мянялася. Вёска заставалася донарам, у якога працягвалі браць кроў.

Падаткі не змяншаліся, а наадварот — узрасталі. На прускаўскай вуліцы пастаянна тоўкся чалавек з партфелем. Гэта быў Лазуцін, упаўнаважаны з раёна. Кіраваў спагнаннем падаткаў. Высокі, з квадратовым вугрыстым тварам і маленькімі касавурымі вочкамі. Па ўзросце яшчэ малады, даволі дзябёлы. На галаве насунутая на вочы кубанка, на нагах боты. На плечы паверх скуранкі напнута на выпадак дажджу яшчэ і зялёная плашч-накідка. Хадзіў уразвалку, перавальваючыся з нагі на нагу, скардзіўся на плоскаступнёвасць. Ніхто ні разу не бачыў, каб Лазуцін калі-небудзь пасміхнуўся. На твары пастаянная засяроджанасць, якая нічога добрага не абяцала. Дасціпныя з мясцовых адразу далі Лазуціну мянушку «намочаны» — ад рускай назвы яго пасады «ўпаўнамочаны». Ноччу ён не выходзіў з хаты, баяўся, каб хто не пекануў з-за вугла. Казалі, што ў час вайны служыў у заградатрадах. І сам Лазуцін на нешта намякаў: «Я такое відзеў, што вам і не снілася». Але што ён «відзеў», не казаў.

— Васточнік! — гаварылі пра яго. — Яму адно толькі водка ды потка, а болей нічога не трэба.

Прускаўскае насельніцтва ўяўлялася яму нейкай неспазнанай пагрозлівай тэрыторыяй, няходжаным лесам, праз які трэба было працерабіць сцяжыну.

Яшчэ да пачатку жніва, аб'явіўшыся ў Прусцы, ён папярэдзіў:

— Зярно, таварышы, вязіце на ссыпной пункт у Камянец! Каму колькі даведзена! Сагласна плана. Каб разлічыліся поўнасцю! А як жа інакш? Дзяржава павінна спагнаць законна ёй належачае. Адтэрмінавання ніхто вам не дасць. Я, таварышы, упаўнаважаны, давераная асоба, у мяне ёсць паўнамоцтвы.

Спешным парадкам, яшчэ да завяршэння жніва, склікалі сход. Сабраліся ў школе, на першым паверсе, расчыніўшы сценку паміж класамі. У вачах прысутных — цікавасць і адначасова насцярожанасць да таго, што яны маюць пачуць. Для пачатку ўпаўнаважаны Лазуцін спытаў пра настрой.

— Карачымся патроху, — азваўся ахвочы на размову Гамон.

Упаўнаважаны паправіў шырынку, як бы пераконваючыся, што ўсё на месцы, абцягнуў гімнасцёрку.

— Усе, стала быць, былі пад акупацыяй?

Такое пытанне прускаўцы чулі ўпершыню і не надта ведалі, што яно азначае і што на яго адказаць.

— Былі, дык і што? — не зразумеў Гамон.

— Плоха гэта, не харашо. Не тым вы займаліся, — упаўнаважаны гучна высмаркаўся, пальцам затуліўшы то адну, то другую ноздры.

— Адкуль жа мы ведаем?

— А вы падумайце! Гэта ж пятно! А савецкая ўлада грахі не даруе. Таварыш Сталін добры, ён жалее народ, але да пары да часу. Здраднікам пашчады ад яго нет. Віна есць і прытом не малая. Таварыш Сталін у Крамлі, паверце мне, на этат счот не дрэмле, нават ноччу. Я не пра вас канкрэтна хачу сказаць, аднак не для каго не сакрэт, што многа віноўных яшчэ застаецца на свабодзе, чаргі, так сказаць, чакаюць, бо адразу ўсіх у турме не памесціш. Гэтыя ўчраждзенія таксама нада строіць. А заходнікі ёсць заходнікі. Да вайны я бываў у гэтых мястах, ведаю, living рознае імеет места.

Прысутныя прускаўцы сцішыліся. У цішыні нехта вінавата кашлянуў.

— Ладна, таварышы! Дзела прошлае, нада ўпярод глядзець! — Лазуцін, нібыта працягваючы сваю думку, ткнуў рукою кудысьці наперад, як бы паказаў на нешта, чаго іншыя не бачылі, а ён бачыў выразна, бо быў не такі, як яны. Больш прасунуты.

Не марудзячы, перайшоў да справы:

— Кожнаму двару даведзены план па хлебапастаўках, і трэба самым неадкладным парадкам яго выканаць.

Перш за ўсё — гэта Лазуцін ведаў са сваёй практыкі — трэба нагнаць страху.

— Мы доўгіх разгавораў не любім. Не ўмееш — навучым. Не хочаш — заставім, прымусім, як у вас кажуць. А калі не, дык раз-два і ў цялятнік.

Зала змоўкла, і Лазуцін працягваў:

— Абавязак камуністаў і беспартыйных — безумоўнае выкананне заданняў партыі. Гэта прадрашано, таварышы! К чаму гэта я кланю? Увайдзіце ў палажэніе вяшчэй. План — гэта сацыялісцічаскі закон, карацей кажучы, гэта святое дзела. Перш, чым самому спатрабляць, выканай план! У нашай краіне гэта ведаюць. Трэба, каб і ведалі. Зрыў плана нам ніхто не даруе! К вашаму сведзенію, імейце ў віду. Здай і жыві спакойна. Квітанцыі буду правяраць лічна, правяраць і пячатку ставіць.

— Якую пячатку? — не зразумеў Ляксандар Гальяш.

— А ежалі я пячатку не пастаўлю, то хто, друг любезны, табе паверыць? — растлумачыў упаўнаважаны. — Усё ясна, таварышы, як дважды два. Пячатка ёсць пячатка. Без яе нікуды не сунешся. Чуеце, што я кажу?

— Дзіва што! — адгукнуўся Мілецій. — Чуем.

Упаўнаважаны прывёз з сельсавета падатковыя паперы. Лявону трэба было здаць сёлета пяць цэнтнераў збожжа, і іншым гаспадарам прыблізна па столькі ж. Гэта нямала...

План прускаўцы выканалі, але камянецкае начальства ў райвыканкаме гэтым не толькі не ўлагодзілі, а як бы нават і наадварот — раздражнілі, павялічылі апетыт.

— Есць мненіе, таварышы, асушчаствіць зверхпланавыя пастаўкі! — абвясціў Лазуцін, вярнуўшыся з Камянца, з нарады, і зноў склікаўшы сход. —

Нада крэпка над гэтым падумаць, таварышы! Есць разнарадка. Хлеб нужон! Кто не понял, я не виноват.

— Хлеб нужон! — пацвердзіў Гамон.

— Ясна? — запытаў прамоўца і сам адказаў: — Ясна! Забяспечым дзяржаву, тады будзем думаць пра астальное.

Прускаўцы выказалі незадавальненне. Пачуліся галасы:

— Ашалець можна!

— Паслаў Гасподзь!

— Дзе ж узяць? Гэта лёгка сказаць.

— Пералівае з пустога ў парожняе, — незадаволена буркнуў Міхаль Тупчык, увабраўшы галаву ў плечы.

Упаўнаважаны гэтага, напэўна, не пачуў, таму што гнуў сваё:

— У вас агітацыя і прапаганда яшчэ не пастаўлены як след, газет вы не чытаеце, таму я вам і кажу. Вы, таварышы, бліны на два бакі маслам мажаце, вас вайна мала затронула, а вот паглядзелі б вы на восточныя абласця! Там многія ў зямлянках жывуць, а ўсё ж паложанае аддаюць! У вас тут не бяда, а ў восточных абласцях людзі без хлеба. Недарод, засуха! Вы, таварышы, павінны выпісваць і чытаць газеты. Там между строк усё сказана.

Закрануў упаўнаважаны і міжнародныя справы.

— Буржуі зноў вайну гатовяць, атамам пагражаюць. Невядома што прыдумалі! Гэта вы празмерна даверлівыя, а вораг не дрэмле! Зноў вайну распаліць хоча! Спадзяюся, што вы не хочаце быць прыслужнікамі імперыялізму? Падумайце, таварышы! Нада, каб на яго адну бомбу ў нас было дзве!

Нешта хацеў сказаць Оргій Ламака, але стрымаўся, пашкроб за вухам.

— Будзем думаць, — паабяцаў Гамон. — Бедняка нічым не напалохаеш. Асабліва калі ён стары рэвалюцыянер.

— Нада, нада! — цвердзіў сваё Лазуцін, пераходзячы на натужлівы хрып.

Сход аднак нічога не вырашыў. Пагаманілі ды і ўсё. І пытанняў на гэта раз ніхто не задаваў. Патрэба ў пытаннях адпала як бы сама сабой і зусім не таму, што іх не было, а хутчэй таму, што на іх ні ў кога не было адказу і задаваць іх было бессэнсоўна.

У глыбокім задуменні, моўчкі разыходзіўся са сходкі народ.

— Ахлысцік нейкі, — сказаў пра Лазуціна Павал Гальяш.

Ахлысцік, па-прускаўску, ашуканец, несамастойны чалавек. А ўзбураны Міхаль Тупчык дадаў:

— Казаў жа, абяцаў: «Здай і жыві спакойна». Здалі, а спакою няма. Лёгка сказаць: «Падумайце, таварышы!..»

І яшчэ прускаўцы казалі:

— Што некалі пры Польшчы сэквестратары рабілі, тое цяпер Саветы робяць.

Настрой у людзей стаў нейкі няпэўны. Агарнуў страх. Думалася featuresрознае.

Непакоіўся і сам ўпаўнаважаны. Баяўся, што скажуць: «Не праявіў цвёрдасці, саступіў, пашкадаваў!» Стаў думаць, што рабіць, з каго пачынаць. Да глыбіні душы дзівіўся ён таму, што ўсё тое, што ён патрабаваў ад насельніцтва, было гэтаму насельніцтву незразумелым, хаця і дурню было ясна, пра што ішла гаворка.

Назаўтра з раніцы, пераначаваўшы ў Хвядзюшкі Шпунта, ён завітаў якраз да Тупчыка. Міхаль жыў з жонкай Гапай, дзяцей у іх не было. Хата надта старая, нізенькая, такая, што сабакі ў вокны заглядалі. Міхаль быў

гаспадар цягавіты, але ад пастаянных нястач надта зблажэў, да таго ж яшчэ і кашляў.

— За апошнія гады, — прызнаваўся ён, — ніколі малака з хлебам не пад'еў. Вясною малако ёсць — хлеба няма, а ўвосень хлеба намалоціш — карова запусціцца.

Разам з мужам бедавала і жонка Гапа. Але ў гэты год з ураджаем пашанцавала болей, была надзея, што будуць з хлебам і пасеяць застанецца.

— Ну, што будзем дзелаць? — увальваючыся ў хату, з парога запытаў упаўнаважаны.

— Работы шмат, — адказаў Міхаль.

— З зярном што будзем дзелаць?

— А колькі там яго засталося? Жменя!

Лазуцін здзіўлена лыпнуў вачыма, сумна ўздыхнуў.

— Утойваць уздумалі? Не палучыцца!

— Дык жменя яго!

— Лішняга ў нас няма, — далучылася да мужа Гапа. — Што я табе — душу вырыгну?

— Нешта я сумняюся.

— Чаму?

— А таму, што раён адстае па хлебанарыхтоўках, у хвасце пляцецца! Вось і абласная «ЗАРЯ» пра гэта прапісала! Есць сур'ёзныя апасенія! — сказаў Лазуцін і стаў корпацца ў сваёй палявой сумцы, шукаючы газету, але, не знайшоўшы, бразнуў замком і адклаў убок.

— Ну, а мы тут прычым? — Міхаль паціснуў плячыма і стаў пазіраць кудысьці ўбок. Раз-пораз уздрыгвалі яго плечы, потым прамовіў, просячы: — Пакінь нас, чалавеча, у спакоі.

— Ты, хазяін, не круці. Табе зярно ні к чаму. Ты маласямейны. Запрагай цялегу!

З таго, што ў Міхаля з Гапай дзяцей не было, яшчэ нічога не вынікала. Зерне, урэшце, калі яно лішняе, можна было прадаць, абмяняць ці яшчэ што зрабіць, каб выплаціць астатнія падаткі. Старыя запанікавалі.

— Дык як жа, таварышок? Тое, што нам пазначана было, мы здалі. Як так можна? Гэта ж несправядліва! А самім есці? — зноў пачаў абурацца Міхаль.

— Ну ты ў мяне яшчэ паразгаварывай! Не здаш, у Картуз-Бярозу пайдзёш, на вывазку лесу! Гэта на першы случай. А на другі — лясоў у нас многа, ёсць і тайга.

— Тайга тайгой, а людзі і акром нас ёсць.

Упаўнаважаны пачаў абурацца:

— Ну і скнары! Проста-такі жмоты! Ну, не шанцуе мне на панятлівых людзей!

— А што рабіць? — развёў рукамі Міхаль. — Самім трэба.

— Прагнасць да дабра не даводзіць.

— Гэта яшчэ трэба паглядзець, хто з нас прагны.

Раззлаваны не на жарт упаўнаважаны патлумачыў:

— Таварыш, рускім языкам табе гавораць: хлеб нужон! Ваша атнашэніе — гэта сабатаж! Гэта факцічаскі супраціў уладзе! Вы ведаеце, што за гэта паложана?

— А мы як? — рынулася ў атаку Гапа. Нездарма кажуць, што ў адчайную хвіліну і заяц кусаецца. — Самім вобмаль! Нам жа таксама трэба есці!

У вачах жанчыны можна было прачытаць выклік.

— Ты што? — напудзіўся на яе ўпаўнаважаны. — Спорыць са мною? Пасаджу!

— Не!

Лазуцін быў надта раззлаваны, пучыў вочы і цяжка дыхаў, раздзімаючы ноздры. Адчуў, што хвалюецца і пачынае пацець. Яго ўзбуджанасць перадалася Міхалю з Гапай.

— Вымятайся адсюдь, гад! — не вытрымала Гапа.

Лазуцін спачатку як бы разгубіўся, не ведаў, што рабіць, што ўжыць, але потым твар яго паспакайнеў. Відаць было, што чалавек прытаміўся, нервы патрабавалі адпачынку.

— Бачу, дабром вы не хочаце. У мяне пласкастопіе, але я на ўсё пайду! — сказаўшы гэтак, ён злосна сплюнуў і выйшаў з хаты, трымаючы ў дрыжачай руцэ палявую сумку.

Па вуліцы прабег нейкі куртаты, без хваста, кот. Лазуцін не звярнуў на яго ўвагі, а пакіраваў на Міхалёва прыгуменне, у клуню, дзе на таку стаялі мяшкі з жытам. Адклаўшы ўбок пузаткаватую сумку, каб не перашкаджала, па адным стаў грузіць на воз.

Выйшлі Міхаль і Гапа, апранутыя ў даматканыя світкі.

— Людкове! Гвалт! — на ўсю моц закрычала гарластая Гапа. — Грабёж! Грабёж сярод белага дня! Забіраюць! А самі з голаду будзем здыхаць?!! На мякіне сядзець?! Гвалтам адбіраюць!

— Вы? Халера вас не возьме, выжывеце! — крычаў у адказ упаўнаважаны. — Вы ў мяне будзеце ведаць, што такое прадразвёрстка! Я вас у арышт пасаджу!

— А дудкі! — падбадзёрыў сябе Міхаль і, махнуўшы полам світкі, рушыў да воза.

Гапа кінулася ўпаўнаважанаму пад ногі, ухапілася за складзеныя гармонікам боты. Страціўшы раўнавагу, упаўнаважаны разам з мяшком паваліўся на дол. Міхаль тым часам браў з воза мяшкі і подбегам насіў назад, у клуню.

Збегліся дзеці. Дарослых чамусьці не было, а толькі падлеткі, якія з жахам назіралі, як непаваротлівы Лазуцін усё ж такі вылузаўся з Гапінага палону і зноў раз’юшана пачаў цягаць мяшкі, зноў з клуні на воз. Лазуцін быў дужэйшы, але Міхалю дапамагала Гапа, і колькасць мяшкоў у клуні не змяншалася. Такога незвычайнага відовішча ніхто яшчэ ў Прусцы не бачыў. Здаравіла Лазуцін, забыўшы на сваё «пласкастопіе», хапаў мяшок, браў яго сабе на карак і спяшаўся да воза. Боты яго грузна таптаді шэрую ад пылу траву. Кінуўшы мяшок у воз, бег па другі. Міхаль з Гапай, не марудзячы, бралі з воза прынесены мяшок і вярталі на месца. Адным і другім бокам авалодаў азарт.

— А каб табе вочы пазапухалі! Каб ты нічога не бачыў! — лямантавала Гапа. — Злыдзень! Няма на цябе ўгамону! Каб ты спруцянеў! Каб ты спрах, гад нятрудны! Каб цябе пэрун ляснуў!

Учуўшы лямант, падышла дарослая частка прускаўскага насельніцтва. Здзіўлена матлялі галовамі. Міхаль Швед, стоячы ззаду, ажно браўся за галаву. Але ніхто не ўмешваўся. Наблізіўся Апанас Хомка, спыніўся, моўчкі назіраў. Аднекуль узяўся Фэдар-японец, ніхто не ўгледзеў, калі ён з’явіўся, папіраючыся кавенькай.

— Ого, якая баталія! — падзівіўся стары ветэран.

— Ду-рань! — пакруціў галавою Гамон, асуджаючы, відаць, паводзіны ўпаўнаважанага.

— Ой, не даюць жыць! — прамовіў хтосьці ззаду.

— Нахабная баба! — бараніўся ўпаўнаважаны.

— Скулля табе, а не жыта! Грабёж! Грабяць! Абдзіраюць! — крыкам адказвала яму Гапа.

Урэшце ўхадзіліся абодва бакі, стомленыя такім актыўным супрацьстаяннем, не вытрымалі, паваліліся на дол і прымоўклі. Лазуцін асеў каля воза, успёршыся спінаю на задняе калясо.

— В гроб твою душу маць! — мацюкнуўся ён напаследак і шумна захрыпеў, відаць, сарваў голас. Стаў абмацваць горла рукамі. Павярнуўшы галаву ў бок Міхаля і Гапы, стомлена пазіраў на іх шырока вырачанымі няўцямнымі вачыма. Пад носам цямнеў тонкі струменьчык крыві. Паліўся струменьчык, відаць, ад перанапружання, а на шчацэ, калі прыгледзецца, засталася ружовая драпіна.

Пачыналася пара бабінага лета, паветра лашчыла пяшчотным цяплом, апоўдні яно межавала з ненавязлівай гарачынёй. Усе прымоўклі, як бы задумаліся.

Маўчала і Пруска, толькі здалёк было чутно, як у сваёй кузні перыў малатком па кавадле Пахолак.

Пад вечар прыехаў участковы малодшы лейтэнант Сценгарыеў, склаў пратакол і перадаў у раённую пракуратуру.

Пракурор азнаёміўся з гэтым дакументам і пачаў выклікаць сведкаў. Міхаль і Гапа Тупчыкі абвінавачваліся ў грубым супрацьдзеянні сельскаму актыву, хаця на самой справе ўпаўнаважаны Лазуцін дзейнічаў аднаасобна і па дапамогу да мясцовых актывістаў не звяртаўся. Сярод сведкаў быў і Лявон. З паказанняў можна было зрабіць выснову пра самаўпраўства ўпаўнаважанага, злоўжыванне ўладай. Справа скончылася аднак тым, што прускаўцам давялося здаваць і звышпланавае, ніхто гэтага не адмяніў, а тое, што яшчэ заставалася, прыхоўваць.

Людзі не маглі не бачыць, што новыя парадкі патрабуюць адчужэння ад уласнасці, ад права распараджацца вынікамі сваёй працы. Хвалілі аднак Міхаля:

— Ну, ты, Міхаль, крэмень!

Той маўчаў, нічога не казаў.

## XV

Валодзік штодня наведваў школу, вучыўся ўжо ў трэцім класе. Праўда, наколькі адразу хацелася ісці ў школу, настолькі цяпер расхацелася. Праз гады ён, ужо дарослы, будзе ўспамінаць, што самым цяжкім перыядам у яго жыцці была школа, першыя гады. Заняткі пачыналіся а дзявятай раніцы гігіенічным аглядам. Аляўціна Дзіядотаўна правярала чысціню рук, вушэй, шыі. Пра брудную шыю казала па-польску: «Szyja u ciebe, jak cholewa!»[1] Вясковыя дзеці паводзілі сябе залішне непасрэдна, і настаўніца штораз рабіла строгую заўвагу:

— Перастань ковырять в носу!

З польскай мовы пераходзіла на рускую.

Нядаўна спынілася была каля Валодзіка (ён і ў другім класе сядзеў за першай партай разам з Пецькам Якавуком), агледзела галаву.

[1] «Шыя ў цябе, як халява!» (*польск.*).

— Брудныя вушы! Выходзь, стань ля дошкі!

Валодзік выйшаў на сярэдзіну класа, падняў, як загадала Аляўціна Дзіядотаўна, рукі. Быццам той немец, што ў кіно здаваўся ў палон. Было надта сорамна. Хоць ты скрозь зямлю праваліся! Усе паказвалі на яго пальцамі, увесь клас скандзіраваў вершык:

Ты один не умывался
И грязнулею остался...

Але нічога не зробіш, давялося цярпець. Такое пакаранне чакала кожнага, хто правініцца. Аляўціна Дзіядотаўна — трэба аддаць ёй належнае — дбала пра ўсё, пра тое нават, як карыстацца сталовымі прыборамі — лыжкай і відэльцамі. «Лыжку бярыце ў правую руку, — вучыла яна, паднімаючы сваю правую руку з узнятым пальцам уверх, — а відэльцы культурныя людзі трымаюць толькі ў левай!» З першым усе былі згодныя, а другое здзіўляла, здавалася смешным. Зрэшты, некаторых гэтая парада і не тычылася, бо ў сем’ях абыходзіліся толькі лыжкамі, відэльцы былі без патрэбы. «Калі перад вамі рыбнае блюда, — папярэджвала настаўніца, зазіраючы няйнакш як у будучыню сваіх выхаванцаў, — дык не ўздумайце карыстацца нажом. Толькі відэльцамі!» Выхаванцы кіслі ад смеху, але стрымліваліся.

Былі, вядома, праблемы з наведваннем урокаў. Калі Аляўціна Дзіядотаўна пыталася ў вучня, чаму ён учора не быў на ўроках, той звычайна адказваў: «Бо кароў пас».

Адбыліся некаторыя перамены ў прускаўскай школе. Вучняў было так шмат, што школа ўсіх не змяшчала і дадаткова давялося заняць і панскі палац, які к таму часу ўжо амаль пуставаў, акружаны садам.

Шпроньку на пасадзе дырэктара змяніў Ксенафонт Іванавіч Рыбак — здаравенны мужчына з тоўстай чырвонай шыяй, якую сціскаў завязаны на маленькі вузельчык гальштук, чыста паголеным тварам і даволі змрочным выглядам. Зрэдзь ён пасміхаўся, але вочы былі халодныя, а голас хрыплы і рэзкі. Выкладаў фізкультуру, якую ён называў фізпадрыхтоўкай. У асноўным гэта быў бег навыперадкі і падцягванні на турніку. Рабілі, апроч таго, прасцейшыя гімнастычныя практыкаванні.

Рыбак не быў членам партыі і паставіў на мэце як найхутчэй ліквідаваць гэты недахоп. Аднак з прыёмам у партыю выйшла затрымка, паколькі, як тлумачыў сам Ксенафонт Іванавіч, вычарпаны быў ліміт. У вайну Рыбак, паводле яго слоў, знаходзіўся ў лесе, у партызанах, хадзіў на жалезку. Атрад дзейнічаў у глыбіні Палесся, падрываў і скідаў у адхон паязды.

У лаўку Салівэсь прывёз кансервы з крабаў. Ніхто да іх не дакрануўся, нават Аляўціна Дзіядотаўна праігнаравала, а Ксенафонт Іванавіч як бы нават упадабаў. Зрэшты, сваю любоў да крабаў ён тлумачыў так:

— Пасля вайны разруха, дык і крабамі не варта пагарджаць. Яшчэ год-другі, і ўсяго будзе навалам.

Уражанне было такое, што ён гаворыць адно, а недзе ў глыбіні сваёй істоты разважае па-іншаму і смяецца з таго, што гаворыць. Нікуды не выязджаў, сядзеў дома, у сваёй кватэры.

— Цяпер трэба на мірныя рэйкі станавіцца, — не то камусьці казаў, не то сам з сабою разважаў Ксенафонт Іванавіч, — у працу трэба закапацца.

Было папаўненне і ў настаўнікаў. Новы настаўнік называўся Васіль Іванавіч Клюка. Адкуль ён з’явіўся, таго ніхто не ведаў. Нібы зваліўся з неба. Выглядаў Васіль Іванавіч па першым уражанні вельмі старым і ціхмяным.

Трымаўся сціпла, нават баязліва, убіраючы галаву ў плечы. Але быў падцягнуты і акуратны. Насіў пацёрты, невядома калі і кім зроблены, замшавы капялюш. Галаву, дарэчы, меў абсалютна лысую, а тое, што яшчэ кусцілася каля вушэй, толькі аддалена нагадвала руды колер былой расліннасці. Насіў, не мяняючы, адзін і той жа гарнітур (мяняў, штораніцы, толькі гальштукі, аддаючы перавагу стракатым), і адзін і той жа аблезлы партфель. Выгляд твару меў строгі, нават суровы і ў той жа час напалоханы, быццам чакаў непрыемнасцей. Відаць, не мала перажыў чалавек на сваім веку, шмат што пабачыў. Можа, пагэтаму больш маўчаў, чым гаварыў. Выкладаў рускую мову і літаратуру, налягаючы ў асноўным на вершы, вершы паэтаў ад Ламаносава да Някрасава, з той асаблівасцю, што вучні павінны былі завучваць іх на памяць.

— Маё патрабаванне — дысцыпліна і паслушанне! — час ад часу паўтараў, нагадваў ён, пазіраючы ў акно.

Новага чалавека заўважылі і ў вёсцы.

— Клюка, — значыць, п’яніца, выпівака, — канстатавала Амелія, убачыўшы, як лавачнік Салівэсь нацэджваў яму ў бутэльку гарэлку.

У плёткі доўгія ногі, і яна пайшла гуляць па вёсцы. Дайшла яна, хоць і ў апошнюю чаргу, і да самога Васіля Іванавіча.

— Маё прозвішча яшчэ ні пра што не сведчыць! — ці то жартам, ці то ўсур’ёз запярэчыў Васіль Іванавіч, адмяжоўваючыся ад беспадстаўнай Амелінай непамыслоты.

— А мне галоўнае, каб выканаць план, — прызнаваўся і казаў лавачнік, калі хто цікавіўся адносінамі Васіля Іванавіча да гарэлкі. Зрэшты, п’яным настаўніка ніхто не бачыў.

Пасябраваў Васіль Іванавіч з Мікалаем Фамічом, які ўжо не з’яўляўся дырэктарам, а толькі выкладаў свой прадмет — арыфметыку, рашаў з вучнямі задачкі. Аднойчы Валодзік выпадкова пачуў размову паміж імі. Гаварылі зусім не пра школьныя справы.

— Паспакайнелі крыху і бальшавікі — вам не здаецца, Васіль Іванавіч?

— Ну, палавіна Еўропы пад іхнім уплывам.

— І пад уплывам, і пад камандай. Усе слухаюць, што Сталін скажа.

— Цішэй, Мікалай Фаміч! І ў сцяны ёсць вушы. Паспакайнець то яны паспакайнелі, але, я з вамі згодзен, сваё па-ранейшаму гнуць. Я іх ведаю...

— Ну, усё-такі...

— Абвясцілі палітыку міру і адначасова прапагандуюць класавую барацьбу і міравую рэвалюцыю, — тлумачыў Васіль Іванавіч. — Чулі, што Сталін сказаў пра атамную бомбу?

— Чытаў.

— Значыць, ёсць яна і ў нас.

— Мусіць, ёсць.

— Я чуў, што Амерыка хоча ўстанавіць з Беларуссю дыпламатычныя адносіны, але Масква супраць

— Беларусь — член ААН, — дадаў Мікалай Фаміч.

Хлопец быў здзіўлены пачутым, але доўга ў галаве гэтую размову не трымаў. Мала пра што гамоняць дарослыя!

Арыфметыка, якую выкладаў Мікалай Фаміч, была далёкая ад палітыкі і патрабавала ад вучняў не малога старання. У адным класе з Валодзікам навучаўся малодшы сын Мікалая Фаміча Серафім, якога сябрукі часцей называлі проста Серыкам. Здольнасці Серыка да арыфметыкі былі ніжэй

сярэдняга, можна сказаць аніякія. Па іншых прадметах ён таксама, на жаль, у лепшы бок не вызначаўся, а ў арыфметыцы, ну, не цяміў зусім. Бацька быў бязлітасны. Мікалай Фаміч крэйдай пісаў нейкія арыфметычныя дзеянні на дошцы, а потым, працягваючы сваё даволі аднастайнае тлумачэнне, падыходзіў да Серыка і, у такт свайму тлумачэнню — «плюс», «мінус», «адняць», «дадаць» — тыкаў яму мелам у лоб, ставіў на ілбе адпаведныя знакі. Маўляў, магчыма так ты нешта зразумееш і запомніш. Серык маўчаў, толькі чутно было, як ён сумна, як конь, дыхаў. Мікалай Фаміч, назваўшы яго аслом, ставіў «двойку» і загадваў станавіцца ў куток.

Даволі часта наведваўся ў школу з праверкай ці з нейкай іншай мэтай сам загадчык райана Самусік Сідар Сідаравіч і кожны раз заходзіў у клас да Аляўціны Дзіядотаўны. Хадзіў па радах і звычайна спыняўся каля Івана Каленіка. Выгляд Сідар Сідаравіч меў надта строгі, нават суровы. Прырода, мяркуючы па ўсім, не шмат завіхалася над яго тварам, пакінула навіслы над вачыма лоб, магутныя, як кулакі, скулы і шырокі бульбавідны нос.

— Напішы слова «мяккі»! — прапаноўваў ён, паказваючы на дошку, і даваў у руку крэйду. Пры гэтым Сідара Сідаравіча не цікавіла ні тэма ўрока, ні нават прадмет, якому ўрок быў прысвечаны, а толькі адно гэтае слова.

Збянтэжаны Іван выходзіў да дошкі і пісаў з памылкай: «мягкі». Так паўтаралася не раз, у класе ўзнікаў смех, якога Іван, мяркуючы па яго паводзінах, і хацеў. Сідар Сідаравіч кожны раз зноў тлумачыў правіла і загадваў Аляўціне Дзіядотаўне паставіць Каленіку «адзінку», што яна, хаця і без задавальнення, рабіла.

Наязджаў Сідар Сідаравіч да таго часу, пакуль Аляўціна Дзіядотаўна не зацяжарыла. Як гэтак з ёю сталася, напачатку ніхто не ведаў. Адказ прыйшоў пазней, калі Аляўціна Дзіядотаўна нарадзіла дачку Сюзанку — гэтак яе назвала. Падабенства з бацькам было поўнае. «Сабрала ўсё да кропелькі», — са здзіўленнем казалі пра малую. Маці, вядома, вельмі любіла дачушку, і золатцам называла малую Сюзанку, і кветачкай, цешылася ёю і ўсяляк песціла, шкадавала сваё дзіця.

У кастрычніку прыслалі новую настаўніцу, Сняжану Валер’еўну, маладую і, як здалося Валодзіку, вельмі прыгожую. Валасы ў яе былі, па модзе, завітыя і распушчаныя. Зверху іх стрымліваў бліскучы абруч. Гэта не тое, што косы ў Аляўціны Дзіядотаўны, заплеценыя самым звычайным чынам. Твар аздаблялі вялікія шэрыя вочы, прамы, з гарбінкай нос і выразна акрэсленыя вусны. Броўкі — ці сама вышчыпала, ці хто дапамог — як шнурочкі. Прыгожа пукліліся, як дзве пяшчотныя бульбінкі, паўнаватыя грудзі. Калі яны, у такт дыханню, уздымаліся, здавалася, што іх уздымае сама прырода. Усе на яе заглядаліся.

— Надта ж прыгожая новая вучыцелька, — адзначылі вяскоўцы, — і ўмее сябе паказаць. І гэта была чыстая праўда. Нават Амелія не магла знайсці якога-небудзь недахопу, хаця прынцыпова лічыла савецкую інтэлігенцыю па выхаванні ніжэй за даваенную польскую.

Сняжана Валер’еўна аказалася актыўнай у грамадска-палітычных адносінах. Не абыходзіўся без яе прыём у піянеры. Дзякуючы яе намаганням у піянеры запісаліся ўсе вучні малодшых класаў. Сняжана Валер’еўна сама павязвала ім чырвоныя гальштукі і віншавала. Большасць настаўнікаў прысылалася з Расіі. Адтуль, пасля Молатаўскага настаўніцкага інстытута, прыехала і Сняжана Валер’еўна. Вельмі хацела набыць педагагічны вопыт.

Сняжана Валер'еўна хадзіла нават павай. Між іншым, спрабаваў звярнуць на яе ўвагу Лаўр Яўсеевіч, які ў той час вёў у школе харавыя спевы, і мог бы падзяліцца з ёю сваім немалым дырыжорскім вопытам, але поспеху не меў. Жыццё Лаўра Яўсеевіча працягвалася ў адной кватэры з Хомкавай Волькай, з якой ён таксама не заўсёды знаходзіў агульную мову.

У школе праводзілі святочныя вечары. Рыхтаваліся да кастрычніцкага свята. Аляўціна Дзіядотаўна сказала, што на вечарыне будзем чытаць вершы Пушкіна. Новая настаўніца была іншай думкі.

— Трэба рабіць піраміду! — вырашыла яна. — Пушкін да кастрычніцкага свята не падыходзіць, не мае адносін. Ён усё ж такі паэт з мінулага, з дзевятнаццатага стагоддзя, устарэў.

Аляўціна Дзіядотаўна была, вядома, такім паваротам справы незадаволеная, але пярэчыць не стала: Сняжана Валер'еўна мела дыплом за настаўніцкі інстытут, і спрачацца з ёю не выпадала. Святкаванне прайшло вельмі ўдала. Удзел Сняжаны Валер'еўны быў вельмі прыкметны. І сама яна была прыкметная. Аблічча ўпрыгожыла зграбнымі зялёнымі завушніцамі, ад якіх праменіліся мяккія іскрынкі святла. Ганарліва паводзіла сваім тонкім, з гарбінкай, носам і паблажліва ўсміхалася. Пад кофтачкай выразна праступалі бульбінкі-грудзі. Круглыя і пругкія, яны не мелі патрэбы ў падтрымцы, наадварот, упарта вытыркаліся ў розныя бакі.

Піраміда атрымалася ў тры паверхі. Валодзіка, як самага лёгкага, пасадзілі наверх, на плечы Івану Павалчуку, і далі ў рукі чырвоны сцяг. Страшнавата было стаяць на самым версе — піраміда хісталася, але неяк абышлося. Ззаду на сцяне вісеў партрэт Сталіна, які ўважліва пазіраў на тое, што рабілася на сцэне. Радасна і прыемна было ад таго, што ёсць такі чалавек на свеце, які пра ўсіх ведае, думае і нікога не дасць у крыўду.

Час ішоў. Пачыналіся запусты. Наперадзе маячыла зіма з кароткімі днямі, раннім сутоннем і доўгімі вечарамі. Густа сыходзіліся цені на панадворку, на небе з'яўляўся пахмуры прывід месяца, падалі на зямлю чыстыя, белыя пушынкі.

Больш-менш спазнаўшы грамату, Валодзік пачаў чытаць тую кнігу, што пакінулі вясною 1944-га каўпакаўцы. Кніга называлася: «Радуга», крыху вышэй на вокладцы стаяла прозвішча аўтара: Ванда Васілеўская, а яшчэ вышэй было пазначана: Раман-газета. Надрукаваная на шэрай газетнай паперы, вялікага фармату, з мяккімі вокладкамі, зашмальцаваная і скручаная ў трубку. Унук кожны вечар старанна чысціў у лямпе шкло, запальваў святло і браўся за чытанне. Фёкла ўжо нават непакоілася, каб ён не папсаваў вочы, але слухаць ёй было надта цікава. Скончыўшы працу ў клуні, у хляве, прыходзіў Лявон.

Кніжка была без малюнкаў (Валодзік любіў, каб былі малюнкі), але ўразіла самім аповедам. Пакутлівы лёс гераіні простай украінскай сялянкі Аксаны браў за жывое, выціскаў слёзы, прымушаў хвалявацца і перажываць.

— Усіх вайна зачапіла, не адных нас, — уздыхнула Фёкла, змахнуўшы слязіну з вачэй.

Пасля «Радуги» чытаў не менш прачулую «Хижину дяди Тома», якую даў пачытаць прускаўскі «баптыст» Натолій. Гэта было выданне амерыканскіх хрысціян-евангелістаў, перакладчык свядома ўзмацніў жаласлівыя ноты ў абмалёўцы бядотнага існавання герояў. Тут хліпалі насамі ўсе, у тым ліку і Лявон, які пазнаёміўся з неграмі яшчэ ў маладосці, калі быў у Амерыцы, ведаў пра залежнасць неграў ад белых. Такое становішча рэчаў здавалася Валодзіку невытлумачальна несправядлівым, і ад гэтага ён пакутаваў.

Адчынілася школьная бібліятэка. Валодзік браў кнігі там. Прачытаў «У краіне райскай птушкі», і «Сына вады» Янкі Маўра. Беларуская мова гэтых кніг, звыкла рэчаўная і сакавітая, з аднаго боку, узмацняла іх незвычайнасць і экзотыку, а з другога — рабіла блізкімі і праўдзівымі.

Да чытання прыахвочваў і Васіль Іванавіч Клюка, які вельмі любіў байкі Крылова, асабліва чамусьці «Воўк і ягня». Але апроч баек Крылова прадыктаваў яшчэ цэлы спіс кніг для дадатковага чытання. Не ўсе з іх меліся ў школьнай бібліятэцы, таму даводзілася наведвацца ў Ратайчыцы, дзе бібліятэка была куды багацейшая. Праўда, занятак гэты — чытанне — не заўсёды знаходзіў падтрымку ў бабулі.

— А колькі на свеце кніг! Хіба ўсе перачытаеш? — казала яна. — Вочы сапсуеш!

Часам была стражэйшай:

— Хопіць чытаць, газу беражы! — Такую заўвагу рабіла яна, калі ён позна заседжваўся з кнігай, за поўнач.

Прага ведаў не пакідала. Кніга разумелася як адлюстраванне чалавечага жыцця, заўсёды няпростага, пагрозлівага, але цікавага, з упартым жаданнем выжыць, дамагчыся нейкай мэты. Зрэшты, пражытае адлюстроўвалася не толькі ў кнігах, але, магчыма яшчэ ў большай ступені, у самім чалавеку, які насіў яго ў сабе і пры нагодзе мог падзяліцца з кімсьці іншым. Аднойчы да Кужалёў наведаўся Сенька з Бранавіч — Лявонаў пляменнік, дзяцюк гадоў дваццаці, нізкі ростам, прыземісты, вёрткі. Рукі трымаў у кішэнях. У 1943-м трапіў у Германію, і не па сваёй, вядома, волі, у якасці гастарбайтара на прымусовыя работы. Расчулены, абняўся з дзядзькам і сваякамі. Фёкла пусціла слязіну і ўсадзіла госця за стол. Асушыўшы напоўнены дзядзькам кілішак, адразу ж прыступіў да аповеду:

— Па ўзросце я яшчэ не падлягаў высылцы, але солтыс запісаў і мяне.

— Гэта Астап! — удакладніў Васіль, які пры гэтым прысутнічаў.

— У першы раз, калі меліся адправіць, я ўцёк, не дагналі. Дык яны прыехалі праз тыдзень ноччу. Немцы з паліцаямі. Яшчэ на ложку звязалі мне рукі і пагналі ў Дзям'янчыцы. Кажу маме: «Не плач, мама, не гаруй. Як будзе шчасце, дадому вярнуся. Малады я, усё сцярплю». Да Лышчыц — на чыгуначную станцыю — вялі пад канвоем з сабакамі. Такіх, як я, там было ўжо шмат. Перад тым, як грузіць у таварныя вагоны, папярэдзілі: за ўцёкі з цягніка — смерць. У Лышчыцах доўга не стаялі, павезлі да Берасця, а потым у бок Кёнігсберга. Адтуль таксама ў цялятніку, было нас з паўсотні, завезлі ў Копенштат. Там на станцыю прыязджалі і разбіралі нас гаспадары. Адзін мяне выбраў. Нябедны быў, але піў. П'яніца. Гаспадыня лічыла сябе надта вялікай паняй. Было восем кароў і двое коней. Я аднаго коніка запрагаў у керат, вочы яму мяшком затуляў і так сечку рэзаў. Успамінаў, дзядзьку, як у вас малацілі і я за кератам хадзіў, коней паганяў. Гаспадар той, немец, ад страху, што забяруць у армію і адправяць на фронт, яшчэ болей піў. Урэшце, так яно і здарылася — забралі. Усё засталося на мне. Я і кароў даіў, і дзяцей даглядаў. Гаспадыня дзяцей малых да сябе не брала, толькі да мяне адпраўляла. Я з дзецьмі спаў і малако ім грэў. А яна прыбягала ўначы з крыкам да мяне, чаго дзеці плачуць, чаго вішчаць. І я не раз плакаў. І ў лес па хворост ездзіў. Ногі паадмарожваў у снезе ў лесе. Калодзеж на сорак восем кадлубкаў глыбокі быў і трэба было нацягаць вады для таго дабытку. Думаў, капец мне там. Падзякі ніякай, толькі і чуеш: «Швайнэ, швайнэ!» Аднойчы пасылку з дому, ад бацькоў, атрымаў. Прыслалі бохан пірага, сала і кружок свойскай каўбасы, пальцам пханай. Як

рэзаў пірог, дык аказалася, што ў бохане бацька бутэльку самагонкі схаваў. Я гаспадара пачаставаў, а каб калі ён мяне, дык такога не было.

Збег я ад той пані, бо пачала ўжо і мяне самога дамагацца...

— Халера якая! — вылаяўся Лявон. — Лахудра!

— Злавілі! Злавілі і адвезлі на фабрыку Oberhutte, там я да канца вайны бомбы фарбаваў. Жыў з такімі ж, як і я, у лагеры. Кармілі вельмі мізэрна. Змерзлую бульбу і бручку давалі. Хлеб вечарам і на другі дзень выдавалі, і ледзь яго толькі пакладуць, то мы адразу ж і з'ядалі. Раніцой давалі каву і кожны стараўся, каб як мага з дна, каб крыху густага ў той каве было.

Над фабрыкай лётала амерыканская або англійская авіяцыя, але нас не бамбілі. 27 студзеня 1945 года мелі нас эвакуіраваць у Брэслаў, але прыйшоў Lagerführer Дзмітраў, рускі немец, і загадаў тым, што пры бомбах і снарадах працавалі, нанач у фабрыку ісці. Там распалілі горан і сталі шаблоны і дакументы паліць. Разглядаемся — ніводнага шуцмана. І рускія прыйшлі і крычаць: «Рукі ўверх!»

Выгналі нас на Аполе, але завярнулі і загадалі дадому ісці. Пехатою дайшлі ў Чанстахову, а там камендант горада даў нам дакументы, каб кожны ў свой ваенкамат з'явіўся. Выйшлі мы з Чанстаховы на Варшаву і рускі самаход пад'ехаў, пагрузілі нас у яго і ў Пулавы завезлі. У Пулавах пераня лі нас другія рускія і 2 чэрвеня 1945 г. завезлі ў Брэст на зборны пункт, які месціўся ў былых польскіх казармах між Бугам і Мухаўцом.

Штодня нас муштравалі. Заснеш толькі першым сном і будзяць. Праз дзевяць дзён выклікалі нас на пляц і кожнаму зачыталі, хто куды: хто ў прымусовыя работы, хто ў армію, хто ў штрафбатальён, хто дадому. Мяне дадому. Прызналі маладым. Далі бляшанку амерыканскай тушонкі. Прыйшоў у Бранавічы прыцемкам, а ўжо і змеркла. Тата не пазнаў, пытае: «Чаго?» Мама пазнала. «А варожка, — кажа, — сказала, што ты загінуў».

Пабыўшы са сваякамі, Сенька выправіўся дадому. Фёкла дала яму ў мяшэчак кавалак сала. Хартон з Барбараю жылі беднавата.

— А што такое шаблоны? — спытаў Валодзік.

— Гэта, відаць, нейкія рабочыя прылады, — адказаў Лявон.

***Канец першай часткі.***





**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# ХАЙ БУДЗЕ ГОД БАГАТЫ І ШЧАСЛІВЫ

## СЕНТЭНЦЫІ ПАД НОВЫ ГОД

Сваю журбу далей не павязу —
Драконаў скарб, і мне яго не шкода,
Бо хутка нам драўляную казу
Сузор'і вылучаць як сімвал года.

Не зразумець усходні каляндар:
Чаму каза дарадчыцай абрана?
Прыйшла яна — вышэйшых сфераў дар —
З Месапатаміі ці з гор Ірана.

Што дасць каза? Мо трохі шашлыкоў,
Яшчэ на шапку злямчаную шкуру?
Люблю я міфалогію вякоў,
Казу шкадую — слёзную натуру.

Казьма, пастух, казаў: «Каза — ня скот,
Каровай дойнай увавек ня будзе».
Каза! Не бэкай млосна ля варот,
Калі цябе навязваюць на грудзе!

---

*__Гардзей Віктар Канстанцінавіч__ нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), кнігі выбраных твораў прозы «З мінулага не вяртаюцца» (2014), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008) і іншых.*

Рагамі, як у казцы, патрасе —
Не сыплюцца ні золата, ні срэбра.
На нізкі хлеў ускочыць па страсе,
А сцягнуць, дык з лупцоўкаю па рэбрах.

Капрызны статак з гордаю казой,
Казьма, часцей прыпасвай каля нівы.
Каза нагой — там ураджай гарой.
Хай будзе год багаты і шчаслівы!

## ВУНЬ І ДРОЗД-РАБІННІК...

***Уладзіміру Маруку —***
***аўтару кніг паэзіі***
***«Ліст рабіне», «Кудмень» і іншых.***

Жухнуць зоркі ў кронах,
Цішыня вакол.
Між рабін чырвоных
Непрыглядны дол.

Ноч прайшла без снегу —
Зноў хлюпотны дзень.
Сілу абярэгу
Страціў твой кудмень.

Паўз рабіну міма
Вецер дзьме лісты.
Да яе ж, любімай,
Толькі паўвярсты.

Цікае гадзіннік
І — крыштальны звон.
Вунь і дрозд-рабіннік,
Вечны паштальён.

Ды віно з пакутай
Надта зеляно.
Што ты скажаш, Гута? —
Зеляно віно.

Снегу мо падкіне
На прырэчны плёс?
Горкі ліст рабіне
Дрозд той не данёс.

Між сівых аселіц
Лёг кілім руды,
На рабіну селі
Чорныя дразды.

## ЮНАЦКІЯ МАТЫВЫ

Над ракою Ведзьмаю
Раніцу прашу:
— Ох, не развярэдзь маю
Сумную душу.

З яблынямі, з вішнямі
Гарадок прыціх.
Мы прыйшлі не лішнімі
Да ракі ўдваіх.

Пэўна, не з вядзьмаркаю,
Ды які ўжо лёс:
Абярніся шпаркаю
Ластаўкай з нябёс!

Чуйна вербы зыркаюць:
Свой тут ці чужы?
А над Ведзьмай швыркаюць
Чорныя стрыжы.

Шчыра памаліўшыся
Ведзьмінай красе,
Дзень, не памыліўшыся,
Радасць прынясе.

## СТАРЫ ВЯТРАК

Магчыма, міраж у паглядзе:
На Востраў ідзеш і няўзнак
Пабачыш наводшыбе ў садзе
Стары засцянковы вятрак.

Малоў ён і лёсы, і зерне,
Але не таму, што хіцёр,—
На вецер ніяк не паверне
Двухрылы высокі шацёр.

Даўно не скрыгочуць паставы,
Мучны звяў струменьчык тугі.
Злавацца ніякай падставы,
Хто нехта змалоў без чаргі.

І восі, і шрубы паслаблі,
Дык дзе ты, млынар-звадыяш?
А ведзьмы — на вілы, на граблі,
Ляцяць у вятрак на шабаш.

І як бы маланка ні біла,
Зайсці я сюды не змагу:
Тут баба Кагорта згубіла
Сваю касцяную нагу.

Ды чуецца голас усё-ткі:
— Ля крылаў так блізка не стой! —
Ляцяць дэманічныя цёткі
І вецер ганяюць мятлой.

Бывае, што, злосныя, здуру
Народ пакідаюць на змор:
Захочуць дык выклічуць буру —
Збудову паваліць віхор.

Пайшлі ад жыцця мукамолы,
Бо часу не скажаш: адстань!
Узнік за лясамі, праз долы
Вятрак той — як прывід, як здань.

## ХАТЫ АРАТЫХ

Сеялі жыта, сеялі грэчку.
Вёскі і вёскі — лясам насупор.
Вёскі, вядома, не роўня мястэчку:
Востраў і Гута, ды Кукава-Бор.

Вецер сцюдзёны навылет прасвішча
Гэту прасеку з Малога Сяла.
На старалессі, паўз ельнік Стаўпішчаў,
Рэчка цячэ, як спрадвек і цякла.

Хаты, што лялькі, хаты аратых,
Доўга трымае іх дух смаліна.
Толькі прыціхлі сялянскія хаты:
Двор у лазе, і каб градка адна!

Мроіцца вёска з няпэўным заробкам.
Грэчка і жыта, ды што там яшчэ?
Скуль — невядома: то лугам, то ўзлобкам
Рэчка цякла, дык няхай і цячэ!

Печам ці ўспомніцца водар сасновы?
Хоць бы паленца, бо страшыць зіма.
Журацца рэчы, нявольнікі мовы:
Стол, табурэтка, а хлеба няма.

Госцю не верацць самотныя хаты.
Ціха і ясна, нібыта ў царкве.
Хаты прамёрзлыя, хаты аратых.
Болей у хатах ніхто не жыве.



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# АПАВЯДАННІ

## Ад лёсу не ўцячэш

Дзень быў сонечны, з ласкавым ветрыкам, без назольнай духаты, якая звычайна бывае сярод ліпеня ў вялікім горадзе. За тыдзень гасцявання ў сваякоў, я трохі аствойтаўся ў Маскве, таму вырашыў пагуляць адзін — паездзіць у метро, пахадзіць па вуліцах у натоўпах масквічоў і шматлікіх прыезджых, наведаць музеі. А паколькі першыя сем дзён пайшлі ў мяне на агульнае знаёмства і пераважна з гісторыка-рэвалюцыйнымі мясцінамі, то цяпер планаваў паглядзець Маскву літаратурную, пабыць ля Пушкіна, Лермантава, Талстога, Чэхава, Маякоўскага, Горкага, Ясеніна...

Вандруючы па горадзе, зрабіў для сябе адно цікавае адкрыццё: у Маскве нельга заблудзіць. І нават не таму, што «язык да Кіева давядзе», людзі падкажуць, як праехаць на Красную плошчу або на Вялікае Садовае кальцо, — куды б ні завялі дарогі, усюды можна нырнуць у падземку. А на станцыі метро, хутка зарыентаваўшыся, сядзеш у патрэбную электрычку і патрапіш у любы куток горада.

Тым далёкім летам я закончыў дзясяты клас і падаў дакументы ва ўніверсітэт. Бацькі «прэміравалі» мяне двухтыднёвай паездкай у Маскву, што

---

*__Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч__ нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці» (1989), «Час надзеі» (1991), «Любі і помні» (2006), «Святое правіла…» (2008), «Усміхаюцца зоры над хатаю» (2011), «Доверием небо измерю» (2012), «Спявае жыта» (2014), «Наталенне Радзімай» (2014) і інш., «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» ў двух тамах (2012), многіх кніг для дзяцей, а таксама кнігі прозы «Паміж радасцю і болем» (2010) і кнігі крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў «Залаты ключык духоўнасці» (2010).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2009), прэміі Міністра абароны Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры і мастацтва (2011 і 2013), іншых літаратурных прэмій.*

павінна было «надаць мне новыя сілы, узбагаціць маральна і паспрыяць паступленню». Бацькі мелі рацыю, бо рос я надта ўражлівым і хваравіта перажываў ростань са школай і аднакласнікамі. Мяне цягнула так далёка ад дому яшчэ і таму, што ў падмаскоўным горадзе Электрасталь гасціла ў сваякоў аднакласніца і мая патаемная самота Э. Вядома, мае юнацкія фантазіі малявалі нечаканую, але такую шчаслівую сустрэчу з ёю. Чаго, натуральна, не адбылося. Дарога, новыя абставіны, жыццё і знаёмства з Масквою — тады сталіцай нашай вялікай, магутнай дзяржавы з велічнай назвай Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, падбадзёрылі, акрылілі мяне. Яшчэ больш хацелася зрабіць нешта сваё, прыгожае, значнае, высакароднае, нават вельмі гучнае, такое, чаго яшчэ ніхто дагэтуль не рабіў.

Перапоўнены незвычайнымі ўражаннямі і высокімі пачуццямі, я, здавалася, не крочыў, а плыў па маскоўскіх вуліцах і плошчах. Наведаў літаратурныя музеі Пушкіна і Талстога. За ўсе мае сямнаццаць год я не перажываў такой эмацыянальнай узрушанасці, такой святлістасці, такой захопленасці прыгожым пісьменствам. Пушкін і Талстой праз сваё жыццё і адданасць літаратуры яшчэ больш пераканалі мяне, што сэнс жыцця — не толькі марыць пра цудоўнае, але і тварыць яго кожны дзень...

Паабедаўшы ў кафэ і пагуляўшы на Крапоткінскай, дзе, здавалася, вуснамі вялікіх сыноў Расіі са мной размаўляе сама Гісторыя, разам з бясконцай плынню людзей уліўся ў метро, сеў у электрычку і паехаў да станцыі «Вуліца 1905 года». Хвілін праз дваццаць я пераходзіў ужо Садовае кальцо. Хапала яшчэ часу наведаць музей Чэхава, як і планаваў, і вярнуцца да сваякоў на кватэру, адкуль разам са стрыечным братам мы павінны былі пайсці ў цыганскі тэатр «Рамэн». Да гэтага дня я пабываў ужо ў некалькіх тэатрах, паглядзеў у Вялікім тэатры нават славутага «Яўгенія Анегіна». Цыганскі тэатр цікавіў даўно, а мара пабываць у ім з’явілася пасля кінафільмаў «Табар ідзе ў неба» і «Мікалай Слічэнка». Апошні фільм мы з сястрой Ганнай паглядзелі ў Мінску нават пяць ці шэсць разоў.

Наведвальнікаў у музеі было няшмат. Я далучыўся да групы экскурсантаў. Экскурсавод вяла нас і расказвала так хутка, як мне падалося, што я не паспяваў усё ўважліва разгледзець, удумацца ў кожны цікавы або значны факт з жыцця любімага пісьменніка. «Нічога, — вырашыў, — пасля вярнуся і разгледжу ўсе экспанаты лепш, не спяшаючыся».

Раптам убачыў дзяўчыну. Яна таксама не паспявала за экскурсаводам. Нешта асаблівае было ў яе постаці, рухах, адкрытым прыгожым твары. Мне падалося нават банальнае, што недзе ўжо бачыў яе, што яна ці не з маіх родных мясцін, адтуль, дзе ў нас, за недалёкім гарызонтам, узыходзіць сонца, разгараецца раніца, якую я вельмі любіў назіраць...

Дзяўчына, відаць, адчуўшы пільны позірк, павярнулася ў мой бок. Мяне нібыта працяло токам. З паўхвіліны знерухомела глядзелі адно на аднаго. Ніякавата адводзячы позірк, яна злёгку хораша ўсміхнулася і накіравалася ўслед за групай. Праз некалькі хвілін мы зноў сустрэліся позіркамі. Пагляд яе васількова-блакітных вачэй, здалося, ахінуў усяго мяне нечым неверагодна цёплым, прыемным, незвычайным. Я адчуў: нешта здарылася, добрае-добрае, прыгожае-прыгожае... Незнаёмая дагэтуль хваля ўзрушанасці агарнула сэрца. І на што б я цяпер ні глядзеў, бачыліся яе вочы, поўныя прамяністага гаючага святла, прыцягальнай чысціні...

Я падышоў да яе, калі яна схілілася над рукапісам Антона Паўлавіча. Хвіліны дзве, а мне падалося, што цэлую вечнасць, мы стаялі моўчкі.

— Добры дзень! — нарэшце вымавіў я, калі група адышла на некалькі крокаў ад нас.

— Добры дзень, — нібы знаёмаму, адказала дзяўчына. — Вы адчуваеце, як лагодна і ўтульна ў доме Антона Паўлавіча Чэхава? — павярнулася да мяне незнаёмка.

— Такой жа лагоднасцю напоўнены і яго творы, а гумар ягоны асаблівы тым, што ніколькі не прыніжае чалавека, — адказаў я.

— У мяне пастаянна такое адчуванне, што вось-вось з суседняга пакоя выйдзе сам пісьменнік — сціплы, чулы, добры, шчыры... — дзяўчына ўсміхнулася чароўнай, як і сама, усмешкай.

У гэты момант з суседняга пакоя сапраўды выйшаў невысокі, праз меру тоўсты мужчына з пышнымі доўгімі вусамі і вострымі маленькімі вочкамі. Мы пераглянуліся і ледзь не пырснулі смехам.

— Люблю Чэхава, — працягвала незнаёмка, — за тое, што ён чулы ў сваіх творах не ад надуманай нейкай дабрыні, якой вымагае часам задума, ідэя твора, а вось ад той, якая ідзе ад душы аўтара, з самых яе глыбіняў...

— «Добраму чалавеку бывае сорамна нават перад сабакам» — прыгадаў я словы Антона Паўлавіча. — Такое мог сказаць сапраўды толькі незвычайны, духоўна багаты чалавек...

У гэты момант нас акружыла шумлівая група дзяцей. Гэта былі вучні, мабыць, сёмых-восьмых класаў, якія прыехалі аднекуль здалёку. Каб не замінаць ім, мы разышліся ў розныя бакі. Я зацікавіўся партрэтам пісьменніка, што вісеў на сцяне злева. Калі ж заглянуў у апошнюю залу, дзе спадзяваўся зноў убачыць сваю незнаёмку, яе там не было. Я паволі пасунуўся назад, думаючы, што яна вярнулася таксама, каб яшчэ раз, не ў спешцы, разгледзець найбольш цікавыя экспанаты. Але і там, у першых залах, дзяўчыны не было. Я заспяшаўся на выхад. У фае агледзеўся і, халадзеючы ад разгубленасці, заўважыў, што маёй незнаёмкі няма і тут. Хацелася закрычаць, гучна аклікнуць яе. Стала крыўдна, што нават не паспеў запытаць імя... Самотны, разгублены, выйшаў на вуліцу. У які бок яна магла пайсці? Можа, яшчэ на прыпынку дзе напаткаю? — ліхаманкава праносіліся ў галаве думкі. Заспяшаўся да метро... На пераходзе праз вуліцу, каля святлафора стаяла купка людзей, але я не заўважаў іх твараў, як і не заўважаў ранейшага горада. Было балюча, прыкра, здавалася, хтосьці моцна сціснуў мяне і не выпускае са сваіх магутных дакучлівых абдымкаў. Загарэлася зялёнае вока святлафора, і, пераходзячы вуліцу, я раптам заўважыў сваю незнаёмку. Яна павольна ішла наперадзе. На душы адразу палягчэла, нібыта нейкая пачвара выпусціла мяне са сваіх жахлівых лап.

На тратуары паскорыў крок і параўняўся з дзяўчынай.

— Гэта вы! А я спалохаўся, што ўжо згубіў вас...

Яна павярнулася на мой голас і пяшчотна ўсміхнулася.

— Вы на метро?

— Так, — цяпер яна прыветліва зірнула на мяне, як бы даруючы маю няўважлівасць. — Цудоўны дзень сягоння. Сустрэча з прыгожым... Перад гэтым была ў музеі Лермантава. Столькі ўражанняў, пачуццяў, думак... Хочацца неяк замацаваць гэта, пасядзець у цішыні, памарыць...

— Даруйце, вы не масквічка, відаць, гэтак жа як і я?

— Так! Але Маскву крыху ведаю. Думала, дні тры хопіць, каб пабачыць горад, адчуць яго веліч, ды, напэўна, і жыцця не хапіла б на гэта...

— Сапраўды. Адзін толькі Крэмль што значыць! А ведаеце, — раптам рашыўся, — запрашаю вас сягоння ў тэатр «Рамэн»...

— О, гэта выдатна! Толькі ж мы яшчэ не пазнаёміліся. Мяне завуць Наташай.

— Вельмі прыемна! А я — Ігар, — адчуваючы, што пунсавею ад глыбокай радасці, адказаў я.

— Толькі ж мне трэба пераапрануцца і папярэдзіць сваякоў.

Ідучы ў метро, мы разгаварыліся. Наташа была з Днепрапятроўска. Таксама закончыла школу і падала дакументы ў машынабудаўнічы інстытут. Прыехала ў госці да брата, інжынера, які жыве ў Мыцішчах.

Мы размаўлялі па-руску, хоць у яе адчуваўся своеасаблівы акцэнт, магчыма, гэтак жа, як і ў мяне.

— Каб вы ведалі, як я люблю ўкраінскую літаратуру — Тараса Шаўчэнку, Міхаіла Кацюбінскага, Івана Франко, Лесю Украінку... А жывую ўкраінскую мову, лічы, не чуў. Давайце размаўляць кожны на сваёй.

— З вялікім задавальненнем, — без падробленай радасці пагадзілася яна, адразу загаварыўшы па-ўкраінску. — Ведаеце, а мяне ўразіў ваш Максім Багдановіч, люблю таксама вершы і Максіма Танка. А з празаікаў беларускіх запомніліся Якуб Колас, Кузьма Чорны, Іван Шамякін, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч. Я нават па-беларуску некалькі твораў прачытала. Цудоўная ваша мова, мілагучная, гнуткая...

— О, дзякуй! А я лічу, паверце, родную я вельмі люблю, толькі ж украінская мова — адна з самых мілагучнейшых у свеце. Гэта і песні вашы яскрава пацвярджаюць. Як пачуеш — сэрца ад асалоды млее...

— Дзякуй за камплімент. Не адмаўляюся ніколечкі, — усміхнулася Наташа. — Яно так і ёсць, але ж як хараша спяваюць «Песняры», як прыгожа гучыць з іх вуснаў беларускае слова!..

Мы размаўлялі кожны на роднай мове, і нам было так прыемна і радасна, што не заўважалі, як здзіўлена пазіралі на нас людзі, што ішлі побач.

Часу да пачатку спектакля заставалася не так і шмат. Я намерыўся заехаць да сваякоў, узяць білеты і папярэдзіць іх, што пайду ў тэатр з дзяўчынай. Дамовіліся з Наташай, што буду чакаць яе на выхадзе са станцыі метро «Беларуская».

Падышла электрычка.

— Да сустрэчы, не спазняйся, Наташачка, — прашаптаў я, міжволі перайшоўшы на «ты» і з цяжкасцю разрываючы моцнае прыцягненне да яе.

— А калі спазнюся, будзеш чакаць? — яна глядзела на мяне шчырымі, радаснымі вачыма.

Натоўп пасажыраў, нібы вірлівая плынь, адносіў яе ад мяне ўсярэдзіну вагона. Я здагадаўся, што яна не хацела, каб я пакідаў яе...

— Ты не спознішся! Я буду чакаць, — паспеў крыкнуць перад тым, як дзверы зачыніліся, схаваўшы ад мяне яе жаданую ўсмешку...

...Ля выхада з метро я прачакаў Наташу да самага пачатку спектакля.

Яе не было... «Чаму? Што здарылася? Можа, транспарт падвёў?» — не знаходзіў сабе месца. Раптам банальная думка востра працяла мяне, нібыта наскрозь: «Ды на станцыі два выхады!» Я кумельгам кінуўся на іншы выхад. Але дарэмна, Наташы не было і там. Пастаяўшы крыху ў разгубленасці, пабег да тэатра, «а раптам яна чакае ля ўвахода?» Ды ні ля ўвахода, ні ў фае нікога не было. Тады я паехаў на станцыю «ВДНГ» і прастаяў на выхадзе з яе да дзесяці гадзін вечара, спадзеючыся на тое, што дзяўчына затрымалася ў горадзе, і, вяртаючыся, будзе выходзіць тут. Успомнілася, як у размове яна згадала, што да брата трэба ехаць са станцыі «ВДНГ». Толькі дарэмна я ўзіраўся ў твары тысяч людзей. Ніводзін з іх так і не суняў майго прыкрага невыказнага болю і

бясконцага шкадавання. Наташа не выплыла насустрач з метро на няспыннай стужцы эскалатара. З паўгадзіны яшчэ патоўкся на аўтобуснай станцыі. Цісnула ў скронях, балюча білася ў грудзях юнацкае сэрца: «Як жа я згубіў цябе, Наташа?! Чаму? Дзе ты?! Як недарэчна...»

Ледзь прывалокся на кватэру сваякоў. Уночы доўга не спалася. Яшчэ і яшчэ раз пракручваў у памяці стужку дня. Нарэшце заснуў з думкай пачаць удзень пошукі з гарадской даведкі, а калі гэта нічога не дасць, то паехаць у Мыцішчы.

Па сваёй наіўнасці я тады не падумаў, што ведаю толькі імя і па ім нельга знайсці ў Маскве чужога чалавека.

Раніцай, зразумеўшы марнасць свайго намеру, паехаў на аўтобусную станцыю, што месцілася каля ВДНГ. Купіў білет на першы ж аўтобус у Мыцішчы. Прыехаўшы, гадзіны дзве хадзіў па горадзе, заглядваў у магазіны, узіраўся ў прахожых. Паступова губляючы надзею на ўдачу, не згаджаючыся з гэтым, дакараў сябе, што не запытаўся ні прозвішча, ні адраса. Мог бы ўрэшце і паехаць з ёю, ці проста пагуляць па горадзе разам, тэатр і пачакаў бы. Але цяпер ужо нічога не вернеш, трэба было думаць адразу. Адчай і злосць на самога сябе не давалі спакою. Ды зрэдку яшчэ прабівалася праз роспач кволая надзея на сустрэчу. Жыла яна і пазней. Ды толькі праз нямала год зразумеў, чаму яна не пакідала мяне...

Ходзячы па Мыцішчах, прадумваючы новыя шляхі пошукаў, я нечакана прыйшоў да думкі, што патрэбна шукаць Наташу праз брата, які працуе тут недзе на заводзе. Якраз трапілася на вочы шыльда на адным са старых будынкаў: машынабудаўнічы завод. Я пакіраваў у аддзел кадраў. Начальнік аддзела, да якога я звярнуўся з такім неверагодным пытаннем, некалькі хвілін не мог уцяміць, хто я і што мне патрэбна, і ці не доктар можа толькі дапамагчы мне... Але ў гэты час затрэнькаў тэлефон, а яшчэ праз некалькі дзясяткаў секунд, гэтак жа няўцямна агледзеўшы мяне, маўляў, што за дзівак, начальнік аддзела шпарка выйшаў. Засталіся дзве жанчыны, работніцы аддзела. Я звярнуўся да малодшай. Патлумачыў што да чаго. Усміхнуўшыся і цёпла зірнуўшы мне ў вочы, жанчына ўзялася дапамагчы.

Якім жа я быў шчаслівым, калі праз некалькі хвілін работніца аддзела кадраў адшукала па картатэцы інжынера, які нарадзіўся ў Днепрапятроўску.

— Калі той, — лічыце, што вам вельмі пашанцавала, — далучылася да нашай размовы старэйшая жанчына. — Толькі на вяселле запрасіць не забудзьце...

Я сарамліва пачырванеў.

— А мы зараз і высветлім, — усміхнулася мая памочніца. Яна набрала нумар тэлефона і звярнулася да мяне:

— Распытайце аб усім самі, не хвалюйцеся.

Невядомы мужчына цярпліва выслухаў мае блытаныя тлумачэнні і пытанні, спакойна адказаў:

— Я зразумеў вас, малады чалавек. І быў бы вельмі рады дапамагчы... Я сапраўды з Днепрапятроўска, але сястры ў мяне няма. Нават не ведаю, што параіць вам, чым дапамагчы... Падыдзіце яшчэ на...

Ён назваў мне два мясцовыя прадпрыемствы, я запісаў адрасы. Якраз вярнуўся начальнік аддзела, ціхенька сеў за свой стол, моўчкі ўтаропіўся ў мяне, нібы яго паралізавала.

Зычлівыя жанчыны з аддзела кадраў падказалі мне, куды ісці, і я развітаўся, ледзь не пырснуўшы смехам, пабачыўшы раскрыты рот начальніка.

Аднак мае пошукі былі беспаспяховымі. І вечарам я вярнуўся ў Маскву. А праз два дні мой цягнік спяшаўся ў Мінск. Я глядзеў у акно вагона. Шчымлівы, здавалася, неадольны сум поўніў душу.

І якім дарагім, якім гаюча-прыемным убачыўся мне родны горад, — ціхі, утульны, прыгожы. І ён крыху спатоліў мой боль, прыхаваў яго сваёй шчырасцю і бадзёрым поступам жыцця.

...Мінула адзінаццаць год. Я паспяхова закончыў універсітэт. Ажаніўся. Нарадзіліся дачушка і сын. У гэты час працаваў дырэктарам літаратурнага музея Максіма Багдановіча. А паколькі быў дырэктарам маладым, то мяне накіравалі на вучобу ў Маскву ва Усесаюзны інстытут павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры.

Аднойчы практычныя заняткі нашай групы кіраўнікоў літаратурных музеяў краіны праходзілі ў музеі Антона Паўлавіча Чэхава, што на Садовай-Кудрынскай. Знаёміліся з вопытам работы. Праходзячы па залах, я ўспамінаў сустрэчу з Наташай. Здавалася, яна тут, недзе побач, толькі не заўважаю яе. Зноў пункцірнай лініяй болю мільганула падсвядомая думка: «Зараз яна ўзнікне перада мной...»

Калі заняткі скончыліся, і ў невялікай актавай зале мы знаёміліся з асабліва цікавымі водгукамі наведвальнікаў музея, я раптам (нібы хтосьці падказаў мне гэта) папрасіў паказаць кнігу водгукаў за той год, у які лёс неспадзявана пазнаёміў і гэтак недарэчна разлучыў нас з Наташай.

Пачаў гартаць, прыглядацца да імён, подпісаў, дат ... «Так і ёсць! Яе водгук! Подпіс. Днепрапятроўскі адрас...»

Прысеўшы і супакоіўшыся, стаў чытаць: «Вялікі Антон Паўлавіч Чэхаў пазнаёміў мяне ў сваім доме з вельмі добрым сябрам, цудоўным хлопцам з Мінска. Але нечакана я згубіла яго. Як шкада і балюча... Але, магчыма, ён завітае сюды яшчэ раз і адшукае мяне...»

Я перапісаў у блакнот Наташын адрас. А дакор свідраваў сэрца: «А я ж і сапраўды так хацеў тады назаўтра пасля блуканняў па Мыцішчах яшчэ раз наведацца ў музей Чэхава, нешта цягнула мяне, але сваякі купілі білеты ў Вялікі тэатр...»

Вечарам у гасцініцы, дзе жыў, пачаў пісаць да Наташы ліст. Але неўзабаве адклаў ручку ўбок, задумаўся: «Што гэта дасць ёй, мне?.. Канечне, у яе таксама ёсць сям'я, невядома, як успрымецца мая вестка, ды і адрас даўно мог змяніцца... А яшчэ, хіба можна вярнуць далёкае, непаўторна-чыстае, што яднала нас тады ў Маскве. Не выключана і тое, што, страціўшы адно аднаго, мы больш набылі — незамутнёную юнацкую мрою, святлісты ўспамін, веру ў вялікае, прыгожае і неўміручае каханне... І можа стацца так, што ўсё гэта, тысячы разоў узвышанае і ўсхарошанае, згасне, растворыцца ў будзёншчыне і не будзе больш падпітваць невычэрпнай энергіяй некранутага хараства... І я парваў ліст да Наташы разам з адрасам...

...Мінула яшчэ дзесяць год. У жніўні мы з жонкай адпачывалі ў Ялце.

Адзін з пахмурных вечароў планавалі прысвяціць Дому-музею Чэхава. Але надвор'е стаяла сонечнае, гарачае, і мора не выпускала нас са сваіх лагодных абдымкаў. Ды нечакана мне прысніўся дзіўны сон: нібыта пазванілі на сотавы і папярэдзілі, каб я не забыў у 16.00 наведацца ў музей...

Увесь час ад раніцы да абеду мяне непакоіла прыснёнае. І чым бліжэй было да таямнічага адрэзку часу, тым больш я пераконваў сябе, што, нягледзячы на гарачае сонца, патрэбна наведацца ў Дом-музей Чэхава. З цяжкасцю ўгаварыў жонку адарвацца ад пляжа. Але пакуль дабіраліся, крыху спазніліся. Перад ганкам асалавелым позіркам, ці то ад спёкі, ці то ад піва, якое той

пацягваў з вялікай бутэлькі, нас сустрэў незнаёмы мужчына. Быў ён у шортах і з голым торсам. Кпліва неяк пасміхнуўся, маўляў, што за дзівакі яшчэ ў такі час, калі ўсе на пляжы марскім цешацца? Не паспелі мы крыху прывесці сябе ў парадак, як з Дома-музея Чэхава выйшла прыгожая маладжавая жанчына. Я без цяжкасцей пазнаў у ёй Наташу з Днепрапятроўска...

— Ну, ты і доўга! Што там цікавага такога? — накінуўся на яе незнаёмы з бутэлькай піва, — я тут, блін, потам сыходжу, а яе ўсё няма...

Ды Наташа, пэўна, як, дарэчы, і я, не звярнула ўвагі на ягоныя словы, бо, запавольваючы крок, не зводзіла позірку з мяне. Мяне зноў, як некалі ў Маскве, нібыта працяло наскрозь токам. Па яе вачах я здагадаўся, што Наташа таксама пазнала мяне. Не ведаю нават як, але жонцы ўдалося ці не сілаю ўпіхнуць мяне ўсярэдзіну будыніны.

— Што з табой? Як магнітам прыцягнула... Ці, можа, знаёмую сустрэў?.. — дапытліва пазірала яна ў мае вочы.

— Сапраўды! — усміхнуўся я. — Дваццаць адзін год не бачыліся... Калі мы выйшлі з Дома-музея, перад ім нікога не было. Але цяпер ужо, як я ні стараўся не выдаць сваіх думак-успамінаў, выкліканых новай сустрэчай з Наташай, мне не ўдавалася быць ранейшым, жонка адчувала маю раптоўную задумлівасць. І як я ні пазбягаў пазіраць па баках, як ні імкнуўся быць уважліва-далікатным з жонкаю, ды незвычайны сон і неспадзяваная сустрэча з Наташай ні на міг не пакідалі мяне...

А праз некалькі дзён мы вярнуліся з Ялты ў Мінск, і паступова ў бясконцых клопатах і жыццёвай мітусні я забыў зноў пра Наташу, ва ўсялякім разе не мучыўся бясконцымі роздумамі пра яе.

Але праз некалькі год імя Наташы зноў залунала нада мной...

Неяк вясной пазваніла мая старэйшая сястра і запрасіла на дачу, якую купіла надоечы непадалёк ад Мінска. Мы з жонкай узрадаваліся: хацелася пабыць на прыродзе, адпачыць, ды і паглядзець, як там сястра гаспадарыць на сотках.

Мясцінка была маляўнічая, побач — лес, за блізенькай вёскай — палі. Пакуль жанчыны корпаліся на градах, я заняўся любімай справай: расклаў на ўзмежку агонь і паставіў на трыножку чыгунок з бульбай. Хвілін праз дзесяць да мяне падышла суседка па дачы і ласкава прапанавала зварыць бульбу на газавай пліце.

Я падзякаваў, патлумачыўшы, што на вольным паветры, на агні бульба будзе нашмат смачнейшая...

— Вы так хораша размаўляеце па-беларуску, — заўважыла кабета. — А я на сваёй роднай вельмі рэдка размаўляю...

— Адкуль вы, — ажывіўся я, адчуўшы ў яе мове ўкраінскі акцэнт.

— З Днепрапятроўска... — быў нечаканы адказ.

З гэтага дня я пранікся да суседкі па сестрынай дачы нейкай асаблівай павагай. Яна даведалася пазней ад сястры, што я пішу кнігі і не прамінала выпадку паразмаўляць, тым больш, што адзін з двух выхадных я ўсё лета праводзіў на дачы ў сястры.

Аднаго разу, калі варыў бульбу, да мяне падышлі суседка з маладжавым мужчынам і дзве дзяўчынкі-школьніцы. Ім вельмі захацелася пабачыцца з «жывым пісьменнікам». Мужчыну я пазнаў адразу. Гэта быў той чалавек, якога мы з жонкай бачылі ў Ялце з вялікай бутэлькай піва перад ганкам Дома-музея Чэхава. Адна з дзяўчынак была мінчанка, другая — Алеся — тварам нагадала мне Наташу (у чым я не памыліўся), і прыехала ў госці разам з татам з Днепрапятроўска. Я не зводзіў з яе вачэй, гэта ж трэба: вылітая маці...

Калі дзеці і мужчына адышлі, суседка давяральна паскардзілася:

— Выклікала іх з Украіны, бо там зараз не соладка. Дзіця адпачне, а муж пляменніцы пад маім строгім наглядам: запіваў часам, нягоднік... А тут, у Мінску, і грошы добрыя заробіць у дадатак...

У наступны выхадны дзень я прывёз суседзям па дачы свае кнігі з аўтографам. Дзве падпісаў Алесі...

— А мая мама вельмі любіць беларускую літаратуру, і ўсё пра Беларусь: кіно, кнігі, тэлеперадачы... — прызналася Алеська. — Яна так хацела са мной прыехаць, ды не атрымалася...

— Наступным летам прыедзе на цэлы месяц. Ёй будзе вельмі прыемна пазнаёміцца з вамі, — дадала суседка.

Я адчуў, як па целе прабеглі казытлівыя дрыжыкі, але нічога не адказаў, прамаўчаў аб тым, што ведаю Наташу.

Праляцела лета. Алеся з татам паехалі ў Днепрапятроўск, а я засумаваў без маёй цікаўнай і дарагой маленькай суразмоўніцы. А затым зачасцілі дажджы, да таго ж надарылася некалькі камандзіровак па Беларусі, і, заняты, я так і не пабываў больш на дачы, на тым месцы, дзе так прыемна было пагаманіць, надыхацца свежым сасновым водарам...

Я цешыў сябе думкамі пра наступнае лета, пра сустрэчу з Наташай. Вядома, без якіх-небудзь асаблівых спадзяванняў і рамантычных фантазій. Бліжэй да вясны мае спадзяванні і развагі перараслі ў нейкую няўцямную трывогу, трапяткое хваляванне. Аднак не дарэмна кажуць, што чалавек мяркуе, а Гасподзь вырашае... Нечакана ў сакавіку я даведаўся, што сястра прадала дачу...

Я ўжо быў амаль супакоіўся, але праз некалькі дзён мне прысніўся сон, у якім хтосьці нябачны, але ўладарны, шматзначна прамовіў адну інтрыгуючую фразу: «Ад лёсу не ўцячэш...»

## На паўдарозе

— Наступны прыпынак — Цэнтральная плошча, — аб’явіў вадзіцель аўтобуса. Валянцін падрыхтаваўся ўжо да выхаду, як раптам позірк выпадкова затрымаўся на знаёмым твары. Хвалююча, гулка забілася сэрца: «Эліна? Няўжо яна?»

Ён адышоў ад дзвярэй. І цяпер ужо не зводзіў вачэй з жанчыны, якая сядзела ля акна ў канцы салона.

«Не можа быць, — падумаў ён. — Эліна ж, здаецца, жыве ў Бабруйску...»

Па плеценым кошыку, які яна трымала на каленях, Валянцін здагадаўся, што жанчына, якая напомніла яму аднакласніцу, едзе на Камароўскі рынак. Цяпер была самая ягадная пара. Ён уявіў сонечныя паляны ў родным лесе і нават адчуў на хвілінку тонкі, казытлівы пах суніц.

У гэты момант жанчына зірнула ў яго бок, але позірк быў спакойны, стрыманы.

«Не, гэта не яна, — шчымлівы сум агарнуў сэрца. — А зрэшты... Магла і не пазнаць адразу — колькі гадоў мінула...»

Апошні раз яны бачыліся неўзабаве пасля школьнага выпускнога вечара. Тая сустрэча якраз і пакінула ў Валянціна непрыемны, балючы ўспамін. Ён сустрэў Эліну ў клубе цэнтральнай сядзібы калгаса, куды разам з сябрамі прыйшоў з суседняй вёскі. Сабраліся амаль усе выпускнікі. Пасля кіно танца-

валі. З Элінай часцей за ўсіх танцаваў Сяргей — сімпатычны зухаваты хлопец, які збіраўся паступаць ва ўніверсітэт. У тым, што ён паступіць, ніхто з аднакласнікаў не сумняваўся. Сяргей быў здольны і кемлівы вучань.

Танцаваў з Элінай і Валянцін. Ён увесь быў перапоўнены гарачымі затоенымі пачуццямі, хацелася прытуліцца да яе і сказаць: «Я кахаю цябе, я не магу без цябе жыць, я ніколі не перастану кахаць цябе...» Але гаварыў аб звычайным: школе, паездцы ў Магілёў — тады ён нават не асмеліўся прызнацца, што недзе ў глыбіні душы нарадзілася новая мара, яшчэ кволая, няўпэўненая — паспрабаваць паступіць на факультэт журналістыкі...

Калі закончыліся танцы, Валянцін пайшоў услед за Элінай, каб праводзіць дадому. Побач апынуўся і Сяргей. Спачатку яны ішлі разам — утраіх, спрабавалі размаўляць. Потым замаўчалі. Праз некалькі хвілін Сяргей запаволіў крок, прытрымліваючы Валянціна. Калі Эліна адышла крокаў на дзесяць, Сяргей спакойна вымавіў:

— Бачу, ты хочаш застацца з Элінай. Але я кахаю яе. Пакінь нас. Разумееш?..

Нейкая невядомая ўпартая сіла прымусіла Валянціна запярэчыць:

— Што, аб'яўляеш мяне «персонай нон грата»? А калі я не згодзен?..

Сяргей спыніўся, нейкі момант памаўчаў. І раптам рашуча прапанаваў:

— У такім выпадку ўсё вырашыць яна. Эліна! — спакойна, але ўпэўнена паклікаў ён. — Валянцін хоча нешта сказаць табе...

Валянцін адчуў, што зараз можа здарыцца нешта балючае-балючае, што яму патрэбна пайсці, і чым хутчэй, тым лепш. Але ўparта стаяў на месцы.

— Я пачакаю на лаўцы, — сказаў Сяргей, закурыў цыгарэту і адышоў убок.

— Ведаеш, Валянцін, ідзі дадому, — неяк тужліва сказала Эліна. — Мы сябруем з Сяргеем. — Словы яе прагучалі ціха і мякка, а здалося, што іх чуюць усе на свеце. Ён стаяў як укопаны. Было сорамна, прыкра і балюча...

У час наступнага прыпынку аўтобуса Валянцін праціснуўся бліжэй да маладой жанчыны. Раптам яна перахапіла ягоны позірк, і на твары запалілася здзіўлена-радасная ўсмешка.

— Добры дзень, Эліна! — Ён нават не заўважыў, як пасажыры пацясніліся, каб прапусціць яго. Яна паднялася насустрач.

— Добры дзень, Валянцін! А ты амаль не змяніўся.

— Я ж табе казаў на выпускным: той, хто захапляецца літаратурай, заўсёды застаецца маладым, — адказаў ён жартам.

Яны выйшлі на плошчы Веры Харужай. З усіх бакоў цяклі жывыя людскія ручаінкі і ўліваліся пад купал крытага рынку.

— Ой, тут не пагаворыш: шумна. Ідзём куды-небудзь у сквер, — прапанавала Эліна.

— Чакай, а ты ж, відаць, па ягады ехала. Давай купім спачатку.

Валянціну падабалася бываць на рынку, хоць часу на гэта амаль ніколі не хапала і бываць тут даводзілася рэдка. Усё на рынку напаміналa яму, былому вяскоўцу, роднае, зямное. Асабліва размовы гандлярак. І купляў ён толькі тады, калі чуў ад іх шчырую, дарагую вясковую гаворку.

Эліна, не цікавячыся цаной, купіла, здавалася, самыя духмяныя суніцы, кілаграм белага наліву, і яны накіраваліся да выхада.

— А ты хіба жывеш у Мінску?

— Не. У госці да цёткі прыехала. А ягады і яблыкі — сыну. Мы з ім удваіх тут гасцюем. Заўтра ад'язджаем.

— Ну, тады я пакажу табе самую выдатную мясцінку ў горадзе.

Яны зноў селі ў аўтобус і праз некалькі прыпынкаў выйшлі. Запаветнай мясцінкай Валянціна быў парк імя Янкі Купалы.

— А мне таксама вельмі падабаецца гэты парк, — прызналася Эліна. — ведаеш, я ўжо была тут мінулым летам. Дарэчы, званіла табе, але ніхто не зняў трубку... Прыязджалі з турыстычнай групай. Купалаўскі музей запомніўся. Ты ж памятаеш, я таксама вельмі любіла літаратуру. Марыла выкладаць у школе мову і літаратуру, а стала хімікам.

Пастаяўшы крыху ля бронзавых купалінак, ад якіх веяла паэзіяй і харавством жыцця, Валянцін і Эліна прайшлі па цяністай алеі ў глыбіню парку і прыселі на лаўку.

— Ну, расказвай ты першы, толькі ўсё. Я чула пра цябе ад нашых, яны і тэлефон твой падказалі. Чытала артыкулы, вершы і апавяданні, нават па тэлебачанні аднойчы бачыла цябе. Але нічога не ведаю, як жывеш, як жыў...

Вочы яе яшчэ больш паблакітнелі, валасы такія ж пышныя, кучаравістыя, як і ў школьныя гады. На твары аднак праз чыстую глыбокую радасць праглядваліся стома і нейкая незадаволенасць.

— Ведаеш, Эліна, я ўсе гэтыя гады верыў, што ўбачу цябе такой вось зразумелай, светлай. Мне вельмі патрэбна было ўбачыць цябе... Аднойчы, калі я даведаўся, што вашу вёсачку знеслі, а твае бацькі выехалі далёка, страх ахапіў мяне, страх не сустрэцца з табой...

— А я нядаўна пабывала разам з сынам на радзіме, у суседняй вёсцы жыве мой дзядзька. Паказала хлопчыку мясцінку, дзе я нарадзілася і вырасла. Вельмі хацелася яму ўбачыць... Невыносна горка было на душы. А сын яшчэ пытае: «Мама, а дзе твае цацкі, з якімі ты гуляла? Закапалі?..»

— Наша вёсачка таксама вымірае. Хата майго дзяцінства пустуе з забітымі вокнамі...

Яны крыху памаўчалі.

— Ты закончыў універсітэт?

— Так, факультэт журналістыкі. Служыў у арміі. Працаваў у газеце. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, працаваў у адным з інстытутаў, але не змог крывіць душой, гаварыў праўду ў вочы, выкрываў псеўдавучонасць. І стаў белай варонай, мусіў звольніцца. Цяпер — на літаратурнай рабоце. Ажаніўся на трэцім курсе. Жонка — тэхнолаг. Растуць дзве дачушкі. Нялёгкая але цікавая праца, добрыя таварышы, творчыя планы, грамадская работа...

Ён змоўк, а з душы рваліся іншыя, пяшчотныя, словы і захрасалі ў горле. Хацелася сказаць, што шукаў яе праз адрасны стол, але не змог знайсці, бо не ведаў яе новага прозвішча, што ва ўсім, усюды, кожны дзень яму не хапае яе, каб адчуць глыбіню сапраўднага шчасця.

— Разумееш, Эліна, усе гэтыя гады я прасіў у цябе прабачэння за той апошні вечар... Даруй мне...

— І ты даруй мне... Я пакарала ў той вечар не толькі цябе — і сябе таксама... А ў школе нашай ты быў хоць раз? Будучы студэнткай, я тройчы прыязджала на сустрэчу з выпускнікамі. Цябе ні разу не было. Роза Сямёнаўна толькі чытала твае вершы...

— Мы перапісваліся з ёю, некалькі разоў бачыліся, калі я прыязджаў да бацькоў у адпачынак. Быў у камандзіроўцы, калі прыйшла тэлеграма, што нашай любімай настаўніцы не стала...

— Яна што-небудзь пра мяне гаварыла табе, пісала?

— Не. Толькі напісала, дзе ты вучышся.

— А Роза Сямёнаўна ведала ўсё.

— Як усё?

— Ведала, што я сустракаюся з Сяргеем, была супраць гэтага. Я тады не разумела яе. Сяргей мне здаваўся ўпэўненым, рашучым, быў заўсёды з высокімі марамі. Памятаю, ты ў анкеце напісаў, што будзеш паступаць у прафтэхвучылішча, а Сяргей — ва ўніверсітэт. А выйшла наадварот...

— Я сустрэў аднойчы Сяргея ў Магілёве. Ён працаваў тады на заводзе. У школе мы былі сябрамі, я светла зайздросціў яму. Сустрэўшыся, мы былі вельмі рады адзін аднаму. Хадзілі па вуліцах горада, нам хораша размаўлялася. Гаварылі ўзнёсла і пра цябе. Ты нібы яднала нас... У той час ты была ўжо замужам. Сяргей сапраўды кахаў цябе. Чаму ж тады каханне не зрабіла яго больш моцным? Не дапамагло жыць проста і светла. З завода яго пасля звольнілі за п’янкі і прагулы... Раскажы ты пра сябе, як жывеш?

— Асабліва і расказваць няма чаго. Пасля тэхнікума выйшла замуж, жыву ў Бабруйску. З мужам не пашанцавала, развялася. Сын — цудоўны. Часта езджу да мамы...

Яна маўчала. Маўчаў і Валянцін. Недзе ў ліпавай алеі засвістаў шпак. Дзень набіраў сілу, прыпякала сонца, але ад Свіслачы павявала прахалодай. Пахла мёдам — салодкі водар струменілі квітнеючыя клумбы.

Валянцін і Эліна падняліся і пайшлі па алеі. Спыніліся перад магутнай рамантычнай фігурай Янкі Купалы. Задуменны паэт так многа гаварыў ім абаім..

— Давай сходзім у кіно, — прапанаваў Валянцін.

— Ромка дома чакае, ды і цётка будзе хвалявацца, што так доўга няма.

— То давай возьмем Ромку — і да мяне ў госці. Паглядзіш, дзе жыву, пазнаёмлю са сваімі.

Яна з несхаванай радасцю паглядзела на яго, пасля адвяла позірк убок, на момант задумалася.

— Не. Баюся, што нас не зразумеюць... А ў кіно давай сходзім.

Яны дамовіліся сустрэцца каля кінатэатра «Перамога», там якраз дэманстраваўся стары фільм «Закаханы па асабістым жаданні».

Едучы дадому, Валянцін думаў, як сказаць аб усім жонцы і ці варта гэта рабіць наогул. Адносіны паміж імі былі далёка не ідэальныя. Галіна мала цікавілася яго работай, крыўдавала, калі ён ездзіў у бібліятэку, на літаратурныя вечары, многа часу праседжваў над рукапісамі і кнігамі. Усё гэта жонка лічыла не такім абавязковым і патрэбным, як, напрыклад, выбіць дываны, схадзіць у гастраном, дапамагчы ёй на кухні...

— Ты не будзеш супраць, калі сёння вечарам мяне не будзе дома? — з парога запытаўся ён. — Уяві сабе — сустрэў школьнага сябра. Дзесяць гадоў не бачыліся! Вырашылі схадзіць у кіно... — Ты не крыўдуй, Галіна. Не магу я іначай, зразумей... Я хутка вярнуся, — ён змоўк на паўслове, убачыўшы ў жончыных вачах слёзы..

Эліны на ўмоўленым месцы не было. Валянцін стаяў, дакараючы сябе, што не пацікавіўся адрасам яе цёткі, што не даў Эліне свой новы тэлефон.

Недзе праз паўгадзіны да яго нечакана падышла незнаёмая жанчына.

— Даруйце, вы — Валянцін?

— Так. Я...

— Гэта вам ад Эліны.

Разгублены, ён глядзеў на складзеную паперку. Жанчына ўжо знікла ў натоўпе прахожых. Спахапіўшыся, стаў чытаць:

«Валянцін! Не магу я прыйсці, даруй! Сёння яшчэ больш зразумела, што тады павінен быў застацца ты. Я пакарала цябе і гэтым самым сябе. Я спалохалася гэтага свайго адкрыцця, сустрэўшыся з табой.

Ты ўсе гэтыя гады шукаў мяне толькі дзеля таго, каб папрасіць прабачэння за той вечар, каб пазбавіцца пакутлівых успамінаў... Але чаму ж, чаму тады спыніўся на паўдарозе, не стаў біцца за мяне? А цяпер лёс не зменіш... Не шукай мяне. Эліна».

Ён стаяў у разгубленасці на людным пятачку ля кінатэатра, не ведаючы, куды цяпер ісці, што рабіць, каб пазбавіцца пакутлівага адчування страты, якая гэтак адразу і нечакана спустошыла ягонае жыццё...

Праз два дні Валянцін узяў адпачынак і купіў білет на аўтобус да Бабруйска.

## Старшы лейтэнант

Да адпраўлення цягніка, якім я вяртаўся з творчай камандзіроўкі, заставалася літаральна некалькі хвілін. Насупраць мяне ў купэ сядзеў малады светлавалосы хлапчына гадоў дваццаці пяці, з якім мы паспелі пазнаёміцца і перакінуцца некалькімі дзяжурнымі фразамі. Валянцін, так звалі майго спадарожніка, ехаў да самага Мінска. Я ўзрадаваўся, палічыўшы, што нас у купэ будзе толькі двое, і мне ўдасца пасля двух мітуслівых дзён адпачыць у дарозе, паразважаць у цішыні, калі не браць пад увагу перастук колаў, і нават зрабіць якія-небудзь дарожныя паэтычныя накіды.

Ды літаральна за хвіліну да адпраўлення да нас далучыліся два маладыя афіцэры — старшыя лейтэнанты. Адзін з іх быў вельмі разгаворлівы, нават крыху дакучлівы. Адразу ж, пасля хуткага знаёмства, ён пачаў настойліва прапаноўваць піва. Яго, не адразу, але ўсё ж такі падтрымаў Валянцін. Калі скончыўся пеністы напітак, яны неўзабаве, не сустрэўшы падтрымкі з нашага боку, накіраваліся ўдвух у вагон-рэстаран па дабаўку. Другі афіцэр, якога звалі Андрэй, наадрэз адмовіўся не толькі ад рэстарана, але і ад піва ў купэ. З удумлівым сімпатычным тварам і сур’ёзнымі, разумнымі вачыма амаль васількаватага колеру, ён узіраўся ў краявіды, што мільгалі за акном і аб нечым засяроджана думаў. Затым, выпіўшы з пячэннем чаю, дастаў з верхняй лаўкі тоўстую кніжку ў бардовым пераплёце, на карашку якой я прачытаў: «Практычная псіхалогія».

Ужо з першых хвілін я адчуў да гэтага маладога чалавека сімпатыю і цікаўнасць. Нават у глыбіні душы парадаваўся і за яго бацькоў, і за тых салдат, якія служаць у яго падраздзяленні.

Мабыць, заўважыўшы ў маіх вачах непрыхаваную павагу да яго, старшы лейтэнант раптам падзяліўся:

— Век жыві — век вучыся, — як любіў прамаўляць мой дзядуля, — а дурнем памрэш...

— Ну, калі ў чарку не зазіраеце, ды такія сур’ёзныя кнігі штудзіруеце, то апошняе вам не пагражае, — усміхнуўся я ў адказ.

— Дык часам жа і не ўсё ад цябе залежыць. Можна ў нашым складаным і хуткасным жыцці чагосьці і не разглядзець своечасова, не зразумець, не разабрацца ў нечым...

— Колькі гадоў служыце ў арміі, — пацікавіўся я.

— Ды ўжо тры гады амаль.

— І часта даводзіцца развязваць псіхалагічныя вузлы?

— Даводзіцца... І калі б толькі развязваць, як вы кажаце, гэтыя псіхалагічныя вузлы... Надараецца, на вялікі жаль, і больш складанае. Дакладней, было, здарылася нядаўна...

Афіцэр на некалькі хвілін замоўк, паглыбіўся ў свае думкі, зноў узіраючыся ў акно. Я не спяшаўся ўрывацца ў яго развагі, адчуваючы, што Андрэй, калі гэта патрэбна, сам падзеліцца набалелым. І праз нейкі момант ён прадоўжыў:

— Усё ніяк не магу дараваць сабе, хоць і не вінаваты па вялікім рахунку...

Я зразумеў: малады афіцэр моцна перажывае з-за нечага, што адбылося на вайсковай службе. Так яно і было.

— Служыў у маёй роце радавы Кудзелін, — працягваў Андрэй. — Добры, кемлівы хлопец, родам з вёскі. Працавіты, дысцыплінаваны. Маці адна яго выхоўвала. Бацьку ён у дзяцінстве толькі і бачыў. Як паехаў той на заробкі ў суседнюю Польшчу, так і згубіўся недзе на еўрапейскіх прасторах. Сям'і без весткі і падтрымкі як хочаш думай: ці то прапаў, ці то збег... Але ім усё роўна ніколькі не лягчэй ад гэтага.

А перад самым здарэннем маці да яго, надта чуллівая жанчына, прыязджала. Заўважна было, што моцна прырасла да сына. Пасля яе ад'езду — як падмянілі салдата. Прыціх, вочы зрабіліся змрочнымі, вялы нейкі стаў, разгублены. Замкнуўся ў сабе... Пра такіх часам гавораць, што спяць на хаду... Я паспрабаваў падступіцца да яго, распытаць — у чым справа, што здарылася, але ён толькі вочы апусціў, нічога не адказаў... Дакладней, не змог я падабраць да яго ключык душэўнасці, даверу... Не здолеў, разумееце, на шчырасць выклікаць, разгаварыць яго... Па праўдзе кажучы, я спадзяваўся пазней неяк выбраць зручны момант, пагаварыць з ім адзін на адзін у больш спрыяльных абставінах... Не паспеў...

Праз некаторы час у нашай роце здарылася чэпэ. Знік радавы Кудзелін. Адсутнасць яго зафіксавалі ў 18:30 вечара. Дзяжурны афіцэр палічыў, што той падаўся ў самаволку, так і запісаў. Калі раніцай я заступіў на дзяжурства і даведаўся аб знікненні Кудзеліна, то не паверыў у зафіксаваную версію. Адразу ж аб'явілі пошук. Абышлі ўсю тэрыторыю часці. З першага заходу яго не знайшлі. Ніякіх слядоў. Толькі крыху пазней, між маладых ялінак, заўважылі мы нашага салдата... у лужыне крыві. У кішэні быў складзены ўдвая лісток, а на ім некалькі жахлівых слоў. Я пазнаў яго почырк: «Даруйце, болей не хачу жыць. Бывайце». У другой кішэні кароткае пісьмо без канверта, ад дзяўчыны: «Кудзелін, служы спакойна. Мне больш не пішы. Я пакахала іншага і выходжу замуж. Даруй і зразумей, што я проста сябравала з табой». І подпіс, імя дзяўчыны той. Пісьмо гэта, аказваецца, маці яму перадала, калі прыязджала ў часць. Відаць, не ўлічыла, што для яго ўражлівай і ранімай душы гэты ўдар можа быць ракавым...

Толькі пасля няшчаснага здарэння я зразумеў, што ён паслухмянасцю, работай і чытаннем кніг імкнуўся заглушыць свае глыбокія перажыванні. Другой здрады, пэўна, не менш дарагога за бацьку чалавека, ён пераадолець не змог...

Урачы ўстанавілі, што смерць наступіла прыкладна ў тры гадзіны ночы... Калі б дзяжурны афіцэр, а гэта быў капітан Званароў, своечасова забіў трывогу і адразу арганізаваў пошук, Кудзеліна маглі б выратаваць. Капітан такім чынам парушыў статут і фармальна вінаваты ў гібелі салдата. Палічыў, што радавы Кудзелін у самаволцы і раніцай вернецца...

— А як маці? — глыбока ўздыхнуў я.

— У той дзень прыехала... Як яна галасіла, прытомнасць некалькі разоў губляла... Адзіны сын. Ён жа і мухі не пакрыўдзіў, клапатлівы, уважлівы сын быў... Ад'язджаючы, маці чамусьці крыўдавала на мяне, маўляў, не збярог яе

крывіначку. І чаму менавіта на мяне? Магчыма, таму што ў той яе прыезд я дзяжурыў і размаўляў з ёю?.. А мне ж тады ні слова не сказала пра непрыемную вестку ад каханай дзяўчыны... Пасаромелася, мабыць, пра асабістае казаць. Самой, пэўна, не ўдалося сына супакоіць, пераканаць, каб не браў блізка да сэрца... Вось і паспрабуй разбярыся — як яно лепей...

— А што з капітанам Званаровым?

— Капітан, вядома, атрымаў спагнанне... Камісія доўга працавала... Але і я сам усё ніяк не магу пазбавіцца ад пачуцця вінаватасці, няхай і ўскоснай, але відавочнай: бачыў жа, разумеў, што радавы Кудзелін пакутуе, перажывае, а бяссільны аказаўся разгадаць яго боль, прачытаць душу, дапамагчы яму разабрацца з горкай праблемай, прадухіліць непапраўнае... Вось і чытаю, шукаю адказы на няпростыя пытанні ў спецыяльных кнігах... Я, вядома, разумею, што не ўсё ад мяне залежыць. Час надта жорсткі, абыякавы настаў. Грубасць, матэрыяльная выгода, чэрствасць авалодваюць людзьмі... І паўсюль, куды ні зірні... Нібыта зрушылася штосьці важнае, святое, галоўнае... А толькі ж міласэрнасцю, павагай, клопатам, любоўю чалавек творыць, умацоўвае і сябе, і тых, хто побач з ім...

У купэ вярнуліся нашы бесклапотныя, шумныя спадарожнікі, і Андрэй паглыбіўся ў кнігу.

Я сядзеў у кутку, прытуліўшыся да сцяны і заплюшчыўшы вочы. Мне таксама не хацелася пустой балбатні з хлопцамі. Ды і яны, адчуўшы гэта, хутка ўлегліся спаць. Я ж так і не заснуў, баючыся прапусціць той момант, калі на сярэдзіне дарогі будуць выходзіць старшыя лейтэнанты. Развітваючыся з Андрэем, я па-бацькоўску цёпла ўсміхнуўся яму і на некалькі імгненняў затрымаў яго руку ў сваёй: удачы табе, старшы лейтэнант!



# ЗІМОЮ ШЭРАЕ ЗАБЕЛІЦЦА...

**Васіль ДЭБІШ**

* * *

Па белым полымі ракі
Бягу. Вятрыска завывае.
І след, няўпэўнены такі,
За мной завея замятае.

Паўсюдна снегу курганы.
Пад снегам — ломкі лёд гарачы,
Грыміць, нібыта перуны.
Адно маланак не пабачаць.

Ніводнага не адшукаць
Агню наўкол — снег слепіць вочы.
Вось трэсне лёд. Паўсюль — рака.
І мне яе не пераскочыць.

* * *

Убачылася сёння ўночы мне:
Ідзе дамоў матуля цаліною.
На галаву ляціць ёй зорны снег,
Снег з зорнае сінечы залатое.

З-пад ног яе ўцякаюць крумкачы,
Анёл глядзіць з нябёсаў вінавата,
Абдымкі расхінае, ды маўчыць.
Ідзе душа. Спяшаецца дахаты.

Не, не ідзе яна ўжо — а плыве
Бялюткім воблакам па адзвінелых росах.
Світае. І яснеецца ў траве
След ног яе маленькіх, кволых, босых…

## Галіна ЗАГУРСКАЯ

* * *

Правіны нашы час збірае,
Складае ўсё ў куфэрак свой,
А, назбіраўшы, адымае
У нас і радасць, і спакой.

Адно тут выйсце — пакаянне,
Маленне аж да хрыпаты.
Заўжды прыходзіць час збірання
Каменняў тых, што кінуў ты…

### НЕ СУПАСЦІ…

Напэўна, нам ніколі не супасці:
Спазніўся ты, а можа, я сама.
І восень будзе павуцінкі прасці,
Пакуль не ляжа забыцця зіма.

Напэўна, адзінока праз завеі
Цяпер брысці пад іх самотны спеў,
Сціраючы слязіначкі з-пад веек,
Каб іх ніхто убачыць не паспеў.

## Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

* * *

Ці так, ці так, ці так? —
гадзіннік
Дапытвае няўмольна строга...
Далёка ўжо за палавіну
Зайшла жыццёвая дарога.

Ці так па ёй ішла ўпарта,
Ці тыя словы ўсе і справы?
Ці так, ці так, ці так?..
Ці варта
Павагі ад людзей і славы?

Пра славу... прамаўчым, не трэба,
Не ў ёй усё ж, напэўна, шчасце.
Была б павага і патрэба
Жыць для людзей з душою насцеж.

Ці так, ці так?..
                                   Сама не знаю:
Відно, напэўна, лепей людзям.
А варта пекла або раю —
Судзіць Усявышні толькі будзе.

* * *

Кастрычнік ужо на пяткі верасню,
А значыць, лецейка не вернецца
Маё, тваё... Ды ўсё не верыцца,
Што цеплыня імжой абернецца
Халоднай з белымі пушынкамі,
Што па-над нашымі сцяжынкамі
Навіслі хмары шэрым покрывам,
І ўсё навокал — сумна-мокрае...
Зімою шэрае забеліцца,
І хоць халодна-замяцеліцца,
Закружыць белым танцам, песняю —
Падзьмуць усё ж вятрыскі веснія,
І нам з табою зноў паверыцца,
Што лецейка ў сэрцы вернецца.





Уладзімір ДАНІЛЕНКА

# СОНЕЙКА МАЁ, ЧОРНАЕ І КАЛМАТАЕ*

*Аповесць*

## Калі дзверы зачыняюцца з аднаго боку

Шлюб — гэта такая штука, што часам мужык з жонкай хочуць завесці сабе яшчэ па адной сям'і. Пра гэта я думаў, назіраючы за паводзінамі сваіх бацькоў, якія далей рабіліся ўсё больш невыноснымі.

Калі бацька пайшоў з дому, усё пачалося з яго нявінных размоў з мамай і Алісай Цыцалюк. Пад вечар ён сеў іграць за піяніна, а мама размаўляла з Алісаю.

— Ты думаеш, чаму да яго ў філармоніі так ставіўся Кукурыйка? — сказала мама. У філармоніі загадчыкам гаспадарчай часткі працавала Мотра Сцяпанаўна Барзіла — бесцырымонная і дзябёлая баба, што магла выпіць шклянку гарэлкі і не скрывіцца. Барзіла адразу прыкмячала ў людзях розныя заскокі і імі маніпулявала. Паколькі ў Луньё такіх заскокаў было найбольш, то ён адразу стаў ахвярай Мотры Сцяпанаўны. Адна справа, што Луньё добры піяніст, а другая, што яго паводзіны ў побыце мяжуюць з поўным ідыятызмам. Так Луньё стаў яе любімай «цацкай». Для яго гэтая жанчына была страшнейшая за мастацкага кіраўніка і дырэктара Кукурыйкі. Аднойчы быў канцэрт сімфанічнай музыкі, на які загналі школьнікаў з музычных школ і студэнтаў кансерваторыі. Барзіла адразу разгледзела, што публіка не салідная і з ёю можна асабліва не цырымоніцца. А перад канцэртам яна не паспела памяняць шторы на вокнах, бо рабочы, які іх вешаў, зваліўся з драбіны і падвярнуў нагу. І тады Мотра Сцяпанаўна вырашыла закончыць сваю работу, не адкладваючы на потым. Абвясцілі пачатак канцэрта, у зале апладысменты, і вось падчас канцэрта на сцэну падымаецца Мотра Сцяпанаўна, падыходзіць да Луньё, які сядзіць за фартэпіяна, забірае яго з сабою, той паслухмяна ідзе, яна тлумачыць, што яму рабіць, ён лезе на драбіны і пачынае вешаць шторы. І што ты думаеш? Павесіў, падняўся на сцэну і дайграў канцэрт. Кукурыйка ад абурэння ледзь не лопнуў. Уся філармонія з гэтага смяялася.

— А ёй за гэта нічога не было? — запыталася Аліса Цыцалюк.

— Ёй нічога, а Луньё з таго часу стаў пасмешышчам. Кукурыйка пачаў да яго зняважліва ставіцца, чапляцца, плаціць мала грошай і нарэшце выжыў.

— Хіба яна толькі са мной такое выраблялa? — абурыўся бацька. — Яна рабіла гэта і з іншымі музыкантамі. У аркестры былі Улашчанка і Малашчанка, якія гралі на мандалінах. А Мотра Сцяпанаўна ніяк не магла запомніць,

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2014 г.

хто з іх Улашчанка, а хто Малашчанка. І гэта яе так раздражняла, што аднаго разу яна падкралася да Улашчанкі, калі той зайшоў у філармонію, і як гаркне яму ў вуха:

— Грамадзянін пасажыр, пакажыце талончык!

Знянацку захоплены, Улашчанка спужана пачаў рыцца ў кішэнях і мармытаць, што ён закампасціраваў, а яна як зарагоча на ўсю філармонію. Неяк улучыла момант і перад рэпетыцыяй запіхнула Малашчанку ў мандаліну мыш. Калі падчас рэпетыцыі мыш вылезла з мандаліны, у аркестры пачаўся такі віск, што віяланчэлістка Клара самлела і яе доўга білі па шчоках і крапілі вадой. Але мыш у мандаліне — гэта драбяза ў параўнанні з тым, што яна зрабіла для бандурысткі Марычкі Гардыбуркі, якая была вельмі каларытнай жанчынай. Высокая, з во-о такімі грудзямі, — паказаў рукамі, — любіла апранацца ў этнічным стылі. Здаровая, румяная, калі ішла, то пад ёю зямля рухалася. Ад Бесарабскага рынку праз увесь Крышчацік было відаць, што да філармоніі падыходзіць спраўная ўкраінская жанчына. У гэты час пачалі з'яўляцца чуткі, што захварэў колішні партыйны бос Мар'ян Дзядзюра, які ўсё жыццё змагаўся з рэлігіяй і ўкраінскім буржуазным нацыяналізмам. А Мотра Сцяпанаўна заўжды была ў курсе колішняй партыйнай і сённяшняй наменклатуры. І чымсьці, відаць, гэты Дзядзюра ёй некалі не дагадзіў. Вось Мотра Сцяпанаўна набірае нумар Гардыбуркі, мяняе голас і кажа:

— Вам тэлефануюць з прыёмнай міністра культуры. Дрэнна адчувае сябе колішні дзяржаўны дзеяч Мар'ян Дзядзюра, які ўсё жыццё шкодзіў рэлігіі і змагаўся з Украінай. А тут на старасці пакаяўся і хоча перад смерцю паспавядацца святару з аўтакефальнай царквы і паслухаць ігру на бандуры. Вы ў нас найлепшая бандурыстка, так што бярыце бандуру і ідзіце да Дзядзюры. Ён вас чакае.

І называе яго адрас. Гардыбурка ўсцягвае свае чырвоныя боты, апранае кажушок, завязвае цярновую хустку, бярэ бандуру і ідзе да Дзядзюры. Адчыняе ёй дзверы дачка Дзядзюры.

— Вы да каго?

— Мяне накіравалі з міністэрства культуры пайграць Мар'яну Іванавічу на бандуры, — кажа Гардыбурка.

Як пачуў гэта стары! Як сарвецца з ложка! Як падскочыць! Дзе ў яго тая сіла ўзялася. Забыўся, што ён хворы і нягеглы, пачаў верашчаць, кідаўся біцца, з адчаю разбіў рэдкі фарфоравы бюст Кагановіча. Тады Гардыбурка — задам, задам і ледзь ад яго ўцякла. Пасля таго ў Дзядзюры зноў прабудзілася здароўе для барацьбы з украінскай справай, ён ажыў і перастаў хварэць.

— Які жах! — піскнула Аліса Цыцалюк. — Але хтосьці ж яе трымаў, што яна такое вырабляла...

— У яе былі цесныя сувязі ў міністэрстве культуры і Кабінеце міністраў, — сказаў бацька. — Яна заўжды магла выбіць грошы. Рамонт, закупка музычных інструментаў — усё гэта было на ёй. Так што кіраўніцтва выбачала ёй усё як дзівацтва самотнай няшчаснай жанчыны.

Згадкі пра філармонію разнервавалі бацьку, ён выйшаў у свой кабінет і ўключыў камп'ютар.

— Што ён робіць, калі на цябе злуецца? — спытала Аліса Цыцалюк.

— Хіба не бачыш? Зачыняецца ў сваім кабінеце, уключае камп'ютар і глядзіць які-небудзь інтэлектуальны фільм. А калі я спытаю яго, што глядзіць, то кажа, што пра сцервозных жонак, у якіх шукае рысы майго характару.

— Што цябе каля яго трымае? — прыкрываючы рот, смачна пазяхнула Цыцалюк. — Ты ж паглядзі на яго: лайдак з лайдакоў, увесь час або грае, або

ляжыць на канапе, або глядзіць фільмы. А ты — прыгожая, з добрай фігурай, эмацыйная, жвавая. На цябе звяртаюць увагу мужчыны. Чаму б табе не пачаць усё спачатку?

— Некалі Арыстоцель казаў, што кожны мужчына, ад каго зацяжарыць жанчына, пакідае ў ёй частку сябе. І як жанчына народзіць ад другога мужчыны, то існуе вялікая верагоднасць, што яе наступнае дзіця будзе падобнае на першага мужчыну, — адказала мама.

— Адкуль ён гэта ўзяў?

— Прыкмеціў,назіраючы за людзьмі.

— Ты хочаш сказаць, калі б захацела выйсці замуж за Птуха і нарадзіла ад яго дзіця, то яно было б падобным да Луньё?

Мама не адказала, а прыслухалася, як у прыбіральні шкрабецца Бахус.

— Жэнік, выгані ката з прыбіральні, бо пазаграбае ўсё ў сваё карыта, — крыкнула яму.

Але Бахус працягваў гучна шарудзіць, а з бацькавага кабінета далятаЛі стрэлы і выбухі снарадаў.

— Жэнік!

— Хутка падыду!

Мама паднялася з тахты і прычыніла дзверы ў прыбіральню. Бахус заграбаў у карыта з сіліконавым напаўняльнікам дыванок. У карыце ўжо ляжалі прысыпаны дэзадарант, гумовы дыванок і рулон туалетнай паперы.

— Кацяра!

Бахус выскачыў з туалета і пачаў настойліва дзерці кіпцюрамі ў зале дыван, а пасля залез на тахту і задаволена ўлёгся каля Алісы Цыцалюк.

— Мне даспадобы старасвецкае рыцарскае каханне, — сказала Аліса Цыцалюк.

— Рыцарскае каханне — гэта каханне жанчыны, якая здраджвае свайму мужчыну з самотным самцом, якога ў любы момант могуць забіць у паядынку ці на вайне. У такім каханні мужчына кідаецца на жанчыну, бо ведае, што яна можа быць апошняй у жыцці. Звычайна, гэта дае вострыя пачуцці. Ён не бачыць яе заспаную, непамытаю і без макіяжу. Не ведае сварлівага характару, які яна штодня выпрабоўвае на сваім мужу. У каханні рыцар абрывае кветачкі, а ўся грубая работа садоўніка, звязаная з доглядам за кветкаю, застаецца мужу.

— Ты хочаш сказаць, што твой муж і ёсць той садоўнік, які цябе даглядае?

— Ну-у-у, пры чым тут мой муж? — разгубілася мама. — Я кажу ўвогуле пра мужчыну ў шлюбе.

— Між іншым, я нешта не прыкмячала, ці гуляе Слаўко з аднагодкамі, — паглядзела на мяне Аліса. — Мне здаецца, што ён увесь час дома.

— Слаўко не гуляе ў камп’ютарныя гульні і яму не цікава з аднагодкамі, — адказала мама. — Ён любіць размаўляць з дарослымі, глядзець дарослыя фільмы і чытае ўсё, што напісалі філосафы пра адносіны мужчын і жанчын. Ты чула, як ён гаворыць? Як сталы чалавек.

— Але ж гэта ненармальна, — здзівілася Цыцалюк. — У яго ўзросце хлопчыкі дзесьці бегаюць, пачынаюць курыць, цікавіцца дзяўчатамі, займаюцца рознымі дурнотамі.

Калі б бацька не выйшаў у гэты момант са свайго кабінета, а даглядзеў фільм да канца, то, можа, усё неяк абышлося б, але ён спыніў прагляд фільма, выйшаў у залу і спытаў:

— Ты штосьці хацела?

— Жэнік, ты — ідыёт, — абурылася мама. — Я хацела, каб ты прагнаў з прыбіральні ката.

Бацька стаяў і ўсміхаўся.

— Ты — крэцін! Вось ты хто!

Ён толькі задаволена рагатнуў.

— Ты — прыдурак!

— Нільс Бор таксама быў ідыётам, крэцінам і прыдуркам, — адказаў бацька, — і заблытаўся ў элементарных ураўненнях, якія выпраўлялі яго вучні, але гэта не перашкаджала яму быць аўтарам першай квантавай тэорыі.

— Пры чым тут Нільс Бор? — абурылася мама. — Божа, Жэнік, ты нейкі неадэкватны.

— Гэта я неадэкватны?! — ажно падскочыў ён. — Я — неадэкватны?! У такім разе — нам няма чаго разам жыць!

Ён схапіў куртку, апрануўся, грукнуў дзвярыма, і ў кватэры ўсталявалася такая пранізлівая цішыня, як паўза ў «Дзявятай сімфоніі» Бетховена.

## Ія Браілка і школьныя танцы

Мама, я і Аліса Цыцалюк сядзелі на кухні і вячэралі. На маіх каленях ляжаў Бахус і прынюхваўся, а я падагнуў ногі па-турэцку і слухаў, пра што размаўляюць жанчыны. Абсмактаўшы лыжачку з мёдам, Аліса падзьмула на гарбату, прыгубіла, какетліва зірнула на мяне і сказала:

— А я сёння бачыла, як Слаўко ішоў са школы з нейкай дзяўчынкаю.

— Хто яна такая? — узляцелі ўгору маміны бровы, і яна з цікавасцю паглядзела на мяне.

— Дык гэта Ія Браілка з 7 «Б».

— І што ты з ёй рабіў?

— Нічога, — пачырванеў я. — Проста выпадкова сустрэліся, калі ішлі са школы.

— Выпадкова, — падміргнула Аліса Цыцалюк. — Глядзі, каб не прынесла маці ўнука ў пялёнках.

— Аліса, не псуй мне хлопчыка.

Яна так і сказала «хлопчыка».

— Не кажы так пра яго. Бачыш, як вусны надзьмуў, — засмяялася Аліса. — А колькі табе год?

— Праз тыдзень будзе чатырнаццаць.

— Вось яно што! Ты ўжо дарослы! Ведаеш, што такое каханне?

— Каханне — гэта сон, які знікае падчас абуджэння, — адказаў я.

— Хто гэта сказаў? — засмяялася Аліса.

— Я так думаю.

— Чуеш? Я ж казала, што ён мысліць, як сталы чалавек, — умяшалася мама.

— Мама, калі б у цябе не было дрэнных думак, то не было б і дрэнных учынкаў, і тата застаўся б з намі.

— Хто гэта сказаў?

— Канфуцый...

— Не тэарэтызуй, — паставіла кубак на стол мама. — Ідзі лепш глядзі свае дарослыя фільмы альбо чытай Канфуцыя. Дай пагаварыць з Алісаю. Могуць жа быць у мяне хоць якія-небудзь жаночыя сакрэты?

Я пакінуў іх на кухні і пайшоў у свой пакой. А пакуль мама з Алісаю вячэраюць, распавяду вам, хто такая Ія Браілка.

З Іяй мы пазнаёміліся на школьнай дыскатэцы. Калі бацька пайшоў з дому, першыя дні я не знаходзіў сабе месца. Мне здавалася, што не хапае нейкай частачкі мяне. Так, напэўна, адчуваюць сябе людзі пасля ампутацыі рук ці ног. Каб неяк забыцца, я пайшоў на дыскатэку. З Іяй я сутыкнуўся адразу. Яна была нафарбаваная і выглядала старэйшай, таму я здзівіўся, што бачу яе ўпершыню. Мы стаялі паблізу калонак, ад якіх закладала ўвушшу. У гэтым гармідары ў такт музыцы блюмкалі каляровыя агні і дрыгалі целы, выхопліваючы са сполахаў знаёмыя ці незнаёмыя твары. Калі зайграла павольная музыка, і школьны дзіджэй Сява абвясціў дамскі танец, яна змерала мяне з ног да галавы, падзьмула з гумкі вялікую бурбалку, урачыста ляснула, выняла з рота жуйку, прыляпіла да калонкі і падышла да мяне:

— Патопчамся?

Ія была ў кофтачцы з бліскаўкамі, цёмнай спадніцы, уся ў пірсінгу і таннай біжутэрыі. Я ўзяў яе за руку і павёў у танец.

— У цябе такі класны прычысон, — закрычала мне ў вуха, стараючыся перакрычаць калонкі. — Цябе як завуць?

— Слаўко.

— А мяне Ія, а калі коратка, то — І. Ты з 8 «А»?

— Ты адкуль ведаеш?

— На перапынку бачыла.

— А ты?

— З 7 «Б».

— Гэта з вашага класа Ніпель?

— І Ніпель, і Дупель, і Каўбаса, — назвала імёны шпаны, якія часцей за ўсё згадваюцца сярод падлеткаў нашага раёна.

У яе кароткай стрыжцы кожная касічка тырчэла асобна, быццам незадаволеная суседствам з іншымі валасамі, а сама Ія была незадаволена сабою і ўсім светам.

— Знакаміты ў цябе клас, — закрычаў ёй у вуха. — Відаць, штодня кагосьці водзяць да дырэктара.

— Мяне саму цягалі ў «гестапа», — задаволена крыкнула яна. — Малекула накапала. Запісала мне ў дзённік: «На перапынку гучна ляскала гумкай. На маю заўвагу адказала, што адганяе мух».

— А дзе ты жывеш?

— На Ялцінскай. А ты?

— На Нова-Дарніцкай.

— Як табе школьныя танцы?

— Магло быць і горш.

— А мае цыцэроны? — выпнула грудзі і зазірнула мне ў вочы.

Яе грудзей я не разгледзеў. Мабыць таму, што было цёмна, а яны схваліся ў складках яе кофтачкі.

— Вышэйшы клас! — выгукнуў я.

І мой голас патануў у рыку калонак.

— Станік я нашу на памер меншы, каб грудзі здаваліся паўнейшымі.

— А чым ты хочаш займацца? — спытаў я.

— Хачу рэкламаваць жаночую бялізну на вокладках мужчынскіх часопісаў.

У нашым класе ўсе хочуць быць банкірамі, адвакатамі, топ-мадэлямі, палітыкамі, бізнесменамі. Толькі ў мяне яшчэ няма мары. Ну, такой, каб на ўсё жыццё. Адзінае, пра што я мару, каб зноў сышліся бацькі, і каб усё было, як некалі.

— А тым кім хочаш быць? — спытала яна.

— Я яшчэ не думаў.

— А што тут думаць! — закрычала Ія. — Мужык павінен зарабляць грошы, а жонка іх траціць. Ты так смачна пахнеш, — прынюхалася да мяне. — Люблю, калі мужчына пахне сігарамі і адэкалонам «Антоніа Бандэрас».

Я не курыў сігар і не карыстаўся адэкалонам «Антоніа Бандэрас», але кіўнуў галавой, тупаючы ў такт музыцы.

Пасля дыскатэкі я правёў Ію дадому, яна жыла насупраць школы ў старым будынку з гастраномам, і мы абмяняліся тэлефоннымі нумарамі.

— Ну, я пайшоў, — махнуў ёй рукою.

— Дзынкні заўтра па трубе! Па!

Наступным днём я патэлефанаваў ёй пасля ўрокаў, і Браілка прапанавала:

— Хочаш зазірнуць да мяне на хаус?

— А твае бацькі?

— Працуюць, — буркатнула яна.

— А чаму ж? Можна.

Мы зайшлі ў кватэру.

— Скідай скуру і куляй.

Я зняў куртку, разуўся.

— Мый лапы. Залазь на кухню. Забацаю табе свой кулінарны шэдэўр — яечню з баклажанамі.

Ія апранула хатні халат і праз некалькі хвілін на пліце зашкварчэла яечня.

— Ты сама гатуеш?

— Натуральна, — задаволена выключыла газ.

Яна раздзяліла на патэльні два яйкі: мне і сабе, выклала ў талеркі, дастала з лядоўні слоік з баклажаннай ікрой, наклала ў талеркі, нарэзала чорнага хлеба з тмінам.

— Будзеш глінтвейн «Гарачыя турэцкія хлопцы»?

— А што гэта такое?

— Гэта такі азвярын…

Яна наліла ў вялікі кубак крымскі «Партвейн», натрусіла туды чорнага перцу, накрышыла імбіру, паставіла ў мікрахвалёвую печку, зняла над плітою расквечаную рукавіцу, дастала с печкі кубак і разліла ў шклянкі гарачае віно.

— Мыкнем на брудэршафт?

Мы прыкладаліся да кубкаў, ухапіўшы некалькі маленькіх гарачых глыткоў.

— Поўны абзац, — сказала Ія.

Глінвейн зрабіў сваю справу. Я адчуў, як п’янею, і яна — таксама.

— Ці ў мяне збілася рэзкасць ці ўжо галюнікі?

На нас напаў дурны смех. Мы душыліся смехам, а я голасна ікаў.

— Калі нападзе ікаўка, падымі правую руку і так пасядзі, — параіла Ія.

— А колькі сядзець?

— Ну, ты і шлундзік! Пакуль не пройдзе! — хіхікнула яна.

Ад выпітага алкаголю яе твар зрабіўся зусім дзіцячым.

— Адпаліруемся газалінам?

Я зразумеў, што трэба браць ініцыятыву ў свае рукі.

— А не зашмат для цябе? — засумняваўся я ў здольнасцях Іі вытрымаць такую колькасць алкаголю.

— Я табе хто, пепсікола?

— А хто ж ты? Табе толькі трынаццаць.

— Схавай жала! — фыркнула Ія.

— Але ж ты яшчэ дзіця!

Яна пачырванела і ўся сціснулася, быццам спружына.

— Ты падымай сваю дупу і грабі адсюль! Грабі, грабі!

Я моўчкі нацягнуў чаравікі, куртку і грукнуў дзвярыма.

— Чао-какава! — пачулася наўздагон.

## Аліса Цыцалюк

Пакуль мама з Алісаю п’юць чай, я распавяду вам пра Алісу Цыцалюк, якая перад сваркай бацькоў часта пачала бываць у нас дома. Часам мне здавалася, што яе раптоўнае збліжэнне з мамай паскорыла нашы сямейныя сваркі. Хаця Аліса мне падабаецца. Яна заўжды вясёлая і жыццярадасная. Праўда, любіць папляткарыць. Але хто з жанчын гэтага не любіць?

Аліса была адзінай дачкой кідацельніцы ядра Вікторыі Мацулы, на якую ў свой час рабілі высокія стаўкі як на будучую сусветную зорку. На чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы ў Хельсінкі Вікторыя Мацула мела лепшы рэзультат сярод жанчын, але падчас допінг-кантролю ў яе выявілі стэроід, і ёй на два гады забаранілі выступаць на міжнародных спаборніцтвах. Праз тры гады ў Рыме яна зноў далей за ўсіх кінула ядро, і зноў у яе выявілі стэроід. Гэтым разам яе пазбавілі права выступаць да канца жыцця.

— Уяві сабе жанчыну з торсам баксёра ў цяжкай вазе, з магутнымі сцёгнамі і тонкай таліяй. Яна выціскала штангу вагою ў дзвесце кілаграм і магла задушыць у абдымках такога чалавека, як мой тата, — расказала Аліса Цыцалюк.

Чэмпіянат у Рыме паставіў кропку на яе спартыўнай кар’еры. Вікторыі Мацулі было дваццаць дзевяць гадоў. Неблагі век для кідальніцы ядра, але ўжо не лепшы для нявесты. Яна адразу выйшла замуж за бухгалтара будаўнічага трэста, з якім пазнаёмілася на вяселлі сяброўкі. Мацвей Цыцалюк, маленькі, лысы, на паўгалавы ніжэйшы за сваю жонку, так любіў і цешыўся ёю, што ў трэсце яго стол быў застаўлены яе фотаздымкамі. Калі Вікторыя Мацула ішла поруч з Цыцалюком, услед ёй азіраліся мужчыны, а некаторыя захоплена выгуквалі, прысвіствалі, прыцмоквалі, і гэта вельмі цешыла яго самалюбства. Праўда, калі яна адзывалася, захапленне мужчын трохі сціхала, бо гаварыла Вікторыя Мацула басам. Пасля з’яўлення на свет Алісы маці не выпускала яе з рук. Яна працавала трэнерам лёгкай атлетыкі ў спартыўным клубе, але ўсю душу ўкладвала не ў юных выхаванак, а ў сваю адзіную дачушку. Як толькі Аліса падрасла, маці захвалявалася. Дзяўчынка была мілавіднай, з вялікімі вачыма, таму Мацула і страціла спакой. Яна хадзіла на Алісіны вечарыны і сцерагла, каб дачушка не звязалася з дрэннымі хлопцамі.

Калі Алісе споўнілася дваццаць гадоў, яна пачала гаварыць маці:

— Ужо мае сяброўкі пачалі выходзіць замуж. Час і мне пра гэта падумаць.

— А куды спяшацца? — адказала маці. Паглядзі на сябе: маладая, свежая, здаровая. А выйдзеш замуж, то муж з цябе хутка сокі вып’е. Змарнееш, пажухнеш. Засядзеш з дзецьмі, а ён будзе толькі піць і з жанчынамі цягацца.

— А з кім жа я жыць буду?..

— Са мною, з татам.

— Але ж тата не п’е і за чужымі жонкамі не бегае, — адпіралася Аліса.

— Дык тое ж тата. Дзе ты такога тату знойдзеш?

Яна дала зразумець дачцэ, што да гэтага больш не варта вяртацца. Але якраз у гэты час да Алісы панадзіліся двое хлопцаў, і кожны з іх думаў, што гэта сур'ёзна, і ніводзін не хацеў ад яе адступіцца.

Аднаго з тых хлопцаў звалі Жорык, а другога — Віцёк. Аліса так і называла іх Жорык і Віцёк. Яны былі равеснікамі Алісы, вучыліся ў адной школе, толькі ў паралельных класах. Жорык меў вогненныя валасы, але скура ў яго была чыстая, без рабацiння, як у немаўляці. А Віцёк меў чорную з сіняватым адлівам чупрыну, густую і кучаравую. Абодва былі гнуткія, зграбныя, падобныя да ганчакоў, абодва падабаліся Цыцалюк, і яна была гатовая з абодвума жыць. Яе захапляла тое, як яны дзёрзка звярталіся адно да аднаго і хадзілі за ёю следам. Канкурэнцыя абодвух спраўных, сімпатычных Алісе хлопцаў абуджала ў яе душы адчуванне напоўненасці жыцця. Так пачувалася, пэўна, дама на рыцарскім турніры, гледзячы, як з-за яе ломяць адзін аб аднаго свае коп'і яе кавалеры. А калі, смеючыся, Аліса пыталася ў маці, хто з іх ёй падабаецца, тая адказвала:

— Абое рабое.

Кідальніца ядра не ўяўляла побач са сваёй Алісай двух звычайных украінскіх хлопцаў, асабліва Жорыка і Віцька. Яна бачыла Алісу не менш як будучай жонкай заморскага прынца, але з прынцамі было не ўсё так проста. А Жорык з Віцьком не давалі Алісе праходу. Тое, што яны абодва былі наравістыя, Алісіна маці адразу адчула, і гэта ёй дужа не спадабалася.

Аднаго разу Жорык і Віцёк давялі Алісу дадому і, слова за слова, у іх разгарэлася сварка, якая перайшла ў бойку.

— Ты — руды казёл, — выгукнуў Віцёк.

— Вось табе за казла! — стукнуў яго пад дых Жорык.

Аліса радасна завішчала, ёй падабалася, як таўкуць адзін аднаго Жорык і Віцёк. Гэта абуджала яе ўяўленне, кроў і давала яскравыя і невядомыя дасюль перажыванні. На гэты віскат спусцілася са свайго паверха Вікторыя Мацула і навісла над бахурамі.

— Вы тут яшчэ доўга будзеце пужаць Алісу?!

— Вы б, цётка, ішлі дадому. Мы самі тут разбяромся, — агрызнуўся Віцёк.

— Гэта вы будзеце разбірацца пад маімі вокнамі, так? Гэта я з вамі разбяруся! — басам вымавіла яна.

І не паспелі кавалеры апомніцца, як з маланкавай рэакцыяй Мацула ўхапіла абодвух за шыі, з усяе сілы пагрукала іх ілбамі, пасадзіла каля будынка, і яны доўга сядзелі, страціўшы прытомнасць, сядзелі, як прыпёртыя да сцяны мяхі з бульбай. А калі апрытомнелі, ні Алісы, ні яе маці ўжо не было. І ад сораму, што іх пабіла ўжо немаладая жанчына на вачах дзяўчыны, у якую абодва былі безаглядна закаханыя, хлопцы назаўжды забыліся дарогу да Алісінага дома.

Ад трэніровачнага напружвання і частага ўжывання допінгаў Мацула мела флегматычны характар. Астатнія гады ў яе была хранічная стомленасць, а выбухі агрэсіі чаргаваліся з абыякавасцю і апатыяй. Яна не прапускала ніводнай эпідэміі грыпу, і пяць гадоў таму памерла ад закупоркі сасудаў тромбам.

Пасля смерці маці Аліса нібы згубіла грунт пад нагамі. Усё жыццё яе праблемы вырашала маці, якая была для яе і духоўнікам, і фінансістам, і сяброўкай, і надзіральнікам. Маці так любіла Алісу, што гатовая была біць ілбамі ўсіх мужчын пры самай першай іх спробе забраць самае дарагое, што ў яе ёсць, яе адзіную дачушку Алісу.

— Ты — ахвяра мацярынскай любові, — абняўшы Алісу, казала ёй мая мама. — У бацькоў павінна быць крышачку эгаізму, каб яго хапала на ўласнае жыццё. Іначай яны задушаць у любові сваіх дзяцей. Напэўна, твая мама не дужа любіла бацьку, паколькі ўсе свае нерастрачаныя пачуцці перакінула на цябе.

— Каханне пачынаецца з рамансаў пад вокнамі, а заканчваецца дзецьмі і разводамі, — скрывіла губку Аліса.

— Табе ўсё роўна трэба адважыцца і нарадзіць, — заўважыла мама.

— Адзін доктар мне сказаў, што найлепшы час для нараджэння дзіцяці — трыццаць чатыры гады. Жанчына, якая ўпершыню народзіць у гэтым узросце, будзе выглядаць на чатырнаццаць гадоў маладзейшай, чым тая, што нарадзіла ў васямнаццаць, — адказала Аліса.

— Але ж, акрамя дзяцей, пачуцці даюць штосьці не меней важнае, — заўважыла мама.

— Ды перастань, — перарвала яе Цыцалюк. — Каханне ў сучасным яго выглядзе — гэта вырашэнне праблемы самотнасці. Яно зводзіцца да сексу і вострых перажыванняў. А пасля наталення інтымнага голаду выяўляюцца ўсе супярэчнасці паміж мужчынам і жанчынай.

— Што мы толькі ні гаворым пры Слаўко?! — спахапілася мама.

Яе бровы выгнуліся і папаўзлі ўгору, як быццам тэктанічныя зрухі ў сейсмічнай мясцовасці.

— Няхай прызвычайваецца да жаночых сакрэтаў, — падміргнула мне Аліса.

— Пасля трыццаці пяці ў жанчын змяншаецца шанц зацяжарыць, — задумліва сказала мама. — Дарэчы, ад каго з мужчын, што траляліся ў тваім жыцці, ты хацела б нарадзіць дзяцей?

— Ад Жорыка і Віцька, — пазяхнула Аліса і падзівілася на свой сумны выгляд у цёмным акне.

— Як?! Ад абодвух?!

Аліса доўга не магла забыць тых хлопцаў, гатовых ісці з ёю пад вянец. Пасля таго яна ніводнага разу так блізка не падыходзіла да замужжа, як з Жорыкам і Віцьком, якія даўно ажаніліся і маюць дзяцей. Часам ёй траляліся мужчыны, якія хацелі з ёю сустракацца, але ў тых сустрэчах было штосьці няпэўнае. Яна ўжо не хацела шлюбу, бо перагарэла ім яшчэ пры жыцці маці.

Цяпер Аліса жыве са сваім бацькам, што пайшоў на пенсію, але яшчэ працуе галоўным бухгалтарам у будаўнічай кампаніі. Я ведаю старога Цыцалюка. Маленькі, лысы, жвавы, з чорнымі вострымі, чэпкімі вачыма, падобны да караіма. Часам я вітаюся з ім, калі сустракаю на прыступках каля пад’езда. Цыцалюкі жывуць пад намі. Алісіна маці памерла, калі мы ездзілі ўлетку адпачываць на Чорнае мора. Вікторыі Мацулы не стала, быццам ніколі і не было. Проста з нейкага часу я перастаў яе бачыць. У горадзе смерць чалавека не прыкмячаюць. Я называю гэта псіхалогіяй мурашніка, у якім знікненне мураша ніхто не заўважае. У душы гэтаму нават радуюцца, бо становіцца больш жыццёвай прасторы. У вёсцы ўсё іначай. Я ведаю гэта з Лічманаў. Там са смерцю чалавека памірае нейкая часцінка Сусвету.

Але вернемся да Алісы Цыцалюк. Пасля гандлёва-эканамічнага ўніверсітэта яна працавала ў некалькіх бюджэтных установах, а апошнія гады вядзе бухгалтэрыю ў двух невялікіх прыватных прадпрыемствах. Да гэтай прафесіі яе схіліў бацька. Грошай ёй хапае. А ўсю работу Аліса выконвае дома, часам з’яўляючыся ў адным ці другім офісе, каб пасля даць справаздачу падатковай ці зняць грошы ў банку.

Апошнім часам яна прыходзіць да нас амаль штодня і размаўляе з мамай ні пра што. Вось паслухайце:

— Уяўляеш? — Аліса была на ўзводзе. — У Пасажы на мяне вытарашчыўся высокі мужчына з абуткам сорак сёмага памеру. Мы прывіталіся, ён радасна затрос галавой, пацалаваў мяне ў шчаку і спытаў:

— Як жывеш?

— Вельмі добра. А ты? — спыталася я.

— І я добра, — адказаў ён.

Мы ветліва развіталіся. І толькі калі той чухонец пайшоў, я зразумела, што бачыла яго ўпершыню ў жыцці.

Аліса Цыцалюк была такая ружовашчокая, свежая і пышная, быццам толькі што выцягнутая з печы булачка. Нават дзіўна, чаму дасюль яе не зацугляў ніводны мужчына. У свае трыццаць пяць гадоў яна не мела асабістага жыцця, таму любіла глядзець тэлесерыялы, якія замянялі ёй мужчын, дзяцей і іншыя клопаты, што бываюць у дарослых жанчын. Для яе праблемы нашай сям'і — таксама серыял, за якім яна ўважліва сочыць, бо хоча ведаць, чым усё закончыцца. Аліса баіцца прапусціць нейкую важную серыю, а я хачу, каб гэты серыял шчасліва закончыўся для мяне, для мамы, для таты і для ўсіх нас.

## Бёзнік[1]

Трынаццатага лістапада быў мой дзень нараджэння. Чатырнаццаць гадоў — гэта не шаснаццаць і не васямнаццаць, але ўжо недалёка да таго. Калісьці я чакаў сваё свята ўвесь год. У гэты дзень мяне заўсёды віншавалі бацькі, дзед Аксень, баба Соля, баба Паўця і хросная маці з Белай Царквы. Гэта было маё асабістае свята, не ўлічанае дзяржаўным афіцыёзам і крывадушным алеем настаўніка. Але гэтым разам я не адчуваў ніякай радасці. Мне хацелася дзесьці схавацца і пераседзець гэты дзень, каб ніхто не віншаваў і не распытваў, як там твой бацька, што недзе праводзіць свой час з Дзеньгай, якая, акрамя музыкі, больш ні пра што не гаворыць, і як там твая маці, што сустракаецца з гаспадаром найвялікшага ў свеце джыпа «Вепр» Птухам. Я адчуў сябе самым няшчасным хлопчыкам у класе, ды што там у класе, ва ўсёй школе, а, можа, і ва ўсім свеце.

Раніцай мяне разбудзіла мама і сунула ў рукі новы рукзак, пра які я ёй увесь час нагадваў, а пасля патэлефанаваў бацька.

— Слаўко? У цябе ўжо вусы растуць?

— Яшчэ не, — буркнуў я.

— Ну, тады заедзь у кансерваторыю а другой гадзіне. У мяне ёсць для цябе падарунак.

Калі я снедаў грэчневай кашай са скваркамі, патэлефанавала баба Соля:

— Слаўко, каб жа ты быў у мяне жывы і здаровы! Заедзеш сёння да нас на Падол. Увесь дзень хтосьці будзе дома. У нас з дзедам для цябе нешта ёсць.

А ў школе Ірэна Палулях ад класа паднесла мне букецік блакітных ружаў і, страляючы сваімі зялёнымі вачыма, з агідным пранонсам прагугнявіла:

— У кітайскім фальклоры блакітная ружа сімвалізуе надзею ў недасяжным каханні. Дык няхай гэтыя кветкі дапамогуць табе дасягнуць недасяжнае.

І ўвесь клас завыў і запляскаў у ладкі.

[1] Бёзнік — дзень нараджэння *(слэнг.)*.

Пасля школы я знайшоў бацьку ў кансерваторыі, і ён сунуў мне новыя кварцавыя «Дзігары». Ён ведаў, што я хачу якраз такі гадзіннік.

— Што новага?

— Нічога, — прамармытаў я.

— Ну, дык ідзі дадому. У мяне тут ёсць яшчэ некаторыя справы.

Я заехаў на Падол, бабы Солі не было, а дзед Аксень даў мне пяцьсот грывень.

— На, купіш сабе, што захочаш. Гэта ад мяне і ад бабы.

Мне здалося, што ўсе віншуюць з днём нараджэння, каб толькі ад мяне адчапіцца. Я прыехаў дадому і заспеў маму з Алісаю Цыцалюк.

— Вітаю свайго любімага хлопчыка, — цмокнула ў шчаку Аліса. — Гэта табе, каб прыгожа пісаў у сваіх сшытках.

І паднесла паркераўскую ручку ў футарале.

— Дзякую, — кіўнуў я, працягваючы маме букет.

— А гэта што за кветкі?

— Гэта блакітныя ружы. У школе падарылі.

Мама паставіла кветкі ў вазу, паклікала мяне і спытала:

— Што ты будзеш сёння рабіць?

— Як заўсёды...

— Ты хаця б ужо сёння не глядзі фільмы пра дарослых, бо ўжо хутка імхом парасцеш каля камп’ютара, — дакорліва сказа мама. — Ідзі пагуляй з аднакласнікамі. І перастань гаварыць пра ўсё сур’ёзным тонам. Будзь падлеткам.

Я пасядзеў з імі на кухні, а потым пайшоў у свой пакой і з адчаю патэлефанаваў Іі Браілцы.

— Гэта ты? — зачаўкала жуйкай, быццам мы ніколі не сварыліся. — Увесь дзень вішу на вушах, а тут яшчэ і ты дзынкнуў. Што робіш? Я толькі што аддуплілася.

— Святкую дзень нараджэння.

— Чый?

— Свой.

Нейкае імгненне яна перажоўвала пачутае, гучна чмякаючы, нарэшце сабралася з думкамі:

— Шнуркі ў шклянцы?

— Мама п’е гарбату з Алісай Цыцалюк.

— А гэта што за дунька?

— Маміна сяброўка.

— Ёсць дрожджы?

— Ёсць.

— То прыхапі з сабою шампусіка і цягні свой тухес да мяне.

Не люблю, як размаўляюць мае аднагодкі, каб выглядаць старэйшымі, чым ёсць на самай справе. Мне даспадобы мова добрых і моцных літаратурных герояў, з якіх хочацца браць прыклад. Хаця слэнг Іі Браілкі здаецца мне такім жа натуральным, як яе пірсінг і біжутэрыя. І я ўзрадаваўся, што яна запрасіла мяне да сябе. У гэты дзень мне захацелася пабыць з некім, хто мяне разумее. Ія мне здавалася якраз такой дзяўчынай. Яна зорак з неба не хапала і не была падобнай да выдатніц з майго класа Ірэны Папулях ці Аксаны Джыгуль, але Ія трымалася незалежна і заўсёды гаварыла тое, што думала.

Па дарозе я купіў пляшку чырвонай напаўсалодкай «Арэанды», кіеўскі торт і неўзабаве націснуў званок Ііных дзвярэй. Яна адчыніла мне ў жоўтым пухнатым халаце, падобная на кураня.

— Ну ты і Джузэпа! — абслюнявіла мне шчаку і ад сваёй нязграбнасці засмуцілася. — Вылузвайся і запаўзай на кухню. Зробім бардэльера да твайго бёзніка.

— Твае бацькі калі прыйдуць?

— Пасля сёмай.

Ія заварыла гарбату, паставіла на стол чырвоны чайны сервіз, разрэзала торт і дастала келіхі для шампанскага.

— Ну, давай! Выпусці пену!

Я ўзяў пляшку, здзёр фольгу і пачаў адкручваць дроцік, але корак з шумам вылецеў, і паўпляшкі ігрыстага чырвонага віна вылецела на Ію.

— Ты — пажарнік! — запішчала яна.

Я адкаркоўваў шампанскае ўпершыню ў жыцці, і было няёмка з-за сваёй няздатнасці.

— За твае чатырнаццаць! Каб нарэшце навучыўся адкаркоўваць шампусік, — дзынкнула тонкае шкло.

Мы смакавалі шампанскае, і я забыўся на свае сямейныя праблемы, забыўся на Дзеньгу, Птуха і ўсе трывогі. Мне было лёгка з Іяй, якая трымалася не іначай, як дарослая жанчына. Калі я спытаў, на колькі гадоў яна сябе адчувае, Ія адказала, пацягваючы шампанскае:

— Не глядзі, што мне трынаццаць. У душы мне — трыццатка. А ты?

— Я заўжды хацеў быць дарослым. Мая мама кажа, што ў мяне розум старога чалавека, які ўсё перажыў і больш нічога не хоча ад жыцця. А дзе працуе твая мама?

— У адной канторы на Мазепы. «Галопам па Еўропах» называецца. Чуў такую?

— А бацька?

— Аўтамеханік. А твае?

— Мама выкладае нямецкую мову, а бацька — піяніст. Толькі яны цяпер не жывуць разам.

Я адчуў, як запяршыла ў горле, і зразумеў, што ўпершыню сказаў уголас тое, што было насамрэч, і перакуліў да дна келіх шампанскага.

— Даўно?

— Нядаўна.

Яна дапіла шампанскае і прапанавала:

— Шліфанёмся? Тут у мяне ёсць крыху дусту.

Дастала з халадзільніка надпітую бутэльку самагонкі, наліла ў келіхі, панюхала і гідліва скрывілася:

— Яшчэ той азвярын! Ну, пі, бо ідзе дождж!

Я адпіў самагонкі і ледзь не задыхнуўся. Па горле пракаціўся вогненны клубок і дзесьці ўва мне выбухнуў, распрыскаўшыся на мільёны вогненных кропель. У мяне спынілася дыханне і з вачэй паліліся слёзы. Не памятаю, як хутка мы ап'янелі, ачомаўся, калі, абняўшыся, сядзелі на канапе, Ія плакала, шморгала носам і расказвала пра сваё жыццё:

— Ты — гідрацэфал. Ты станеш прафесарам, — яна чамусьці забылася на свой слэнг і загаварыла нармальнай мовай. — У цябе ёсць бацькі, якія цябе любяць. А я свайго бацьку не ведаю. Мая маці не прызнаецца, ад каго мяне нарадзіла.

— А хіба гэта не твой бацька?

— Гэта матчын кот, чацвёрты яе муж. Яны жывуць з ёю, пасля кідаюць, і яна знаходзіць сабе іншага. Калі-небудзь пастарэе, і ніхто з ёю не захоча больш жыць, бо хапае маладзейшых і больш нахабных цырлаў. А твае бацькі нават

калі і разыдуцца і ў іх народзяцца іншыя дзеці, усё адно цябе будуць любіць. Ты — багаты шлёцык. Цябе любяць, за цябе перажываюць, а я — няшчасная і дурная піпетка.

Яна дрыжала, усхліпвала і хавала ў сурвэтку свой носік. Мы сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго, двое няшчасных, самотных падлеткаў, забытых бацькамі, якія жывуць сваім эгаістычным дарослым жыццём. Але неўзабаве ў яе прайшла меланхолія, і яна прысмакталася вуснамі да маіх. Пра пацалункі я ведаў, пэўна, усё, у асноўным з кінафільмаў і «Вікіпедыі» і быў здзіўлены, што з пяцідзесяці відаў пацалункаў Ія выбрала менавіта французскі. Як на мой погляд, гэта найгоршае з датыканняў вуснаў для выяўлення пазітыўных эмоцый, паколькі французскі пацалунак павышае верагоднасць заражэннем монануклеёзам. Калі б яна запытала, што я думаю пра гэту сітуацыю, то я параіў бы пачаць усё ж з паветранага пацалунка, потым, калі звыкнемся адно з адным, перайсці да пацалунка матылька японскага, потым — да пацалунка эскімосаў і ўжо толькі пасля гэтага спрабаваць французскі. Ія рабіла ўсё паспешліва і па-дылетанцку, таму я здагадаўся, што пра пацалункі яна нічога не чытала, бо адразу запіхнула мне ў рот свой мокры язык. Я адчуў, як пахне яна малаком, кацянём і алкаголем, і не мог зразумець, што ў гэтым знаходзяць дарослыя. Зрэшты, ва ўсім, што датычыць кахання, я быў тэарэтыкам, а яна — практыкам.

— Я гатовая, — задаволена прамармытала Ія, павіснуўшы на мне.

— А колькі часу? — апамятаўся я.

Яна паглядзела на гадзіннік і, шморгаючы носікам, замітусілася.

— Выграбай лыжы. Хутка будуць шнуркі.

Я апрануўся і, хістаючыся, пайшоў да дзвярэй.

— Па-па! — падштурхнула ў спіну Ія.

На вуліцы мяне званітавала. Я перайшоў Ялцінскую, зазірнуў у цёмны двор і доўга бляваў, а потым сядзеў і выціраўся хусцінкай. Калі мне стала крыху лепш і я адчуў, што магу ісці, купіў мятных гумак і пакрочыў дадому.

Затрымаўшы дыханне, каб не пачула алкагольных выхлапаў мама, я разуўся, сцягнуў куртку і прашмыгнуў у свой пакой, але адразу пачуўся мамін голас:

— Цябе хоча павіншаваць хросная маці з Белай Царквы, — працягнула мне свой тэлефон.

Я прытуліў да вуха халодную слухаўку.

— Слаўко? Я ж забылася цябе павіншаваць, — затарахцела ў тэлефон хросная. — Колькі ж я цябе не бачыла?! Два гады? Ну, каб добра рос, не хварэў і прыносіў бацькам радасць. Дай маме трубку. Я ёй штосьці скажу.

Я аддаў тэлефон, уключыў музыку, а тады падумаў, што Іі трэба было б набыць блакітныя ружы, бо яны ёй патрэбныя больш, чым мне. І, засынаючы, падумаў, што так і зраблю.

## Гасціны бабы Паўці

Пасля майго дня нараджэння з’явілася баба Паўця. У яе не было тэлефона, і яна прыехала з Лічманаў без папярэджання. Ёй пашчасціла, што не заблукала, як мінулым разам, і застала нас з мамай дома, а то невядома, дзе б яна хадзіла ў вялікім і чужым для яе горадзе. Калі пачуўся ў калідоры званок, мама пагледзела ў вочка і імкліва пачала адчыняць дзверы.

— Дабрыдзень у вашу хату! Якая ты стала сакавітая клубнічка!

Баба Паўця расцалавала маму і мяне.

— Што на мяне так пазіраеш? Даўно не бачыў сваёй бабы з вёскі?

— У вас такія стыльныя валёнкі, — памацаў іх я.

— А ты, Слаўко, красапет! Колькі табе ўжо гадоў? Пятнаццаць? Ці ж у цябе імяніны былі?

— Чатырнаццаць.

— Пара ўжо жаніцца.

Яна была ў пухавіку, шытых валёнках з галёшамі, у вялікай клятчастай хустцы і з важкім лазовым кошыкам.

— А куды Жэнік падзеўся? Мо дзе сунецца за мною? — азірнулася на дзверы.

— Ён у кансерваторыі, — адказала мама.

— А калі ён будзе?

— Не ведаю, — пачырванела мама. — Распранайцеся, праходзьце.

— Штосьці мне Жэнік дрэнна сніўся. Устала на досвітку. Думаю, трэба ехаць. Мо што здарылася? Папрасіла суседку кабанчыка пакарміць і курэй на курасадні зачыніць, каб куніца не з’ела. Нашкрэбла трохі грошай, сабрала ў дарогу гасцінцаў ды паехала.

Я дапамог бабе зняць пухавік і сцягнуць валёнкі.

— Глядзі, Слаўко, што я табе прывезла, — яна палезла ў кошык. — Бачыш? Сала. Сама капціла. І каўбаса. О, а дзе яшчэ адна свінячая нага? Няўжо ў дарозе ўкралі? Не, здаецца, ёсць.

Яна выцягвала з кошыка свежаніну і каменціравала. А я насіў на кухню і складваў у вялікую эмаліраваную міску.

— Словам, рашыла я не чакаць Ражства. Раз-два і закалола кабана. Такі вырас і столькі еў, што не было здароўя яго карміць.

Да бабы падышоў Бахус, стаў лапамі на кошык і пачаў абнюхваць.

— Ты бачыш, які нахабнік. Добра табе тут жывецца. Не трэба мышэй лавіць. Толькі еш ды спі.

Бахус задзёр хвост, цёрся аб яе і зазіраў у вочы.

— Такі здаровы тлусты кот, — пагладзіла яго баба Паўця.

— Слаўко, падыдзі сюды, — паклікала мама.

Я зайшоў у спальню.

— Збірайся, прывязеш бацьку. Скажаш — баба Паўця прыехала. Я дам грошы і напішу, што купіць, — пачала запісваць на аркушык спіс прадуктаў.

— Звязацца з ім па тэлефоне?

— Звяжыся, але прадукты прынясі зараз.

Я апрануўся і выйшаў з кватэры. На вуліцы патэлефанаваў бацьку. Тэлефон ніхто доўга не браў. Нарэшце пачуўся голас Дзеньгі:

— Алё, гэта ты, Слаўко? Як справы?

— Нармальна, — неахвотна адказаў я.

І пачуў, як яна паклікала:

— Падыдзі да тэлефона. Слаўко звоніць, — а следам зашчабятала да мяне. — Ён мыецца. Зараз падыдзе.

Мне непрыемна было чуць, што яна размаўляе з ім на «ты». Ён жа яе выкладчык і старэйшы за яе гадоў на пятнаццаць ці шаснаццаць.

— Слаўко? Што здарылася? — пачуў бацькаў голас.

— Баба Паўця прыехала. У нас дома.

Ён замоўк і дыхаў у трубку.

— Зараз прыеду.

— Ты будзеш там начаваць?! — пачуўся аддалены жаночы голас.

— Не ведаю. Маці прыехала.

— Ты ж ведаеш, што я без цябе не засну...

І дадала штосьці інтымным голасам, але я ўжо не расчуў. Я не ведаў, дзе ён жыве з гэтай беспардоннай Дзеньгаю, якую не хацелася ні бачыць, ні чуць, і абарваў тэлефонную сувязь.

У «Вялікай кішэні» я закупіўся па маміным спісе і прыцягнуў два вялізныя пакеты дахаты. Баба Паўця ўжо сядзела на кухні і размаўляла з мамай, якая гатавала вячэру.

Бахус ляжаў ля бабіных ног і слухаў, як яны гавораць.

— Можа, вы з дарогі стаміліся, дык ідзіце паляжыце, — сказала мама, завіхаючыся каля газавай пліты.

— Адчапіся! Якое там стамілася. Усю дарогу каменем сядзела. А Жэнік хутка прыйдзе?

— Дык ужо хутка.

— Доўга ён дзесьці лазіць.

Баба Паўця паглядзела на маміны дагледжаныя рукі і на свае парэпаныя вузлаватыя, быццам іх упершыню бачыла.

— Як вы там адна спраўляецеся? — спрабавала пракалоць выдэльцам бульбіну мама.

— Хіба хачу так працаваць? Мушу! Добра, што Пятро Казлоўскі на зіму агарод узараў. А то што б я сама рабіла? Як быў жывы муж, а твой свёкар Ліксандзер, дык было добра. А так усіх просіш, перад усімі кланяешся... А ты, Слаўко, як вучышся?

— Нядрэнна.

— Не хуліганіш у школе?

— Не.

— Ды і бацька твой калісьці добра вучыўся і ніколі нікуды не ўлазіў. Адно толькі раз на вішню залез, ды паміж голлем захраснуў, а твой дзед мусіў яго адтуль сцягваць. А то яшчэ быў пад лёд праваліўся на балоце, дык спужаўся і прыбег мокры і брудны, а я пасадзіла яго на печ, каб не застудзіўся.

Пачуўся знаёмы кароткі званок, і я кінуўся адчыняць дзверы. У калідор зайшоў бацька, пацалаваўся з бабай, распрануўся, памыў рукі.

— Зачыняй, Слаўко, дзверы на зашчыпку. Ужо ўсе дома.

— Тата зачыніў.

— Ну, самы час накрываць на стол, — абазвалася мама. — Будзем вячэраць.

Яна паставіла на стол бульбу, якая патыхала парай, салату, марынаваныя памідоры, смажаную кефаль. Мы ўселіся за стол. Я здагадаўся, што калі хадзіў у «Вялікую кішэню», мама расказала бабулі, што бацька з намі не жыве.

— Налій мне, Жэнік, паўчаркі гарэлкі, каб я выпіла за вас, ды вы пamірыліся і не сварыліся, — сказала баба Паўця.

Бацька наліў сабе, маме і бабулі па чарцы гарэлкі. Яны выпілі і пачалі закусваць.

— Ты ж паглядзі, Жэнік, якая ў цябе жонка прыгожая, а ты круціш хвастом, як кот перад смятанаю, — падчапіла відэльцам памідор баба Паўця. — А гэта ты сама памідоры квасіла?

— Сама.

— Бо гэтыя дзеўкі да дабра не давядуць. Там такія верціхвосткі, што толькі і жадаюць ад сям'і адарваць. А пасля кінуць і яшчэ вінаватым зробяць, — заплямкала памідорам баба Паўця. — А ў цябе, Слаўко, дзеўка ёсць?

— Ды куды яму? Малы яшчэ, — адказала мама.

— Табе, Жэнік, грэх на сваю жонку скардзіцца і Слаўко вунь падзівіся, які ў цябе. Налі яшчэ паўчаркі гарэлкі, каб не прапала.

Яны выпілі, і баба Паўця перахрысцілася.

— Дзякаваць богу, наелася і напілася.

— Можа, яшчэ будзеце піць гарбату? — прапанавала мама.

— Я хачу з вамі сфатаграфавацца на памяць, бо жыццё — такая рэч, што хутка мінае.

Мы выйшлі з-за стала, селі на тахту, і я на сваю «мыльніцу» сфатаграфаваў бабу Паўцю, маму і бацьку. Баба сядзела пасярэдзіне, абняўшы іх, а пасля мама фатаграфавала мяне з бабай і бацькам.

— Я хачу яшчэ са сваёй нявесткай, — папрасіла баба.

І я іх сфатаграфаваў. На здымку мама трымала ў сваіх дагледжаных руках заскарузлыя рукі сваёй свекрыві і ўсміхалася.

— Пайду я ўжо, мабыць, спаць, — сказала баба Паўця. — Ты пасцялі на якімсьці ўслончыку і дай якую дзяружку, каб я ўкрылася.

Мама пасцяліла ёй на тахце. Я пайшоў у свой пакой, а мама з бацькам — у сваю спальню.

Я баяўся, што крохкая раўнавага, якая з’явілася з прыездам бабы Паўці, разбурыцца ад найменшага павеву ветру. І доўга ляжаў і прыслухоўваўся, што там робіцца за сцяною, але ў спальні бацькоў было ціха.

Раніцай я пачуў бабулін голас. Яна сядзела з мамай на кухні і размаўляла.

— Толькі прытуліла вуха да падушкі, як чую, што пара ўставаць.

Мы паснедалі, і бацька сабраўся праводзіць бабу Паўцю на вакзал.

— Вы ж тут больш не сварыцеся, бо не трэба мне такога жыцця, каб ты, Жэнік, дзесьці па чужых падушках з дзеўкамі валяўся.

Яна пацалавала на развітанне мяне і маму, і ўжо ў калідоры, калі бацька апрануўся, памацала яго куртку.

— І што гэта ты ў такой кацавеечцы ходзіш? А ў жопку табе не халодна?

— У яго цёплая куртка, — супакоіла яе мама.

Бацька адчыніў дзверы, яны выйшлі, і я не ведаў, ці вернецца ён пасля дадому. Толькі Бахус цёрся пад нагамі і паглядаў на дзверы, быццам кагосьці чакаў.

## Урок украінскай мовы

Пасля ад’езду бабы Паўці ў школе ў мяне здарыўся канфлікт. Увогуле я не меў намеру з кімсьці сварыцца і, тым больш, супрацьпастаўляць сябе класу, як сказала настаўніца ўкрмовы Ала Іванаўна Карапец. У мяне гэта вырвалася незнарок. Проста я не люблю крывадушнасць. Можа, каб не здарыўся адзін выпадак, што папярэднічаў майму зрыву, то нічога і не было б, але ж спачатку раскажу вам, з чаго ўсё пачалося.

Пад вечар, у дзень ад’езду бабы Паўці ў Лічманы, бацька вярнуўся дадому, і яны з мамай сварыліся ў вітальні. Я сядзеў за камп’ютарам і ламаў галаву над трактатам Джавані Піка дэла Мірандолы «Каментар да канцоны пра каханне Джыралама Беніўені», як нехта пазваніў, і мама адчыніла дзверы.

— Добры вечар! — пачуўся жаночы голас. — Я да вас па асабістай справе.

— Але ж мы з вамі незнаёмыя, — здзівілася мама.

— Мяне завуць Любоў Дзеньга. Я прыехала забраць вашага мужа. Вы не ведаеце, як ад яго пазбавіцца, а я ведаю, што з ім рабіць.

На шум у калідоры вызірнулі мы з бацькам. Ад такога нахабства мама пачырванела і вытарашчылася на яе.

— А вы хто?

— Я яго студэнтка, — адказала Дзеньга.

— За жонкай з такім імем і прозвішчам мой муж дакладна не прападзе. Тут будуць і любоў, і грошы. Хаця пакуль яшчэ гэтага не відаць, — калюча і злосна вымавіла мама, гатовая ўчапіцца ў яе рэдкія валасы. — Бо калі думаеце, што за ім вы і вашы дзеці, якія, спадзяюся, у вас з'явяцца, будуць абаронены фінансава і матэрыяльна, то вымушана вас расчараваць. У майго мужа гэта не вельмі атрымліваецца. Калі хочаце з ім жыць, то я параіла б вам скончыць яшчэ некалькі інстытутаў. І, можа, тады, працуючы на пяці работах, як вось я, вам удасца хоць неяк зводзіць канцы з канцамі.

— Грошы — гэта важна, — сказала тая нахабніца, — але не галоўнае. Вось гэта галоўнае, — прыклала руку да сэрца. — Спадзяюся, вы са мною згодныя?

— Дажывіце да майго веку, а тады будзеце гаварыць, што галоўнае, — абурылася мама. — А калі вы ўпэўнены ў сваіх пачуццях і ў тым, што зможаце падтрымліваць з маім мужам сямейны лад, то я буду за вас толькі рада.

— Я зразумела, што вы добраахвотна перадаеце яго ў мае рукі? Ну, што ж, пойдзем, — узяла бацьку за руку.

Мама замерла і моўчкі стаяла ў калідоры, назіраючы, як ён апранаўся і важкай хадою рухаўся да дзвярэй.

— Бывай, Слаўко! — весела памахала рукой Дзеньга, папраўляючы рукзачок.

Калі дзверы зачыніліся, мама села на канапу і прасядзела так да ночы, не сказаўшы ніводнага слова. Я не вытрымаў яе маўчанкі, выпіў на кухні шклянку малака з бублікам і пайшоў спаць. Усю ноч я круціўся і чуў, як за сцяною не спіць мама і шалясціць кніжкай. Ля маіх ног разлёгся Бахус і голасна захроп.

Пад раніцу мяне разбудзіў кот. Ён хацеў есці, і ў яго цякла сліна. Бахус залез мне на грудзі і пацалаваў у вусны засліненым ротам. Я пачаў яго адпіхваць, і ўраз прачнуўся. Мама, напэўна, усю ноч не спала, забылася паставіць будзільнік у сваім мабільным тэлефоне і магла б праспаць.

— Прачынайся, на працу пара! — расштурхаў яе.

Яна расплюшчыла вочы, сонна зірнула на тэлефон, спужана ўскрыкнула і пачала спужана бегаць па кватэры і мітусліва апранацца. Я дастаў з халадзільніка каструлю с баршчом, наліў у міскі, падагрэў у мікрахвалёвай печцы, укінуў у борш смятану, адрэзаў дзве лусты чорнага хлеба, наліў з чайніка кіпню, прыгатаваў маме какава з вяршкамі, а сабе — падвойную каву, але да сняданку яна нават не дакранулася.

Першым быў урок украінскай мовы. Карапец вельмі падыходзіла яе прозвішча. Яна была мажнай і слізкай. Прынамсі, голымі рукамі яе не злавіць. Карапец праверыла хатняе заданне, раздала карткі некалькім дзяўчатам, правяла трэніровачны дыктант і агучыла тэму: аднародныя члены сказаў і знакі прыпынку пры іх. Па ўкраінскай мове ў мяне дзесяць балаў. Ала Іванаўна кажа, што на дванаццаць балаў ведае толькі яна, на адзінаццаць — наша круглая выдатніца Ірэна Палулях, а на дзесяць — Аксана Джыгуль, Натка Варыборш, Віта Зарыцкая і я. Як бачыце, я быў у яе сярод пяці найлепшых вучняў. Пасля трэніровачнага дыктанта Ала Іванаўна пачала выціскаць з нас усё, што мы ведаем пра аднародныя члены сказа. Праштудзіраваўшы клас,

яна дала нам заданне выконваць практыкаваннм, а пасля, расцягваючы словы, ментарскім тонам сказала:

— Шмат хто з вас не засвоіў правапіс складаных займеннікаў, утвораных пры дапамозе «з» ці «із». А гэта вы праходзілі ў сёмым класе. Яўчанка, сядзь роўна! Гэта я каму кажу? Бандурка, павярні галаву! Каб узнавіць у вашых галовах гэта аднойчы і назаўжды, я напісала для вас каменціраваны дыктант, у якім ёсць складаныя займеннікі і аднародныя члены сказаў. Каменціруе Луньё.

Каб зразумець, чаму я тады сарваўся, прачытаю гэты опус, які прадыктавала Карапец. Не палянуюся дастаць сшытак, вось ён, паслухайце: «Сярод больш як трох тысяч моў украінская — адна з самых багатых, самых ласкавых, самых паэтычных моў свету. Яшчэ ў чатырыста сорак восьмым годзе візантыйскі падарожнік Прыск Панійскі запісаў у табары гунаў тры ўкраінскія словы: мёд, страва і квас. На ўкраінскай мове размаўляюць сорак пяць мільёнаў чалавек з Украіны і іншых краін свету. На лінгвістычным конкурсе ў Швейцарыі ўкраінскую мову прызналі наймілагучнейшай мовай свету сярод іншых моў пасля італьянскай. Раней нашу мову прыгняталі, прыніжалі, пераследавалі, забаранялі. А кожны заваёўнік глядзеў на людзей, што размаўлялі, пісалі, спявалі па-ўкраінску, з-пад ілба. Румынскі паліцэйскі мог выліць на кірмашы малако і растаптаць сыр сялянкі з-пад Чарнаўцоў толькі за тое, што яна гаварыла па-ўкраінску. І толькі ў незалежнай, вольнай, саборнай дзяржаве наша прыгожая, пявучая, салаўіная мова вызвалілася з-пад векавечнага прыгнёту Рэчы Паспалітай, Аўстра-Венгерскай імперыі, Румыніі і Расійскай імперыі, дзе яна была адной з найбольш прыгнечаных моў. Сёння на ўкраінскай мове размаўляюць дэпутаты парламента, міністры, сталявары, спартсмены, шахцёры і прадстаўнікі іншых прафесій з усіх земляў, куткоў нашай неабсяжнай Бацькаўшчыны ад сініх Карпат да ціхаплыннага Дона. Украінская мова па-хатняму пачуваецца і на кіеўскім Крышчаціку, і на адэскім Прывозе, і на Харкаўскай бісквітнай фабрыцы, і на шахце імя Засядзькі. Украінскі народ не саромеецца сваёй мовы, гісторыі, культуры і жыве заможным, паўнавартасным, шчаслівым жыццём сярод іншых вольных народаў свету».

Я патлумачыў правапіс складаных займеннікаў і ўсе знакі прыпынку, але, чым далей я пісаў і каменціраваў дыктант, тым больш мяне ахоплівала нейкае нясцерпнае раздражненне, быццам мяне прылюдна дурылі і прымушалі ў гэта верыць. А калі Ала Іванаўна прадыктавала апошняе выказванне, то я сказаў:

— Яшчэ як саромеецца!

— Што ты такое кажаш, Слаўко?! — ускрыкнула яна.

— Я кажу, што як толькі празвініць званок, то большая частка класа адразу пяройдзе на агульназразумелую мову.

— Але ж гэта няпраўда! — яшчэ мацней закрычала Карапец.

— І вы, Ала Іванаўна, таксама саромеецеся салаўінай мовы. Я чуў, як вы размаўлялі на перапынку з настаўнікам геаграфіі.

— Хто табе дазволіў?! — густа пачырванела яна і гучна ляснула ўказкай па стале. — Дай сюды дзённік! Каб заўтра без бацькоў не прыходзіў!

Я прынёс ёй дзённік, і Карапец запісала: «Сарваў урок украінскай мовы. Прашу бацькоў неадкладна прыйсці ў школу».

— Што ты зрабіў? — сурова спытала мяне мама, калі пабачыла запіс у дзённіку.

— Сказаў праўду.

— Якую праўду?

Я не захацеў ёй нічога тлумачыць, бо ўсё адно давялося б пра гэта гаварыць яшчэ раз. Наступным днём у настаўніцкай Ала Іванаўна Карапец, трымаючы мяне за руку, абурана выгукнула:

— Ну, раскажы! Раскажы маці, якая апранае цябе, гадуе, як ты зганьбіў адзін з найсвяцейшых сімвалаў нашай дзяржавы.

— Што ён сказаў?! — збялела мама.

— Ён сказаў, што на перапынку дзеці з класа саромеюцца мовы Тараса Шаўчэнкі, Івана Франка і мовы Лесі Украінкі. Вось што ён сказаў! Яшчэ кінуў цэнь на аўтарытэт сваёй настаўніцы, якая вучыць правільна выказваць свае думкі і любіць сваю краіну. Ад вашага Слаўко, Лілія Аксенцьеўна, я такога не чакала. Гэта ты так аддзячыў мяне за тое, што я цябе вучыла? Гэта ты так мяне прылюдна ганьбіш, га? Ды і каб жа гэта была праўда? Вось мае калегі не дадуць збрахаць.

Я азірнуўся і ўбачыў, як усе ў настаўніцкай асуджальна на мяне пазіраюць, і ледзьве ад сораму не згарэў, бо ў гэтую ж хвіліну зайшоў настаўнік геаграфіі.

Не ведаючы, у чым справа, ён паставіў на стол глобус і прасіпеў:

— Алла Ивановна, ваш Тхоренко опять выпимши.

— Хорошо, Пётр Семёнович, примем меры, — адказала Ала Іванаўна і адразу спахапілася.

Вывела мяне з мамай з настаўніцкай і ў калідоры пачала расказваць, што я адзін з лепшых яе вучняў і што, увогуле, я кемлівы і выхаваны. Прытрымліваючы маму пад локаць, яна інтымна пралепятала:

— У Слаўко памяць, як дыктафон. Раз пачуе, а другі паўтараць ужо не трэба. Гэта ўсё гармоны, Лілія Аксенцьеўна. Такі ў яго ўзрост. Думаю, што чагосьці падобнага больш не будзе. Праўда ж, Слаўко? — прымірэнча паскубла мне чупрыну.

Дома мама доўга мяне адчытвала, што я адбіўся ад рук і не паважаю старэйшых. Мусіць, я ўзарваўся таму, што зранку выпіў моцнай кавы? Кава была падвойная, такой я яшчэ ніколі не піў, вырашыў паспрабаваць, бо ноччу дрэнна спаў. Хаця ўсё, што я тады сказаў у школе, было праўдай. І калі б мяне прымусілі перад усім класам выбачацца, я зноў бы паўтарыў тое, што сказаў тады, на ўроку. З некаторым часам мама вырашыла, што ва ўсім вінаватыя сямейныя сваркі, пра што і сказала Алісе:

— Гэта ён так перажывае за нас з Луньё.

І, відаць, якраз у гэтым яна не памылялася.

## Гоп-стоп каля «Вялікай кішэні»

Чым больш я прыглядаюся да дарослых, тым больш мне хочацца заставацца падлеткам. Іншыя дарослыя людзі паводзяць сябе горш за Ію Браілку, якой усяго толькі трынаццаць гадоў. Узяць хаця б маіх бацькоў. Чаму ў іх усё так выйшла, нават пры ўмове, што бацька страціў добрую працу? Жыццё — такая рэч, што сёння згубіш, а заўтра знойдзеш. Мабыць, справа ў тэмпераментах. Мама гарачая і хоча ўсё сёння, а бацька не можа даць таго, што ёй хочацца ў гэты момант. Таму і справы ў нас ідуць не вельмі добра. Я нават сказаў бы, што дрэнна. Мама сустракаецца з Птухам, а тата жыве з Дзеньгай. І што ён у ёй знайшоў? Хаця я разумею, што больш вінаватая мама. Гэта яна пачала сварыцца і знайшла гэтага Птуху. Апошнім часам бацьку цягне дадому, ён хоча бачыць мяне, маму.

А шаснаццатай мы сустрэліся з ім каля нашага супермаркета «Вялікая кішэня», і ён завёў мяне ў карчму «Тры карасі». Замовіў баршчу, варэнікаў, вішнёвы пірог і зялёны чай.

— Як справы? — спытаў мяне.

— Ды не сказаў бы, што добра...

— Чаму?

— У цябе сваё жыццё, у мамы сваё...

— Як там яна?

— Уся ў працы.

Бацька дастаў кашалёк і працягнуў мне дзвесце грывень.

— Вазьмі.

— У цябе з'явіліся грошы?

— Даю прыватныя ўрокі дачцэ аднаго мільянера. Пяць заняткаў на тыдзень. Збіраецца паступаць у кансерваторыю.

— І як вучаніца?

— Бываюць і горшыя, — няўважліва адказаў ён. — Сустракаешся з якой дзяўчынай?

— Няма мне чаго рабіць, — пачырванеў я, запіхваючы пірог з вішнямі.

Я схаваў грошы, а тата глядзеў, як я ем, і пра нешта думаў, такі блізкі і такі далёкі. На нейкае імгненне здалося, што яму стала больш шкада мяне, чым сябе, і ён апусціў вочы. Я не мог змірыцца з тым, што насуперак маёй волі ад мяне забіраюць бацьку і хочуць замяніць яго на чужога чалавека, які не выклікае ў мяне ніякіх, нават самых малых сімпатый.

Калі я пачаў есці пірог з міндалём, у «Тры карасі» зайшла мама з Птухам. На ім было доўгае паліто з каракулевым каўняром, лайкавыя пальчаткі і дарагія боты. Мама разгубілася, але ўзяла сябе ў рукі, падышла да нас і сурова спытала:

— Што вы робіце ў гэтай задрыпанай забягалаўцы?

— А вы што? — насмешліва вылупіў вочы бацька.

— Не твая справа, — пачырванела яна.

Птуха падышоў да нашага століка, ваўкавата зірнуў на бацьку і працадзіў:

— Пагаворым?

Ён пайшоў, не азіраючыся, за ім выйшаў бацька, а за бацькам — я з мамай. Каля ўвахода ў карчму стаяў яго «Вепр».

— Давай дамовімся раз і назаўсёды, — скрозь зубы працадзіў Птуха. — Я бачу цябе ў гэтым раёне апошні раз.

— А ты хто, камендант Дарніцы? — агрызнуўся бацька.

— Я не хацеў бы, каб ты атручваў жыццё гэтай жанчыне, — паказаў рукой на маму.

— Гэтая жанчына — мая жонка.

— Была твая, а стане маёй, — з націскам вымавіў Птуха. — Для такога лайдака яна не па кішэні.

Птуха быў вышэйшым за бацьку на галаву і пагрозліва над ім навісаў.

— Перастань, — пацягнула яго за руку мама.

— Давай не будзем гэтага адкладваць і вырашым усё тут, каб і ён пачуў.

У гэты час нашу ўвагу пачалі адцягваць трое малойчыкаў у кепках, куртках і спартыўных штанах, што спярша сядзелі на кукішках непадалёк ад нас за прыпаркаванымі аўтамабілямі, голасна размаўлялі, лузгалі семкі і сплёўвалі лушпінне на асфальт. Калі з «Вялікай кішэні» выйшаў мужчына ў дублёнцы і цыгейкавай шапцы, адзін з малойчыкаў у вастраносых ботах ускочыў на ногі, паходкай шымпанзэ падышоў да яго і грубавата спытаў:

— Дай закурыць!

Мужчына працягнуў пачак цыгарэт. Той узяў колькі цыгарэт, запіхнуў за вуха, аддаў пачак сваім сябрукам і, сплёўваючы лупінне на асфальт, неспадзявана прыкрыкнуў:

— Ну ты, лось, дай трубу!

Мужчына паспрабаваў ад іх пайсці, але рэзкі ўдар адкінуў яго на капот «Таёты». Яны забралі тэлефон і пачалі выварочваць у яго кішэні. Мужчына вырываўся і крычаў, а яны білі яго рукамі і нагамі. Вакол іх збіраўся натоўп разявак. Бацька з Птухам перасталі сварыцца і глядзелі, што будзе далей.

— Трэба дапамагаць, — буркнуў бацька.

— Гэта не наша справа, — агрызнуўся Антось Птуха і нервова замітусіўся. — Хто ведае, чаму яны ў яго забіраюць грошы? Можа, ён іх даўжнік?

— Якія даўгі?! — абурыўся бацька. — Гэта шпана! Гопнікі!

— Мяне гэта не датычыць.

Бацьку ажно перасмыкнула, і ён кінуўся да рабаўнікоў.

— Куды ты? — спрабавала спыніць мама.

Бацька заваліў большага рабаўніка, і яны качаліся па асфальце і душылі адзін аднаго. Калі б той чалавек, у якога адбіралі грошы, пачаў адбівацца, то рабаўнікі маглі б адчапіцца. Але ён сядзеў пад «Таётай» і закрываўся рукамі. А двое іншых падскочылі да бацькі і пачалі біць яго нагамі. Толькі мільгацелі іх каратка стрыжаныя галовы, курткі і спартыўныя штаны. Ад абурэння кроў стукнула мне ў галаву, я кінуўся да бліжэйшага малойчыка, павіс на яго спіне і крыкнуў:

— Не чапай майго тату!

Удар у вуха адкінуў мяне на асфальт, я адчуў, як загарэлася і распухла вуха.

— Ёсць тут мужчыны ці няма? — пранізліва закрычала мама.

З «Вялікай кішэні» выходзілі людзі, вакол нас збілася цеснае кола разявак і назірала за бойкай.

— Патрымайце мой пакет, — папрасіў жанчыну невысокі мужчына ў пухавіку балотнага колеру.

Яна ўзяла ў яго пакет з хлебам і малаком, мужчына падскочыў да трох рабаўнікоў, зваліў кулаком першага і накінуўся да другога і трэцяга. Усё адбывалася вельмі хутка. Тыя трое былі ўпэўнены, што ніхто не захоча ўлазіць у бойку, і ўсе будуць толькі назіраць. Апомніўшыся, бацька хутка ўскочыў на ногі, зваліў аднаго гопніка, але той вырваўся з бацькавых рук. Вырываючыся, ён згубіў кепку і кінуўся перабягаць вуліцу. У той час падаспелі двое высокіх беркутаўцаў, таму гапату толькі і бачылі. Ніхто не падумаў, што яны вернуцца, аднак той, з паходкай малпы, якога заваліў бацька, вярнуўся па кепку. Для гопніка страта кепкі — гэта ўсё роўна што страта чуба для запарожскага казака ці паласатай палачкі для сяржанта аўтаінспекцыі. Ён выскачыў з натоўпу і пачаў шукаць пад «Таётай» кепку. І тады яго пазналі, а нейкая жанчына закрычала:

— Лаві яго! Вунь ён!

Гопнік падхапіў кепку і пачаў уцякаць, але яго дагнаў даўганогі міліцыянер, падчапіў нагой, вуркаган расцягнуўся на асфальце, і я ўбачыў яго ўжо ў наручніках.

— Як вы? — спытаў чалавек у пухавіку балотнага колеру.

— Дзякуй, што дапамаглі, — выцер з разбітай губы кроў бацька.

— Ідзём адсюль, — пацягнула яго мама.

— Табе не баліць? — спытаў я, абтрасаючы яго куртку.

— Усё нармальна, — адказаў ён.

Мы перайшлі вуліцу, і тата ішоў кульгаючы, а мы трымалі яго пад рукі. Я не бачыў, куды падзеўся Птуха, а калі азірнуўся, то яго джыпа ўжо не было.

Усю дарогу мама маўчала і пра нешта думала, а я ішоў, прытуліўшыся да бацькі, і адчуваў, як цяжка яму ісці.

— Хоць бы не паламалі рэбры ці не парвалі селязёнку, — парушыла маўчанне мама. — А ты, Слаўко, чаго на іх накінуўся? Хацеў, каб скалечылі?

Мы давялі бацьку дадому, ён зайшоў у ванную, распрануўся да пояса, і я пабачыў, што яго цела ў сіняках і падцёках, а губа распухла і крывавіць. Мама прынесла перакісь вадароду і спыніла кроў. А тады прыгатавала вячэру, мы павячэралі, і бацька сеў іграць за піяніна. На нейкую хвіліну мне здалося, быццам між імі нічога не здарылася, што іхнія сваркі, Антось Птуха і Любоў Дзеньга — гэта проста цяжкі сон, і калі ігра закончылася, мама сказала:

— Тое, што ты застаўся тут нанач, нічога не значыць. Лічы, што я прадаставіла табе неадкладную медыцынскую дапамогу.

Усю ноч яны ціха сварыліся за сцяною. А пасля ён застаўся яшчэ на адну ноч і яшчэ на адну. Бацька прыходзіў пасля працы, прыносіў з сабою прадукты, а аднаго разу мы нават прыбралі і прапыласосілі ў кватэры. Але ў гэты час маме патэлефанаваў Птуха, і яна пайшла да яго на спатканне.

## Танга Сільвестрава

Мне здавалася, што пада мной распраствяецца зямля, а жыццё пераўтвараецца ў начны кашмар. Я адчуваў, што гэты аматар газавых лямп, Антось Птуха, забярэ ад мяне бацьку, і ў яго пачнецца новае жыццё з Дзеньгай, у мамы сваё, а я застануся пакінутым на волю лёсу.

З адчаю ў маёй галаве нараджаліся шалёныя думкі. Я марыў, каб Птуху ў маці адбіла Любоў Дзеньга, каб яго арыштавалі за нявыплату падаткаў, каб ён зламаў нагу, скінуўся на сваім «Вепры» з моста Патона альбо выехаў за мяжу ў пошуках багатых пакупнікоў яго карцін з ананасамі і шампанскім.

І тады я прыдумаў такую неспадзяванку, пра якую нават не хачу расказваць. Ды неўзабаве вы і самі пра ўсё даведаецеся. Пасля гэтай прыдумкі я знайшоў візітоўку чалавека, з якім пазнаёміўся на хатнім канцэрце ў Нужнага. І вырашыў з ім сустрэцца. Я набраў нумар яго мабільнага тэлефона і доўга чакаў злучэння. Нарэшце пачуўся кволы голас:

— Я слухаю.

— Мне патрэбны Ляўко Рэбкала.

— А вы хто?

Голас прагучаў здалёк, не іначай, як з Вогненнай Зямлі.

— Мяне завуць Вячаслаў Луньё. Мы пазнаёміліся на канцэрце ў пана Нужнага, — прамармытаў я.

Мне здавалася, што ён пашле мяне далей у такіх далікатных формах, што я буду доўга думаць, нібыта гэта набор выкшталцоных кампліментаў.

— Вы сын піяніста Яўгена Луньё?

— Так.

— А пра што вы хочаце са мной гаварыць.

Я замоўк і адчуў, як пацею пад пахамі, і пот струменьчыкамі сцякае па нагах у чаравікі.

— Пра прадмет вашых філасофскіх даследаванняў, — выпаліў у слухаўку.

На другім канцы завісла напружаная паўза.

— Што вы маеце на ўвазе? — асцярожна пацікавіўся ён.

— Я маю на ўвазе адносіны паміж мужчынамі і жанчынамі.

— А для чаго гэта вам?

— Для вырашэння сямейнай праблемы, — упрашальным голасам вымавіў я і сербануў носам.

— У такім выпадку, малады чалавек, я чакаю вас на вуліцы Сасюры, 4. Набераце ў дамафоне 127 кватэру — і я пушчу вас у пад'езд.

Ляўко Рэбкала жыў у дзевяціпавярховым будынку насупраць трамвайнага дэпо. Я набраў нумар яго кватэры і пачуў у дамафоне асцярожны голас:

— Хто?

— Вячаслаў Луньё.

Дзверы запілікалі, клацнулі, і я падняўся ліфтам, знайшоў яго кватэру і націснуў на званок. За браніраванымі дзвярыма зацёхкаў салавейка, да шклянога акуляра прытуліўся нечы нос і пачуўся той самы асцярожны голас:

— Хто?

Я назваў сваё прозвішча. Заклацалі замкі, прачыніліся дзверы, ён выглянуў у прагал паверх ланцужка, і толькі пасля пусціў мяне ў памяшканне. У калідоры пахла кніжным пылам і кіслай капустай. Рабкала сустрэў мяне ў хатнім халаце і цёплых тапках з воўны. Ён пачакаў, пакуль я разуюся і здыму куртку. У калідоры я на свой сорам разгледзеў, што мой вялікі палец прарваў шкарпэтку і з цікавасцю пазірае на Ляўко Рэбкалу. Я замітусіўся і паспешліва схаваў ногі ў прапанаваныя мне тапкі. Гаспадар правёў мяне ў кабінет, застаўлены кніжкамі, пасадзіў за часопісны столік, прапанаваў кавы, і калі гарачая кава ўжо была на стале, я даторкнуўся да кававаЙ пенкі вуснамі і папрасіў:

— Скажыце штосьці пра мужчын і жанчын, бо ўчора я ўчыніў адну дурноту і не ўпэўнены, што гэта зберажэ мне бацьку і маці.

— Калі ваша маці належыць да жанчын вышэйшага гатунку, у звароце да якіх пасуе не пані, як кажуць у нас, паважліва звяртаючыся да замужніх жанчын, а донна, як гэта прынята ў Італіі ці Іспаніі, то яна застанецца з вашым бацькам, — сказаў Рэбкала і асцярожна паклаў галаву на спінку скуранога крэсла, каб выпадкова не звярнуць сабе шыю. — Донна — жанчына шляхетная, створаная для мужчыны мастацкага тыпу. Як ювелір, што адрознівае дыямент ад падробкі, донна адразу адрозніць таленавітага чалавека ад звычайнага, яна шукае сярод мужчын неардынарную асобу і, зачараваная талентам, гатовая быць з ім да канца. Хаця, павінен заўважыць, некаторыя з іх бываюць калючымі, вострымі на язык, са складаным характарам. Донне апантаны талентам мужчына важнейшы, чым проста мужчына, ад якога яна, можа, народзіць дзяцей. Для такой жанчыны ваш бацька — той, хто дапаможа ёй быць сабою, а для яго яна — жанчына, якая распальвае ў ім талент і грэецца каля яго. Для донны ствараюць шэдэўры архітэктуры, пішуць музыку і санеты. Але ўсё, на жаль, ускладняецца яшчэ адной праблемай. У вашых бацькоў сярэдні ўзрост. Ім здаецца, што ўсё можна пачаць наноў, — ён замоўк і прыслухаўся да свайго дыхання, нібыта сумняваўся, ці жыве яшчэ. — Філосаф эпохі Адраджэння Марсіліа Фічына заўважыў, што закаханыя абменьваюцца душамі, адмаўляюцца ад уласнага эгаізму і жывуць зацікаўленасцямі адно аднаго. Як пачуццёвая разнастайнасць любові, кахання — гэта стасункі з Богам. Без Беатрычэ не было б Дантэ, хаця пасля жыцця Дантэ ўжо сумняваліся: а ці была на самай справе Беатрычэ?

Ён замоўк і заплюшчыў вочы. Здавалася, што Рэбкала заснуў, і я ціхенька прыгубіў каву, а калі ставіў філіжанку на сподачак, мужчына залыпаў вачыма, і я зразумеў, што такім чынам ён зберагае сілы, якіх яму нестае.

— Я адказаў на ваша пытанне?

Яго голас быў кволым і губляўся ў насычаным паветры, не далятаючы да кніжных паліц.

— Нават больш, чым я спадзяваўся, — падзякаваў я за тыя неймаверныя намаганні, якія давялося патраціць яму на прыгатаванне кавы і перәтрусванне цытат старадаўніх філосафаў.

Рэбкала цяжка зашоргаў ваўнянымі тапкамі, не іначай як цягнуў за сабою мяхі з цытатамі, якія толькі што агучваў, і ўжо ў дзвярах, зазіраючы мне ў вочы, прасіпеў:

— Але калі ў вашых бацькоў не складзецца, вы павінны прыняць гэта па-мужчынску стрымана, бо жыццё, як ні кажы, рэч непрадказальная.

Я моцна паціснуў яму руку, а калі пабачыў усяленскі боль у яго вачах, спужана адпусціў кволую далонь і, просячы прабачэння, адступіў да дзвярэй.

Дома я заспеў маму і Алісу Цыцалюк. Яны сядзелі на канапе і пра нешта ціха размаўлялі. Я перапрануўся і пайшоў на кухню, але пачуўся рэзкі званок, і мама адчыніла дзверы. У калідор зайшоў Антось Птуха. Ён быў узбуджаны і ледзь сябе стрымліваў.

— Уяўляеш, што зрабіў твой сын?

— Што такое?! — спужалася мама.

— Распісаў балончыкам мае дзверы і ўвесь па’езд: «Птуха любіць чужую маліну». Я сёння ўвесь дзень адскрабаў і зафарбоўваў яго мастацкія адкрыцці.

— Адкуль ты ведаеш, што гэта зрабіў Слаўко?

Яе вочы былі калючыя, і ў іх ужо не было таго захаплення, з якім яна раней сустракала Птуха.

— А хто яшчэ мог гэта зрабіць?!

— Ідзі сюды, — паклікала мама. — Ты чуў, пра што мы гаварылі?

— Чуў.

— Гэта твая работа?

— Мая.

— Што ж я яму зрабіў? — абурыўся Птуха. — Я ж яму нічога дрэннага не зрабіў.

Сярдзіта пазіраў на мяне і шукаў падтрымкі ў мамы.

— Я з ім разбяруся, — холадна адказала яна.

Мама замоўкла і чакала, пакуль ён пойдзе.

— Ты больш нічога не хочаш мне сказаць?

— Нічога.

— Ну, тады я пайшоў, — патаптаўся на месцы.

— Ідзі, — адказала мама і зачыніла за ім цяжкія дзверы.

Я ўбачыў з акна, як садзіўся ён у свой «Вепр», і, рвануўшы асфальт коламі, вялікі джып паехаў з нашага двара і нашага жыцця. Так скончылася гісторыя, якая ледзь не зруйнавала нашу сям’ю.

Увечары тата прыйшоў з работы, памыўся, і мама паставіла яму на стол вячэру. На стале сыходзіла парай бульба ў мундзірах, залацілася палітая аліўкавым алеем квашаная капуста, у рыбніцы ляжаў смажаны лінь, а ў хлебніцы — нарэзаны хлеб з гарбузнымі зярняткамі, які ён вельмі любіў. Бацька моўчкі вячэраў і думаў пра нешта сваё. Я ведаў, пра што ён думае. І вы таксама, напэўна, здагадаліся: пра музыку, пра маму і трохі пра мяне.

Пасля вячэры ён сеў за піяніна і пачаў іграць, а мама з Алісаю засталіся піць гарбату з малаком і шаптацца. Аліса ўзяла лустачку надрэзанага кекса, нахілілася да мамы і ціха зашаптала:

— Чаму ты кінула мужчыну, які ўмее мяняць у кранах пракладкі і рамантаваць разеткі?

Мама даліла ў гарбату малако.

— Тут багата прычын, — разгублена адказала.

— Ну, напрыклад?

Яна замялася і не ведала, што сказаць.

— Напрыклад, як сцямнее, ён пачынае пазяхаць.

Аліса здзіўлена развяла рукамі:

— Але ж ты казала, што з ім добры секс...

— Гэта важна, але гэта не галоўнае.

— А што ж галоўнае? — паставіла на стол парожні кубак Аліса.

— Ты хочаш ад шлюбу адно толькі задавальненняў і вострых перажыванняў?

Мы зайшлі ў залу, селі на канапу і заслухаліся, як бацька грае танга Сільвестрава. Яго экспрэсіўныя бачы гучалі неперавўзыдзена. Гэтая музыка была велікадушнай і глыбокай, быццам у ёй перапляліся ўсе супярэчлівасці і прыхільнасці чалавечай душы. На канапу ўскочыў Бахус, пачаў вылізваць сваю поўсць, задраў лапы і вытарашчыўся на столь.

— Дык што ж галоўнае? — зашыпела Аліса, і яе вочы сталі падобнымі да дзвюх металічных грыўняў.

— Паслухай, — прыклала палец да вуснаў мама.

Пад бацькавымі пальцамі віравала, пружыніла, клекатала танга. І ў гэтай музыцы было гэтулькі радасці, меланхоліі, адчаю, злосці, смутку і пяшчоты, нібыта яна перадавала ўсё, што перажыла наша сям’я за апошнія месяцы. Мне здалося, што ў рытмах танга ў зале кружацца тата і мама, а я, Аліса і Бахус зачаравана назіраем за гэтым імклівым прыгожым танцам.

— Што цябе трымае каля яго? — не супакойвалася Аліса.

— Калі ён іграе, я забываюся, што ў яго жывот, памятыя штаны, і што ён не ўмее зарабляць грошы, — ціха адказала мама.

— І гэтага дастаткова, каб ты ўсё яму прабачыла?..

Мама не адказала, а калі наступіла цішыня, падышла да бацькі, запусціла руку ў яго густыя валасы і шчаслівa сказала:

— Сонейка маё, чорнае і калматае.

Я таксама люблю свайго тату, але не за тое, што ён прыгожа грае, а за тое, што ён мой тата.

***Пераклад з украінскай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.***





**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

# ПАКУЛЬ У АЧАГУ ГАРЫЦЬ АГОНЬ

* * *

Залатазорныя карункі зноў пляце
На небе Месяц, задуменна-белы.
І зоркі-душы будуць зіхацець,
Пакуль людская памяць не змялела,

Пакуль у ачагу гарыць агонь
І час ад часу знічкі далятаюць
Да нашых сэрцаў… Прыкладзі далонь:
Душа баліць — іскрынкі не згасаюць...

* * *

Пякуць дажджавыя кроплі,
Моцна пякуць і джаляць.
Часу нябачныя крокі —
Кулі маленькія — ў памяць
Моцна ўпіваюцца, раняць,
Рэжуць сівым успамінам.
Нам не даруе памяць —
Мы ж даравацць павінны…

---

***Дзмітрый Пятровіч*** *нарадзіўся 29 красавіка 1971года ў г. Заслаўе Мінскай вобласці. Скончыў музычна-педагагічны факультэт (1996), факультэт беларускай філалогіі і культуры (2009), а таксама магістратуру (2011) пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Працаваў настаўнікам. Зараз — вядучы стылістычны рэдактар газеты «Звязда». Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Роднае слова», «Бярозка», калектыўных зборніках, альманахах, газетах «ЛіМ», «Краязнаўчая газета» і інш. Аўтар кніг паэзіі «Белая квецень кахання» (першае выданне — 2001, другое, дапоўненае — 2013), «Адзіноты пажоўклыя лісты» (2014), прозы — «Белая Жанчына» (2012). Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

* * *

Тут сустрэліся дзве сінявы.
Па адной з іх вандруюць аблокі.
А з другою заўжды я на «вы» —
Тут прыстанак для душ адзінокіх.

На спатканне я з ёй прылятаў,
Нібы жораў, што марыў аб леце.
Шмат усходаў я тут сустракаў —
У найлепшым куточку на свеце.

Па сярэбранай сцежцы ішоў
Я з каханай, каб знікнуць у поўні…
Пад Мядзведзіцы зорным каўшом
Плыў накцюрн нашых сэрцаў чароўны…

* * *

Ці магчыма гэта — уваскрэснуць
Пасля доўгай цяжкай барацьбы,
Адрадзіцца, як вясною бэзу,
Ад зімовай доўгае журбы?

Не растаць, бы снежныя сумёты,
І натхніцца палкасцю жадання —
Зноў напіцца з мілых вуснаў мёду
Юнага шчаслівага кахання?..



**Вісарыён ГАРБУК**

# ПАСЛЯВАЕННЫЯ ДЗЁННІКІ

*«Дарагі мой дзённік! З некаторага часу я перастаў пабойвацца цябе, і цяпер ты ператварыўся ў майго сапраўднага сябра», — напісаў Вісарыён Гарбук 5 лістапада 1964 года. А дзённік ён вёў практычна ўсё жыццё. У яго фондзе 234 БДАМЛМ мне нават трапіліся два лісты з калымскімі запісамі 1938 года, але, уважліва разгледзеўшы структуру паперы, почырк і іншыя дэталі, мы з работнікамі архіва прыйшлі да высновы, што гэта пасляваенныя нататкі. Рабіць рэгулярныя запісы Вісарыён Сцяпанавіч пачаў з першых дзён вайны. Чытачы пазнаёміліся з яго ваеннымі дзённікамі («Нёман», 2014, № 3—5).*

*Цяпер прыйшоў час пасляваенных. А яны не менш цікавыя. Успаміны аб перажытым, філасофскі роздум аб вайне, міры і сусветных праблемах, водгукі на надзённыя падзеі і навіны літаратурнага жыцця, сустрэчы з сябрамі-пісьменнікамі і чытачамі — усё гэта адлюстравана ў запісах. Але былі дзве самыя балючыя і незагойныя раны, з якімі В. Гарбук жыў да апошніх дзён — гэта калымская высылка і вайна. Вайна, якая не толькі адабрала ў пісьменніка маці, бабулю і дзядзьку, зажыва спаленых фашыстамі 10 сакавіка 1944 года ў вёсцы Вішанькі, але і «ўзнагародзіла» яго невылечнай хваробай.*

*Ваенныя будні, калі даводзілася ўзводзіць пераправы па грудзі ў ледзяной вадзе, холад салдацкіх зямлянак, гразь мінных палёў не прайшлі дарэмна. У 1946 годзе ў В. Гарбука абвастрыўся поліартрыт. Пакутлівая хвароба, якая суправаджалася высокай тэмпературай і нясцерпным болем пры малейшым руху, на доўгія чатырнаццаць гадоў прыкавала яго да бальнічнага ложка і зрабіла інвалідам першай групы. У дзённіку за 1948 год бачна, як каліграфічны почырк Вісарыёна Сцяпанавіча, які мог служыць узорам для падручніка па чыстапісанні, рэзка мяняецца. Хвароба пакалечыла яго суставы, пакруціла пальцы. Ён мог з цяжкасцю пісаць толькі прамыя лініі, але, сцяўшы зубы, сабраўшы ў кулак усю волю, салдат-франтавік нанава вучыўся хадзіць, пісаць і нават маляваць.*

*Вісарыён вярнуў сябе да актыўнага жыцця: стаў пісьменнікам, сустрэў жонку Людмілу Пракоф'еўну, узначаліў літаратурнае аб'яднанне маладых літаратараў Пяцігорска, вёў перапіску з пісьменнікамі, землякамі, грамадскімі дзеячамі, чытачамі. «Мне іншы раз кажуць, што хвароба замкнула мяне ў чатырох сценах, і мне не бачна самога жыцця. Я ўсміхаюся сам сабе: яны не здагадваюцца, што мае чатыры сцяны — гэта цэлы сусвет!» — пісаў ён 11 ліпеня 1963 года. Таму, шаноўныя чытачы, давайце адкрыем для сябе сусвет настаўніка, салдата і пісьменніка Вісарыёна Сцяпанавіча Гарбука.*

*Дакументы яго паступілі ў Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР ад самога пісьменніка 10 лістапада 1978 года. У выніку навукова-тэхнічнай апрацоўкі было афармлена 319 спраў.*

*У 1989 годзе на дзяржаўнае захоўванне ад ягонай удавы Людмілы Пракоф'еўны паступіла другая частка архіва, сярод якіх і пасляваенныя дзённікі за 1948—1986 гады (ф. 234, в. 2, с. 47—50).*

*Большая частка дзённікавых запісаў зроблена на рускай мове, але шмат цікавых эпізодаў напісаны на роднай беларускай.*




*Вісарыён Гарбук і Мікола Хведаровіч.*

*1948 год*
*9.3.48*

На сваё здзіўленне падчас адной з размоў я даведаўся, што ў Чашніках дажывае свой век у адзіноце забыты беларускі паэт Журба. Пра яго казалі, быццам бы ён апусціўся, жабруе, спявае ў царкоўным хоры, што сям'я яго кінула і г. д. Усё гэта мне паведамілі ў тыповай форме местачковых абгавораў. З аднаго боку, я ім не верыў. З другога — мяне зацікавіла ўнутранае аблічча чалавека, пра якое, канешне, нічога не ведалі. Не выключаю ж, што

И средь детей ничтожных мира
Быть может всех ничтожней он.
Но лишь…

Журбу ж я толькі ведаў па вершах, якія чытаў у дзяцінстве.

Днямі я пайшоў у бібліятэку. Замок. Не ведаючы, што рабіць, я ў калідорчыку прысланіўся да сцяны. У гэты час да дзвярэй падышоў стары ў кажуху з кійком і кошыкам і, быццам сляпы, пачаў абмацваць дзверы.

— Што вы хочаце, бацька?

— Мне б кніжачку абмяняць.

Амаль сляпы стары, які ў семдзесят год мае інтарэс да кніг, зацікавіў мяне.

— А няўжо вы самі чытаеце?

— Не, я прашу хлопчыка чытаць мне ўслых.

— Вы маеце адносіны да літаратуры?

— Маё прозвішча Івашын.

— Дык вось што! Значыць вы — Янка Журба. Я ваш чытач.

— Хто ж вы такі, калі ведаеце Журбу?

Стары ажывіўся, і я пачаў яго распытваць.

Надрукаваў ён у 1925 годзе ўсяго адзін невялікі зборнік вершаў. Да рэвалюцыі друкаваўся ў «Нашай ніве». Доўга працаваў настаўнікам. Тры гады быў навуковым супрацоўнікам Беларускай Акадэміі навук. Потым зноў настаўнікам.

Двойчы няўдала браў шлюб. Рыхтаваў другі зборнік вершаў, але надрукаваць не паспеў — вайна. Пры немцах жабрачыў. Зараз — сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў. Яго адшукаў саюз і прызначыў персанальную пенсію ў пяцьсот рублёў.

— А зараз вы працуеце?

— Дзе мне зараз працаваць… Я ж сляпы.

— А чаму вы так мала напісалі? Бо вы ж маглі стварыць нашмат болей.

— Разумееце — абставіны. Няўдалыя шлюбы. Праца настаўнікам. Гэта шмат часу адымала… Потым здароўе, зрок.

— Але ж перашкоды, наадварот, павінны быць штуршком да працы. Да таго ж, быць настаўнікам — значыць назапашваць багацці ведаў народа, жыцця, дзіцячай псіхалогіі.

Ён па-ранейшаму доўга спасылаўся на розныя няўдалыя абставіны, але, нарэшце, сказаў:

— Да того ж не ва ўсіх аднолькавыя здольнасці.

Гэтае прызнанне прымірыла мяне з ім.

Вось так чалавек з іскрынкай таленту не сканцэнтраваўся, а размяняў сябе на нікчэмныя будзённыя дробязі і прайшоў міма жыцця. І яму нечага было казаць…

— А вас і зараз не забываюць. Я выпадкова прачытаў у «Літаратурным чытанні» два вашых вершы для дзяцей.

— Так! Мой вершык, калі цікавіцеся, быў надрукаваны ў адрыўным календары «Белгосиздата» за 1946 год. Называецца «Шпак». А яшчэ — у часопісе «Бярозка» для акцябрат. Называецца «Прылёт птушак» і яшчэ «Пастушок» А яшчэ…

Журба — псеўданім. У перакладзе на рускую азначае сум. Так дарэвалюцыйныя беларускія паэты нават у сваіх псеўданімах адлюстроўвалі яе непраглядны стан прыгнечанай калоніі.

Бедны Журба! Ты, быццам сляпы, прайшоў міма ўсяго багацця жыцця. Але нават такім ты не забыты намі. […]

1946 год чэрвень — 1958 ліпень. Трынаццаты год барацьбы з хваробай. (*Прыкладна з сакавіка 1948 года почырк Гарбука рэзка мяняецца, бачна, што з-за поліартрыту напісанне кожнай літары даецца яму з вялікай цяжкасцю. Шляхам неверагодных намаганняў і штодзённых трэніровак яму за некалькі год удаецца наблізіцца да свайго былога каліграфічнага почырку. —* ***А. В.****)*

*1953 г.*

*15 верасня*

Ленінград сустрэў мяне прыязна. Сонейка. Спагадлівыя твары медперсаналу ў «хуткай дапамозе» на Маскоўскім вакзале. Зачынілі мяне ў машыне Чырвонага Крыжа, і я зноў нічога не бачыў з навакolля.

У колькіх гарадах я пабываў: Тбілісі, Куйбышаў, Стаўрапаль, Пяцігорск. Шпіталь размешчаны на ўскраіне Ленінграда. У прыёмным пакоі ледзянячы холад. Без прыняцця ванны пераапранаюць, але ўсе цёплыя рэчы, нават шкарпэткі, адбіраюць. Я пачынаю вайну за ацяпленне і адваёўваю коўдру. […]

Усе здзіўлены, навошта я сюды прыехаў?

— Салганаў вам зманіў, — кажа загадчык аддзела Яўсеенка, — ніякіх прафесараў, якія б лячылі ваша захворванне, тут няма.

— А прафесар Баранаў?

— Дык хай бы ён і накіроўваў да яго ў клініку.

Так праходзіць некалькі дзён. Распрануты, я мерзну. Пад грудай коўдраў не магу зварухнуцца. Медперсанал аддзялення спачувае, але нічога зрабіць не можа. Кіраўніцтва ў асобе начмеда забараніла выдаваць хворым асабістыя рэчы. Нервы мае здаюць. Мне пачынае здавацца, што я знаходжуся не ў шпіталі, а ў карцары нейкага фантастычнага ледзянога астрога. Я горка раскайваюся: навошта я сюды прыехаў?

Пішу начмеду шпіталя: «Прашу вас зрабіць такую ласку і наведаць мяне». Вытрымаўшы адпаведную для кіраўніцтва паўзу ў некалькі дзён, яна наведала

мяне. Тоўстая з тлустым падбародкам, чамусьці звісаючым набок, яна здавалася мне самазадаволенай істотай, даўно страціўшай гуманныя пачуцці доктара і ператварыўшаяся ў адміністратара.

— Я такая занятая, дарагая кожная хвіліна…

Пасля перамоў яна сказала:

— Я вам дазволю коўдру, толькі вы яе маскіруйце, хавайце, каб гэта не парушала агульнай карціны.

Я паказваю лечачаму доктару падраныя, неяк сцягнутыя ніткай шкарпэткі, якія выдалі замест маіх, мяккіх шарсцяных і кажу:

— Няўжо ўсе восем гадоў я павінен хадзіць у такіх шкарпэтках, спаць пад кароткімі коўдрамі, якія не грэюць, есці аднастайную прэсную ежу?

— Вы занадта патрабавальны. Вось у нас ёсць хворы Мікола, такі як і вы, дык ён прызвычаіўся, і яму ўсё добра…Такі добры хворы!

— Ах, вось што вам патрэбна ад хворых — пакорлівасць. Якое характэрнае слова вы вымавілі, нават не падазраючы аб гэтым! Вы думаеце, што гэта аснова Паўлаўскага лячэбна-ахоўнага рэжыму? Магчыма, гэта аснова іншых рэжымаў?

Збянтэжыўшыся, Марыя Аляксандраўна пачала апраўдвацца:

— Вы мяне не так зразумелі.

Большасць нянечак і сёстраў добразычліва аднесліся да маіх практыкаванняў у хадзьбе, але сястра Наталля абурылася:

— Колькі часу вы адымаеце: вожкайся тут з вамі. Не можаце добра хадзіць, дык ляжыце ў ложку.

— А вы думаеце, што мне не хочацца хадзіць так, як гэта робіце вы?

— А раз не можаце, не трэба і спрабаваць. […]

Некалькі дзён я актыўна змагаўся, але наступіла дэпрэсія, невялікія сілы зменшыліся, а боль павялічыўся ўдвая, і я востра адчуў страшэнную адзіноту, шчымячую тугу і безнадзейнасць. Колькі разоў я стрымліваў слёзы… Колькі разоў задаваў сабе пытанне:

— Ну, навошта я сюды прыехаў, у гэту лядзянячую пустэчу фармалізму? Што яна мне дае? […]

— А вы ведаеце, чаму Мікола ляжыць такі ціхмяны? — паведамляюць мне хворыя па палаце, — камісія накіроўвае яго ў дом інвалідаў, а ён не хоча туды ехаць.

— Туды ехаць, паставіць на сабе крыж, — меланхалічна заўважае сусед па койцы.

Пачынаецца абмеркаванне даўно знаёмай мне тэмы. […]

Сёння прыехаў кансультант ад Баранава — Нічурэй Ганна Паўлаўна. Першым яе пытаннем было:

— У вас свой прэпарат ёсць?

— Няма, — адказваю я.

— А мы ў клініку кладзём на лячэнне толькі тых, хто мае свой карцізон, і пакуль ён у хворага ёсць, мы яго лечым. Свайго карцізона клініка не мае.

— Са слоў Салганава я думаў, што вы маеце спецыяльнае профільнае аддзяленне.

— Не, мы лечым выпадковых хворых, іх адзінкі, прэпарат жа англійскі, яго цяжка дастаць.

— Значыць, мой прыезд у Ленінград быў неабавязковым? Калі б быў карцізон, лячэнне можна было правесці ў любой клініцы.

— Канешне, дарэмна вы прыехалі ў ленінградскі клімат.

— А будзе карцізон, вы мяне да сябе возьмеце?

— Супрацьпаказанняў няма. Толькі ў нас ўсё перапоўнена. […]

*10 ліпеня 1962 года*

Нарэшце вырашана — пачынаю дзённік. Не адлюстроўваць столькі надзвычайных змен, якія адбываюцца ў нашай грамадскай свядомасці, проста неда-

равальна. Возьмем для прыкладу ўчарашнюю гутарку, з апісання якой я хачу пачаць гэту старонку. Наўрад ці хто-небудзь яшчэ дзесяць год назад мог уявіць цяперашнюю свабоду і шчырасць выказванняў. А зараз яны становяцца нормай нашых асабістых адносін. Але бліжэй да справы.

Ліпеньскі вечар у Пяцігорску. У двары клінікі пад магутнымі дрэвамі арэхаў і клёнаў расселіся па лаўках прабывальнікі спякотных палат. І размова пачынаецца са звычайнага.

— Ну, і спякота! — абмахваючыся газетай, кажа басам таўстун самага лагоднага выгляду.

— І вечар не выратоўвае, — падтрымлівае яго думку худы сусед.

Яны без шапак, у светлых кашулях, у хатніх паласатых штанах са штапелю. Калі б не звычка, яны б скінулі пантофлі і сядзелі б босыя, растапырыўшы змучаныя абуткам пальцы. [...]

## Старонкі з дзённіка

### Пачатак

Несці ў памяці шматгадовы цяжар успамінаў не хапае сіл.

Ад усведамлення безлічы страт сціскае сэрца.

Адным пакутлівым днём і бясконцай ноччу са знясільваючай бяссонніцай здаюцца мне трынаццаць шпітальных гадоў жыцця.

Іх штодзённы змест знік у памяці.

А ён быў. Былі падзеі, сустрэчы, перамогі. І радасць. Было жыццё — пакутлівае, але цікавае ў сваёй непаўторнасці.

Я страціў гэтыя гады. І ці толькі іх?

Не будзем дакараць сябе. Абвінавацім час, акалічнасці і хваробу.

І бяромся за дзённік. Без усякага патвору самому сабе. Без скідак.

Будзем штодзень паўтараць: мо гэтыя радкі — апошнія. А ты марудзіш. І нічога не скажаш: ні сабе, ні людзям. А за цябе — хто скажа?

### Першы ў жыцці ўрок

Трэба адразу прызнаць, што калі я быў вучнем, ненавідзеў школьную граматыку. Помню, ніяк не мог разабрацца ў катэгорыях станаў і трыванняў дзеясловаў. Сэнс самога слова, напрыклад, «трыванне» і яго граматычны сэнс заўсёды ў мяне канфліктавалі. Асабліва гэта датычылася рускай граматыкі. Што гэта за «залог» і чаму ён павінен пакутаваць («страдаць»), для мяне заставалася поўнай загадкай. Не лепш было і з іншымі часцінамі мовы. Мастацкую літаратуру я любіў, добра ведаў, пісаў без памылак, а вучыць усе гэтыя правілы, як яно пішацца і чаму, у мяне не хапала ні часу, ні жадання. Балазе, у той час у школе адна за другой амаль па два разы ў год мяняліся метады і праграмы выкладання, і настаўнікам было не да грунтоўнай праверкі вучнёўскіх ведаў.

Але пасля заканчэння ў 1933 годзе Лепельскага педтэхнікума мне самому давялося ў Дварэцкай няпоўнай сярэдняй школе ўзяцца за выкладанне мовы. Прыйшлося не толькі разбірацца ва ўсёй гэтай, здавалася б, безлічы граматычных правіл і выключэнняў з іх, але і ўпершыню задумацца, а ці нельга такую «нецікавую навуку» як-небудзь ажывіць.

Вось заўтра ў сёмым класе мой першы ўрок. З чаго ж пачаць? Ніякіх метадычных дапаможнікаў у мяне не было; ведаў, вынесеных з сцен тэхнікума, не засталося, апроч самых агульных. Ды і якія веды доўга ўтрымліваюцца ў памяці, калі яны проста завучаны, а не атрыманы табой у час творчай практыкі.

Не, трэба самому, разважаю я, выразна ўявіць што ж вывучае граматыка і з якой мэтай. Як аб'ект, наша мова складаецца са слоў. Нарадзілася дзіцянё, расце, вучыцца хадзіць і запамінае першыя словы, якія дапамагаюць яму арыентавацца ў навакольным асяроддзі. Песціць яго «мама», гушкае да столі «тата», хочацца «піць», прыгожая цацка — «дай». З кожным днём слоўны запас пашыраецца. Нарэшце дзіцянё пачынае словы аб'ядноўваць у кароткія сказы, выказваючы свае жаданні: «Я хачу спаць»; радасць: «Мама, глянь …птушка!» Яно яшчэ не засвоіла ўсяго слова і пазбягае цяжкага збегу зычных гукаў «пт», але і гэта мінецца.

Адчуўшы, што пачатак майго першага ўрока знойдзены, я пагадзіўся з думкай, што далей лепш за ўсё зрабіць такі пераход:

— Такім чынам, з самага маленства мы ў сваёй памяці назапашваем столькі слоў, каб нам хапіла іх сказаць аб усім, што ведаеш і пра што хочаш паведаміць другому.

А зараз давайце разам з вамі як бы нарэжам невялікіх палосак паперы і на кожным кавалку будзем запісваць па адным слове з усіх, што ведаем. Як вы думаеце, мабыць, набярэцца вялізная куча з некалькіх тысяч, а то і дзясяткаў тысяч слоў?

Што ж нам з той кучай рабіць, як разабрацца? Возьмем, прыгледземся да яго. Адны словы: «мама», «дом», «дурань» выклікаюць усмешкі. «Кошка», «кнігі», «каўбасы», — скажу я, — нечым падобны адно да другога. Ці не падкажаце вы, чым?

Вучні, безумоўна, адкажуць.

Будзем далей сартаваць нашу капешку. Аказваецца, ёсць словы: пацяклі, паехалі, хадзіць, піць, слухаць… І яны маюць падабенства…

Так я пазнаёмлю сваіх вучняў з усімі часцінамі мовы і зраблю вывад, што ўсім гэтым запасам слоў і займаецца навука, што завецца граматыкай.

*29. 4. 63*

Калі абстрактнае або іншае мастацтва не здольна каго-небудзь усхваляваць і ўзбагаціць, то яно не мае права называцца мастацтвам. Але калі яно можа ўзбагаціць духоўна ці эмацыянальна хаця б некалькі чалавек, яго неабходнасць не выклікае сумненняў. Спасылка на незразумеласць — падвойная зброя спекуляцыі. Ёй карыстаюцца жулікі ад мастацтва, з аднаго боку, кансерватары і кан'юнктуршчыкі, з другога. Адзіная мэта апошніх — дасягнуць і захаваць асабісты дабрабыт.

Слухаў прамову Мікіты і быў здзіўлены, як гэта масцітыя дарослыя дзядзькі, накшталт пісьменнікаў Паустоўскага, Катаева і іншых, трапіўшы за мяжу, раптам ператвараюцца ў Чырвоных Капялюшыкаў, і іх падманвае злы воўк.

Адна выкладчыца літаратуры заўважыла мне:

— У вашым апавяданні ёсць станоўчы герой, але прозвішча ў яго нейкае дзіўнае.

— Я стараўся паказаць чалавека, а не станоўчага героя.

— Як вы не разумееце? — адказала яна. — Галоўная рыса сацрэалізму — наяўнасць у творы станоўчага героя. Галоўны герой абавязкова павінен быць станоўчым.

— А вы прымаеце наяўнасць у яго адмоўных рысаў?

— Не… Ну, ледзь-ледзь.

— А адмоўныя ўчынкі?

— Нязначныя, нехарактэрныя могуць быць, але няшмат.

— Факты супраць вас.

— Нічога падобнага.

— А ўспомніце Давыдава з «Узнятай цаліны».

— Што вы пра Давыдава кажаце? У яго проста былі памылкі.

— А як вы думаеце, Клім Самгін — галоўны герой эпапеі Горкага?

— Галоўны.

— А ён станоўчы?

— Які ён станоўчы? Што вы мяне блытаеце?

— Значыць, гэта эпапея не адносіцца да твораў сацрэалізму? А там ёсць вобраз Леніна і іншых станоўчых герояў.

— Але яны эпізадычныя. Ці не думаеце вы, што я нічога не разумею? Вам мяне не заблытаць. Я сказала, што для твора сацрэалізму абавязковай з'яўляецца наяўнасць станоўчага героя. Калі не ведаеце гэтага, вазьміце падручнік 10 класа па літаратуры і прачытайце. Там усё сказана!

*1.5.1963*

У маім становішчы прыходзіцца лавіць літаральна кожнага чалавека, каб пагутарыць і, галоўнае — выклікаць яго на спрэчку. Добра весці дзённік, калі адчуваеш інтэлектуальную адзіноту.

Мне хутка пяцьдзясят, не дае жыцця хвароба, скутасць, ззаду — васямнаццаць гадоў хваробы, чатыры — вайны, тры — катаргі, але, на дзіва стала, нават стойка трымаецца адчуванне, што мне не болей за дваццаць. Хочацца быць вясёлым гарэзам (ёсць змрочныя гарэзы) і пісаць творы, напоўненыя гумарам і іроніяй, здзекавацца з нягоднікаў і дурняў, жартаваць і весяліцца ў нечаканай гульні розуму і фантазіі.

*2.5.63*

Я працую так: пасля апавядання, старонкі якога абліты маімі слязьмі, я абавязкова павінен напісаць гумарэску. Іншы раз тое і другое пішу адначасова.

*9.5.63*

Учора з натхненнем працаваў над апавяданнем і скончыў яго позна ўвечары. Паставіў кропку, і сілы пакінулі мяне канчаткова. Неяк даплёўся да ложка, бухнуўся, і нават размаўляць было цяжка. А раніцай сеў перапісваць. У пакоі холадна, замерз, скавала ўсяго. Але зноў ахапіла творчае ўзбуджэнне і не змог адарвацца, пакуль усё не перапрацаваў. Адагрэўся за сняданкам і зваліўся ў ложак. Адпачыў — зноў за рукапіс. Некалькі разоў кожную фразу праверыў на слых. Праверыў яшчэ раз і аддаў Лю[1] друкаваць на машынцы. Яна надрукавала, але пакрыўдзілася. Сёння тройчы наша свята: яе дзень нараджэння, дзень рэгістрацыі нашага шлюбу і Дзень Перамогі. І ўвесь ён прайшоў у такім напружанні! Вось што значыць — быць пісьменнікам і жонкай пісьменніка!

*4 чэрвеня*

У размове з адной асобай, вельмі нервовай, я не стрымаўся і нагаварыў ёй розных непатрэбных слоў. Стала прыкра на самога сябе. І калі, знайшоўшы падыходзячы момант, папрасіў у яе прабачэння, і яна была прыемна здзіўлена, мне стала куды лепш. Нібы я быў забруджаны і памыўся чыстай вадой.

*6 чэрвеня*

Калі ў цябе на Зямлі хоць дзе-небудзь ёсць куточак, які табе здаецца родным, дзе ты хоць нешта зрабіў, каб яго ўпрыгожыць, у цябе заўсёды будзе ў сэрцы светлы агеньчык, які завецца патрыятызмам.

І табе будзе зразумелым пачуццё любові другіх да сваіх куткоў. І толькі праз такое пачуццё сваёй любові прыйдзе да цябе светлае жаданне зрабіць прыгожай для жыцця ўсю Зямлю.

*8 чэрвеня*

Я назіраў за адным чалавекам, калі знаходзіўся ў клініцы. Штодзень яму прыносілі многа ягад, фруктаў, памідораў, гуркоў. Ён не адмаўляўся, браў, а з'есці ўсяго не мог. Дык ён еў, што прападае, так і не паспяваючы дабрацца да свежага.

Вось так бывае з чалавекам і ў грамадскім жыцці. Ён жыве ў віхуры штодзённых падзей, яго закідвае рознымі дробязнымі клопатамі, яны растрачваюць яго час, увагу, сушаць розум, абяскольрваюць пачуцці. У рэшце рэшт, так і не даюць пабачыць, куды ж сапраўды ідзе жыццё і ўзрадвацца яго харастве.

*13 чэрвеня*

Мяне абурае фальш фразы: «Усё роўна памром», якой абараняюць сваё бяссілле перад дрэннымі звычкамі. «Усё роўна памром», — але не ўсё роўна калі і як! Памерці, здзейсніць усё, што ты мог зрабіць добрага і прыгожага ў сваім жыцці ці памерці нікчэмнасцю. У гэтым розніца.

*24.6*

Чалавек без дзённіка — чалавек без біяграфіі. Ён бязлітасна кідае ў забыццё сваё цяперашняе і дрэнна падрыхтаваны да сустрэчы з будучым.

*11.7*

Мне іншы раз кажуць, што хвароба замкнула мяне ў чатырох сценах, і мне не бачна самога жыцця. Я ўсміхаюся сам сабе: яны не здагадваюцца, што мае чатыры сцяны — гэта цэлы сусвет!

*7.9.63*

Учора партбюро прымала мяне ў рады КПСС. Тое, што павінна было адбыцца ў 1936—1937 гадах, стала магчымым праз чвэрць стагоддзя. Усё змянілася ў маім жыцці: абставіны, звычкі, узрост, здароўе. Нязменнымі засталіся перакананні.

*9.9.63*

Любое напружанне мышц майго цела суправаджаецца пачуццём болю і, здаецца, што так было ўсё жыццё. Нават у снах я перастаў бачыць сябе здаровым.

*16.9*

Надрукавалі мае «Зямныя радасці» і «Чэмпіёна». Радасна, што ўсе думкі, шматслойны падтэкст ашчадна захаваны. Дзякуй вам, мае рэдактары!

*26.10*

«Радзіме не здрадзіў, сакрэтаў не выдаў. Няхай жыве Радзіма!» — у апошнім лісце перад самазабойствам напісаў Аляксандр Русанаў — ад'ютант Украінскага штаба партызанскага руху, знаходзячыся ў руках гестапаўскіх катаў. Змучаны шматмесячнымі катаваннямі, 15.9.44 ён памёр героем.

*1.11*

Мне стала лягчэй размаўляць з самім сабой у дзённіку. Пачала знікаць скаванасць, аглядка на мяжу дазволенага і недазволенага. Шмат намаганняў пайшло на аднаўленне звычкі гаварыць сабе і іншым праўду. Дзясяткі гадоў з-за інстынкту самазахавання я глушыў гэту звычку, пакутаваў, але глушыў.

Ілгаць агідна. Трэба было вучыцца маўчаць або выкопваць у патаемным месцы ямку і шаптаць зямлі, што некаторым смяротным Бог даў асліныя вушы.

Дзённік мне бачыцца як споведзь, як справаздача аб зробленым. Ён — экзамен на штодзённа адваяванае права заставацца чалавекам, гэта чэхаўскі дзвярны малаточак.

Пад маім уплывам адзін мой таварыш пачаў весці дзённік, але закінуў.

— Зрываюся. Хочацца напісаць аб тым, што думаеш, а атрымоўваецца нейкае бездапаможнае мыканне. Агідна самому. Ніводная спроба не атрымалася.

Шлях да праўды цяжкі. Але ён адзіна правільны на шляху да той будучыні, якая завецца камунізмам.

*18.11*

Сёння ў мяне шчаслівы дзень. Атрымаў сваю першую кніжку апавяданняў «Не шукаю спакою», і амаль усё перачытаў нанава.

Ідзіце да чытача, мае думкі, жаданні, настроі. Можа, вы зможаце выклікаць радасць, і слёзы замілавання, і абурэння? Не, дзе там! Гэта ўжо занадта. Я буду шчаслівы, калі чытач дачытае ўсё да канца і скажа: «Аўтар, відаць, вялікі аптыміст і любіць жыццё. Не будзем і мы скардзіцца на свае клопаты. Яны не варты таго».

*16.12*

У мяне адчуванне, быццам знаходжуся перад перакрыжаваным допытам мінулага і будучага.

*3.1.64*

Мяне віншуюць тыя, хто некалі не лічыў магчымым паблажліва аднесціся да мяне, пагутарыць са мной. Так і хочацца скурчыць ім дражнячую грымасу і сказаць:

— Вось так!

*27.1*

Мне хочацца сустрэцца з маімі былымі правакатарамі-асведаміцелямі: Магучым Валянцінам, Антановічам Іванам Паўлавічам — настаўнікамі Дварэцкай школы і Балтоўскім з підінстытута. Яны ў 1936 годзе дапамаглі сфабрыкаваць на мяне справу па 58-10. Што б яны зараз гаварылі?

*31.1.64*

Напісаў твор — хутчэй хапай за рукі як мага больш слухачоў, чытай ім і пытай: што не так? Сачы за выразамі іх твараў: абыякавыя, насцярожаныя ці ўзрушаныя? Калі табе пашанцуе на двух-трох чытачоў-прыдзір, можаш лічыць сябе шчаслівым?

*20.2*

Маці над калыскай немаўляці заўсёды паэт. Шчаслівая, яна дзеліцца з ім сваім шчасцем, засмучоная — няшчасцем.

Лепшыя паэмы расказаны і праспяваны свайму Будучаму, а пакуль яшчэ Нікому ў сарамлівай надзеі, што ён стане Усім. Гэты паэтычны аптымізм маці потым ніколі не паўтараецца. Яго засланяе дзіця сваёй, ужо канкрэтнай індывідуальнасцю, якая з кожным днём становіцца больш яркай. Настае час для ўжо рэальных клопатаў — час скіравання стыхійных сіл у пэўнае русла звычак.

*24.2*

Раўнадушша і падатлівасць адчыняюць дарогу фашызму. А пачынаецца ўсё з дробязяў: даслухаў сумны даклад, прамаўчаў не зрабіў заўвагі нахабніку.

*20.4.64*

З Стаўрапаля на Волзе таварыш студэнцкіх гадоў прыслаў ліст. Бачыў пра мяне фільм. З ночы 25 красавіка на 26 1936 года ён нічога не ведаў аб маім лёсе. Аказваецца, гэта ён, Гардон Іона Маркавіч, насіў мне ў НКУС перадачы, а на допыце сказаў, што мой арышт — непаразуменне і ён не сумняваецца ў маёй невінаватасці.

І за гэта яго паўтара года ў інстытуце скланялі на ўсе лады, як «саўдзельніка ворага». Эх, часіна, хай ты будзеш праклятай на векі вякоў!

*24.4*

Учора і сёння было вельмі цёпла, і я некалькі гадзін правёў у падарожжы вакол дома, і мне здалося, што абышоў вакол Зямнога шара. […]

*9.5*

Што мне ў Дзень Перамогі сказаць самому сабе і іншым? На некалькі секунд уявіў, што было б, калі б не было перамогі. Прорва бясконцай цемры мільганула перад вачыма і прымусіла здрыгануцца.

А сёння свеціць сонейка, сіняе неба, і ты адчуваеш, што гэта тваё неба, што табе свеціць сонца. Няхай у нашай краіне іншыя клопаты, турботы, новыя непрыемнасці і радасці, Дзень Перамогі павінен зноў нагадаць аб яшчэ зусім нядаўняй барацьбе за права дыхаць і жыць. Нагадаць для таго, каб усе мы ашчадна і ўдумліва адносіліся да сваёй працы; больш строга і патрабавальна да самога сябе і да іншых, каб наша калектыўная і стваральная праца была асэнсаваным намаганнем перайсці з царства неабходнасці ў царства свабоды.

Дзень нараджэння блізкага табе чалавека. Перад маімі вачыма фота. Дзіцё з лялькай. Гэта яна трыццаць з нечым год назад. У позірку цікаўнасць новага сусвету, які спасцігае сябе. А сёння гэтаму сусвету — маёй Лю — трыццаць дзевяць. Такі «дарослы» ўзрост, што далей некуды. Азірайся назад дый толькі. Але не ў тым шчасце нашага сумеснага побыту, што мы гуляем у дарослацсь, а проста мы імкнёмся быць такімі, якімі нам хочацца быць. Аднаму гэта не пад сілу, а для дваіх: наш кожны новы дзень — падстава для здзіўлення і зачаравання быццём.

Не раз і не два пакрыўджаныя выпадковасцямі лёсу, мы пяць год назад далі адзін другому абяцанне зрабіць нашы жыцці адным цэлым, каб разам перамагаць цяжкасці, няўдачы і паспрабаваць стварыць тую пярвічную ячэйку, якая завецца сям’ёй.

Прайшло пяць год. І сёння здаецца, што мы вярнуліся на пяць год насустрач нашаму юнацтву, і на пяць год адышлі ад сваёй старасці. Вынік — дзесяць гадоў. Нядрэнна!

*22.5*

Прамовы Хрушчова ў Егіпце проста бліскучыя. І Насер[2] няўмольнай логікай развіцця зрушваецца ўлева. Або — або. Асуан[3] — найвялікшая перамога ў нашай барацьбе з капіталізмам. Але яе вынік зразумелы і зараз. А некалькі год назад, калі Насер граміў камуністаў, ён быў для многіх спрэчным.

*15.6*

Ад усведамлення, што ты нічога не робіш, стамляешся больш, чым ад самай напружанай працы.

*24.6*

Паэзія Эдуардаса Межэлайціса[4] такая, што пасля яе прачытання адчуваеш сябе прасветленым чалавекам, творцам. Яна сапраўдная кардыяграма сэрца нашай Савецкай краіны, узлёт яе думкі, раскрыццё пачуццяў, памкненне пераўтваральніка веку і свету. Вось ён — голас паэта-камуніста, і нікому не аспрэчыць яго сталай прыгажосці і ашаламляльнай моцы ў выяўленні шляхоў да чалавечага шчасця.

Няхай жыве паэзія барацьбы, паэзія — стваральнік сапраўднага, скіраванага ў будучыню!

*3 ліпеня*

Паляцеў бы сёння крылатай птушкай на Радзіму. Там святкуюць дваццатую гадавіну вызвалення ад фашызму. Пасумаваў бы над магіламі, сустрэўся б са знаёмымі, парадаваўся б на плён новага жыцця.

Ні пра адзін куток на Зямлі не думай з пагардай. Хай ён будзе самы няздатны да жыцця, а калі там хто-небудзь вырас і паклаў сілы на яго росквіт, тым самым ён прарасціў яго ў сваім сэрцы і зрабіў радзімай.

*21.7*

Даўно не было сноў пра вайну, а сёння прыснілася адступленне і, быццам я ранены і аслабеў, а нехта дапамог дабрацца да бяспечнага месца.

Усведамленне таго, што я не пакінуты, напоўніла мяне светлым пачуццём яднання з маімі таварышамі, і радасць удзячнасці помнілася ўсю ноч, і ў моманты калі прачынаўся, і нават раніцай, калі зусім прачнуўся.

*14.8*

Медсястра рэнтгенкабінета тлумачыць хвораму:

— Мы вам зробім рукі, ногі і грудную клетку, а астатняе вам зусім не трэба.

*18.8*

Дзённік небяспечны тым, што нешта важнае для апавядання запісаў і супакоіўся, а раз супакоіўся, то гэта значнае перастае цябе хваляваць, і ў рэшце рэшт замест творчых пошукаў і знаходак застаецца адзін радок у дзённіку.

Зародак захірэў.

*10 кастрычніка*

Учора, дзякуючы клопатам дырэктара краязнаўчага музея М. К. Паўлава, разам з Лю былі на вечарыне памяці Лермантава ў гарадскім тэатры. Быццам падзішаха ўносілі і выносілі мяне на руках.

Выступалі Андроннікаў, Гамзатаў, Броўка, Жараў, Капуцікян і многія-многія іншыя, аж да Карпа Чорнага. Дзевяць дзясятых з агульнай колькасці сказанага аказалася славеснай лухтой. Урачыста пазяхалі ў прэзідыуме Благой і Антакольскі, Капіева і Гамзатаў. Пазяхалі і ў зале. Красуючыся сабой, чытаў вершы Жараў, («я, як прадаўжальнік паэтычных традыцый Пушкіна і Лермантава…»), па-звычцы весяліў, ведаючы сваю моц, Расул Гамзатаў. Толькі адзінкі (на маю радасць Броўка) выступілі проста і сцісла.

Калі мы ўжо навучымся быць сабой, перастанем гуляць у парадную мішуру, у пустыя слоўныя бразготкі?

А наогул атрымалася невялікае ўзрушэнне, выезд у «вялікасвецкае грамадства». Упершыню з 1935 года, калі ў Мінску быў пленум паэтаў. Амаль трыццаць год назад! […]

*13 кастрычніка, аўторак*

Мне здаецца, што пакрысе пачынаюць заціхаць спрэчкі вакол абстрактнага мастацтва ў жывапісе[5] і скульптуры. Усё большая колькасць савецкіх кансерватараў і цвердалобых прывыкаюць да думкі, што на палатне і ў камені можна захапляцца не толькі адлюстраваннем знешняга свету, але і гармоніяй фарбаў, ліній, формаў, нічым не звязаных з прадметным малюнкам. Як і заўсёды, рана ці позна, новае перамагае, а яго піянеры ўзнагароджваюцца, але, на жаль, праз пэўны час. Часцей за ўсё прызнанне прыходзіць пасмяротна ці занадта позна, і творца не паспявае зведаць усю паўнату радасці… […]

— Я ніколі перад мужам не паказваюся голай, — сказала мне сёння адна дама.

— І не трэба, — пагадзіўся я. — А вось аголенай — так.

— Але тады для мужа я стану прачытанай кнігай.

— Кнігі бываюць розныя. Ёсць недачытаныя, — сказаў я. — А ёсць — колькі ні чытай, заўсёды знаходзіш нешта новае.

— Ах, — усклікнула дама. — Калі б я магла быць такой кнігай! […]

*15 кастрычніка, чацвер*

Атрымаў часопіс «Нёман», дзе надрукаваны мае гумарэскі, і рассмяяўся. У адной з іх выкінулі тэкст, у якім гаворыцца, што ў Кітаі пішуць, абмакваючы пэндзлік у туш. Гэтыя добраахвотныя перастрахоўшчыкі, дай ім толькі падставу, будуць сцвярджаць, што і Кітая не існуе, а яго тэрыторыя — пустыня, у якой жывуць адны скарпіёны.

А вось хлопцы з «Вожыка» больш смелыя. Яны надрукавалі.

*16 кастрычніка, пятніца*

Нечаканасць! Сваю камандную рубку адзінаначальніка пакінуў Хрушчоў. Пайшоў у гісторыю з усімі сваімі добрымі і дрэннымі якасцямі. Ніхто ўжо не будзе паказваць амерыканскім імперыялістам «кузькіну маць». Засталіся ў часовай разгубленасці ўсе, хто, эксплуатуючы традыцыю, мог хаваць сваю высокааплачваемую нікчэмнасць за аўтарытэт цытат. Будзем спадзявацца, што з гэтага моманту часцей прыйдзецца карыстацца довадамі розуму: трэба так і не таму, што Ён сказаў, а таму, што гэта мэтазгодна, а мэтазгодна вось чаму.

Так. Пайшоў нястомны і палкі палітычны дзеяч, які не баяўся крутых паваротаў.

Дзякуй яму за ўсё добрае, што ён зрабіў для нас, і за тое, што спрабаваў, але не мог здзейсніць, а за памылкі і хібы яму даруюць Бог і гісторыя. […]

*18 кастрычніка, нядзеля*

Быў у мяне ў гасцях Броўка Пятрусь. Я сустрэў яго жартам:

— Як шторм гады, а Броўка малады!

— Не, — адказаў ён. — Не той стаў, пастарэў, сівізна, лысіна. Мне ж хутка шэсцьдзясят.

Пагутарылі, успомнілі пра Лепельшчыну, пра дзіцячыя гады. Для магнітафона ён прачытаў свой верш «Круцяцца жорны», і мы развіталіся.

*19 кастрычніка, панядзелак*

Сёння адаслаў Янку Казеку сваю аўтабіяграфію для кнігі «Пра час і пра сябе». Працаваў над ёй ледзь не месяц, і дужа цяжка яна паддавалася. Баяўся фальшывых інтанацый, самарысоўкі. І заміналі яе сціслыя памеры.

Дужа змарыўся, нібы хворым стаў.

*22.X.64, чацвер*

Мой бацька памёр, калі мне было чатыры гады. У вёсцы я лічыўся сіратой, а ў гэтым слове закладзены сэнс двух іншых: безабаронны і няшчасны. Сіраціну, па разуменнях таго часу, кожны мог пакрыўдзіць, абараніць яго некаму.

Аднойчы ў полі я пасвіў авечак разам з дзецьмі, і яны чамусьці ўспомнілі, што я сірата. Яны павалілі мяне на зямлю, паклалі на паясніцу доўгую жардзіну, селі на яе канцы і пачалі гушкацца.

— Яго нават забіць можна, — сказаў больш старэйшы хлопец — і ніхто за гэта адказваць не будзе.

Мне было балюча, здавалася, што вось-вось пераломіцца спіна, але я маўчаў, адно стараўся напружыць апошнія сілы і вытрымаць.

Упершыню ў жыцці я зразумеў, што такое быць у вёсцы сіратой. Маці і бабулі я нічога не сказаў пра сваю крыўду: яны ж нічым не змогуць мне дапамагчы, думаў я.

*25.X.64, нядзеля*

З тых часоў, а гэта было ў юнацтве, калі я з захапленнем прачытаў «Былое і думы» Герцэна, палюбіў мемуарную літаратуру. Пазней да іх далучыліся дзённікі і пісьмы.

Гэта дзівосны жанр, заўсёды хвалюючы, шчыры, праўдзівы, поўны роздумаў, пачуццяў. Ён ніколі не старэе і застаецца для нашчадкаў дакументам эпохі, характарыстыкай асобы, летапісам фактаў. Іншы раз стамляешся ад выдумак мастацкай літаратуры, ды і ніякая мастацкая літаратура, якая залежыць ад сваіх кампазіцыйных законаў, не дае такога мудрагелістага калейдаскопа нейкага асабістага лёсу, авеянага вятрамі ўсіх дарог і перакрыжаванняў.

Вось так, не адрываючыся, прачытаў «Адзін лёс» Вольгі Малчанавай, надрукаваны ў дзявятым нумары «Нового мира».

*26 кастрычніка, панядзелак*

Панядзелак — дзень цяжкі, выдаўся для мяне двойчы радасным. Сёння прыехалі сакратар гаркама Марыя Мікалаеўна Мартыненка і інструктар аддзела Сямён Васільевіч Ткачоў і ўручылі мне білет члена КПСС за нумарам 12655129. Цырымонія адбылася весела і непасрэдна, па-чалавечы. Я ім прачытаў некалькі сваіх гумарэсак і падарыў «Танюшкины рассказы».

Цяпер я камуніст не толькі па перакананнях, але і па дакументах, а галоўнае — па абавязках. Пачэсны і радасны абавязак.

Другая радасць: атрымаў ліст ад Янкі Казекі. Ён ухваліў маю аўтабіяграфію. Змяніў у ёй толькі адно слова: «расціў» на «гадаваў». А я было даў «гадаваў», ды выкінуў з-за збегу «га-га» з папярэднім словам «гады». […]

*27 кастрычніка 1964, аўторак*

У «Голасе Радзімы» падана рэпліка на зборнік вершаў экзыльнага паэта Рыгора Крушыны[6] «Хвіліна роздуму», што выдадзена ў Мюнхене. Прыведзены строфы:

Літара «у», чаму
Стаіш на адной назе,
Падняўшы рукі ўгару?
Воўчым выццём грызе
Восеньскую пару
Доўгае «у-у-у!..»
Сумны, тужлівы гук.
Роспач паднятых рук.
І я далоні ўзніму,
Трымцеючы: «у-у».
Усявышні, чаму
У мове так поўна «у»?
Чуюцца ў словах сум,
Смутак, пакута, глум.
Гулка гудзе струна:
«Скруха, згуба, труна…»

Вось ён — душэўны стан здрадніка, расплата за згубу Радзімы. Сапраўды, больш нічога не застаецца, як выць па-ваўчыным. І талент не дапаможа!

*2 лістапада, панядзелак*

У Вольгі Форш я натрапіў на дзіўную параду: тварыць з нічога. Развівае фантазію і памяць.

Я б дадаў: і дае мастаку пачуццё поўнай свабоды, раскаванасці ў творчым палёце. Адно трэба авалодаць самой тэхнікай палёту.

Хай не абнадзейвае адных і не палохае другіх гэтая парада. Тварыць з нічога можа толькі той, хто ўзбагаціў сваю памяць скарбамі чалавечай культуры, хто сам удзельнічаў у яе стварэнні.



*Сяргей Грахоўскі, Людміла Пракоф'еўна, Вісарыён Гарбук і іншыя на балконе кватэры Гарбукаў у Пяцігорску.*

*4.XI, серада*

Пасля Сталіна, дзякуючы хаця і непаслядоўнаму, але разбуральнаму дынамізму Хрушчова, мы навучыліся перадаваць свае думкі ўслых і кожны з нас займеў уласнае меркаванне.

Трэба ўзняцца яшчэ на адну прыступку вышэй і навучыцца абараняць гэтае меркаванне.

*5 лістапада, чацвер*

Гара з плеч! Прэзідэнтам абраны Джонсан. Два антыподы: ЗША і СССР. А як мы пачалі залежаць адзін ад другога!

Дарагі мой дзённік! З некаторага часу я перастаў пабойвацца цябе, і цяпер ты ператварыўся ў майго сапраўднага сябра.

*7 лістапада, субота*

Наша школа ніяк не можа зразумець, што трэба навучыць дзяцей здабываць веды, а не проста завучваць іх. Бо без умення разважаць і знаходзіць самастойныя рашэнні зараз у творчае жыццё не ўвайсці.

*13 лістапада, пятніца*

Дужа цікава. Устанеш ранкам, падыдзеш да століка з рукапісам, пачнеш чытаць і абавязкова знойдзеш новы паварот думкі, зменіш пабудову сказа, штонебудзь дапішаш. І зусім жа не думаў аб творы за гэты час, а на табе: такія ўдакладненні!

І так кожным ранкам, за кожным разам. Сапраўды, здаецца, што правіць можна бясконца. Але гэта не так. Ёсць і аптымальны варыянт, дзе ўжо любая змена здольна толькі пагоршыць твой тэкст.

*16 лістапада, панядзелак*

Мікалай Канстанцінавіч Рэрых на пытанне, як ён праводзіць час у святы, адказаў: «Працую, бо няма лепшага свята, чым праца».

Для мяне праца заўсёды была святам творчасці, стваральнасці. Але калі яна станавілася механічнай, я адчуваў сябе катаржнікам.

*18 лістапада, серада*

Хто ў дзіцячыя гады жыў у чароўным свеце казак, таму нашмат лягчэй увайсці ў свет Эйнштэйна і сучаснай фізікі. Іх розум не палохае пераход да незвычайнага.

*22 лістапада, нядзеля*

У кватэры другога паверха над столлю нашага пакоя то ўспыхваюць, то заціхаюць гукі няўпэўненых практыкаванняў на піяніна. Грае мая суседка, сямігадовая Наталля. Адчуваецца, што само нараджэнне гука пры кожным баязлівым удары па клавішах успрымаецца дзяўчынкай, як узнікненне нейкага цуда.

І ёй радасна, што гукі яна стварае сама, і што яны, быццам жывыя, люляюць яе, лашчаць, клічуць, нагадваюць то веснавы капеж, то сонечны ранак, то нешта такое, чаго нельга выказаць, не хапае слоў, але так хораша, так соладка! І забываеш усё на свеце, акрамя гэтай мелодыі, быццам ты сама ператварылася ў гэтыя гукі.

Я ляжу на канапе, слухаю Наташу. Мой франтавы боль у суставах паступова заціхае, а сэрца напаўняецца пачуццём шчасця. Мне здаецца, што і я маю нейкае дачыненне да лёсу гэтай дзяўчынкі.

*24 лістапада, аўторак*

Сёння дзень майго нараджэння. 51 год пражыты. А мне здаецца — 20. Не адчуваю цяжару гадоў, сваіх хвароб. Не пакутую на склероз і на стэнакардыю. Іншы раз кажуць: «У вас і маршчын няма!..» «А навошта яны мне?» — адказваю. «Але ж яны самі з’яўляюцца…» «Я ведаю элексір супраць старасці». «Які?» «Усмешку, мёд, алей змяшаць з тварагом, садавіной і сонцам. Ніколі не будзе маршчын…»

*2 снежня, 64*

Што за радасць, што за шчасце — творчае натхненне! Усё атрымоўваецца, а ты палаеш яркім полымем! І на душы па-сонечнаму светла, і ўсё навокал цябе радуе, а па старонках бяжыць пяро, і рука не стамляецца паспяваць за думкамі… Лёгка дыхаецца, сілы ў дзесяць разоў болей, і ты адчуваеш сябе богам на зямлі.

*5 снежня, субота*

[…] Кажуць, Сільва Капуцікян[7] на банкеце па выпадку юбілею Лермантава ў хвіліны натхнення з-за шчодрай даніны Вакху ўскліквала: «Я вакханка! Хто пажадае, той не пашкадуе!..»

І лірыка яе такая ж: палкая, адкрытая, шчырая, яркая… І ў грамадзянскай няма штампа. Радасна сустрэць талент. Добрае знаёмства!

*6 снежня, нядзеля*

Быў у гасцях Васіль Вітка[8], паэт. Ветлівы, стрыманы, з насцярожанасцю. І адчуваецца, што гэтая насцярожанасць не пакідае яго з часу суровай школы, калі ён стараўся быць толькі вінцікам, а яго розум не карыўся, ды быў бездапаможным…

— Дзесяць сваіх лепшых гадоў я аддаў на чорт ведама што! Рэдагаваў «Літаратуру і мастацтва». Дрыжэў над кожным радком. Не дай бог, не ў лад. А ўсе ночы да аднае, да самага ранку дзяжурылі ў рэдакцыі. Усё чакалі, а ці не зазвоніць тэлефон зверху, ды не дасць дырэктыўных указанняў… Не звернеш іх ні для сябе, ні для творчасці. Засушылі сэрца, абяскрылілі думку… Вось зараз на адпачынку ў «Вясёлцы». Працуем утрох — Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі і я. Ціха ўсё, лагодна…

Гэта ён мне сказаў на запытанне: над чым працуе зараз.

Прыехаў у Кіславодск лячыцца. Абяцаў наведаць (яшчэр) яшчэ раз.

*7.XII, панядзелак*

Ранак пачаў з гімнастыкі і прагулкі вакол дома. Настрой дужа добры. Увесь учарашні дзень разышоўся на гасцей, а сёння збіраюся папрацаваць. Ды і надвор'е спрыяе: імжыць. А ў сонечны дзень не засяродзішся, цягне з хаты нібы малога.

*13. XII, нядзеля*

Нейкая вар'яцкая бяглуздзіца, разумовае ўбоства пануе ў нас ў многіх справах. У гэтым годзе раптам «прыціснулі» ўсіх пчаляроў. Хто мае больш як пяць вуллёў — плаці падатак. Мёд — здаваць толькі па цвёрдай цане. І пайшло паўсюднае знішчэнне пасек, а мёд адразу падскочыў у цане. Па хатах пчаляроў швэндаюцца рэвізоры, атрымалі інструкцыі ўлічваць колькасць рамак у кожным вулеі. Поўны разгром. І каму такая палітыка на карысць? У ЗША мёд танней за цукар. А мы з-за дурняў такое багацце губім, сябе абядняем.

Хто ў нас займаецца пчалярствам? Старыя пенсіянеры. Ну і няхай! Наадварот бы, зацікавіць іх, радавацца, што павялічваюць народнае багацце. А мы за капейкамі гонімся, штаты рэвізораў раздзімаем, аплачваем іх і нішчым дабро, працу, добрыя звычкі, ды і саму любоў да працы. Варвары! Але ж нам не прывыкаць. Усе сады ў Саюзе высеклі, агароды амаль знішчылі, цяпер вакол хат пусткі, а ў крамах гніллё, а на рынку цыбуліна — рубель.

*14.XII.64, панядзелак*

Былі ў гасцях Васіль Вітка і крытык Якуб Кірылавіч Усік (Усікаў. — **А. В.**) з Магілёва. Якуб выглядае маладым. Вельмі сціплы, сарамлівы, што дзяўчына.

— Добра, што вы тут жывяце, не бачыце, што ў нас робіцца. У Магілёве пазачынялі ўсе беларускія школы, а выкладанне беларускай літаратуры вядзецца на рускай мове…

Пагутарылі, зрабілі памятныя запісы на магнітафоннай стужцы і пажадалі адзін аднаму дабра і здароўя.

Увесь тыдзень вельмі напружана працаваў, абнаўляю кнігу пра дзяцей, напісаў новага яшчэ столькі.

І пішацца лёгка. «Як з кашá пасыпалася!» — казаў Мікола Хведаровіч[9]. Мусіць таму, што штодзённа вёў дзённік і думка не зленавалася, а рука не дэтрэніравалася.

Піша Мікола, што ў Нічыпара Чарнушэвіча[10] рак лёгкіх, і дні яго злічаны. І ён сам ведае, здагадаўся пра сваю хваробу, але не падае выгляду, бадзёрыцца.

Мужны чалавек Нічыпар! Перажыць дваццаць шэсць гадоў высылкі, знявагі за адну любоў да Радзімы і не спустошыць свайго сэрца, пачуццяў, думак, заставацца да апошніх хвілін жыцця такім чулым да блізкіх людзей…

Святы чалавек, крыштальнай чысціні. На такіх і трымаецца прагрэс.

*16.XII, серада*

Прынеслі з кніжнай крамы тэматычны план выданняў па мастацкай літаратуры на 1965 год, і я заказаў 45 кніг. Менш не мог.

Сярод іх Межэлайціс, Саснора, Ахматава, Слуцкі, Цвятаева, Друніна, Бадлер, Кафка (ура!) і шмат іншых. Толькі б грошы ды час, каб чытаць.

Усё мяне пераконвае пайсці ў літаратуру пра дзяцей і для дзяцей. Тут я адчуваю сябе больш упэўнена і прывольна. Да гэтай бы тэмы ды яшчэ дзве-тры гадзіны працы ў школе. Быў бы жывы матэрыял для назіранняў.

*22.XII.64, аўторак*

Быў мой падшэфны палкоўнік у адстаўцы. Прынёс папраўлены раздзел з аповесці. Па-ранейшаму збіваецца на шлях таннай палітагіткі. […]

Ярка і хвалююча распавядаў пра эпізоды грамадзянскай вайны.

— Пасля штыкавога бою людзі гадзіны дзве-тры не пазнаюць адзін другога. Сядзяць, глядзяць перад сабой невідушчым вар'яцкім позіркам… А потым кідаюцца да цябе: «Ванька, няўжо гэта ты? Значыць, жывы! Сябра ты мой!»

І лётчыкі таксама. Застаецца жывы пасля баявога задання і нічога яму не трэба гадзін пяць-шэсць, акрамя цішыні: ні ежы, ні ста грам, ні музыкі. Толькі цішыні…

— Вось з такой шчырасцю і ўсхваляванасцю і пішыце вашу аповесць, — сказаў я.

*25.XII, пятніца*

Рассылаю навагоднія лісты, а па рэдакцыях газет і радыё апавяданні. Усе ганарарныя зберажэнні скончыліся, а пражыць на 66 рублёў… канешне, можна, калі харчавацца кефірам і бульбай.

177 рублёў пайшлі на куплю сінтэтычнай футры і шапачкі. Пакуль што дарагая ў нас сінтэтыка.

Хемінгуэй напісаў «Стары і мора» з-за грошай, па неабходнасці. Можа, і мяне акрыяе на творчы подзвіг наша фінансавае фіяска. Дай бог! […]

*27.XII, нядзеля*

Неацэннае багацце чалавека — усмешка. Яе найвялікшае дабро і шчасце, яшчэ не дастаткова ацэненае намі самімі.

Дарыць усмешкі спагады, заахвочвання, радасці, дарыць іншым і атрымоўваць узамен.

А ўсмешкі зачаравання, захаплення, любоўнага чакання, сустрэч, расстанняў… Не пералічыць!

Няхай жыве ўсмешка свабоднага чалавека, а не раба і тырана.

*28. XII, панядзелак*

Заўтра прыязжаюць да нас у госці мае стрыечныя сёстры Вера і Надзея[11] са Шкілякоў, вёскі, дзе я нарадзіўся і правёў ранняе дзяцінства.

Сорак гадоў не бачыліся, і зараз чакаеш іх з пачуццём, вызначыць якое не так і лёгка. Быццам сустракаешся з жыхарамі іншай планеты і часу, радуешся, хвалюешся ў чаканні і пераносішся ў тыя гады, дзе засталіся цені і сны.

Дзень прайшоў у перадсвяточнай мітусні, але ўсё ж тры гадзіны я гуляў на вуліцы.

*29.XII, аўторак*

Прыехалі мае родныя госці: стрыечная сястра Вера, дачка Надзеі — Галя і муж Таццяны — Фёдар Ціханавіч Шульга.

Павіталіся пад слёзы радасці, і ўспаміны пасыпаліся як з кашá. Тыя, аб якіх іначай і не ўспомніў бы ніколі.

*30.XII, серада*

Дзіцячая памяць захавала тыя падзеі, якія ўсхвалявалі ў свой час, і міма якіх дарослыя прайшлі з абыякавасцю. Таму нашы ўспаміны ні ў чым не супалі.

Побач з намі жыў сусед Сцяпан з сям'ёй, а памяць захавала толькі яго сабаку Лыску, які, калі ўдарыць яго па хвасце, круціўся, брэшучы на свой хвост. Сцяпан адсек хвост беднаму Лыску, але і гэта не дапамагло.

І так ва ўсім.

Надвор'е — не зіма, а панурая восень: ні дзень, ні ноч — шэрань.

Галі — 26 гадоў. Шчабеча на чысцюткай беларускай мове, аж заслухаешся. Блакітнавокая, з прыгожым бялюткім тварам, ветлівым, цікаўным. Высокая, складная, нібы бярозка ў гушчары.

*1 студзеня 1965, пятніца*

Нечаканая радасць. Мікалай Ігнацьевіч Татур паведамляе, што ў Мінску ўжо ў гэтым годзе перавыдаецца мая «Аллочка-забывалочка» на рускай мове.

Прыемна, што магу даць новую, больш мастацкую рэдакцыю двум апавяданням і, магчыма, напішу яшчэ адно.

Учора ўпершыню за многія гады сустракалі Новы год за сталом з музыкай, жартамі, у шырокім коле родных.

*4 студзеня, панядзелак*

Паехалі мае родныя. Развіталіся са слязамі. Асабліва ўражлівай аказалася Галіна. Заразлівыя гэтыя слёзы. Нават стары збянтэжыўся і адвярнуўся, каб не бачылі яго слабасці.

Радуюся: не тая зараз Беларусь, што засталася ў памяці з далёкага маленства. І мае родныя ўжо іншыя. Асабліва новае пакаленне: камбайнёры, механікі, даяркі, шафёры. У Шкіляках электрычнасць. Транспарт — аўтобусы. Жывуць у дастатку. І хаця мае старэйшыя стрыечныя сёстры засталіся няграматнымі, і іх не пазнаць.

А я нешта думаў!

*17.I.65, аўторак*

Сёння снілася Калыма і падрыхтоўка да майго расстрэлу. Пачуццё безнадзейнасці, недарэчнасці поўнасцю авалодала мною. Нічога не было з сённяшняга жыцця. Памяць сну абрывалася на 1937 годзе. Не было нават страху, звычка перабіла яго.

У гэтым годзе Калыма снілася другі раз. Мае рацыю нечая думка: «Хто хаця б аднойчы пабываў у астрозе, той ніколі не выходзіць з яго». Асабліва гэта тычыцца сноў. […]

*20.I.65, серада*

Сёння дзеці з 2 класа другой СШ з настаўніцай Валянцінай Адамаўнай прыйшлі да мяне ў госці з лялечным тэатрам. Сустрэча атрымалася цікавай. Прачытаў ім апавяданні з кніжкі «У мяне на вакне». На кожнае апавяданне было па дзве-тры ўсмешкі. Гэта ўжо нядрэнна.

Узіраюся ў твары і паводзіны кожнага дзіцяці. Ніводны не падобны на другога. Розныя характары, манера трымацца, гаварыць. Ва ўсіх — сваё.

Эх, каб мне ў школу!

*10 лютага, серада*

Кожны нумар новага «Полымя»[12] разгортваеш з нейкай пяшчотай і чытаеш паволі, радок за радком.

Радуешся трапнаму вобразу, жывому народнаму слову, прыказцы, а то і зусім новаму, не чутаму табой слову, і тут ужо прыкідваеш, што яно значыць.

Плывеш па роднай моўнай стыхіі, узбуджаны, шчаслівы і маладзееш. Маладзееш светлай памяццю дзяцінства і юнацтва, памяццю таго дарагога і незабыўнага, што складае ўсе твае сардэчныя скарбы — скарбы Радзімы.

*12 лютага, 1965 года, пятніца*

Учора і сёння па тэлевізары глядзеў двухсерыйны фільм «Жывыя і мёртвыя» па рамане К. Сіманава.

Фільм глядзіцца з неаслабным інтарэсам ад першага кадра да апошняга і цудоўна перадае ваенны і маральна-псіхалагічны каларыт першых месяцаў вайны. Зроблены са скупой абагульняючай праўдай, да якой у поўнай меры падыходзіць эпітэт мастацкая.

Фільм справядліва вылучаны на атрыманне Ленінскай прэміі. Думаю, ён яе атрымае.

*18.II, чацвер*

Атрымаў апошні, дванаццаты том Збору твораў Якуба Коласа.

*8 сакавіка 1978 г.*

Якой быць кнізе?

Кнігі, бібліятэкі. Гонар чалавечай культуры, яе галоўны духоўны і эмацыянальны скарб.

Зараз мода на кнігі, на асабістыя бібліятэкі. Гэта добра.

І ўсё ж у будучым кнізе ў яе цяперашнім выглядзе прыйдзецца адступіць, як гліняным дашчэчкам.

Груватская, малаэфектыўная як сродак пазнання і камунікатыўнасці.

Апошняя ацэнка яшчэ можа здавацца дзіўнай. Але ўявіць «Вайну і мір» Льва Талстога ў выглядзе галаграфічнага відэафоннага запісу, дзе ўсё, слова ў слова, беражна захавана і ўзбагачана фантастычным набліжэннем да рэальна існуючага духоўнага свету рамана, ужо магчыма.

Кажуць, сённяшнія кіно- і тэлеінтэрпрэтацыі збядняюць кнігі, пазбаўляюць магчымасці засяроджана задумацца над імі, спасцігнуць іх запаветны сэнс, бо навязваюць сваё прачытанне.

У цяперашніх перадачах гэта так, а не інакш. Тэхнічныя магчымасці абмяжоўваюць мэту.

А калі з дапамогай будучых камп’ютараў сінхронна прачытаць і перадаць сусветныя скарбы паэзіі на будучыя, тэхнічна бездакорныя галаграфічныя запісы з музычным суправаджэннем і ў засяроджанні зліцца з імі? Хіба менш будзе ўражанняў, эмацыянальнага суперажывання? Думаю, не.

Параўнайце: убачыць пейзаж з натуры і прачытаць аб ім. Пейзаж у натуры хвалюе. Магія паэтычнага слова чаруе, узрушвае, ашаламляе. А гэтую ж магію можна і ўзмацніць.

І ад такога ўзбагачэння мы ўзбагацімся і будзем здольны на стварэнне яшчэ больш глыбокіх і дасканалых шэдэўраў ва ўсіх дыяпазонах кніжнай культуры.

*27.4.85, суб.*

Новы сшытак, на старонках якога не хочацца пісаць. З-за лінеек. Яны перашкаджаюць мне думаць. А блакнотаў няма ў продажы. Лю не знайшла.

Пішаш, быццам глядзіш не на лінейкі, а на прастору з-за кратаў.

І лінейкі табе падказваюць, куды трэба ісці, а гэта скоўвае…

*1.5.85, серада*

23 жніўня 1941 года па тэлеграфе нарком абароны загадаў за вынас з поля бою 15 параненых з іх вінтоўкамі або ручнымі кулямётамі прадстаўляць да дзяр-

жаўнай узнагароды медалём «За баявыя заслугі» або «За адвагу» кожнага санітара або насільшчыка. За 25 з іх вінтоўкамі і ручнымі кулямётамі — да ордэна Чырвонай Зоркі, 80 — ордэна Леніна. Аб гэтым загадзе прыгадала «Медыцынская газета» ад 24.4.85. № 34.

Санітары і насільшчыкі — ды гэта ж у асноўным былі жанчыны! І ім разам з параненымі трэба было ратаваць іх зброю. Бо нам нават вінтовак не хапала!

3.5.85, птн.

Атрымаў пошту: стандартныя канверты з малюнкамі і фотамантажом.

І раптам сярод іх салдацкі трохвугольнік!

Калоцячыміся рукамі, няўмела, але старанна разгортваю яго. А ў горле спазмы, вочы засцяць слёзы… Ведаю — не, а ўсё роўна здаецца, што гэты трохвугольнік ішоў да мяне сорак з лішкам гадоў, шукаў мяне і знайшоў…

Мілая, спагадлівая Алена Васілевіч! Дзякуй за франтавы падарунак!

*5.5.85, нядзеля*

Паказалі па тэлеку дакументальны фільм пра маршала Жукава. Як і «Стратэгія Перамогі», гэты фільм аб многім невядомым, злободзённы, але ён толькі крыху закрануў трагедыю 1937 года і згубнасць культу Сталіна.

*7.5.85, аўторак*

«На акупіраваных тэрыторыях СССР фашысты знішчылі каля 7 млн. мірных грамадзян і закатавалі 4 млн. ваеннапалонных», — гаворыцца на старонцы 6 «Аргументаў і фактаў» у № 19 ад 7. 5. 85 года ў плакаце-фотамантажы.

«Краіна падчас акупацыі згубіла трэцюю частку нацыянальнага багацця, а Беларусь — больш як палову», — гаворыцца на той жа старонцы ў артыкуле прафесара М. Семірагі «Злачынствы гітлераўцаў». […]

*12.5.85, нядзеля*

Лячыўся ў Жалезнаводску, і пяць раз наведаў мяне беларускі паэт Павел Пруднікаў[13].

Божа літасцівы! Нагутарыліся, наўспаміналіся мы аб усім.

І ці можна было мне (каб ён не расказаў) нават ведаючы, што рабілася, уявіць, якія катаванні перанёс ён у 37-м, калі выбівалі і вымарожвалі ў ледзяным карцары прызнанні ў тым, чаго ён не рабіў, але так і не дабіліся…

— Пішы аб гэтым успаміны, — кажу я.

— А для каго?

— Для сябе, для блізкіх, для будучыні. Каб з такіх, як ты, бралі прыклад, як з герояў! Ніхто ж, акрамя цябе, не напіша…

— А хто надрукуе?

Хай ніхто. Але ж унукі, праўнукі з твае сям'і прачытаюць, іх сябры… І то перад імі ты выканаеш свой доўг, абавязак. […]

Лепш чым успаміны на паперы, запіс магнітафона. Быў бы чалавечы голас з усімі яго інтанацыямі гневу, сарказму…

Які ж маналіт — гэты цудоўны чалавек і паэт Павел Пруднікаў, у якога з 75 гадоў — 20 здзекаў, 30 лекаў!..

*14.5—19.5.85, нядзеля*

Невялікае прастуднае захворванне і адразу адчуваецца стомленасць, якая рэзка пагоршыла разумовую і вобразную працу мозга. Нават на стале не магу навесці элементарны парадак. Не магу пісаць пісьмаў, доўга чытаць.

*20.5.85, пан.*

Памёр авіяканструктар акадэмік Мікулін. На 91-м годзе!

Сорак гадоў жыцця падарыў ён сам сабе пасля катастрафічнага разладу працы свайго сэрца. Стварыў яго нанава. І заклікаў да гэтага іншых.

Няхай доўгія гады яго прыклад натхняе ўсіх!

Загатроўвайцеся! Адважвайцеся на творчае даўгалецце! На фізічнае.

А вось і я ў 17 год перамог гімнастыкай хваробу — туберкулёз лёгкіх і сфарміраваў наступныя 50 гадоў свайго жыцця.

*01.05.85, аўторак*

Шафёр аўтабазы, сябра нашай сям'і, расказаў:

— Сёння рабочыя базы перад абедам пачалі дагаворвацца аб выпіўцы.

— Вы што? — спалохаўся брыгадзір. — Забыліся пра Указ?

— А мы хочам выпіць за Указ аб барацьбе з п'янствам! — адказалі рабочыя. — Падтрымаць гэты Указ.

— Ну, калі падтрымаць, то я не супраць, — адказаў брыгадзір.

І арганізавалі выпіўку.

*26.5.85, суб.*

Перада мной самвыдат: зачытаная машынапісная копія лекцыі Жданава В. Г. — супрацоўніка інстытута аўтаматыкі і электраметрыі Акадэмгарадка каля Новасібірска.

Назва лекцыі «Быць або піць!» Гэты абагульняючы сэнс назвы ашаламляе неабвержнай статыстычнай карцінай бедства, якое ахапіла ўсю краіну і вядзе да пагібелі ў бліжэйшае дзесяцігоддзе.

У нас ужо больш за 40 мільёнаў п'яніц і больш за 30 літраў гарэлкі ў год на кожнага з нас. П'янае вар'яцтва апошняга трыццацігоддзя дало ў 1982 годзе па Саюзе 16 % нарадзіўшыхся ненармальных дзяцей. За апошнія 20 год смяротнасць узрасла на 47 %, а нараджальнасць паменшылася за 25 гадоў на 25 %!

Каля 1,5 млн. смяротных выпадкаў у год звязаны з ужываннем алкаголю. Гэта прыкладна 12 бомбаў Хірасімы…

У 1913 годзе 43 % мужчын не ўжывалі спіртнога, у 1979 — 0,6 %; жанчыны — у 1913 — 90 %, у 1979 — 2,4 %.

Лічбы можна памнажаць.[…]

*28.5.85, аўторак*

З цікавасцю чытаю 3-е выданне «Імгненняў» Юрыя Бондарава. Гэта добра апрацаваныя, аб'яднаныя кампазіцыйна старонкі дзённіка пісьменніка.

Асабліва мяне парадаваў цыкл яго сноў. Я таксама запісваю ўсе адметныя сны — гэтыя шэдэўры творчай імправізацыі, дзе імгненна ствараюцца самыя складаныя сцэны жыцця ў незвычайных абставінах.

*29.5.85, серада*

І адначасова чытаю «Россия, кровью умытая» Арцёма Вясёлага[14], а калі больш дакладна — перачытваю. Тое, што некалі так уражвала…Паспець бы ўсё перачытаць!

Платонаў, Вясёлый, Булгакаў, Зошчанка, Бабель… Як цяжка яны вяртаюцца да чытача! А яшчэ Пільняк, Замяцін, Клычкоў.

Пасля вайны з сабранай дзецьмі-шэфамі бібліятэкі ў шпіталі Ленінграда я прачытаў Збор твораў Замяціна, а ў 43-м Клычкова «Чертухинский балакирь», а нядаўна па «Голасе Амерыкі» натрапіў на чытанне змрочнага рамана-фантазіі «Мы» Замяціна.

*31.5.85, птн.*

Вось, як заўсёды. Лю мяне апранае. Устаю, выходжу са спальні, падыходжу да стала і пачынаю чытаць. Тое, што бліжэй, што пад рукой. Вось «Літаратурка».

«Станаўленне жанру. Аб кнігах Святланы Алексіевіч і не толькі аб іх» Алеся Адамовіча. Артыкул аб нараджэнні новага жанру: дакументальнай аповесці. Пра яго ўдасканальванне, тэматычнае пашырэнне. Пра пашырэнне агортвання балявых кропак народнай памяці. Напрыклад: аголены нерв народнага жыцця вёскі «вяскоўцаў».

А сталінскія рэпрэсіі… Да гэтага часу нясцерпна балючая кропка народнай памяці.

— Мы толькі што пахавалі бацьку, — расказвае жонка журналіста і былога рэдактара газеты «Пяцігорская праўда» Барыса Дзмітрыевіча Сцяпанава. — А ноччу да нас грукаюць. Прыйшлі апрычнікі арыштоўваць бацьку. Ён быў галоўным інжынерам па будаўніцтве пры Пяцігорскім гарвыканкаме. Я іх сустрэла.

— Такі і такі тут? — пытаюцца.

— Не, не тут! — дзёрзка адказваю.

— А дзе ён?

— На могілках!..

— На якіх такіх могілках?

— На звычайных.

І зачыняю перад імі дзверы.

Мне было шаснаццаць гадоў. Я вельмі любіла бацьку. І маму любіла. Але мы селі на ложак, абняліся, плачам і паўтараем адна адной:

— Божа! Якое шчасце, што ён памёр!.. Якое шчасце!

Вось пра гэта «шчасце» таксама каб сабраць ашаламляльныя, ды не — геніяльныя фрагменты трагічнага, якое таксама ахоплівае мільёны і мільёны… Пакуль не позна.

Але гэты народны боль, бачна, ніхто не зможа сабраць. Гэта быццам бы такі боль, якога саромеюцца… […]

А ў адрас творцы гэтых з’яў на ўсесаюзных форумах гучаць бурныя апладысменты.

Па-блюзнерску гучаць. […]

*5.6.85, серада*

Раптам, а мачыма, спакваля, мне стала дрэнна. Слабасць, санлівасць, лёгкае пакалванне сэрца. Пульс — 54, ціск — 130 на 80. Арытмія.

І імгненная стамляемасць успрымання.

А я ўсё цягнуся да газеты, да кнігі.

*6.6.85, чцв.*

Надышла пара імгненна вырашаць, на што траціць кожную секунду часу, адваяваную ў хваробы.

*14.06.85, птн.*

Прынеслі два альбомы рэпрадукцый Глазунова[15] і Шылава[16].

Розных узроўняў і талентаў мастакі, але абодва радуюць.

Вось цэлы дзень то разам з Лю, то паасобку і гартаем іх.

*16.6.85, нядзеля*

Успомнілася: у Разанскім шпіталі інвалідаў у 1948 годзе быў юнак гадоў 19—20 без адной нагі. І ён, не карыстаючыся мыліцамі, прыгаў па доўгім калідоры на адной назе. Прыгаў адчайна, з паказной бравадай. Можа, яму ў гэты час успаміналася дзяцінства, калі падобныя скачкі былі гульнёй у тое, хто далей, хто хутчэй. Можа, па-маладосці яму хацелася пагрэбаваць на сваю згубу такім чынам. Хто ведае…

Але аднойчы, калі я быў ва ўмывальніку, асцярожна ступаючы (яшчэ без мыліц) па слізкіх плітках мокрай падлогі, ён прыскакаў сюды, але паслізнуўся, згубіў раўнавагу і грымнуўся на спіну.

Яму дапамаглі ўстаць, дайсці да палаты… Потым ён узяў мыліцы.

Так досвед бяды прымусіў юнака перакрэсліць успамін аб дзяцінстве і шукаць новыя шляхі пераадолення сваёй інваліднасці.

*20.6.85, чцв.*

Даўжыня года, гадоў, дзесяцігоддзяў. Нават дня, гадзіны, хвіліны. Усё гэта залежыць ад адзінага: дзе ты і што ты.

Памяць сцвярджае: дні вясны і лета ў дзяцінстве былі бясконца доўгімі шчасцем бясконцых адкрыццяў і здзіўленняў.

А потым дні маёй калымскай катаргі здаваліся безнадзейна-бясконцымі пад нацэленымі на цябеduламі вінтовак п’яных операў.

Потым чатыры гады вайны як чатыры дзесяцігоддзі, як бясконцасць.

Пасля іх дзесяцігоддзе матрацнай вайны па клініках і шпіталях, бясконцасць фізічных пакут…

Але ўсяму канец. Я вярнуўся да сябе. Чатыры дзесяцігоддзі вяртання да сябе, а значыць, і да ўсяго, прамільгнулі як чатыры дні.

Наперадзе, лічачы па паскарэнні бегу часу, не бег, а ўзлёт у бездапаможную старасць.

Як з ёй справіцца і адысці пераможцам?

*26.6.85, серада*

Чытаю «Прарабы духу» Андрэя Вазнясенскага. Ён параўнаўча лёгка пераступіў тую рысу прызнання, па-за якой стаў незалежным ад цэнзурных нікчэмнасцяў і пільных чыноўнікаў.

Шчаслівец!

З усіх сучасных паэтаў ён для мяне самы сучасны, самы злабадзённы.

*11.7.85, чцв.*

Пішуць пра Ніку Турбіну[17], што яна, васьмігадовая, з годнасцю каралевы абараняла сваё права паставіць у слове «крапіва» націск на апошні склад. І з дапамогай Даля абараніла яго.

Але ў Нікі, на шчасце, былі рэдактары, з якімі яна размаўляла на роўных, як паэт з паэтам. А я вось не змог сваё «бечь» абараніць. Пакуль не змог. І не толькі «бечь». Каб паспець!

*14.7.85, нядзеля*

Памяць сну вярнула мяне ў 1937 год. Творча невычэрпная памяць!

Мяне арыштавалі. Як палітычна падазронага.

Я ў кабінеце следчага і яго памочніка. Яны складаюць спіс катаванняў, якія мяне чакаюць, калі я не прызнаю сябе вінаватым.

Супраць аднаго катавання я запярэчыў: «Я яго не вытрымаю! Вы што не бачыце, у якім я стане?» «Добра, выкраслі! — акінуўшы мяне позіркам, сказаў памочніку следчы. — Ён, насамрэч, не вытрымае…»

Прачнуўшыся, здзівіўся: мяне, цяперашняга інваліда, сон перанёс у кабінет следчага 1937 года.

Ніводнага з катаванняў, ні з зацверджаных, ні з выкрасленых, прачнуўшыся, я не мог успомніць.

Але ўспомніўся расказ Уладзіміра Клішэвіча, з якім да дня арышту 25 красавіка 1936 года я вучыўся на літфаку Мінскага педінстытута. Потым мы з ім сустрэліся дзесяць год назад, калі ён прыехаў як паэт з Амерыкі лячыцца ў Кіславодск па запрашэнні газеты «Голас Радзімы».

Яго арыштавалі ў 37-м, калі лютавалі катаванні. І ў перапоўненую камеру, дзе ён быў, трапіў старшыня Дзяржынскага райвыканкама. Дзяржынскі раён быў апалячаным раёнам Беларусі. Гэта афішыравалі. А потым, у 37-м, усе палякі трапілі ў чорны спіс і іх арыштоўвалі за «падазрэнне ў здрадзе радзіме».

Старшыню пасадзілі на табурэтку, з сядзення якой тырчэлі вострыя цвікі. Пасля першага катавання ён яшчэ прыйшоў у камеру без дапамогі. Пасля другой пасадкі на табурэт у камеру яго прыцягнулі. Ад яго ўжо ішоў нясцерпны пах распаду. Пасля трэцяга выкліку ён ужо не вярнуўся.

Успомніў гэты расказ Клішэвіча, многае іншае і больш не заснуў.

Толькі пасля світанку запэўніў сябе, што быў арыштаваны да загаду Сталіна катаваць арыштаваных, і ўжо таму шчаслівы, я заснуў.

*17.7.85, серада*

Тэлеспектакль «Тэўе-малочнік» па аповесці Шалома-Алейхема, дзе ў галоўнай ролі выступіў артыст Ульянаў, здзівіў і ўзрадваў многіх. Яўрэйская класіка дзесяцігоддзямі не была прадметам увагі кіно тэатра, тэлебачання. А тут — першая праграма.

І раптам такая цудоўная пастаноўка, ігра. Сацыяльная, бытавая панарама зусім невядомага большасці гледачоў жыцця. Яна пададзена так, што да сям'і Тэўе адчуваеш спачуванне, сімпатыю…

— Гэты спектакль не выпадковы. Ён — прызнак абнаўлення ўсяго нашага грамадства, — казалі мне многія. — Гэта почырк Гарбачова.

Уражана і захоплена спектаклем была і ўся мая сям'я. Асабліва Лю. Мне ж ён нагадаў маё местачковае дзяцінства і юнацтва 1926—29 гадоў, маю дружбу з сем'ямі Грыгорыя Рэлеса[18], Гірша Афроіма Каплана і многімі іншымі. […]

*15.9.85*

Чамусьці прыгадаўся ланцужок успамінаў: Сімферопальскі шпіталь летам 1954 года. Я ляжу разам з хворымі касцёватуберкулёзнікамі пад навесам у садзе, дзе не змаўкае радыё. І раптам упершыню пасля 1933 года чую выкананне рэвалюцыйных песень, а сярод іх «Вихри враждебные» і «Вы жертвою пали».

Гэта было так нечакана, што я расплакаўся.

Суседзі па койцы сказалі аб гэтым медсястрычцы. Тая падышла да мяне і пытаецца: «Што здарылася?» «Песня…песня… «Вы жертвою пали»… Вы чуеце?» — кажу.

Апошняе харавое выкананне песень рэвалюцыйнага падполля я чуў са сцэны Лепельскага народнага дома ў 1933 годзе. Выканаўца — мужчынскі хор так спяваў, што, здавалася, гэта не сцэна, а плошча з паўстаўшымі супраць тыраніі з заклікам далучыцца да паўстаўшых.

Успомнілася раённая газета «Калгасная праўда» ад 1 мая 1933 года, якая выходзіла ў Лепелі. На яе першай старонцы справа ва ўвесь рост быў дадзены партрэт Леніна, злева — Сталіна. Ленін быў аблямаваны слядамі цвікоў ад ботаў… Ленін пад ботам. Каго? Канешне, Сталіна.

Але імправізаванае харавое выкананне песні «Варшавянка» ленінскай рэвалюцыйнай гвардыі я чуў ва Уладзівастоку ў лютым 1937 года ў бараку зняволеных, падрыхтаванах для адпраўкі на Калыму. Сярод іх быў і я, студэнт.

Нечакана сярод чатырохярусных нар пачуўся магутны голас барытона: «Вихри враждебные веют над нами…» Песню падхапіла некалькі соцень галасоў. У перапынку паміж куплетамі пачуўся істэрычны крык: «Мы не маем права пець гэту песню. Мы — трацкісты!» Але ў адказ быў такі магутны ўсплеск песні, што, здавалася, сцены барака павінны разляцецца ў розныя бакі, а мы апынуцца на свабодзе.

Уражаны выбуховай сілай песні, я моўчкі слухаў яе да канца. І адчуваў жывы поступ самой Рэвалюцыі.

Але толькі кончылася песня, як дзверы барака адчыніліся, зайшоў ахоўнік і крыкнуў: «Вы-хо-одзь!»

І ўсе на нарах спехам заварушыліся, збіраючы рэшткі сваіх мізэрных манаткаў, якія не спатрэбіліся крымінальнікам і бандытам.

З тужлівым неўразуменнем выходзіў я з барака. «Чаму такая пакора? Імгненная змена?»

Зараз, здаецца, я магу адказаць на гэтыя пытанні. Але мяне палохае і другая магчымасць: рэакцыя лагернай адміністрацыі, расстрэл спяваючых. Бачна яны, спяваючыя, тады яшчэ не адчувалі гэту магчымасць. І паспяшылі з выхадам.

А магчыма, яны былі ўжо так аглушаны і змардаваны ўсім, што адбывалася навокал, што іх толькі на адну песню і хапіла.

*1.12.85, — нядзеля*

З маёй кнігі «Горад без папугайчыкаў» (ды і з іншых) выключылі апавяданні і тыя месцы, дзе дзіця асуджае дарослага за яго разбэшчанасць, выказвае пратэст супраць яго бессардэчнасці, абыякавасці, заган… Праходзяць толькі апавяданні без канфліктаў.

Дзіцяці адмаўляюць у праве ненавідзець зло ва ўчынках дарослых, у праве выказваць пратэст супраць такога зла.

І гэта злачынства пануе амаль ва ўсіх рэдакцыях, а што яшчэ горш, у думках саміх пісьменнікаў, якія цэнзіруюць і сябе і ўсё навокал.

*10.1.86*

Прачытаў «Пажар» Распуціна. Узрушаны яго выкрываючай яркасцю, якая высвятліла ўвесь тлен і распад нашых сэрцаў і душаў, які спачатку спакваля, а потым у кароткі тэрмін набраў сакрушальную сілу…

Такім талентам самай высокай маральнай сілы самаачышчэння, як Распуцін, трэба спяшацца, каб усё высвятліць. Хто ведае, як доўга мы будзем называць рэчы «сваімі імёнамі».

*26.6.86*

Сёння споўнілася паўстагоддзя, як у ноч з 25 на 26 быў арыштаваны ў студэнцкім інтэрнаце.

Незвычайны юбілей.

Ці шмат шчасліўчыкаў з мільёнаў рэпрэсаваных дачакаліся яго?

«Вы — першы, хто адтуль вярнуўся, — шэптам, азіраючыся, сказала мне ў інстытуце маладая жанчына, калі я ў яе атрымоўваў копію залiковай кніжкі.

*4.5.86*

— Хрыстос уваскрос! — тройчы цалуючы мяне ў губы, усклікнула сёння мая знаёмая, член КПСС, усклікнула з усёй сілай сцвярджэння, што гэта несумненна і тут жа канфідэнцыяльна, не чакаючы майго адказу, дадала шэптам: «Толькі гэта па сакрэце».

*5.5.86, пнд.*

Вось і чарнобыльская трагедыя, да якой, здаецца, мы не былі гатовы. Мы яе ніяк не чакалі.

*13.5.86, аўт.*

У Японіі — 40 млд. актыўнага гандлёвага балансу з ЗША і агульным рынкам. У разгромленай 40 год назад краіне з поўнай адсутнасцю сыравінных рэсурсаў! Чаму ў іх, а не ў нас? Чаму ў іх кожны рабочы за год уносіць не менш як тры рацыяналізатарскія прапановы, якія пры неабходнасці імгненна ўкараняюцца, а не ў нас?

— Для гэтага ў нас не хапіла яшчэ аднаго Леніна, — адказаў мне суразмоўца. […]

*7.7.86, пнд.*

З пісьма Паўлу Пруднікаву.

«Атрымаў твае «Заасцер'е» — цудоўна аформленую кніжачку, у якой адбітак-пераказ цэлага жыцця, ад якога нікуды не дзецца. Адно — успамінаць, адшукваць у ім натхненне на творчую радасць.

…У красавіку гэтага года адзначыў 50-годдзе свайго арышту. Тады яшчэ пры допытах не катавалі. Цяпер думаю: «Якое ж шчасце!.. А каб пазней?..»

Вось яно, адчуванне гістарычнай непазбежнасці, захаванае на ўсё жыццё!

Азначаю і 45-годдзе пачатку Айчыннай, кожны дзень якой паўстае ў памяці катастрафічнай трагічнасцю, падрыхтаванай папярэднімі гадамі тэрору супраць лепшых сыноў, бацькоў, дзядоў свайго народа.

І будучы юбілей 1987 года будзе здвоеным: 1917—87, 1937—87.

Гэтага ўздваення не абмінуць. А мінем — саміх сябе ашукаем і зняважым.

Чытаў «Літаратурку» са справаздачай пра з'езд пісьменнікаў і радаваўся. Няма для нас забароненых тэм, няма асоб, непадуладных крытыцы. Адчуваеш сябе чалавекам з правам тварыць будучыню на поўную сілу.

А гэта ўжо — шчасце!

*25.07.86*

Перачытаў паведамленне «У палітбюро ЦК КПСС» аб Чарнобылі.

Так. Чарнобыльская бяда — вяршыня нашых дасягненняў у бясконцых штурмах, аўралах, ударах, вахтах, суботніках, у бесперапынных марафонах перавыкананняў планаў, датэрміновых здач аб'ектаў, узяцця новых абавязкаў у гонар чаго і каго толькі можна, у бесперапыннай прыдумцы ўсялякіх ініцыятыў зверху, знізу, усё новых і новых формаў, метадаў, лозунгаў, пераможных рэляцый, рапартаў і іншых рэзкіх феерверачных эфектаў. І ўсё гэта, каб прыкрыць сваю кіруючую бязграматнасць і сваяволле ў навуцы, тэхніцы, эканоміцы. Каб схаваць сваю выгоду, нахабнасць і поўнае адсутнічанне маральных пачаткаў.

Ніхто да апошняга часу не даводзіў да галоснасці ніякія аварыі і прычыны іх узнікнення, каб не псаваць агульнай уражваючай карціны пераможнага шэсця на шляху грандыёзных здзяйсненняў эпахальнага значэння.

Як хутка мы ўсе пра гэта скажам: «Так, быль, ды быллём парасло?»

Прывядзі нас да розуму, Чарнобыль!

*31.7.86, чцв.*

Да мяне з Алма-Аты прыляцелі па маёй дамоўленасці з Алжасам Сулейменавым[19] для лячэння сваёй шасцігадовай дачкі Таццяны пісьменнік Голубаў Іван Івановіч з жонкай Маяй Губайдулінай. Ён — яіцкі казак з высланых у Сібір пасля Пугачова, яна — татарка. Жывуць у Алма-Аце.

У дзяўчынкі піелацыстыт. Патрэбен Жалезнаводск. Два дні пайшло на тэлефонныя размовы (кашмарная тэхніка і службовая блытаніна і безадказнасць выматалі мяне).

Іван гадоў 36-ці — выліты казах, таварыскі, адкрыты. Мая — афтальмолаг з НДІ — стрыманая, адчуваецца, што іменна яна — лідар сям'і. Дзячынка выглядае больш дарослай сваіх год, стрыманая. Палёт іх стаміў, а наступны ранак даў нам дзве гадзіны на размовы, на пазнаванне адзін аднаго.

У адзнацы значэння сённяшняга рэзкага павароту нашага жыцця мы аказаліся аднадумцамі. […]

*Гэта апошні запіс у пасляваенным дзённіку. 19 жніўня 1986 года мужнае сэрца настаўніка, салдата і пісьменніка Вісарыёна Гарбука спынілася…*

## Каментарыі

[1] Лю — Людміла Пракоф’еўна, жонка В. С. Гарбука.

[2] Насер Гамаль Абдель (1918—1970) — прэзідэнт Егіпта з 1956 года. Заснавальнік і з 1963 года першы старшыня Арабскага сацыялістычнага саюза. Быў паслядовым прыхільнікам супрацоўніцтва Егіпта з Савецкім Саюзам.

[3] Пасля таго, як Насер нацыяналізаваў Суэцкі канал, каб выкарыстоўваць пошліны з праходзячых судоў для субсідзіравання праекта Верхняй дамбы на рацэ Ніл, Вялікабрытанія, Францыя і Ізраіль справакавалі ваенны канфлікт. У разгар халоднай вайны за краіны трэцяга свету Савецкі Саюз у 1958 годзе прапанаваў Егіпту тэхнічную дапамогу, прычым трэць кошту праекта спісвалася за кошт лаяльнасці рэжыму Насера да Савецкага Саюза. Будаўніцтва пачалося ў 1960 годзе, а закончылася ў 1970. Гэта грандыёзны гідравузел вырашыў праблему паводак, забяспечыў электраэнергіяй паўночныя вобласці Егіпта, але выклікаў шматлікія экалагічныя праблемы.

[4] Межэлайціс Эдуардас (1919 — 1997) — літоўскі паэт, перакладчык, эсэіст. Народны паэт Літвы (1974), Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Узнагароджаны ордэнам Леніна, іншымі ордэнамі, медалямі. Аўтар эпічнай «Брацкай паэмы» (1955), зборніка вершаў «Мой салавей» (1952), «Чужыя камні» (1957), «Сонца ў бурштыне» (1961), «Паўднёвая панарама» (1963) і інш. Шырокую вядомасць яму прынесла кніга вершаў «Чалавек» (1961, Ленінская прэмія, 1962), перакладзеная на многія мовы.

[5] Сам Вісарыён Сцяпанавіч вельмі добра маляваў. У яго фондзе захаваліся партрэты беларускіх, рускіх пісьменнікаў і знаёмых, зробленыя алоўкам і стрыжнем.

[6] Крушына, Рыгор (сапраўднае імя Рыгор Казак, 3.XII.1907—27.III.1979) — беларускі паэт, празаік, крытык. Нарадзіўся ў вёсцы Бязверхавічы пад Слуцкам. Яго першы зборнік вершаў «Паэзія чырвонаармейца» выйшаў у Мінску ў 1931 годзе. У 1935 годзе Крушына скончыў Маскоўскі інстытут кінематаграфістаў. У часе вайны апынуўся ў акупіраваным Мінску, адтуль трапіў у эміграцыю, дзе працягваў сваю творчасць. Працаваў на Радыё Свабода, стаў адным з заснавальнікаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Пры жыцці апублікаваў сем зборнікаў вершаў: «Лебедзь чорная» (1947), «Выбраныя творы» (1957), «Вячорная лірыка» (1963), «Хвіліна роздуму» (1968), «Вясна ўвосень» (1972), «Дарогі» (1974), «Сны і мары» (1975).

[7] Капуцікян, Сільва Барунакаўна (1919—2006) — знакамітая армянская паэтэса, пісьменніца, публіцыст, акадэмік НАНРА, заслужаны дзеяч культуры Армянскай ССР (1970), заслужаны работнік культуры Грузінскай ССР (1980), лаўрэат Сталінскай прэміі (1952).

[8] Вітка Васіль — псеўданім Цімоха Крысько (1911—1996) — беларускага паэта, пісьменніка, драматурга, літаратурнага крытыка, заслужанага дзеяча культуры БССР (1970), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР (1972) за кнігі «Беларуская калыханка», «Казкі», «Чытанка-маляванка».

[9] Хведаровіч Мікола (Мікалай Фёдаравіч Чарнушэвіч) (1904—1981) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў арыштаваны ў 1938 годзе і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Знаходзіўся ў зняволенні ў лагерах на Кольскім паўвостраве. Рэабілітаваны ў 1955 годзе. У 1956 годзе вярнуўся ў Беларусь. З В. Гарбукам сябраваў з 1936 года, некалькі разоў прыязджаў да яго ў Пяцігорск. У фондзе 234 БДАМЛМ захоўваюцца 184 лісты Міколы Хведаровіча да Гарбука.

[10] Чарнушэвіч Нічыпар (таксама Чарнышэвіч Нічыпар), (14.XI.1900—18.02.1967) — беларускі паэт, брат Міколы Хведаровіча. Нарадзіўся ў гарадскім пасёлку Капыль Мінскай вобласці ў сялянскай сям’і. У 1920—1922 гадах служыў у Чырвонай Арміі. У 1928 годзе скончыў гістарычны факультэт БДУ. Вучобу сумяшчаў з працай у газеце «Савецкая Беларусь» (1924—1929). Сябра літаратурнага аб’яднання «Маладняк». Летам 1930 года быў арыштаваны і прыгавораны да пяці гадоў ссылкі ў Вятку. У 1931—1935 гадах — супрацоўнік газеты «Вятская правда» (пазней — «Кировская правда»). У жніўні 1935 года абвінавачванні былі зняты. У 1935—1941 гадах выкладаў гісторыю ў сярэдніх школах Масквы. У кастрычніку 1941 года эвакуіраваўся ў Цюмень, дзе працаваў загадчыкам аддзела рэдакцыі газеты «Тюменская правда». З 1947 года жыў у Мінску. Аўтар зборніка вершаў «Дзіва» (1927), «Нясу надзею» (1962), «Гаворка дум» (1966), «Выбраныя вершы» (1975), п’ес «Шукальнікі вышыні», «Сям’я доктара Чыверса», кінасцэнарыя «Арсенал пачуццяў».

[11] У 1964 годзе ў вёсцы Шкілякі Полацкага раёна жылі стрыечныя сёстры Вісарыёна Сцяпанавіча Кацярына, Вера і Надзея, у суседняй вёсцы Шпакоўшчына жыла стрыечная сястра Таццяна з сям’ёй, у Ташкенце працавала настаўніцай яго стрыечная сястра Ія, а яе маці Наталля Аляксееўна працавала настаўніцай у Чашніках.

[12] Гарбук выпісваў і чытаў практычна ўсе беларускія і рускія літаратурныя газеты і часопісы.

[13] Пруднікаў Павел (14.VII.1911—16.III.2000) — беларускі паэт. Нарадзіўся ў вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Працоўны шлях пачаў у 1930 годзе шахцёрам-металургам у Данбасе. Працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы—Магілёў—Крычаў—Рослаў, а таксама на Магілёўскай шаўковай фабрыцы, на рэспубліканскай кніжнай базе ў Мінску, грузчыкам на чыгуначнай станцыі Мінск-Таварная, супрацоўнікам рэспубліканскага перыядычнага друку, БелТА, Рэспубліканскага радыё і клімавіцкай раённай газеты «Камуна». У 1937 г. скончыў Ленінградскі педагагічны інстытут, а 11.08.1937 г. быў рэпрэсіраваны і пасля 4-х месяцаў зняволення ў ленінградскіх «Крыжах» («Крестах») доўгія гады працаваў у якасці зняволенага на будаўніцтве чыгунак у Бурацкай АССР і Іркуцкай вобласці, на будаўніцтве шыннага завода ў Омску і горна-металургічнага камбіната ў Нарыльску, грузчыкам у рачным порце Енісейска (Краснаярскі край). Пасля вызвалення (1945) працаваў токарам вагоннага дэпо Нарыльскай чыгункі, потым загадчыкам бібліятэкі Нарыльскага горна-металургічнага тэхнікума, настаўнічаў у сярэдніх школах Смаленшчыны (г. Рослаў, Рослаўскі і Ершацкі раёны, 1946—1952). Нейкі час выкладаў мову і літаратуру ў Ашмянскім педвучылішчы. З 1952 па 1968 гг. — выкладчык мовы, літаратуры і гісторыі Слабодскай сярэдняй школы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. У 1968—1971 гг. — старшы рэдактар часопіса «Служба быту Беларусі». Рэабілітаваны ў 1956 г. Першыя вершы ў рэспубліканскім друку апублікаваў у 1930 г. (газета «Піянер Беларусі»). У 1932 г. выйшла першая кніжка вершаў «Песні грузчыкаў») пад псеўданімам Паўлюк Буравей (з Я. Субачам). Выдадзены зборнікі паэзіі «Час майго нараджэння» (1968), «Прысады» (1979), «Мая магістраль» (выбранае, 1981), «Заасцёр'е» (вершы, паэма, 1986), «Познія ягады» (вершы, паэма, 1990). У 1987 г. выйшла кніжка вершаў для дзяцей «Заранка», у 1988 г. — кніга ўспамінаў «Далёкае, але не забытае». Аўтар паэмы «Таймыр» («Полымя», 1988) і аўтабіяграфічнай аповесці «Яжовыя рукавіцы» («Полымя», 1989), а таксама нарысаў, публіцыстычных артыкулаў.

[14] Вясёлый Арцём — псеўданім пісьменніка Мікалая Іванавіча Качкурова (1899—1939), актыўнага ўдзельніка грамадзянскай вайны.

[15] Глазуноў Ілья (нар. 10.III.1930 года ў Ленінградзе) — рэктар Расійскай Акадэміі жывапісу, прафесар, народны мастак СССР, ганаровы сябра Каралеўскіх акадэмій мастацтваў Мадрыда і Барселоны, лаўрэат Дзяржпрэміі Расійскай Федэрацыі.

[16]Шылаў Аляксандр Максавіч (нар. 6 кастрычніка 1943 года ў Маскве) — савецкі і рускі мастак і графік, аўтар партрэтаў, народны мастак СССР (1985). Шыкоўны альбом, пра які згадвае Гарбук (Александр Шилов. Живопись. Графика. Москва, «Изобразительное искусство», 1985) быў надрукаваны ў Японіі фірмай «Топпан».

[17] Турбіна Ніка Георгіеўна (1974—2002) — руская і ўкраінская паэтэса. Вядома сваімі вершамі, якія напісала ў ранні ўзросце. Яе трагічны лёс даказвае, што кветкі, якія расцвітаюць вельмі рана, гінуць ад марозу…

[18] Рэлес Г. Л. — паэт, пісьменнік, школьны сябра Вісарыёна Гарбука. У фондзе 234 БДАМЛМ (в. 2, с. 118) захоўваюцца 42 лісты Рэлеса да Гарбука.

[19] Сулейменаў Алжас (нар. 18.V.1936 года ў Алма-Аце) — паэт, пісьменнік-літаратуразнаўца, народны пісьменнік Казахстана, дыпламат.

***Апрацоўка тэксту, пераклад, прадмова, каментарыі***
***Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Дзённікі друкуюцца ў скарачэнні. Аўтар публікацыі выказвае падзяку БДАМЛМ за прадстаўленыя матэрыялы.***



**Галіна ТЫЧКО**

# У ПОШУКАХ СХАВАНАГА СКАРБУ (вобразны свет паэмы Янкі Купалы «Сон на кургане»)

Сімволіка-алегарычная паэма Янкі Купалы «Сон на кургане», як і большасць твораў сусветнай літаратуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя, мае сінкрэтычны характар. Прыступаючы ў 1910 годзе да яе напісання, паэт меў даволі шырокую абазнанасць як у эстэтычна-філасофскіх пошуках класічнай рамантычнай драмы (творы А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Дж. Байрана і інш.), так і драмы новага часу — «новай драмы» (творы С. Пшыбышэўскага, С. Выспянскага і інш.), пра што ён неаднойчы згадвае ў аўтабіяграфічных нататках. Праблемы, з якімі сутыкнуўся Янка Купала ажыццяўляючы сваю задуму, тлумачыліся ў многім тагачаснай гістарычнай і літаратурнай рэальнасцю. Гістарыясофія Купалы, як і гістарыясофія яго ўлюбёных паэтаў-рамантыкаў, свой інтэлектуальны дынамізм чэрпала з рэвалюцыі. Праніклівы розум мастака, адоранага незвычайнай інтуіцыяй, бачыў, з аднаго боку, няўхільнасць рэвалюцыйнай змены грамадскага ладу, а з другога — катастрафізм, які яна прыносіць з сабой не толькі ў матэрыяльным, але найперш у маральным плане. Яскравым прыкладам гэтага для Купалы сталі падзеі рускай рэвалюцыі 1905 года, якую ён шчыра вітаў, бо яна несла для беларускага народа надзею. Але паэт ведаў і пра цяжкі, крывавы досвед беларускага змагання за незалежнасць (рух філаматаў і філарэтаў, паўстанні 1831, 1863 гадоў), які быў увасоблены ў знакамітых творах польскіх пісьменнікаў, найчасцей прадстаўнікоў рэгіянальнага беларускага накірунку ў польскай літаратуры.

Складанасць сітуацыі, у якой апынуўся Янка Купала, задумаўшы твор пра гістарычныя дзеі і лёс свайго народа і краю, выяўлялася ў двух, цесна паяднаных паміж сабой, планах:

1. Адсутнасць дакладна вызначаных светапоглядна-філасофскіх каранёў ідэі беларускай дзяржаўнасці, якая на працягу апошніх двух стагоддзяў існавала як непадзельная частка агульнапольскай нацыянальнай ідэі.

2. Наяўнасць велізарнага эстэтычна-мастацкага вопыту асэнсавання гістарычных шляхоў роднага краю, што выяўляўся ў чужой польскамоўнай абалонцы, і які ў аднолькавай ступені належаў зараз усім народам былой вялікай літоўска-польскай дзяржавы: палякам, беларусам (ліцвінам), украінцам, літоўцам.

Перад паэтам паўстала задача: з велізарнай гістарычна і эстэтычна з’яднанай спадчыны гэтых народаў выбраць элементы, якія найбольш дапасоўваліся б да гісторыі Беларусі новага часу і да той новай сітуацыі, у якой апынуўся родны край на пачатку XX стагоддзя. Ні палітычная гісторыя тагачаснай Беларусі, ні гісторыя яе новай літаратуры не давалі маладому паэту гатовых вызначаных форм. Драматычную паэму жыцця і лёсу Беларусі ён вымушаны быў ствараць САМ і нанова, хоць і абапіраючыся на той досвед, які быў нажыты беларускім грамадствам раней, але які ў выніку нявызначанай нацыянальнай прыналежнасці, аказаўся незапатрабаваным. Гэты момант Купала падкрэслівае ў першай песні Сама — галоўнага героя паэмы «Сон на кургане»:

Ходзім, блудзім, снуём без прыстанішча,
Адпраўляем старыя малітвы
На забытым самымі курганішчы,
Дзе спяць сведкі нявыйграных бітваў.

Адно ветрам асіны хістаюцца,
Дзе сном слава заснула нязваным,
Ды круччо на пажыву злятаюцца
Судзіць суд над жыццём закаваным [10, с. 219].

Апошняя фраза ўяўляе сабой алюзію на існаванне пастаяннай пагрозы з боку расійскіх шавіністаў і польскіх нацыянал-рэакцыянераў, якія не маглі змірыцца з думкай аб самім існаванні беларускай ідэі. Характэрнаю рысай паэмы «Сон на кургане» з’яўляецца тое, што тут прадстаўлены два светы: рэальны і містычны — створаны на аснове арганічнага паяднання элементаў народнай міфалогіі і культуры з уяўленнямі і сімваламі, запазычанымі з сусветнай мастацкай практыкі. Купалаўская паэма паводле сваёй будовы адпавядае прынцыпам драмы «адкрытай формы», якая карыстаецца тэхнікай зменных пунктаў бачання, фрагментарнымі сцэнамі, створанамі на аснове асацыяцый, якім часта не хапае выразнай прычынна-выніковай сувязі [15].

Твор складаецца з чатырох сцэн, якія аб’яднаны паміж сабой толькі постаццю галоўнага героя, дзеянне ў гэтых частках і ў прасторы, і ў часе — цалкам адвольнае, у значнай меры хаатычнае. Яно ў аднолькавай ступені можа суадносіцца як з мінулым, так і з будучым жыццём героя.

Першы (I) абраз пад назвай «У пушчы» ўтрымлівае ў сабе некалькі фрагментарных карцін і зменных эскізна-пазначаных пунктаў бачання свету і рэчаіснасці. На пачатку — гэта містычны надпрыродны свет русалак, іх успрыняцце свету жывых, а ў тым ліку і Сама. «І не наш, і нічый, — Так сабе чалавек», — робяць яны, бадай, самую дакладную характарыстыку героя, пазначаючы ягонае выключнае прамежкавае становішча ў рэальным жыцці, ягоную «нічыйнасць» — рамантычную непрыналежнасць да свету шэрай зямной будзённасці і ў той жа час да астральнага метафізічнага свету.

Потым ідзе фрагмент, які прадстаўляе галоўнага героя і яго ўласны пункт бачання, — успрыняцце свету і самога сябе ў гэтым свеце. У гэтым абразе ў асноўных рысах вызначаецца канфлікт, характэрны для драмы «адкрытай формы», а менавіта тое, што супраціўнікам героя з’яўляецца не нейкая адна постаць, але свет у цэласнасці ўсіх сваіх паасобных з’яў.

Не слеп я, здаецца,
Здаецца, не п’ян, —
Зноў гэтае месца,
Той самы курган. (...)

Ці кінуў хто ўрокі
У кожны тут кут,
Ці ведзьмы ўнарокі
Мяне водзяць тут [10, с. 204].

Асабліва выразна супрацьстаянне героя і цэлага свету ва ўсёй сукупнасці ягоных праяў выяўляецца ў другім (II) абразе «На замчышчы». Сцэна пошуку Самам скарбу збудавана на аснове больш і менш аддаленых асацыяцый і сімвалаў, якія то паддаюцца, то супраціўляюцца прычынна-выніковаму вытлумачэнню. Зменная рэчаіснасць выяўляецца тут праз успрыняцце Сама, Чорнага, Відмаў і таварышаў Відмаў.

Чорнага даследчыкі цалкам слушна суадносяць з духам цемры шатанам. (Як вядома, у перакладзе з грэчаскай мовы: Mephostophiles — той, хто не любіць святла (дух цемры). Чорны і разам з ім цэлы комплекс разнародных паводле свайго

паходжання і свайго прызначэння сацыяльных, гістарычных і палітычных з’яў супрацьпастаўляюцца ў гэтым абразе Саму.

Сутнасць гэтых з’яў добра вытлумачана М. Арочкам [2, с. 34 — 37], а таксама ў свой час М. Гарэцкім [6, с. 330]. Аднак П. Васючэнка мяркуе, што перакладаць змест паэмы на мову сацыяльных гістарычных выкладаў можна толькі ў тым выпадку, калі не канкрэтызаваць паказанае Купалам сацыяльнае ліха, а падаваць яго абагульняючым экспрэсіўным словам «цямнота». Даследчыка трывожыць алагічнасць паводзін Таварышаў відмаў, якія дапамагаюць відмам зацягваць пятлю на сваёй шыі, і ён тлумачыць гэта шляхам «двух ключавых паняццяў сімвалічнага шэрагу».

«Першае паняцце — ліха — сыходзіць ад Чорнага ды падпарадкоўвае сабе відочныя сферы жыцця. Другое, паняцце — цемра, цямнота — тое ж ліха, але ўжо выпраменена «знутры», з пячорнай свядомасці «таварышаў», якая для нас таксама загадкаю» [5, с. 69].

Аднак, выглядае, што «пячорная свядомасць Таварышаў відмаў» у пэўнай ступені ўласціва і галоўнаму герою, які паводле вызначэння гэтага ж даследчыка «не атам чалавечай масы, а чалавечая адзінка, індывід» [5, с. 71]. Паводле купалаўскага тэксту Таварышы відмаў у аднолькавай ступені з’яўляюцца і таварышамі Сама. Яны па прыродзе сваёй дваістыя і амбівалентныя, як і Сам, які, пагарджаючы людзьмі, тым не менш чакае іхняга прызнання.

*Вось таварыш для хаўруса,*
*Каб не брала больш пакуса,* — кажа 1-е відма, садзячы Таварыша да Сама [10, с. 225]. Падобная сітуацыя адбываецца і з Таварышам 2-га і з Таварышам 3-га відма, якія паводле злоснай іроніі відмаў, павінны стаць Саму «падмогай у працы» [10, с. 226]. Таварышы відмаў, падобна, як і Сам, выступаюць тут як няшчасныя ахвяры самога Чорнага і яго памагатых.

Накіды да твора сведчаць, што напачатку Купала меркаваў адлюстраваць два лагеры: дабра і зла, супрацьпастаўленыя ў выглядзе Чорнага і «светлых» герояў — Світавіда і Славіра. Але падчас працы над творам склалася іншая канцэпцыя. Складаная, абумоўленая не толькі эстэтычнымі, але і часавымі, і геаграфічнымі асаблівасцямі, эвалюцыя рамантычнага героя адбілася ў духоўным вобліку — Сама. З аднаго боку, ён, як Густаў-Конрад з міцкевічаўскіх «Дзядоў», горка расчараваны індывідуаліст, які бачыць у людзях толькі негатыўныя рысы:

Людзі!.. Што людзі? Ці ёсць дзе між іх
Годны адзін хоць у людзі… [10, с. 216]

У сваім крытычным непрыманні той жыццёвай сітуацыі, у якой ён знаходзіцца, Сам гатовы кінуць выклік самому Богу, папракаючы Яго ў незахаванні законаў справядлівасці і праўды на зямлі:

К богу звярнуўся — маўчыць нема бог,
Сцелючы ў пекле прылаўкі [10, с. 216].

Здавалася б, у гэтым выпадку супярэчыць нармальнай логіцы ўпартае жаданне Сама здабыць скарб толькі дзеля таго, што:

Ласкай павее тады ад людзей,
Неба і цэлага свету [10, с. 217].

Але так выглядае, калі зыходзіць з логікі паводзін рамантычнага героя тыпу Фаўста, Манфрэда ці Конрада, кожны з якіх, крытычна ставячыся да натоўпу, тым не менш жадае ашчасліўіць гэты натоўп, беручы на сябе функцыі не толькі найвышэйшага суддзі, але і функцыі стваральніка і рэарганізатара жыцця, ставячы сабе задачу суперніцтва з Найвышэйшым Творцам.

Купалаўскі ж Сам — герой іншага кшталту, ён не богабарацьбіт, ён толькі часцінка той самай недасканалай чалавечай масы, якой захацелася «людзьмі звац-

ца» — стаць нацыяй, вярнуць свой «скарб» — г. зн. усе прыналежныя атрыбуты нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці. Пасіўнасць і маральная недасканаласць супляменнікаў адштурхоўваюць і раздражняюць героя, але без гэтых «пагарджаных век», «глухіх і сляпых» не існуе і яго. Таму так важна для Сама здабыць «скарб», які не толькі верне парушаную гармонію ўзаемаадносін чалавека і грамадства, але і гармонію этнічна-родавых нацыянальных стасункаў.

Паводле прынцыпаў драмы «адкрытай формы» збудаваныя і наступныя — III («На пажарышчы») і IV («У шынкоўні») — абразы купалаўскай драматычнай паэмы. Характэрна, што ўсе яны (за выключэннем першага) самым непасрэдным чынам звязаны з матывам сну, які часта прысутнічае ў творчасці Янкі Купалы («Адвечная песня» (1908), «Што ты спіш?..» (1906), «Там» (1906), «Над сваёй Айчызнай» (1906), «Пойдзем...» (1906), «Сон» (1907), «Забытая карчма» (1907), «А ты, браце, спі!» (1905—1907), «Люлі, люлі, мужычок!» (1905—1907), «Беларушчына» (1908), «Гэй, капайце, далакопы…» (1910) і інш.

Як вядома, сімволіка сну мае вельмі глыбокія карэнні ў сусветнай літаратурнай традыцыі, але асаблівае значэнне яна набывае ў рамантычнай метафізічнай драме А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, З. Красіньскага і іншых пісьменнікаў, мастацкі вопыт якіх Янка Купала творча засвойваў.

У аснове народных вераванняў ляжыць ідэя, што жыццёвая дарога чалавека з'яўляецца перш за ўсё шляхам яго маральнага ўдасканальвання дзеля гарманічнага існавання ў свеце вышэйшым — надпрыродным. Сон, які паводле народных уяўленняў, нагадвае сабой смерць, — гэта падарожжа ў вышэйшы надпрыродны свет. Падчас сну чалавек можа пазнаць сваю будучыню, свой лёс і невядомыя прасторы надзямной рэальнасці... З гэтымі ўяўленнямі супадае і міцкевічаўскае разуменне сну, якое ён выказваў падчас адной са сваіх размоў з А. Ходзькам. Паэзія сну для Міцкевіча была паэзіяй інтуіцыі, што ўзносіла праўду сэрца над праўдай розуму і рабілася найвышэйшай ступенню пазнання ўнутранай праўды чалавека [16, с. 232].

Сваю мастацкую вобразнасць Янка Купала, як і А. Міцкевіч, чэрпаў не толькі з народных фальклорных уяўленняў і вераванняў, але і з літаратурных крыніц. Найбольш яскрава і выразна гэта адлюстроўваецца ў сне Сама. Сон гэты пачынаецца на кургане, навеяны істотамі надпрыроднага свету — русалкамі, і застаецца няскончаным з заканчэннем драмы. Прынамсі, сам аўтар нідзе не пазначае момант абуджэння героя. Праўда, некаторыя даследчыкі схільныя лічыць гэтым момантам вяртанне Сама ў вёску на пажарышча [14, с. 569] альбо «азарэнне Сама ў фінале апошняга абраза» [5, с. 83]. Аднак і першае, і другое меркаванні маюць на ўвазе перш за ўсё не фізічнае, а духоўнае абуджэнне героя, яго, так бы мовіць, духоўнае празарэнне, светапоглядную эвалюцыю. Варта, аднак, прыглядзецца, наколькі гэтыя гіпотэзы адпавядаюць аўтарскай задуме і яе ўвасабленню ў мастацкім тэксце.

Калі пайсці ўслед за сцвярджэннем Юнга, які лічыць, што вобразы ўсіх сноў аднае ночы адносяцца да адной і той жа праблемы з жыцця таго, хто іх сніць, то галоўным пытаннем для Сама і да засынання, і падчас сну з'яўляецца пошук дарогі дадому, што падкрэсліваецца Купалам неаднойчы. Сімволіка вобраза ***дом*** — празрыстая і адназначная: дом — гэта Айчына, Бацькаўшчына. Менавіта з думкай пра дом, з упэўненасцю, што ён, нягледзячы на ніякія перашкоды, вернецца да яго, Сам засынае на замчышчы. У сне вобраз дому выцясняецца вобразам скарбу. Звесткі пра гэты скарб дайшлі да Сама ад продкаў («Дзед мой нябожчык, калі ўміраў, // Так гаварыў мне і тату…» [10, с. 214]. Герой цвёрда пераканы, што існуе не толькі магчымасць, але і неабходнасць здабыць скарб у адпаведную пару. Сам упэўнены, што акурат для яго настаў такі час, бо так, як ён жыў раней, далей жыць нельга.

Паказальны ў гэтым плане ўнутраны маналог Сама на замчышчы, у якім ён спрабуе растлумачыць прычыны, што змусілі яго ўзяцца за пошукі скарбу:

Дома ўжо нельга мне далей так жыць, —
Дом мой магілай халоднай;
Каменем поле сцюдзёным ляжыць,
Плёны змёў вецер халодны.

Марна пад кроквай ржавее каса,
Недзе ўчапіці нарога… [10, с. 216]

Пятро Васючэнка сцвярджае, што «Сам — з абуджаных. Прачнуўся і ўбачыў вакол сябе суцэльныя пакуты, крыўды, прыніжанасць, несправядлівасць». Звяртаючы ўвагу на метафарычнасць мовы героя, даследчык зазначае, што «хіба гэтыя дзве рэчы — каса ды нарог — нагадваюць пра тое, што Сам — вясковец, з тых жа гаротнікаў, што й ягоны папярэднік Мужык з «Адвечнай песні» [5, с. 64]. Што ж, і сапраўды, і сон Сама, і ягоныя паводзіны, і ягоныя маналогі ў гэтым сне цалкам метафарычныя. Гэта значыць, што ўсе паняцці і вобразы тут маюць іншы сэнс, падвойнае значэнне, уласцівае сімвалізму, сувязі з якім купалаўскай драмы сёння не адмаўляе большасць даследчыкаў [ гл. 3], [гл. 4].

З гэтае прычыны «каса» і «нарог», відаць, спатрэбіліся Купалу не дзеля таго, каб падкрэсліць сялянскае паходжанне героя, якое, зрэшты, у дадзеным выпадку не мае істотнага значэння, а зусім у іншых мэтах.

Сімволіка паняццяў «нарог» і «каса» — празрыстая і надзвычай папулярная ў польскай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя, у тым ліку і ў рэгіянальнай літаратуры беларускіх земляў. «Нарог» — як сімвал не толькі сялянскай працы і чалавечай годнасці, але і сімвал самога сялянства — асноўнай кансалідуючай і вызначальнай сілы нацыі, асаблівае значэнне набывае пасля Першай сусветнай вайны, у час, калі Польшча паўставала з векавой няволі. Найбольш выразна гэтая нота, уключна з тэмай «касы» — сімвала збройнага змагання за нацыянальную незалежнасць, гучыць у ідэйных дыскусіях тэарэтыкаў «Маладой Польшчы», а таксама ў знакамітым «Вяселлі» С. Выспянскага [гл. 17].

З новай моцай тэма «нарога» (сялянства) — як вызначальнай палітычнай сілы, што ўратуе Айчыну, узнікае ў жыцці народаў былой Рэчы Паспалітай напрыканцы XIX стагоддзя. Гэтаму спрыялі ў значнай ступені этнаграфічныя даследаванні З. Далэнгі-Хадакоўскага, які на іх аснове ў працы «O Słowiańszczyżnie przed chrześcijaństwem» («Пра славянства ў дахрысціянскі перыяд», 1818) стварыў тэорыю пра дзве культуры славянскага свету: першасную паганскую і чужую ёй па духу культуру Хрысціянства, якая, перамогшы аўтэнтычна-славянскую — паганскую, паспрыяла гістарычнаму паняволенню народаў былой Рэчы Паспалітай.

Водгук гэтай тэорыі прачытваецца ў польскай літаратуры ў драмах С. Выспянскага, у беларускай — у творчасці В. Ластоўскага («Прывід» (1910), «Лабірынты» (1923), спадчыне І. Канчэўскага.

Яшчэ больш вядомай і трывала замацаванай як у мастацкай літаратуры, так і ў народнай свядомасці з'яўляецца знакамітая каса — зброя касцюшкаўскіх касінераў, змагароў за незалежнасць роднага краю. Памяць пра подзвіг касінераў у 1794 годзе захавалася ў польскім, беларускім і ўкраінскім грамадстве да сённяшняга дня. Яна ўвасобілася ў выдатных творах польскамоўнай мастацкай літаратуры (У. Сыракомля, С. Выспянскі), а таксама ў ананімных народных гутарках і песнях XVIII — XIX стст. («Песня беларускіх жаўнераў 1794 года», напрыклад) [1, с. 133 — 134]. І нават, калі мець на ўвазе сучасную беларускую літаратуру, актыўна выкарыстоўваецца і зараз з мэтаю абуджэння патрыятычных настрояў у грамадстве (творы А. Каско, С. Сокалава-Воюша).

Пра тое, што купалаўская «каса» са «Сну на кургане» непасрэдным чынам суадносіцца з сімволікай збройнага змагання за незалежнасць, ускосна сведчаць і многія іншыя творы паэта, і ў прыватнасці знакаміты верш 1921 года «На смерць Сцяпана Булата», дзе гэтая роля касы адлюстравана ў прамым значэнні:

Як сіроты забытымі
Цэп з касой вісяць у пуні,

«Хто ж на ворага іх здыме?!» [11, с. 101] — горка смуткуе аўтар з нагоды заўчаснай смерці барацьбіта за народную долю.

У такім выпадку скаргу Сама аб тым, што «марна пад кроквай ржавее каса, Недзе ўчапіці нарога…», трэба разумець як шкадаванне, што адсутнічаюць варункі збройнай барацьбы за нацыянальнае вызваленне.

Аналізуючы вобраз Сама, даследчыкі падкрэсліваюць больш развітую, у параўнанні з Мужыком з «Адвечнае песні», самасвядомасць героя і называюць яго «моцнай асобай, якая самастойна вырашыла шукаць шчасця — не для сябе асабіста, а для ўсіх абяздоленых» [3, с. 81].

Але ўсё ж, думаецца, няма падстаў рабіць Сама правадыром сялянскае масы і выключнай адзінкай, якая ставіць сабе на мэце перамяніць свет. Сам, таксама як і Мужык, — абагулены вобраз беларуса пачатку XX стагоддзя, які не толькі ўсвядоміў сваю няшчасную долю, але ў адрозненне ад Мужыка пачаў задумвацца над тым, як яе змяніць да лепшага, захацеў «чалавекам звацца». Нездарма ж і першая (на замчышчы), і другая (у шынкоўні) песні Сама спяваюцца ім не ад уласнага імя, а ад імя масы, народа. Першая песня Сама адлюстроўвае крызісныя настроі беларускага грамадства, яго перакананне, што далей так жыць нельга.

Тут гучыць усё тая ж спрадвечная жальба-стогн на беспрасветнае становішча беларуса ў свеце, але разам з тым чуваць і нотка раздражнення («адпраўляем старыя малітвы») гэтай спаконвечнай скаргай на лёс. Ёсць таксама згадка пра больш слаўныя мінулыя часы («забытае самымі курганішча»), якія павінны стаць пэўным урокам для будучыні. Але пакуль што і для Сама, і для іншых яго суродзічаў перспектывы змяніць грамадска-палітычную сітуацыю — вельмі цьмяныя і ілюзорныя. Яны выглядаюць бессэнсоўнымі, як і ранейшыя скаргі на цяжкі лёс і горкую долю. Бо на што ж спадзяецца Сам (і, значыць, тое беларускае грамадства, настроі якога ён выяўляе), чаго ён чакае і хоча, які шлях вызвалення з няволі бачыць? А ўсё той жа рамантычна-ілюзорны, які ўкладваецца ў паняцце «старых малітваў» і звязваецца з прыходам выключнай адзінкі — «падарожнага», што прынясе «добрыя весткі» і «ласкавыя рады», «светач», які ўліе сілы «аслабеўшай старонцы».

Тут Янка Купала вельмі дакладна адлюстраваў згубную для новага часу спадчыну мінулых рамантычных часоў і вялікіх рамантычных пракрокаў, карэнні і вытокі якой ішлі з часоў агульнай беларуска-польскай дзяржаўнасці. Канцэпцыя выключна спрыяльнай сітуацыі, усенароднае чаканне нейкага прарока, геніяльнай постаці, здольнай арганізаваць народную масу і павесці яе на барацьбу за нацыянальную свабоду, была папулярнай на пачатку XX стагоддзя і ў польскім і ва ўкраінскім грамадстве. Яшчэ больш яўна гэтыя марныя надзеі бытавалі ў беларускім грамадстве, што ў немалой ступені было абумоўлена гістарычнымі фактарамі. Славуты аўтар і прапагандыст гэтай канцэпцыі Адам Міцкевіч не толькі паходзіў з гэтых тэрыторый, але ў сваёй асобе яшчэ і выяўляў той спецыфічны тып нацыянальнага характару, які гістарычна склаўся на беларускіх землях.

У ролю выключнай адзінкі, гіпатэтычнага Збаўцы Янка Купала ставіць Сама, які адзін (сам) без нічыёй дапамогі спрабуе вярнуць агульнанародны страчаны скарб — незалежнасць народа і яго свабоду. Але герою супрацьстаіць, з аднаго боку, Чорны, якога можна лічыць увасабленнем расійскага дэспатызму, у межах усеагульнага сусветнага зла, паколькі яго памагатымі выступаюць сем відмаў, у дзейнасці якіх выразна прачытваецца алюзія на канкрэтныя палітычна-сацыяльныя інстытуты імперскай царскай Расіі. А з другога боку, герою супроцьстаіць і той самы народ (Таварышы відмаў), дзеля каго так стараецца Сам. Нездарма ж Купала неаднойчы вуснамі відмаў іранічна называе няшчасных, змучаных і абяздоленых Таварышаў відмаў, якія з петлямі на шыях пакорліва служаць злу, «таварышамі» Сама.

У купалаўскай драматычнай паэме гэты момант яскрава падкрэсліваецца ў трэцім (III) абразе «Пажарышча», дзе саўдзельнікамі дэспатычнай сістэмы зла

(Таварышамі відмаў) выступаюць не толькі аднавяскоўцы Сама, абвінаваціўшы менавіта яго ў сваіх бедах (пажары), але нават самыя блізкія людзі — бацькі і жонка, якія адмаўляюцца развязаць яго і выпусціць на волю.

У гэтай сцэне Купала паказвае ўсю псіхалагічную неадназначнасць узаемаадносін народа і выключнай асобы, што прэтэндуе на ролю яго духоўнага лідара. Непаразуменне, якое ўзнікае паміж імі — гэта віна не толькі народа, які не можа ўцяміць сваёй карысці і выбраць правільную лінію паводзін, стаць на бок свайго прарока, а не на бок сіл зла. Гэта яшчэ і віна самога лідара, які, паставіўшы сябе над натоўпам, не лічыць патрэбным тлумачыць гэтаму натоўпу свае дзеянні. Калі Сам не гаворыць праўду ні вяскоўцам, ні бацькам пра свае пошукі скарбу («Хоць зарэжце — ўсё мне роўна: // На начлезе быў сягоння» [10, с. 245], ці можна абвінавачваць іх у тым, што яны не вераць яго апраўданням і тлумачаць яго паводзіны не інакш, як дзеянні, накіраваныя ім на шкоду. Характэрна, што ў гэтай жа сцэне паэт падае выключную паводле псіхалагічнай дакладнасці рэпліку Бацькі Сама:

Наверх праўда выйсць павінна,
Хоць бы мела ўзяць нам сына [10, с. 249].

З гэтага вынікае важная выснова: народ шляхам падману, прыніжэнняў і матэрыяльнай залежнасці можна звесці да становішча Таварышаў відмаў, змусіўшы яго з пятлёй на шыі служыць сваім прыгнятальнікам, але нельга вытравіць з яго душы здаровага зерня сумленнасці і пачуцця справядлівасці.

Трэці абраз купалаўскай драмы называецца «Пажарышча», але цэнтральнае месца займае ў ім тэма вяселля, якая ў творчасці паэта адыгрывае выключную ролю і мае сваю адметную інтэрпрэтацыю, надзвычай важную для разумення патрыятычных памкненняў Купалы. Як вядома, для польскай рамантычнай традыцыі асацыятыўныя ўяўленні пра Польшчу звязваюцца найперш з жанчынай, дзеля якой трэба ахвяраваць усім і якая ляжыць у магіле, чакаючы свайго абуджэння. Гэтая метафарычная сімволіка вобраза Радзімы да пачатку ХХ стагоддзя перастала адпавядаць новаму пакаленню як этнічных палякаў, так і нашчадкаў тых народаў, якія ў ХІХ ст. змагаліся за свабоду агульнай Радзімы, называючы яе Польшчай, але настойліва падкрэсліваючы сваю рэгіянальную адметнасць.

Варта сказаць, што асаблівасцю ўсёй нашаніўскай літаратуры, у тым ліку і творчасці Янкі Купалы, была асацыятыўная повязь вобраза жанчыны-маці з вобразам роднай зямлі-Беларусі. Сімволіка гэтага вобраза перажыла ў паэта пэўную эвалюцыю, звязаную як з яго светапоглядным пошукамі, так і з развіццём палітычных падзей у тагачасным свеце. Узвышаны вобраз маці-Радзімы ствараецца ў паэме «На куццю» (1911), цалкам прасякнутай неапаганскім духам. Тут Беларусь выступае ў вобліку забытай і нябачнай для свету жывых валадаркі адвечнага замчышча «княжны міласцівай». Яна ў адначассе валодае незямной прыгажосцю і моцай («з зраніц»... «б’е краса… як бліск маланак развуглёных») і тут жа называецца «забранай старaной», «скаванай мучаніцай», пазбаўленай свайго пасаду.

У пэўнай ступені з гэтага твора бярэ пачатак купалаўская інтэрпрэтацыя біблейскага вобраза Мадонны. Характэрна, што Мадонна ў яго творчасці падаецца толькі ў адной са сваіх шматлікіх іпастасяў, а менавіта іпастасі валадаркі свету, ды яшчэ — гаспадыні, як, дарэчы, і перакладаецца з італьянскай мовы само слова мадонна, — гаспадыні дому, сям’і, Бацькаўшчыны.

Акурат жанчыне ў сваіх патрыятычных адраджэнскіх памкненнях Купала адводзіць галоўную стваральніцкую ролю. Так у паэме «Яна і я» (1913) падаецца вобраз Яе, дзе, здаецца, упершыню Купалам вымаўляецца ўслых найгалоўнейшы тэзіс хрысціянства: «Бог ёсць любоў».

Так мілаванне к шчасцю след адчыне,
А мілаванне — над царамі цар, —
І будзеш век маёй ты гаспадыняй,
А я твой вечна буду гаспадар [9, с. 95].

Узвышаная купалаўская стылістыка падкрэслівае, што Яна — гаспадыня не толькі канкрэтнага зямнога дома, вясковай хаты з яе ўстойлівым побытам і спрадвечным ладам жыцця, Яна — і тая ж князёўна, валадарка роднага краю, сама Радзіма — Беларусь, «што ланцугамі мусіла шмат лет званіць» [с. 107], крыўды якой патрабуюць адплаты.

Пэўныя светапоглядныя зрухі ў канцэпцыі адраджэння Бацькаўшчыны праяўляюцца ў вобразах жанчын з дому Зяблікаў («Раскіданае гняздо», 1913). Тут паэт разглядае два мажлівыя паводле хрысціянства шляхі ўратавання роднага краю. Так, Марыля ўвасабляе традыцыйную евангелічную мудрасць і пакорлівасць лёсу — пасіўнае чаканне лепшае долі. Зоська, у адрозненне ад адкрыта бунтарных, непакорлівых Гарыславы і Бандароўны, прапануе іншы шлях — шлях актыўнай хрысціянскай любові і міласэрнасці, шлях даравання крыўд і паяднання з тым, каго называюць ворагам.

Вобраз роднай зямлі ў купалаўскай творчасці арганічна паяднаны і з яшчэ адным хрысціянскім матывам — Маладой, што чакае прыходу жаніха. У хрысціянстве Маладая — гэта сімвал царквы, якая жыве чаканнем другога прыйсця жаніха — Хрыста. У Купалы ж Маладая — гэта Беларусь, а Жаніх — тыя вызвольныя сілы, што прынясуць ёй доўгачаканую незалежнасць, зробяць яе сапраўднай гаспадыняй свайго лёсу і свайго дому.

Купала, увасобіўшы Беларусь у вобліку евангельскай Маладой, асноўны націск робіць на моманце яе сустрэчы з Жаніхом, якая, паводле хрысціянскай прытчы, называецца вяселлем. Упершыню ў сваёй біблейска-сімвалічнай іпастасі з выразнай праекцыяй на лёс Беларусі тэма вяселля якраз і з'яўляецца ў «Сне на кургане». Падобнай інтэрпрэтацыі тэмы радзімы ні ў беларускай, ні ў польскамоўнай адраджэнскай традыцыі яшчэ не было. Існуе адна асаблівасць адлюстравання вяселля ў творах Янкі Купалы — яно амаль заўсёды няскончанае. Яшчэ адна асаблівасць — яго дваістасць, наяўнасць у адным і тым жа творы сапраўднага вяселля і побач іншага гратэскна-парадыйнага. Так адбываецца ў драматычнай паэме «Сон на кургане», дзе сапраўднае вяселле, распачаўшыся шчасліва, вяртаецца ў разбуранае стыхіяй гняздо, а на змену яму прыходзіць другое — фальшыва-парадыйнае, вяселле Вар'яткі і прыдуркаватага Падростка, якія прысвойваюць сабе атрыбуты і сімвалы (вянок, хвастач) сапраўдных маладых і сапраўднага вяселля. (Праз два гады, у 1913 годзе, у камедыі «Паўлінка» Купала зноў вернецца да тэмы двух вяселляў).

А зараз звернемся да рэальных падзей таго часу. Для станаўлення беларускага нацыянальнага руху, гэтак жа як і нацыянальных рухаў іншых паняволеных народаў Расіі, руская рэвалюцыя 1905 года мела агромністае значэнне. У выніку яе царскі ўрад мусіў пайсці на ўступкі ў сацыяльнай, культурнай і асветнай галінах. 30 ліпеня 1905 г. быў абвешчаны маніфест аб рэлігійнай вольнасці і грамадзянскіх свабодах, з якога, паводле меркавання навукоўцаў, «беларусы найбольш скарысталі» [12, с. 142].

Маецца на ўвазе і легальны беларускі друк, і актывізацыя дзейнасці грамадскіх рухаў і палітычных партый, што пачалі адкрыта ставіць пытанне пра нацыянальнае самавызначэнне Беларусі. Так, другі з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады ўжо на пачатку 1906 года пастанавіў, што Беларусь павінна быць аўтаномнай рэспублікай. Усё гэта давала падставы спадзявацца, што Бацькаўшчына ўрэшце зможа вызваліцца з векавой няволі, альбо, кажучы сімволіка-алегарычнымі словамі Купалы, Маладая (Беларусь), дачакаўшыся свайго Жаніха (нацыянальна-вызваленчых сіл), зможа справіць сваё вяселле (стаць незалежнай). На жаль, неўзабаве высветлілася, што спадзяванні гэтыя аказаліся марнымі. Амаль адразу пасля задушэння рэвалюцыі пачынаецца актыўны наступ шавіністычных імперскіх колаў на малады беларускі нацыянальны рух. Прынцыпы новай расійскай палітыкі на Беларусі выразна акрэсліў тагачасны старшыня Савета Міністраў Расіі П. Сталыпін, які ў сваіх прамовах у Дзяржаўнай Думе 7 мая 1910 і 27

красавіка 1911 гадоў заявіў наступнае: «Мэта наша — паставіць крэст стагодняй племянной палітычнай барацьбе, якая тут вядзецца, і абараніць тут уладарным і рашучым словам расійскія дзяржаўныя асновы. (...) Заходні край ёсць і будзе краем рускім назаўсёды, навекі» [13, с. 306—307].

Ажыццяўленне гэтай палітыкі выявілася ў дзяржаўнай падтрымцы і актывізацыі «западно-русского» руху на беларускіх землях, у разнастайных адміністрацыйных бар'ерах, што ставіліся перад усялякім праяўленнем беларускай нацыянальнай адметнасці. Так, паводле сведчанняў аднаго з сучаснікаў Купалы, «міністэрскі загад забараніў ужыванне беларускае мовы на неафіцыйных мерапрыемствах, а салдатам было забаронена атрымоўваць лісты з дому на роднай мове. Вучняў, якія гаварылі на матчынай мове, выключалі са школы» [8, с. 79].

Такім чынам, часовая дэмакратызацыя расійскай палітычнай сістэмы, што падтрымлівала надзеі на спрыяльнае вырашэнне беларускага нацыянальнага пытання, аказалася ні больш, ні менш, як фарсам, жорсткім і цынічным падманам шматвяковых спадзяванняў беларускага народа. Таму і ў купалаўскай драматычнай паэме ўзнікае тэма другога, падманнага вяселля, якое выклікае ў чытача і смех, і слёзы адначасова.

Менавіта такое прачытанне матыву вяселля ў «Сне на кургане» пацвярджаюць пазнейшыя творы Янкі Купалы, дзе выразна захоўваецца і празрыста прачытваецца сімволіка паняццяў «маладая» (Беларусь) і вяселле (нацыянальная незалежнасць). Гэта паэма «Безназоўнае» (1924), дзе адбываецца паяднанне двух блізказначных вобразаў — сімвалаў маладой і гаспадыні, і дзе матыў вяселля гучыць як падагульненне ідэальных мар і спадзяванняў паэта:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села, —
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела.

Сядзіць важна сама
Сабе гаспадыня… [9, с. 113]

Далей паводле тэксту высвятляецца, што яна не толькі гаспадыня сама сабе і гаспадыня гучнай бяседы, але яшчэ і маладая.

Вобраз маладой, якая сімвалізуе Беларусь, трактуецца ў творчасці Купалы даволі шырока, але заўсёды адназначна. Калі ў «Сне на кургане» ён яшчэ цьмяна-асацыятыўны, то ў паэме «Безназоўнае» ўжо канкрэтны і выразны. Такая ж празрыстая сімволіка гучыць і ў вершы «Маладая ачуняла» (1926). Гэты твор напісаны ў форме народнай гутаркі пра хваробу маладой: маладая занядужала, чакаючы прыезду жаніха, і рупныя суседзі пачалі шыць ёй кашулю на смерць і рыхтавацца да памінак… Падтэкст добра выяўляе тонкая аўтарская іронія, з якой падаюцца дэталі гэтае «падрыхтоўкі рупных суседзяў», што «ў ахвоту аж да поту, // Узяліся за работу», каб «Маладая ў гэтым склепе, // Свету больш не турбавала, // Ціха-ціха ў доле спала», і глыбокае расчараванне іх, бо «маладая ўсё йшчэ жыва», у той час, калі:

Ужо грабар — сусед замежны —
Дол ёй выкапаў належны! [11, с. 149]

Трагічныя палітычныя падзеі беларускай нацыянальнай гісторыі 20-х гадоў, якія складаюць падтэкст твора, сталіся прычынай яго фактычнай забароны. Больш за паўстагоддзе: з 1932 па 1997 год, гэты верш не ўключаўся ў перавыданні купалаўскіх твораў.

Аднак вернемся да драматычнай паэмы «Сон на кургане». Пасля пажару дзеянне пераносіцца ў шынкоўню, традыцыйнае для рэгіянальнай польскамоў-

най літаратуры месца агульнанародных сустрэч, не толькі дзеля адпачынку, але і для абмеркавання набалелых праблем — месца своеасаблівага народнага веча. Сімволіка-палітычным зместам прасякнута і сцэна побыту купалаўскага Сама ў шынкоўні. Тэма чацвёртага (IV) заключнага абраза — усё тая ж: Беларусь, яе лёс і яе шляхі да вызвалення. Але тут на першы план выносіцца матыў беларускага патрыятызму: радзіма, Беларусь і адносіны да яе яе народа, яе дзяцей, беларускіх сыноў.

Сцэна прадстаўляе ў пэўным сэнсе сацыяльны зрэз тагачаснага грамадства, людзей розных сацыяльных пластоў, рознай долі, якіх у адрозненне ад ранейшых рамантычных наведнікаў карчмы, не яднае ніякая супольная ідэя, апроч наракання на цяжкі лёс і холад, апроч жадання адмежавацца ад рэальнасці.

У канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў беларуская нацыянальная ідэя зарадзілася ў свядомасці нацыянальнай інтэлігенцыі, і ў выніку разбежнасці ўяўленняў пра далейшыя гістарычныя шляхі свайго краю (аўтаномнасць у складзе Расіі, вяртанне ў склад Польшчы, нацыянальная самастойнасць) не магла выконваць кансалідуючую ролю. Гэтая нацыянальна-палітычная нявызначанасць адбілася і ў стасунку людзей да Бацькаўшчыны. У грамадстве з’явіўся сіндром, кажучы словамі Купалы, так званых «беларускіх сыноў» — людзей, якія з розных меркаванняў, гатовы былі адмовіцца ад сваёй нацыянальнай прыналежнасці, выракчыся Бацькаўшчыны. Такім чынам, бескампрамісна-безаглядны патрыятызм колішніх літоўска-польскіх (беларускіх) патрыётаў у XX стагоддзі набыў сваю процілеглую крайнасць, такое ж бескампрамісна-безаглянае адрачэнне ад родных каранёў. У купалаўскай драматычнай паэме гэтая нацыянальная праблема пазначана ў вобразе сына Сама — Стражніка, які гаворыць у творы толькі адну-адзіную, але затое вызначальную (бо рускамоўную!) фразу: «Моя мамаша».

Праблема нацыянальнага вырачэнства хвалявала Купалу заўсёды, што выявілася ў яго творах розных гадоў: вершах «Над калыскай» (1906), «Забраны край» (1912), «Беларускія сыны» (1919), драме «Тутэйшыя» (1922) і інш. Але не менш хвалявала паэта і праблема нацыянальнага прарока, правадыра, які мог бы стаць на чале нацыянальна-вызваленчага руху. Многія даследчыкі на гэтую ролю прызначаюць Сама, які «вярнуўся, надзелены немалым духоўным досведам, вярнуўся з думкай пра Бацькаўшчыну» [5, с. 83]. Паводле нашага меркавання, гэтаму супярэчыць публіцыстычны маналог Сама ў апошнім IV абразе — яго песня пра лірніка Лазара. Істотнае значэнне для разумення купалаўскай пазіцыі маюць тыя радкі, дзе герой выказвае сваё разуменне шляхоў будучага вызвалення роднага краю:

А калі ж к нам рыцар важны
Прыплыве Дунаем з княжнай?
Нас падыме, заахвоціць
К лепшай славе і рабоце? [ 10, с. 270]

«Важны рыцар» і Дунай, якія двойчы згадваюцца ў апошнім абразе, маюць пад сабой гістарычную падаснову. Гаворка тут, відаць, ідзе пра легендарнага ўкраінскага лірніка і прарока Вернігору, які ў XIX стагоддзі карыстаўся велізарнай папулярнасцю на тэрыторыях былога ВКЛ і Польшчы. Ён прарочыў адбудову Польшчы пасля падзелаў і нямолі ў ранейшых гістарычных межах да 1772 года, еднасць усіх народаў, што ўваходзілі ў склад ВКЛ і Кароны. Прароцтвы Вернігоры выкарыстоўвалі польскія палітыкі, і ў першую чаргу І. Лялевель, які апублікаваў гэтую гістарычную легенду. Купалаўская згадка пра «рыцара важнага» магла мець дзве крыніцы паходжання: літаратурную (драма С. Выспянскага «Вяселле», якой паэт захапляўся), і грамадскую, бо ідэя яднання ўсіх народаў у межах агульнай польскай дзяржавы і адпаведна гістарычная легенда пра Вернігору былі яшчэ актуальнымі для беларускага грамадства на пачатку XX стагоддзя.

Сам — абагулены партрэт беларуса на мяжы двух стагоддзяў, калі, з аднаго боку, яшчэ жывыя традыцыі агульнага беларуска-польскага змагання за незалежнасць і супольную айчыну — маці-Польшчу, а з другога — усё больш актывізуецца беларуская ідэя, мара пра самастойную беларускую дзяржаўнасць (схаваны скарб, які можна і трэба здабыць). У гэтых умовах асаблівае значэнне набывала ідэя яднання беларускага грамадства, адмаўленне як ад старых ( надзея на аднаўленне Польшчы), так і новых (аўтаномія ў складзе Расіі) палітычных ілюзій. Заключная сцэна драматычнай паэмы выразна падкрэслівае гэты момант. У той час, калі прадстаўнік пакалення бацькоў Сам спадзяецца на вяртанне былога (з'яўленне дунайскага важнага рыцара), а прадстаўнік новага пакалення (сын Сама Стражнік) прымае прарасійскую арыентацыю, іх агульная айчына Беларусь застаецца забытай і пакінутай. Яна гіне на іх вачах, як гіне пад вокнамі шынкоўні жонка Сама і маці Стражніка.

Такім чынам, купалаўская драматычная паэма «Сон на кургане», адлюстроўваючы складаную грамадска-палітычную сітуацыю на Беларусі напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя, у сімвалічных вобразах і сцэнах сцвярджала ідэю палітычнай актывізацыі ўсіх пластоў тагачаснага грамадства і адначасова ідэю нацыянальнага яднання — палітычную патрэбу стварэння ўласнай самастойнай дзяржавы, незалежнай як ад Польшчы, так і ад Расіі.

## Спіс літаратуры

1. Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. / Мінск: Маст. літ., 1993—1995. — Т. 1 Уклад. А. Мальдзіс і інш.; Рэд і аўтар прадм. Н. Гілевіч. — 1993. — 622 с.

2. Арочка М. М. Беларуская савецкая паэма. — Мінск: Навука і тэхніка, 1979. — 336 с.

3. Багдановіч І. Э. Янка Купала і рамантызм. — Мінск: Навука і тэхніка, 1989. — 220 с.

4. Васючэнка П. Славянскі сімвалізм: нацыянальна-адметнае і агульнае./ Даклад на XII Міжнародным з'ездзе славістаў. — Мінск: Мінскі дзярж. лінгвістычны ўн-т, 1998. — 18 с.

5. Васючэнка П. Драматургічная спадчына Янкі Купалы. Вопыт сучаснага прачытання. — Мінск: Навука і тэхніка, 1994. — 173 с.

6. Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 479 с.

7. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя.: У 4 т. Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т літ. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — Т. 1: 1901—1920 / Рэд.: І. Я. Навуменка, В. А. Каваленка. — 1999. — 583 с.

8. Запруднік Янка. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. / Рэд.: У. Арлоў. Пер. з англ. М. Раманоўскага. — Мінск: Беларускі Фонд Сораса: ВЦ «Бацькаўшчына», 1996. — 326 с.

9. Купала Янка. Збор твораў: У 7 т. / Акад. навук Беларусі. Ін-т літ. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972 — 1976. — Т. 4. Вершы, пераклады 1918—1942. — 974. — 592 с.

10. Купала Янка. Паэмы. Драматычныя творы. / Уклад. А. А. Сляпцовай. — Мінск: Маст. літ., 1989. — 494 с.

11. Купала Янка. Поўны збор твораў: У 9 т. / Акад. навук Беларусі. Ін-т літ. — Мінск: Маст. літ., 1995. — Т. 4. Вершы, пераклады 1915—1929. — 1997. — 446 с.

12. Найдзюк Язэп, Касяк Іван. Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 399 с.

13. Цьвікевіч А. «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 350 с.

14. Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

15. Klotz Y. Geschlossene und offene Form im Drama. — Munchen, 1960. — 280 s.

16. Mickiewicz A. Dzieła wszyszkie. Wydanie sejmowe. T. XVI. Rozmowy z Adamem Mickiewiczam. Zebrał i opracował T. Pigoń. — Warszawa: Polska Akademia Nauk, 1955. — 227 s.

17. Wyspiański S. Dramaty. Wstępem opatrzył Jan Zygmunt Jakubowski. — Kraków: Wydawnictwo literackie, 1970. — 450 s.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 4 верасня 2014 года.

## Рэзюмэ

**Галіна ТЫЧКО**

### У пошуках схаванага скарбу (вобразны свет паэмы Янкі Купалы «Сон на кургане»)

У артыкуле даецца новая інтэрпрэтацыя вобразнай сістэмы і праблематыкі паэмы Янкі Купалы «Сон на кургане» з улікам гістарычнай адметнасці станаўлення новай беларускай літаратуры і ў кантэксце сацыяльна-культурных і палітычных працэсаў пачатку XX стагоддзя.

## Summary

**Halina TYCHKO**

### In search of a hidden treasure (imaginative world of Yanka Kupala’s poem «Dream on a Mound»)

The article gives a new interpretation of the imaginative system and the problematics of Yanka Kupala’s poem «Dream on a Mound» taking into account the historical characteristics of the new Belarusian literature formation, as wellas the context of socio-cultural and political processes of the early 20 century.



# ЭКСТРЭМАЛЬНА НЕБЯСПЕЧНЫ ЗАНЯТАК

## Дзіцячая літаратура: стан, перспектывы

***Пытанне аб ролі літаратуры ў жыцці дзяцей і юнацтва актуалізавалася не сёння. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя беларускія адраджэнцы засведчылі, што адукацыя падрастаючага пакалення ўваходзіць у сферу першачарговых задач літаратараў. Дастаткова згадаць адно толькі публіцыстычныя артыкулы Алаізы Пашкевіч (Цёткі) «Як нам вучыцца» (1906), «Да вясковай моладзі беларускай» (1914), «Шануйце роднае слова!» (1914), «Аб душы маладзёжы» (1914), «Да дзяўчатак» (1914) і інш., дзе навідавоку пільная ўвага да моладзі. І гэтая ўвага, зразумела, не была выпадковай. Як бы пафасна ні гучала, але менавіта ад дзяцей заўсёды залежыць будучыня — будучыня айчыннай культуры і навукі, будучыя грамадскія ідэалы і маральныя каштоўнасці, па вялікім рахунку — лёс нацыі.***

***З таго часу прайшло сто год з таго часу. Натуральна, наша жыццё моцна змянілася, дзеці змяніліся. Інтэнсіўнае развіццё інфармацыйных тэхналогій, найноўшыя мультымедыйныя сродкі склалі беспрэцэдэнтную канкурэнцыю друкаваным выданням. Сёння нярэдкія выпадкі, калі першакласнікі альбо нават дашкольнікі, яшчэ не засвоіўшыя канчаткова алфавіт, па-заліхвацку «рэжуцца» ў камп'ютарныя гульні і ўвогуле нязмушана пачуваюцца ў інтэрнэт-прасторы. А вось кніжная культура ў святле дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу паступова пачынае ўспрымацца як штосьці архаічнае. Жыццё чалавека імкліва ператвараецца ў прастору віртуальнай камунікацыі, правілы якой не залежаць ад нацыянальнай культуры і традыцыі. Узнікае парадаксальная супярэчнасць. З аднаго боку, сучасныя сродкі камунікацыі і камп'ютарныя тэхналогіі пашыраюць магчымасці моладзі для азнаямлення з інфармацыяй самага рознага кшталту. З другога — стымулююць бессістэмна, не дыферэнцыруючы па ступені важнасці, назапашваць другасныя веды, якія перашкаджаюць паўнавартаснаму засваенню ведаў аксіялагічных, базавых. Ужо нават ёсць падставы гаварыць пра ўзнікненне новага сацыяльнага тыпу асобы — асобы сеціўнай супольнасці са спецыфічнымі маральнымі і псіхалагічнымі якасцямі. Роля кніжнай культуры — мастацкай літаратуры, друкаванага слова — у гэтых умовах робіцца надзвычай актуальнай, хаця і набывае характар пэўнай элітарнасці.***

***Працэс азнаямлення з літаратурнымі творамі з'яўляецца адначасова працэсам засваення маральных норм, грамадскіх каштоўнасцей, стылю паводзін, увасобленых у сюжэтах і вобразах. Мастацкі тэкст няўхільна мадэлюе ў свядомасці чытача псіхалагічныя ўстаноўкі, якія ў пэўнай ступені каардынуюць яго зносіны з соцыумам. Інакш кажучы, мастацкая літаратура з'яўляецца эфектыўным сродкам сацыялізацыі асобы. Менавіта надзвычайнай важнасцю сацыяльнай ролі мастацкай літаратуры ў жыцці юнага пакалення абумоўлены яе статус як школьнай дысцып-***

***ліны. Літаратура «прыняла на сябе ролю вядучага прадмета ў агульнай сістэме інтэлектуальнага і маральнага фарміравання школьнікаў, абуджэнні і развіцці іх самасвядомасці, здольнасцей, імкнення да самавыхавання. Яе вывучэнне разглядаецца як сродак фарміравання і гарманічнага развіцця асобы. Паколькі літаратура — гэта мастацтва слова, то, несумненна, вобразнасць — аснова яе мовы, таму сіла літаратурнага твора заключаецца ў стварэнні мастацкай карціны свету, уздзеянні на чытача вобразаў літаратурных герояў, якія робяцца для многіх прыкладам паводзін альбо, наадварот, антыгероямі. Адпаведна, у адрозненне ад іншых светапоглядных дысцыплін, літаратура заўжды была магутным сродкам сацыялізацыі»[1].***

***Інакш кажучы, сярод усіх функцый, якія літаратура выконвала «традыцыйна» (развівала інтэлект, пашырала эрудыцыю, выхоўвала маральна, узбагачала духоўна), асаблівую важнасць сёння набывае функцыя сацыялізацыі асобы, сацыяльнай адаптацыі дзіцяці. А гэта значыць, што пісьменнікі, якія адрасуюць свой творчы плён юнаму пакаленню, апынуліся ў вельмі няпростай сітуацыі. Перад мастакамі слова паўстала неабходнасць пошуку арыгінальных сюжэтных ідэй і кампазіцыйнага афармлення твораў, новых выяўленчых прыёмаў і спосабаў эмацыйнага ўздзеяння на чытачоў, нават адмысловых сродкаў «дыпламатычнага» пісьма і спецыфічнай «мастацкай тактоўнасці».***

***Несумненна, літаратурныя творы насамрэч здольны адыгрываць ролю ў сацыялізацыі асобы — здольны «вобразна вытлумачваць» дзецям і падлеткам сутнасць некаторых жыццёвых з'яў, папярэджваць аб небяспечных сітуацыях, здольны ў пэўнай ступені засцерагаць ад памылак. Але апошнім часам у сусветнай літаратуры з'явіліся вельмі неадназначныя мастацкія ўзоры. Напрыклад, аповесць нямецкай пісьменніцы Беатэ Тэрэзы Ханікі «Скажы, Чырвоная Шапачка», адрасаваная дванаццацігадовым падлеткам. (Між іншым, гэта кніга была вельмі высока ацэнена крытыкамі Германіі і Аўстрыі, уганаравана некалькімі літаратурнымі прэміямі, у тым ліку намінавалася на Нямецкую дзіцячую літаратурную прэмію.) Галоўная гераіня твора — трынаццацігадовая дзяўчынка Мальвіна, якую гвалціць яе ўласны дзед. На працягу некалькіх год гвалціць (упершыню «гэта» здарылася, калі дзяўчынка адзначыла «свой сёмы дзень народзінаў»). Пры тым, усё адбываецца з маўклівай згоды сям'і: і бацькі, і бабуля, і старэйшыя брат з сястрой разумеюць, што дзед робіць з маленькай Мальвінай. Але ў кожнага ёсць свая прычына, каб не звяртаць увагі на тое, што адбываецца.***

***Відавочна, пісьменніца кіравалася высакародным памкненнем засцерагчы дзяцей ад падобных выпадкаў, давесці ім, што ў такіх сітуацыях нельга маўчаць, нельга баяцца і саромецца, трэба неадкладна з кімсьці дзяліцца сваім болем, трэба тэрмінова шукаць паратунку. Але не кажа, дзе і ў каго прасіць дапамогі, не дае рэальных парад. Наадварот, сюжэт нібыта дэманструе безвыходнасць сітуацыі — дзяўчынка сто разоў пракручвае ў думках, як і што сказаць родным, каб яе, нарэшце, пачулі, абаранілі. «Ён цалуе мяне — кажу я і адчуваю, як яны ад мяне адхінаюцца. Яны не хочуць чуць, што я кажу, а каб пачулі, трэба выказвацца дакладней, нашмат дакладней. Недастаткова проста сказаць, што ён цалуе мяне, гэтага мала, мала, мала. Трэба сказаць, што ён кладзе рукі мне на грудзі і засоўвае язык мне ў рот, і робіць такое, пра што я нават думаць не магу…» Але ніхто не хоча яе чуць.***

***Ці правамерна ў дзіцячых творах адлюстроўваць падобныя з'явы? Калі правамерна, то якім чынам варта выбудоўваць дыялог з чытачом? Якія фун-***

---

[1] Касьянюк, Т. Н. Социокультурный потенциал литературы в процессе модернизации общего образования [Электронный ресурс] / Т. Н. Касьянюк. — Рэжым доступу: http://www.dissercat.com/content/sotsiokulturnyi-potentsial-literatury-v-protsesse-modernizatsii-obshchego-obrazovaniya — Дата доступу: 14.10.2014.

***кцыі абавязана выконваць мастацкая літаратура ў жыцці юнай асобы сёння? Якімі якасцямі павінны валодаць мастацкія творы, каб прывабіць увагу юнага чытача? На якія ўзоры варта арыентавацца сучасным пісьменнікам? Як бачна, пытанні аб ролі прыгожага пісьменства ў жыцці дзяцей і юнацтва набылі сёння новую актуальнасць.***

***Паразважаць аб стане сучаснай беларускай літаратуры для юных чытачоў (аб яе набытках і перспектывах, функцыях і патэнцыяльных магчымасцях), падзяліцца ўласнымі гісторыямі «пра адносіны з кнігай» рэдакцыя прапанавала філолагам, сярод якіх — прадстаўнікі розных навуковых статусаў, розных узростаў і, натуральна, рознага жыццёвага досведу. Безумоўна, адна часопісная публікацыя не здольна кардынальна паўплываць на агульную сітуацыю. Аднак вядома, што кожны напамін пра наяўнасць пэўнай праблемы (асабістае меркаванне, гаворка, дыскусія) — гэта гіпатэтычны крок на шляху да яе вырашэння. Калі ўжо нават білборды на дарогах сёння выкарыстоўваюцца з мэтай актуалізацыі праблем сучаснай культуры — прапагандуюць нацыянальную мову, рэкламуюць кнігі, апелююць да патрыятычных пачуццяў, то, думаецца, гутарка ў літаратурна-мастацкім часопісе абавязкова будзе мець свой плён.***

***Лада АЛЕЙНІК,***
***кандыдат філалагічных навук, дацэнт.***

**Людміла СІНЬКОВА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

## Што будзе пасля *World of Tanks*?

Пачну з маленькай гісторыі: яна пра тое, што ў рэальным жыцці ў кожнага дзіцяці і падлетка па-свойму складваюцца стасункі з беларускай кнігай, з чытаннем, і ўсё тут залежыць ад зусім канкрэтных сітуацый, а найперш — ад зусім канкрэтных людзей.

Пяцікласніцай я была ў тыя брэжнеўскія часы, калі абавязкова-піянерскае жыццё нармальнага, а тым больш самаўпэўненага сталічнага дзіцяці па-за сям'ёй віравала ў безумоўнай дыстанцыяванасці ад беларушчыны (якая ўспрымалася як нейкая канстанта, звыклая, але малаактуальная; яна адтуль, з вёскі, дзе жывуць бабуля з дзедам). І павінна было здарыцца нешта незвычайнае, каб вельмі сацыялізаваны школьнік з тых 1970-х сфакусаваў сваю ўвагу на выключнасці, надзвычайнасці, звышмоцы менавіта беларускай кнігі, беларускага слова. Каб у дзіцячай свядомасці ўзнікла сама гэтая апазіцыя: «тэкст беларускі / іншакультурны», прычым з перавагай беларускага — замест гіпнатычна, сугестыўна, татальна транслюемага ў дзіцячую галаву і душу практыкай кожнага будзённага савецкага дня пераканання: «як бы там ні было, але беларускае — усё ж не такое культурнае, як іншае».

Аднойчы настаўніца беларускай літаратуры загадала вывучыць патрыятычны верш на памяць — любога аўтара па выбары. Бацька мне даў кніжку «Мая Іліяда» Караткевіча з вершам «Беларуская песня». Я яго вывучыла, выразна, як выдатніца, расказала. І гэтая настаўніца пакінула мяне пасля ўрока: яна чула «Беларускую песню» першы раз. І яна, уладная і дарослая, прасіла, ледзь не пяць разоў запар, прасіла мяне расказваць гэты верш, і ўсё ўздыхала: як прыгожа!, і ніяк не магла адпусціць мяне. Так да мяне, што называецца, дайшло: усё ж «Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа…» — гэта не зусім тое, пра што мы бясконца спявалі ў школьным хоры: «То березка, то рябина, куст ракиты над рекой…», «Гляжу в озера синие, в полях ромашки рву…», «Я люблю тебя, Рос-

сия, дорогая моя Русь…» Што Беларусь — гэта штосьці для нашага чалавека выключнае.

Можа, таму мне так прыемна было нядаўна прачытаць «Гульню ў Альбарутэнію» («Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію») Людмілы Рублеўскай: твор, між іншым, і пра тое, што яшчэ і сёння не ад самага нараджэння беларуская моладзь разумее, што такое для яе Беларусь.

А цяпер — пра абстракцыі.

Сёння дзеці і падлеткі страчваюць увагу да мастацкай літаратуры, да друкаваных выданняў па адной асноўнай прычыне: таму што мы жывём у новую эпоху. Гэта эпоха масавай літаратуры, масавай культуры. І гэта значыць, што магутная плынь інфармацыі проста абрынулася на галовы познесавецкага і паслясавецкага чалавека. Таго чалавека, якога бясконца доўга трымалі на жорсткай цэнзурнай дыеце, а ў нечым — і на галодным пайку.

Сёння наш чалавек — у тым ліку і дзіця, і падлетак, і юнак — няўмольна, няўхільна ператвараўся ў спажыўца: незалежна ад таго, падабаецца камусьці такі статус ці не падабаецца, усведамляем мы сябе спажыўцамі або не. І шалёнымі тэмпамі пачаўся захоп гэтага спажыўца, бо ўсё мае эканамічную падаплёку, эканамічны інтарэс, рынкавы механізм.

Мы мусім браць менавіта эканоміку за пункт адліку, бо гэта аб’ектыўна: змяніўся сацыяльна-палітычны і эканамічны універсум — і не маглі не змяніцца «правілы гульні» ў культуры, і сама яна не магла застацца нязменнай.

Я часта цытую адну фразу Васіля Быкава, сказаную ім дастаткова даўно; суразмоўца запытаўся ў яго пра асабісты архіў, пра клопаты аб рукапісах, пра тое, каб яны захаваліся. «Пра што клапаціцца, божа мой…», — адказаў на гэтае запытанне В. Быкаў. «Мы не разумеем адной рэчы — гэтая культура скончылася. […] Таму ўсе ранейшыя звычкі, у літаратуразнаўстве ацэнкі, падыходы — усё гэта засталося ў мінулым. Цяпер, у гэтым стагоддзі, усё будзе іншае. І ў гэтым іншым для ранейшага няма месца» (датуецца чэрвенем 2002 г.). І яшчэ, крыху пазней, Быкаў паўтарыў прыблізна тое ж, але вобразна-яскрава: «…мне шкада культуры — і расейскай, і беларускай, маёй культуры. І мне шкада еўрапейскай культуры, старэнькай, спарахнелай, але ўсё ж выдатнай культуры, якая не вытрымае націску глабалізацыі. *І здасца на міласць маскульту*» (сказана ў лютым 2003 г. Вылучана мною. — **Л. С.**).

Здавалася б, змрочна. Аднак жа нават сам Васіль Быкаў аніяк і аніколі не здаваўся «на міласць маскульту»! Ён заўсёды быў, ёсць і будзе культурнай элітай, класікай. Без якой, як ноч без дня, не існуе і не-эліта, не-класіка.

Гэтаксама ў літаратуры для дзяцей і падлеткаў былі, ёсць і будуць выдатныя творы: Коласа і Бядулі, Дубоўкі і Танка, Маўра і Лынькова, Караткевіча і Барадуліна, Віткі і Васілевіч… І калі Рублеўская і Ягоўдзік, Федарэнка і Наварыч, Казлоў і Сцяпан, Гапееў і Бадак, Мінскевіч і Паўлухін, Вера Жыбуль і Лупасін, пішучы для дзяцей, юнацтва, моладзі, будуць і надалей так разумець свае мастацкія задачы, як іх разумелі нашы старэйшыя, то і мы не здамося таму маскульту. Мне падабаецца, дарэчы, як у часопісе «Маладосць» рамантычнымі малюнкамі Аксаны Ючкавіч ды іншых, мабыць, прафесійных мастакоў, расквечваюцца нават самыя першыя спробы пяра па-беларуску: менавіта чытаючы беларускамоўныя тэксты (а не пераклады, etc.), прыгадваеш малюнкі Сент-Экзюперы ў тэксце «Маленькага прынца», бо ёсць асаблівая крохкасць, безабароннасць, тая ж экзістэнцыйная нота ў парастках беларускамоўнай творчасці. (Не сакрэт жа, што моўны парог сёння, у параўнанні хоць бы з 1970-мі, для дзіцяці без беларускамоўных дзядоў і бабуль на вёсцы, без беларускага садка і школы застрашальна вырас: мая малая пляменніца прызналася, што без штохвілінных пытанняў да маці або без слоўніка пад рукою яна не можа чытаць беларускую кніжку.) Таксама вельмі сімпатычную, камертонна-дакладную інтанацыю знайшоў Віктар Лупасін у сваіх зваротах да маладосцеўскіх аўтараў-«уюнашаў» (словы М. Лынькова): з парадамі, як пісаць, напрыклад, прозу…

Усё ж дзяржаўнасць наша — гэта рэальнасць, найважнейшы гарант для таго, хто прыходзіць у белы свет з элітарнай місіяй, з усведамленнем свайго таленту і гатоўнасцю не прадаць яго ў базарны дзень за капейку.

Але лагічна задумацца: чаму кожнае сучаснае беларускае дзіця ведае масу інфармацыі пра Мікі Маўса, Барбі, Тамагочы і Пакемонаў, у той час як тэхнічна гэтае дзіця магло б «загрузіць» у свой айфон не іх (не толькі іх), а, напрыклад, — з абсалютна той самай лёгкасцю і хуткасцю! — выявы, скажам, нашага Янука, рыцара Мятлушкі, Віртуальнага Зубраняці, Хохліка, Маленькага Анёлка, Цмока, з якім Янка ваяваў? (Усё гэта персанажы аднайменных п'ес-казак для дзяцей Л. Рублеўскай, І. Сідарука, С. Кавалёва, В. Маслюка.)

Адказ просты: сёння паняцце «тэкст» саступіла паняццю «дыскурс». Тэкст, як і любы аб'ект, адразу ж, сінхронна ўспрымаецца ў цэлым арэоле дадатковай інфармацыі пра яго. І сучаснае дзіця, якое расце на перакрыжаванні вельмі інтэнсіўных інфармацыйных патокаў, успрымае любую фігурку (ці то з яскравага малюнка на кніжнай старонцы, ці то з мініяцюрнага дысплея — з любога носьбіта інфармацыі) ва ўсёй той шматмернасці, пра якую паклапаціліся дарослыя. Для фігурак-персанажаў адразу ж мадэлюецца цэлы сусвет. Прычым на памежжы віртуальнага з самым што ні на ёсць рэальным: цацкамі, лагатыпамі на рэчах, інтэрактыўнымі гульнямі, паўнаметражнымі фільмамі, мультфільмамі, рэкламнымі ролікамі і г. д. У выніку дзіця бачыць сімвал, але адразу ж уяўляе цэлы сусвет. Таму што гэтыя казачныя вымярэнні, запоўненыя сімулякрамі па максімуме, прапануюцца да паслуг дзіцяці-спажыўца зусім па-дарослаunion вынаходліва, прафесійна і актыўна, каб не сказаць — агрэсіўна. Такім чынам, калі спрадвеку фантазія чытача, яго эмацыйная і інтэлектуальная рэакцыя на твор была толькі яго асабістай, персанальнай справай, прадвызначанай яго здольнасцямі, кругаглядам, псіхафізікай, то сёння многае яму падносіцца гатовенькім на спадачку: толькі спажывай, радуйся, шукай сваё кола супольнікаў, дзе ўсе вы будзеце аднолькава разумныя і адметныя ад усіх тых астатніх, хто не далучаны да вашых сусветаў… Ясна, што мы ізноў выходзім на тэму фінансавых магутнасцей, якія забясечваюць багатым эканомікам экспансію ў планетарным маштабе.

Аднак жа на гэтым эканамічным плацдарме вельмі шмат значыць ідэя, канцэпцыя і вельмі дорага каштуе інтэлект — прычым інтэлект дэміурга, які ясна ўсведамляе свае мэты і задачы.

Беларусь сваім інтэлектуальным рэсурсам славіцца спрадвеку. А вось ясным усведамленнем задач, перадусім выразным самаўсведамленнем — не славіцца нават у такой ступені, якая нам даступная ўжо ў сучасных умовах.

Таму зусім не дзіўна чытаць у Сеціве: «Белорусская онлайн-игра World of Tanks, первый многопользовательский 3D-боевик на Flash, признана лучшей на Golden Joystick Awards 2013; Белорусская онлайн-игра World of Tanks удостоена “оскара” гейм-индустрии»…

Максім Багдановіч жа таксама не мог не пісаць па-руску (бо мы ведаем абставіны яго жыцця). Але акрамя рукапіснага зборнічка «Зеленя» Максім Багдановіч стварыў свой неўміручы, дэміургічны «Вянок».

Спадзяюся, што сучасным інтэлектуалам Беларусі спатрэбіцца не задужа многа часу, каб услед за World of Tanks у нашай культурнай прасторы ўзніклі, напрыклад, такія сусветы (прыдуманыя пакуль што ў драматургічных тэкстах, якія можна ўспрымаць як канцэптуальныя сцэнарыі): «Маленькі збраяносец» (П. Васючэнкі; на сцэне Тэатра юнага гледача, як піша Фёдар Драбеня, гэтая казка пастаўлена пад назвай «Рыцар Ордэна Сонца»), «Драўляны рыцар» (С. Кавалёва), «Каваль Рымша» (С. Клімковіч), «Пра тое, як Янка Белую краіну ад Цмока вызваліў» (В. Маслюка), «Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» (С. Кавалёва і П. Васючэнкі), «Хведар Жылка і сапраўдныя асілкі» (А. Мінкіна), «Шкляныя горы, альбо Праграміст чароўнай даліны» (Р. Баравіковай)… А ў прозе, а ў паэзіі колькі канцэптаў, тэкстаў ствараецца, але не разгортваецца ў дыскурсы — пакуль яшчэ… Але ж, як казаў Джэк Лондан, «Час-не-чакае»!

**Настасся КАРНАЦКАЯ,**
**студэнтка V курса філалагічнага факультэта БДУ**

## Перадусім — асабісты прыклад

Ніколі не ведала, як «прышчапіць» дзецям любоў да чытання, паколькі ў мяне самой такой праблемы не ўзнікала. Бацькі заўжды жартавалі, што іншым дзецям немагчыма ўсунуць кнігу ў рукі, а ў мяне немагчыма вырваць з рук. Таму я лічу, што любоў да літаратуры — гэта тое, што з'яўляецца толькі дзякуючы негвалтоўным метадам. Галоўнымі сродкамі павінны стаць матывацыя і прыклад бацькоў, а не прымус. Можна прымусіць дзяцей чытаць, але нельга пры гэтым прымусіць іх палюбіць чытанне. Самі бацькі могуць стаць выдатным прыкладам сваім дзецям: калі ў доме ёсць бібліятэка, якой пастаянна карыстаюцца дарослыя, то і дзеці падсвядома будуць імкнуцца да кніг. Вельмі важна, каб кніга была спадарожнікам для дзіцяці з самага маленства: чытаць дзецям перад сном, чытаць разам з дзецьмі, дапамагаючы ім навучыцца чытаць. На мой погляд, гэта самы дзейсны спосаб прывіць дзецям любоў да літаратуры. Многія бацькі робяць вялікую памылку, прымушаючы дзяцей чытаць. Кажуць так: «Вось прачытаеш сёння 10 старонак — дазволім сесці за камп'ютар». У такім выпадку падлетак будзе імкнуцца хутчэй прачытаць патрэбную колькасць старонак — павярхоўна, як кажуць, «па дыяганалі», адно каб хутчэй дапасці да камп'ютара.

Відавочна, што навукова-тэхнічны прагрэс істотна паўплываў на наша грамадства. З'явілася вялікая колькасць розных прылад, гаджэтаў: камп'ютары, тэлефоны, планшэты, гульнявыя прыстаўкі. Гэта менавіта тое, з чым кніга не зможа зараз паспаборнічаць у барацьбе за дзіцячую ўвагу. Аднак гаджэты імкліва змяняюцца, некаторыя выходзяць з моды, некаторыя саступаюць месца больш сучасным, а кніга заўжды была побач з чалавекам, перажываючы пры гэтым зусім нязначныя змены ў сваім афармленні. Многія скажуць, што дзеці цэлымі днямі сядзяць у інтэрнэце і зусім перасталі чытаць. Аднак яны ж чытаюць, чытаюць гэты самы інтэрнэт. Бацькам прасцей за ўсё абвінаваць інтэрнэт ва ўсіх праблемах, чым паспрабаваць зацікавіць дзіця кнігай. Варта накіраваць дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу ў патрэбнае рэчышча, напрыклад, купіць дзіцяці электронную кнігу. Магчыма, чытанне з такой прылады апынецца больш зручным і захапляльным, і менавіта з дапамогай гэтага прыстасавання дзіця зацікавіцца мастацкай літаратурай. Бацькі мусяць давесці дзецям, што чытанне гэта не толькі карысны занятак, але і цікавы, і прыемны.

На гэтым «праца» бацькоў заканчваецца і ў гульню ўступаюць аўтары. Настаўнікі спрабуюць зацікавіць дзяцей і падлеткаў класічнай літаратурай, але гэта, з майго пункту гледжання, марныя спробы, паколькі сучасным дзецям колішнія тэмы ды праблемы не надта блізкія. Яны не хочуць чытаць пра бядотнага, гаротнага мужыка, бо ў іх сваіх праблем хапае. А кожная асабістая праблема ў вачах саміх дзяцей набывае астранамічныя маштабы. Ім хочацца чытаць творы на зразумелыя і цікавыя тэмы, хочацца знаходзіць адказы на актуальныя для іх пытанні. Аднак многія аўтары ў сваім імкненні спадабацца падлеткам, перанасычваюць творы сучаснай лексікай, думаюць, што такім чынам будуць бліжэй да моладзі. У артыкуле «Могілкі кіндэрсюрпрызаў» Альгерд Бахарэвіч пісаў: «Можна напіхаць у твор для дзяцей колькі заўгодна камп'ютараў, мабільнікаў, білбордаў і пад'ёмных кранаў — а выйдзе ўсё роўна пра саху і касу, пядзі на дзве, калі браць пад увагу мастацкую вартасць». Бывае і супрацьлеглая сітуацыя, калі пісьменнікі ўвогуле, як кажа моладзь, «не ў тэме». У некаторых кнігах можна сустрэць вельмі сур'ёзныя дзіцячыя дыялогі, пасля якіх так і хочацца закрычаць «Не веру!», таму што дзеці так не размаўляюць. Самае важнае для дзіцячага аўтара — самому ў душы заставацца дзіцем, разумець, чым жывуць сучасныя дзеці, што іх цікавіць.

На мой погляд, у дзіцячай літаратуры не павінна быць «забароненых» тэм, аднак, і тут трэба ведаць межы. У тым жа артыкуле Бахарэвіч адзначае: «Літаратура — наогул траўматычны занятак. А дзіцячая — экстрэмальна небяспечны. Тут аступіўся — і канец: або ў пошласць, або ў нетры неразумення, або проста ў пустату». У літаратуры пісьменнік мусіць быць шчырым са сваімі чытачамі, асабліва калі гэтыя чытачы — дзеці. Многія дзіцячыя пісьменнікі свядома адмяжоўваюцца ад некаторых няпростых тэм: дзіцячае каханне, інтымныя адносіны паміж падлеткамі, іх шкодныя звычкі. Але гэта тое, што не варта абыходзіць у сваёй творчасці. З іншага боку, вельмі важным уменнем пісьменніка з’яўляецца ўпісванне гэтых тэм у свой твор так, каб не падацца падлеткам занудным маралізатарам.

Я працую ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, таму кожны дзень сутыкаюся з праблемай «узаемаадносін» дзяцей і літаратуры. Трэба прадумваць музейныя лекцыі і заняткі так, каб вучням было цікава. Для мяне вялікая радасць, калі пасля прачытання лекцыі падыходзяць вучні і дзякуюць, некаторыя задаюць пытанні. Праўда даволі часта бываюць і расчараванні. Нядаўна на адной з лекцый у школе адбыўся такі дыялог з вучнямі:

— Хто напісаў «Паўлінку»?

— Колас.

— Не, Купала.

— Да какая разница!

На жаль, для некаторых школьнікаў сапраўды «ніякай розніцы», у іх адсутнічае элементарная павага да літаратуры. А павага гэтая, як і любоў, выхоўваецца з самых малых гадоў, пераважна — у сям’і. Многія бацькі скардзяцца, што дзеці нічога не чытаюць, але калі спытаць у бацькоў, што чытаюць яны самі, то высветліцца, што гэтаксама нічога! Чаго ж тады яны чакаюць ад сваіх дзяцей, якія бяруць прыклад з дарослых? Не магу не пагадзіцца з расійскім крытыкам Андрэем Немзерам, які, разважаючы пра заняпад чытацкай культуры, эмацыйна абурыўся: «…Калі вы самі нічога не чытаеце (або чытаеце толькі Марыніну з Данцовай), то не варта чакаць, што ваша дзіця, дасягнуўшы падлеткавай стадыі, абкладзецца Пушкіным і Дзікенсам. Адказнасць за культурнае здзічэнне <…> ляжыць не толькі на мастаках, менеджэрах і журналістах, але і на ўсім грамадстве, якое надта доўга было задаволена такім станам рэчаў. На «піпле», які «хавае», адначасова не жадаючы «хаваць», гэта значыць, не жадаючы быць гэтым «піплам», па-руску — быдлам. І, як звычайна, апелюе да ўлады. Якой да культуры няма ніякай справы» («Чытацкі дзённік», 2005). Насамрэч так і ёсць. Хочаш змяніць свет — змяніся сам.

Калі звярнуцца да канкрэтных імёнаў у сучаснай беларускай літаратуры, то можна ўбачыць, што ў нас усё ж ёсць што пачытаць як малодшым школьнікам, так і падлеткам. Для самых маленькіх дзяцей выходзіць часопіс «Вясёлка», штогод выдаецца шмат кніг. Сярод найбольш вядомых і запатрабаваных дашкольнікамі і малодшымі школьнікамі — «Зязюля Гулюля» (2011) Анатоля Зэкава, «Прыгоды мышкі Пік-Пік» (2007) і «Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны» (2008) Людмілы Рублеўскай, «Казкі астранаўта» (2006), «Казкі з гербарыя» (2008) і «Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў» (2010) Раісы Баравіковай, «Вожыкі ў футбол гуляюць» (2008) Таццяны Мушынскай, «Вандроўка з божымі кароўкамі» (2006) Алены Масла, «Цуда-вуда» (2008) Уладзіміра Мазго, зборнікі «Чырвоная кніга ў казках і вершах» (2007), «Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2008) і іншыя. Падлеткам адрасуюць свой творчы плён Яўген Хвалей, Валерый Гапееў, Алесь Бадак, Уладзімір Сцяпан, Андрэй Федарэнка, Людміла Рублеўская, Алесь Наварыч і іншыя вядомыя пісьменнікі. Таму ніяк не выпадае сказаць, што сучасная літаратура для дзяцей і юнацтва знаходзіцца ў абсалютным заняпадзе, што школьнікам няма чаго чытаць. Падставы для аптымізму, думаецца, ёсць.

Літаратуру трэба прапагандаваць. Вельмі важна, каб па дзіцячых творах здымаліся фільмы. Як пісаў калісьці Караткевіч: «Раман у нашых беларускіх умовах прачытае ну дзесяць, ну дваццаць тысяч чалавек. А добры фільм паглядзяць мільёны. Разумееце, якая мажлівасць уздзейнічаць на народ, абуджаць яго годнасць, яго памяць». За апошні час, наколькі мне вядома, быў зняты толькі адзін фільм па творы сучаснага беларускага пісьменніка — гэта «Тры талеры» па аповесці А. Федарэнкі «Шчарбаты талер», і той — па-руску.

Безумоўна, хацелася б, каб на тэлебачанні былі спецыяльныя літаратурныя праграмы для дзяцей, каб сюжэты мастацкіх твораў увасабляліся ў мультфільмах, каб у агульнаадукацыйных школах адводзілася нашмат больш гадзін для ўрокаў беларускай літаратуры… Ды шмат чаго хацелася б! Але самае галоўнае, паўтаруся, гэта асабісты прыклад бацькоў, усё пачынаецца з сям'і.

**Яўген МАРТЫНОВІЧ,**
**настаўнік, пісьменнік**

## Сакрэт поспеху

У чым сакрэт напісання ідэальнай кнігі для дзяцей і падлеткаў? Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Але агульныя рысы, якія існуюць у кожнай такой кнізе, ёсць. Гэта запамінальны герой (героі), займальны сюжэт, стварэнне новага сусвету, населенага рознымі «незвычайнасцямі», яскравая мова, гумар, а таксама якасныя ілюстрацыі. Акрамя забаўляльнай функцыі, такія творы павінны яшчэ выхоўваць шматбакова развітую асобу (у ідэале, натуральна). І нават, калі ўявіць, што гэткая кніга будзе напісана, ці ўжо нават пыліцца ў выглядзе рукапісу недзе ў стале занадта сарамлівага творцы, яна патрабуе шырокага розгаласу, рэкламы. Тое, што на Захадзе стала нормай. Экранізацыя, ток-шоу з медыяперсонамі, акцёрамі, вытворчасць атрыбутыкі (ад пэндзлікаў да заплечнікаў з выявамі герояў фільма, ці мультфільма) — усё гэта дапамагае кнізе знайсці свайго чытача (што і адбылося з «Гары Потарам»). Вядома, што поспех не з'яўляецца на роўным месцы, ён любіць прафесіяналаў і талент. Але з'яўленню поспеху трэба дапамагчы.

Памятаю, як пасля прагляду «Уладара пярсцёнкаў» не мог дачакацца наступных выхадных, каб паехаць на начны кніжны рынак (толькі там яшчэ можна было яе знайсці) і набыць запаветную трылогію Толкіена. Майму шчасцю не было мяжы, калі я атрымаў гэты важкі фаліянт з маімі любімымі героямі. Пах кнігі п'яніў, яе хацелася гартаць-гартаць-гартаць і нікому не паказваць, каб, яшчэ чаго добрага, не папрасілі пачытаць. Рамантыка, адным словам!

Эталонам літаратуры для дзяцей і падлеткаў сталі вядомыя ва ўсім свеце А. Мілн, Т. Янсан, С. Лагерлёф, Л. Кэррал, А. С. Экзюперы, Дж. Радары, А. Лінгрэн, К. Льюіс, Д. Р. Толкіен і інш. Кнігі, правераныя часам. Нават той, хто не чытаў кнігі пра Вінні Пуха, ведае яго дзякуючы геніяльнаму савецкаму мультфільму як старага добрага сябра з дзяцінства.

Таксама, каб палюбіць кнігі, на мой погляд, вельмі важна сустрэць у жыцці чалавека, які б стаў для вас «камертонам густу» (ці, як зараз жартам кажуць «гуру»). Гэта можа быць настаўнік, бібліятэкар, сябра, нейкая знакамітасць, якая карыстаецца аўтарытэтам у падлеткаў, ці родныя людзі.

Успамінаю, як дзядуля, седзячы ў сваім любімым крэсле, так «смачна» чытаў нейкую цікавую кнігу, што я, адклаўшы ўсе свае дзіцячыя справы, не мог адарваць ад яго вачэй. Амаль праз кожную хвіліну ён то ўсміхаўся, то пакусваў ад задавальнення дужкі акуляраў, а бывала, адрываўся ад кнігі і смяяўся ва ўвесь голас, ды так, што ў яго трэсліся плечы, а па шчоках цяклі слёзы! Ажно суседзі пачыналі грукаць па батарэі, каб стала цішэй (сцены ў хрушчоўцы былі танюткія, як першы лёд).

Пасля такога дзядулінага чытання, я ўжо не мог стрымацца, каб не зазірнуць у гэтую кнігу. Але, на вялікі жаль, чытаць я тады не ўмеў, таму і не мог зразумець, што так развесяліла дзядулю. Але ўсё роўна ўражанне засталося на ўсё жыццё.

Мне здаецца, праблема яшчэ і ў тым, што сучасныя падлеткі выхоўваюцца на іншых ідэалах. Таму іх не надта хвалююць лёсы герояў з моцнымі характарамі, якімі «населены» творы Ж. Верна, Дж. Лондана, Стывенсана ці В. Каверына. Зараз, у лепшым выпадку, падлеткі чытаюць фэнтэзі, ці фантастыку. С. Лук'яненка, Дж. Роўлінг, Джордж Р. Р. Марцін — вось новыя куміры падрастаючага пакалення. Падлеткаў хвалююць героі, з якімі яны сябе атаясамліваюць. Героі з нейкімі заганамі, комплексамі, якія потым атрымліваюць незвычайныя здольнасці і ратуюць свет («жыў-быў і не ведаў, што супергерой»), а напрыканцы знаходзяць сваю любоў і жывуць доўга і шчасліва (новыя варыяцыі казкі пра Ямелю).

Існуе меркаванне, што першыя прачытаныя кнігі закладваюць падмурак (праграму) далейшага развіцця лёсу чалавека. Для мяне такімі кнігамі сталі «Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі» Сельмы Лагерлёф і казкі Андэрсена, якія я і па сёння з задавальненнем перачытваю. І мяне ўсё гэтак жа, праз гады, кранаюць гісторыі пра неверагоднае падарожжа Нільса, дзяўчынкі з запалкамі, Русалачкі…

Дык вось, калі ў дзяцінстве бацькі яшчэ ахвотна набываюць кнігі сваім дзецям, чытаюць ім казкі і вершы, клапоцяцца, каб яны самі іх чыталі (бо неяк падсвядома адчуваюць, што так павінна быць, што так правільна…), то ў падлеткавым узросце кніга ўжо не з'яўляецца тым «лепшым падарункам», якому так радаваліся ў дзяцінстве. Прыярытэты мяняюцца. Падлетка нацэльваюць на атрыманне прыстыжнай адукацыі, прафесіі (пажадана тэхнічнай). Таму кніга адсоўваецца на іншы (дзясяты) план. Яна не вытрымлівае канкурэнцыі.

Але не ўсё так дрэнна. Ёсць тыя, хто, нягледзячы ні на што, будуць чытаць. І не толькі таму, што задалі ў школе па праграме. А паводле ўнутранага запатрабавання.

Зараз нямала цікавых імёнаў і ў айчынай літаратуры: А. Федарэнка, Л. Рублеўская, В. Гапееў, П. Васючэнка, Р. Баравікова, А. Масла, А. Бадак, У. Сцяпан… Гледзячы на бібліятэчныя фармуляры, я з упэўненасцю магу казаць, што іх кнігі чытаюць! І хочацца, каб такіх якасных кніг было як мага больш. Каб падлетак выпадкова не ўзяў слабую кнігу, а потым вырашыў: «Якая ж нудотная гэтая беларуская літаратура!», і больш потым ніколі не браў (ды яшчэ і сяброў упэўніў, што «там толькі пра вёску ды кароў»). А пераканаць у адваротным іншым пісьменнікам будзе ўжо амаль немагчыма.

Напрыканцы хацелася б згадаць добрую параду нашага славутага класіка У. Караткевіча, якую, думаю, кожны пісьменнік можа ўзяць сабе на ўзбраенне: «Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто, — і тады пераможаш» («Ладдзя роспачы»).

**Аксана БЯЗЛЕПКІНА,**
**кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

## Мы жывём у новай інфармацыйнай прасторы…

Калісьці ў артыкуле «Дарослая дапамога дзіцячай літаратуры» (ён ёсць на сайце часопіса «Маладосць») я спрабавала аналізаваць, як пісаць, рэкламаваць і выкладаць дзіцячую літаратуру. Не хацелася б паўтарацца, таму проста дадам некаторыя нюансы.

Навукоўцы сцвярджаюць, што сучасная моладзь чытае нашмат больш за пакаленне сваіх бацькоў, але гэта іншыя тэксты і іншае чытанне. Таму сцвярджэнне пра нечытанне моладзі не такое адназначнае, якім яно спачатку здаецца.

Мы занадта часта робім высновы на падставе ўласнага жыццёвага досведу ці вопыту кола сваіх знаёмых, а яны могуць быць нерэпрэзентатыўнымі. Сёлета я мела магчымасць назіраць за тым, як працуюць нямецкія літаратуразнаўцы: спачатку сацыялагічнае апытанне ў некалькіх якасна падабраных фокус-групах — потым аналіз і высновы. Гэта патрабуе высокіх фінансавых выдаткаў, але выдатна ратуе ад лішніх эмоцый, ад панікі ці эйфарыі, ад маніпуляцый. Без такога даследавання любыя развагі застаюцца проста прыватным меркаваннем, хай сабе і спецыяліста.

Пад «больш чытаюць» мелася на ўвазе электроннае чытанне, якое набірае ўсё болей адэптаў сярод маладых чытачоў, яно становіцца фактам, да якога можна па-рознаму ставіцца, але на які немагчыма паўплываць. Яно адначасова і прычына, і наступства зрухаў у свядомасці (напрыклад, памяць інакш працуе з тэкстам, які ўспрымаецца з экрана), яно звязана з тэхналагічнымі магчымасцямі нашага часу.

І калі «павольная» мастацкая літаратура спрабуе супернічаць з кароткімі энергічнымі тэкстамі, то параза прадказальная. Верагодна, не кожнае дзіця ад нараджэння валодае здольнасцю атрымліваць эстэтычную асалоду ад тэксту, таму кнігі для дзяцей у першую чаргу павінны ўмець трымаць увагу чытача, а цяпер акрамя такой аб’ектыўнай фізіялогіі накладаецца наяўнасць «кліпавай свядомасці». І аўтару ў першую чаргу трэба ствараць хуткі, дынамічны сюжэт.

Часта мастацкая літаратура не нясе «інфармацыі», бо малады чытач даўно абагнаў аўтара па дасведчанасці ў некаторых сферах (я некалі пісала пра кнігі, скіраваныя на тое, каб пазбавіць чытача страху перад камп’ютарамі, але для дзяцей гэта рэальнасць ад нараджэння, і такія казкі хутчэй для пажылога чытача). Рэаліі мяняюцца вельмі хутка, і ультрасучасныя кнігі старэюць раней за іншыя.

Калі ў тэксце для чытача няма інфармацыйнай нагрузкі, а забаўляльную функцыю жарты ў сацыяльных сетках выконваюць лепей, то што застаецца? Дзе тая ўнікальная функцыя літаратуры, у пошуках якой моладзь вернецца да чытання мастацкіх тэкстаў? Баюся, што адказ і на гэтае пытанне дало б толькі грунтоўнае даследаванне.

Раптам падумалася, што тэксты, разлічаныя на дарослага чытача, даюць пісьменніку больш свабоды: аўтар можа, але не абавязаны думаць пра чытача. А дзіцячаму пісьменніку трэба ўзбройвацца ведамі, пачынаючы з дзіцячай псіхалогіі. Трэба вылоўліваць любую інфармацыю пра сучасныя пакаленні. Мяркую, больш верагодна, што прадстаўнік пакалення X, узяўшы кнігу, дачытае яе да канца, незалежна ад зместу, а прадстаўнік пакалення Y гвалціць сябе не стане. Вядома, што ў сучасных дзяцей праблема з камунікацыяй (як пачаць сяброўства, як яго скончыць, калі крыўдзіцца, а калі не, як мірыцца, як не мірыцца, як адлядзіць патрэбную дыстанцыю). І магчыма, кніга, якая дае адказы на актуальныя пытанні, знойдзе свайго чытача. Проста трэба разумець, якое пытанне актуальнае.

Моладзь будзе чытаць, калі ёсць унутраная патрэба ці вонкавая матывацыя (усе чытаюць, трэба прачытаць, хачу пачытаць з менавіта планшэта, гэта модна, прэстыжна і г. д.). І ў гэтым сэнсе за дзесяцігоддзі, мне здаецца, нічога не змянілася. Знаёмыя блогеры практыкавалі сумеснае чытанне класічных кніг з дзецьмі. І для дзіцяці чытанне становіцца тоесным камунікацыі з бацькамі, што міжволі падвышае каштоўнасць самога працэсу.

З дзецьмі ў літаратуры можна размаўляць пра тое ж, пра што можна размаўляць з дзецьмі ў жыцці. Зрэшты, дзіцячая псіхіка валодае абарончымі здольнасцямі. Памятаю, як у падлеткавым узросце мне трапіўся нарвежскі раман, з якога я зразумела, што падзеі адбыліся, калі сужонкі сышлі ў госці. Праз гады, перабіраючы кнігі, я выпадкова разгарнула той раман, і аказалася, што сужонкі не проста сышлі ў госці, а былі свінгерамі. Натуральна, я гэтага ў час чытання не зразумела. Таму мне здаецца, што лішняе застаецца па-за ўвагай маленькага чытача нават у дарослай кнізе.

Захады па прапагандзе мастацкай літаратуры пасуюць любыя. Вось толькі хочацца, каб рэкламавалі сапраўды добры тэкст, да таго ж якасна выдадзены. І ў ідэале варта, каб было ўлічана, што мы жывём у новай інфармацыйнай прасторы, і пафасныя слоганы выклікаюць замілаванне хіба што ў незваротных кансерватараў.

**Фёдар ДРАБЕНЯ,**
**кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

## Небяспека інтэрнэта моцна перавялічана…

На жаль, далёка не ўсе маладыя бацькі разумеюць сёння значнасць кнігі ў жыцці дзяцей. Вельмі проста пасадзіць маленькага хлопчыка ці дзяўчынку перад экранам тэлевізара, дзе імкліва будуць змяняцца яркія малюнкі, і значна цяжэй утрымаць увагу няўрымслівай гарэзы кніжкай. Тут трэба прыкласці намаганні, каб выбраць цікавы твор, каб афармленне кнігі было якасным і г. д., тут мала проста прачытаць. Тут трэба стварыць свет кнігі, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці інтанацыі і голасу, трэба потым абмеркаваць прычытанае з маленькім слухачом. Зразумела, што аднаго толькі чытання не хопіць, каб сфарміраваць гарманічную асобу са сваім духоўным светам і меркаваннем. Трэба падключыць і візуалізацыю тэксту. Зараз многія выдаўцы дзіцячай літаратуры імкнуцца праілюстраваць кожную важную падзею, якая адбываецца ў творы. Гэта дазваляе дзіцяці не толькі пачуць, але і на свае вочы ўбачыць падзею.

У Мінску ёсць начная выстава-продаж кніг. І трэба адзначыць, што кнігі для дзяцей ад 0 да 5—6 год на ёй самыя папулярныя і запатрабаваныя з тавараў. Гэта сведчыць, на мой погляд, што маладыя бацькі, бабулі і дзядулі разумеюць важнасць кнігі ў выхаванні сваіх нашчадкаў і актыўна набываюць дзіцячую літаратуру. Збольшага, дарослыя абапіраюцца на свой мастацкі густ пры падборы кніг для дзяцей і застаецца спадзявацца, што ім удаецца сярод безлічы кніг align рознай і мастацкай, і выдавецкай вартасці знайсці штосьці, што магло б зацікавіць іх дзіця. Тут, зразумела, ёсць класіка дзіцячай літаратуры, на творах якіх вырасла не адно пакаленне, а вось назваць новых аўтараў, якія б стварылі годныя, якасныя сучасныя творы і творы пра сучаснасць, дастаткова складана.

Асоба школьнага настаўніка таксама спрыяе або не спрыяе развіццю любові да кнігі. Так, калі ператварыць чытанне кніг у прымусовы занятак, з дзяцінства можна страціць усякае жаданне ўзяць кнігу ў рукі. Але калі знайсці і прапанаваць дзецям творы, якія б ім сапраўды цікавымі, растлумачыць, што праз кнігі людзі даведваюцца шмат чаго новага, што праз мастацкія творы яны пераймаюць жыццёвы досвед пакаленняў і змогуць не паўтарыць памылак мінулага, будуць рабіцца лепшымі і больш дасканалымі, адносіны да кнігі з маленства ў дзяцей будуць паважлівымі, яны будуць чытаць. Разам з тым да гэтай складанай працы трэба далучаць работнікаў публічных (школьных) бібліятэк. Менавіта яны павінны расказаць дзецям пра навінкі ў кнігавыданні, зрабіць экскурсію ў скарбніцу ведаў і падарожжаў — бібліятэку, расказаць пра з’яўленне кнігі, выклікаць у дзяцей жывое захапленне кнігай.

Што тычыцца школьнай праграмы па літаратуры, то тут ёсць пэўныя асаблівасці. Часта школьнікамі беларуская літаратура ўспрымаецца як літаратура толькі пра бедных сялян ці толькі пра вайну. Сапраўды, твораў такой тэматыкі шмат у школьнай праграме па літаратуры, аднак іх вывучэнне мела большы плён і поспех, калі б ішло побач з вывучэннем гістарычнага матэрыялу. Вывучэнне твора на гістарычную тэматыку немагчыма без разумення гістарычных працэсаў таго часу, а між тым матэрыял па гісторыі і літаратуры ў школьных праграмах вельмі часта не суадносіцца і не спалучаецца.

Сучасныя школьнікі аддаюць першагу тром тэмам, якія іх хвалююць. Гэта каханне, сяброўства і фантастыка. Разам з гэтымі тэмамі сучасныя падлеткі актыўна сочаць за падзеямі ў палітыцы, эканоміцы, дзякуючы вядомым парталам TUT.by ці OLINER.by. Менавіта гэтыя пляцоўкі маглі стаць полем для папулярызацыі чытання. Тут варта было размяшчаць анонсы ці вытрымкі з цікавых навінак кнігавыдання для дзяцей і моладзі.

Я правёў апытанне сярод вучняў старэйшых класаў (гімназіі № 38, дзе працую). Быў прыемна здзіўлены тым, што вучні чытаюць і маюць даволі багаты чытацкі досвед, што іх цікавіць літаратура і мастацкія творы. Так, старшакласнікі расказалі, што ім спадабаліся творы У. Караткевіча «Лебядзіны скіт», «Нямоглы бацька», «Чазенія», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Чорны замак Альшанскі» і іншыя, І. Шамякіна «Гандлярка і паэт», «Трывожнае шчасце», «Сэрца на далоні», Янкі Маўра «Палескія рабінзоны», «У краіне райскай птушкі», Кузьмы Чорнага «Насцечка», «Шляхціц Завальня» Я. Баршчэўскага, «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя і іншыя. Разам з тым, сучасныя школьнікі цікавяцца і замежнай літаратурай. Гэта «Маўглі» Д. Кіплінга, «Рабінзон Крузо» Д. Дэфо, «Падарожжа Гулівера» Д. Свіфта, «Востраў скарбаў» Р. Стывенсана, «Фінансіст», «Стоік» Т. Драйзера, «Парфума» П. Зюскіда, а таксама цыклы раманаў пра Гары Потара. Сярод твораў рускай літаратуры школьнікі часцей за ўсё называюць «Героя нашага часу» Ю. Лермантава, «Злачынства і пакаранне» Ф. Дастаеўскага, «Майстра і Маргарыту» М. Булгакава і іншыя. Многія з гэтых твораў вывучаюцца сёння ў школе, але вывучэнне рускай і беларускай літаратуры спыняецца на мяжы XX—XXI стагоддзяў. Напэўна, варта было б у праграму па рускай (беларускай) літаратуры дадаць творы, якія сапраўды з'яўляюцца актуальнымі для сучаснай моладзі.

Аддаючы даніну часу, не ўсе падлеткі чытаюць друкаваныя кнігі. Хтосьці карыстаецца электроннымі, хтосьці чытае з планшэтаў. Аднак тое, што магло «забіць» мастацкую літаратуру, наадварот — робіць больш даступнай. Менавіта ў інтэрнэце школьнікі могуць знаходзіць і спампоўваць розныя творы, менавіта ў інтэрнэце яны могуць прачытаць водгукі і падабраць сабе творы па тэмах, якія б іх зацікавілі. Таму, думаецца, небяспека інтэрнэта ў адносінах да літаратуры моцна перавялічана.

**Ірына КУПЦЭВІЧ,**
**студэнтка VI курса філалагічнага факультэта БДУ**

## Сям'я і школа павінны аб'яднаць намаганні…

Пытанні аб набытках і перспектывах сучаснай дзіцячай літаратуры мяне, безумоўна, вельмі хвалююць. Па-першае, з маленства і праз усе школьныя гады галоўнай зацікаўленасцю, галоўнай забавай для мяне была літаратура. Па-другое, я маю за плячыма ўласныя літаратурныя спробы, далёка не самыя няўдалыя, як мне здаецца. Па-трэцяе, я студэнтка філалагічнага факультэта БДУ і так ці інакш звязана з літаратурай пастаянна, хоць мае навуковыя зацікаўленасці знаходзяцца хутчэй у сферы лінгвістыкі. І нарэшце, лёс склаўся так, што цяпер я працую настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў вясковай школе, і з праблемамі, пра якія будзе ісці гаворка, я сутыкаюся штодня.

Сённяшнія дзеці не чытаюць. Гэты дыягназ актуальны для 90 працэнтаў беларускіх школьнікаў. Самае смешнае, што 100—150 гадоў таму гэта было актуальна для яшчэ большай колькасці дзяцей, ды і дарослых, бо адукацыя была даступная толькі для малой часткі насельніцтва. Але якраз гэтая малая частка і вырашала лёсы грамадства, а малаадукаваныя масы заставаліся як бы ўбаку ад палітыкі, эканомікі, навукі і культуры, таму і праблемы нібыта не было. Цяпер жа яна ёсць, бо адукацыя ў нас усеагульная, а значыць, і адказнасць за жыццё грамадства і за

будучыню краіны павінна распаўсюджвацца на ўсіх. Тым не менш, несці гэтую адказнасць здольныя далёка не ўсе, бо не ўсім выпадае выхавацца і вывучыцца на годнага чалавека і грамадзяніна: гэта немагчыма без чытання мастацкай літаратуры. І тут мы вяртаемся да першага сказа ў абзацы.

Чаму так адбываецца? Свет змяніўся. Цяпер свет зусім не той, які быў у юнацтве нашых бацькоў, калі СССР лічыўся «самай чытаючай нацыяй». Сёння многа забаў, якія патрабуюць шмат часу, але не патрабуюць шмат высілкаў для канцэнтрацыі ўвагі на іх, не патрабуюць працы думкі. А чалавек, як істота лянівая, заўжды імкнецца да эканоміі энергіі і выбірае шлях найменшага супраціву. Таму дзеці шмат глядзяць тэлебачанне, гуляюць у камп'ютарныя гульні (якія самі па сабе нічым не кепскія, але ўсё добра ў меру), але не чытаюць. Амаль як у антыўтопіі Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейце». Глядзець і гуляць лёгка, чытаць кнігі цяжка: трэба канцэнтравацца, трэба запамінаць, трэба вяртацца да кнігі раз за разам. Калі ўвага школьніка ўжо з дзяцінства фарміруецца як кліпавая (даруйце за прапісныя ісціны), само чытанне (нават не асэнсаванне прачытанага) становіцца напружанай працай. Мне здаецца, усё гэта вядзе да вельмі пэўных наступстваў. Нас чакае зніжэнне ўзроўню адукаванасці і ўвогуле інтэлектуальнага развіцця, спрашчэнне культуры, паглыбленне разрыву паміж інтэлектуальнай элітай грамадства і масамі, урэшце — маргіналізацыя і мастацтва, і гуманітарных навук. «Тэхнары» перамогуць. Што ж, тэхнічны прагрэс даўно апярэдзіў разумовае і духоўнае развіццё чалавецтва. Мы дасягнулі выдатных вынікаў у навуцы, але многія дасягненні або выкарыстоўваюцца неналежным чынам (у вайсковай прамысловасці), або адмаўляюцца масамі (напрыклад, генная інжынерыя і нават прышчэпкі). І мы не паспяваем асэнсаваць, наколькі наша жыццё стала іншым. А хутка філасофская думка спозніцца назаўжды. Бо блізка ўжо сінгулярнасць, штучны інтэлект, замена частак цела імплантатамі і іншыя цалкам рэалістычныя сцэнары з фантастыкі. Наша цывілізацыя зменіцца незваротна. Тым не менш, пакуль гэтага не адбылося, у нас яшчэ ёсць шанцы на штосьці паўплываць дзеля будучыні. Пагаворым пра гэта.

Нейкі філосаф сказаў: першую частку свайго жыцця чалавек павінен выдаткаваць на тое, каб размаўляць з мёртвымі, другую — каб размаўляць з жывымі, трэцюю — з самім сабой. Размаўляць з мёртвымі — гэта значыць чытаць кнігі. І я лічу гэта ісцінай. Мяне, хай не крыўдуюць мае бацькі, выхавалі кнігі. Зрэшты, толькі дзякуючы бацькам гэтыя кнігі ў вялікай колькасці былі дома і ў мяне было жаданне іх чытаць. Вядома ж, кожны мяркуе па сабе, так? Вось і я думаю, што няма лепшага выхавання, чым выхаванне добрай літаратурай. Бо гэта выхаванне ў маленькіх чытачах высокіх маральных якасцей на жывых прыкладах (а менавіта такімі ўспрымаюцца дзецьмі героі кніг, і іх ролі чытач абавязкова прымярае на сябе). Гэта і інтэлектуальнае развіццё, бо веды па гісторыі, геаграфіі, біялогіі, фізіцы і г. д., атрыманыя ў працэсе ўдумлівага чытання мастацкага твора, самыя трывалыя — лепш запамінаецца хіба што засвоенае на практыцы. Чытанне — гэта ўвогуле развіццё мыслення, памяці, увагі. І, што не менш важна, маўлення, у тым ліку пісьмовага. Вось кажуць, што некаторыя маюць так званую «прыроджаную пісьменнасць». Але гэта міф! Тое, што называецца прыроджанай пісьменнасцю, насамрэч вынік таго, што дзіця з самага ранняга ўзросту шмат чытала: у працэсе чытання сфарміравалася так званая зрокавая пісьменнасць, калі з гучаннем слова аўтаматычна суадносіцца яго правільны графічны выгляд. Такім чынам засвойваецца і пунктуацыя. І тое, што сёння школьнікі не ўмеюць правільна пісаць, гэта вынік таго, што яны не хочуць чытаць. А чаму не хочуць — гэта ўжо іншае пытанне. Калі ж вярнуцца да таго, якія функцыі мусіць выконваць кніга ў жыцці дзіцяці, дык, безумоўна, яна павінна забаўляць. Больш за тое, гэта якраз базавая функцыя кнігі, бо без яе не будзе нічога. Каб вучыць і выхоўваць, кніга павінна быць цікавай, захапляльнай, прывабнай. Асабліва цяпер, калі вакол дзіцяці столькі разнастайных забаў і прынад.

Як жа зрабіць так, каб сярод усіх спакус дзіця выбірала менавіта чытанне? Гэта справа бацькоў. Калі малеча пастаянна бачыць бацькоў з кнігай, калі дома кніг шмат — гэтыя кнігі абавязкова будуць вабіць дзіця, яму захочацца так, як дарослыя, чытаць самастойна. Менавіта гэтак адбылося ў маім жыцці. Дома ад кніг ламіліся паліцы, бацькі пастаянна нешта чыталі самі і чыталі ўслых мне. У пяць гадоў я ўжо ўмела чытаць. У шэсць я чытала «Востраў скарбаў», у сем — «Тры мушкецёры», а ў восем, здаецца, я пачала чытаць… «Анжаліку» Анн і Сержа Галон (выдатная нагода для кпінаў чытачоў). Не ведаю, як гэта адбылося, але кніга захапіла мяне з галавой. Урэшце, я прачытала і некалькі разоў перачытала ўсю серыю раманаў. Гэтыя творы вельмі моцна паўплывалі на фарміраванне мяне як асобы.

Як жа так, скажа чытач, зусім не дзіцячая кніга, жаночы раман, што ж гэта за выхаванне такое! А вось добрае, здаецца, выхаванне. Між іншым, у гэтай кнізе не было нічога, пра што нельга было прачытаць дзіцяці, нічога, што б я не зразумела. Затое яна мяне ў тым узросце ўзбагаціла духоўна і інтэлектуальна так, як бы гэта не зрабілі паўсотні падлеткавых кніг. Дагэтуль «Анжаліка» застаецца для мяне тым, што англічане называюць «guilty pleasure» («сорамна прызнацца, што падабаецца»). Праўда, калі я пару гадоў таму вырашыла пачытаць у сеціве меркаванні пра гэтую серыю і перачытала ўрыўкі, то ўбачыла, што саромецца, па вялікім рахунку, і няма чаго: твор мае грунтоўную гістарычную аснову, напісаны (і перакладзены) добрай мовай, сюжэт распрацаваны добра, там усё ў парадку і з ідэямі, і з маральнасцю. Карацей, выдатны ўзор масавай літаратуры. Вядома, пры гэтым я чытала і класічную падлеткавую літаратуру, і класічную «непадлеткавую», але менавіта «Анжаліка» стала галоўнай кнігай дзяцінства.

Такім чынам, менавіта ў сям'і фарміруецца любоў да літаратуры. Калі ж бацькі гэтую задачу не выканалі, што можа зрабіць школа? Нічога. Хіба што ў пачатковай школе будзе настаўнік, які завалодае душамі дзяцей і здолее заахвоціць іх чытаць. Там магчымасці ёсць. А вось пасля 10—11 гадоў ужо, думаецца, позна. Калі дзіця да гэтага часу не палюбіла кнігу, у яго ўжо ніколі не сфарміруецца духоўная патрэба ў чытанні. Што ж адбываецца цяпер? Многія бацькі перакладаюць большасць выхаваўчых задач на школу. Але горкая праўда ў тым, што школа ніколі не зможа запоўніць тыя лакуны, якія пакідае сям'я. У выніку — замкнёнае кола. Дакладней, бясконцая спіраль пагаршэння выхавання.

Якой мусіць быць кніга, каб яе чыталі дзеці? Кніга мусіць быць цікавай. Іншых рэцэптаў я не ведаю. Узорамі для сучасных пісьменнікаў павінны быць класічныя прыгодніцкія раманы і аповесці. Той жа Дзюма, праставаты для дарослых і найлепшы для дзяцей, той жа Жуль Верн — ідэальны выхавальнік. З беларускіх пісьменнікаў — Янка Маўр, Уладзімір Караткевіч. З сённяшніх — Джоан Роўлінг, напрыклад, а ў Беларусі ёсць цудоўны Андрэй Федарэнка. Для юных чытачоў галоўнае — захапляльны сюжэт, а ў яго ўжо аўтар можа ўкласці мора ўсяго карыснага і правільнага. Праўда, меркаванні аб правільным ва ўсіх розныя, і тут ужо бацькі павінны сачыць за тым, што чытаюць іх дзеці (але без фанатызму). Пры гэтым, безумоўна, важна, каб у цэнтры твора былі праблемы, цікавыя сучасным школьнікам — гэта значыць праблемы вечныя. Ну і, само сабой, творы для дзяцей павінны прышчапляць ім высокія гуманістычныя каштоўнасці.

А што сёння чытаюць юнакі і дзяўчаты? Фантастыку, фэнтэзі, дэтэктывы і сучасныя падлеткавыя аповесці і раманы. Да фантастыкі ў мяне прэтэнзій няма: гэта толькі антураж, а праблемы ўсе тыя ж. Да фэнтэзі стаўлюся насцярожана: нібыта таксама проста антураж, але тут большасць твораў прымітыўныя. З дэтэктывамі яшчэ горш: яны не развіваюць духоўна. Сучасныя падлеткавыя творы нікому не вядомых аўтараў, якія, ведаеце, выпускаюцца ў такіх спецыяльных серыях выдавецтваў і прадаюцца ў кнігарнях у вялікай колькасці — усё адно што танныя кітайскія тавары: нібыта функцыю сваю выконваюць, але зроблены грубавата, патыхаюць пластыкам і недаўгавечныя. Вось такія кніжкі цікавяць большасць сучасных дзяцей. Вядома, ёсць і тыя, хто чытае вартае: рэчы, якія прайшлі выпрабаванне часам. Але тых, хто цалкам адольвае школьную праграму і чытае нешта добрае па-за ёй, адзінкі. Напрыклад, у маіх малакамплектных класах такіх няма наогул.

У грамадстве рэгулярна ўзнікаюць дыскусіі пра тое, якой мусіць быць дзіцячая літаратура. Збіраюцца нейкія шаноўныя людзі і спрачаюцца: пра што пісаць, як пісаць, што можна, а што нельга. Добра хоць, што цяпер пісьменнік не мусіць некага слухаць і падпарадкоўвацца «лініі партыі»! Бо кожны аўтар мае поўнае права пісаць пра тое і так, як лічыць патрэбным. Літаратура павінна выхоўваць асобу, рыхтаваць дзяцей да жыцця, быць праўдзівай, не фарміраваць ілюзій. А значыць, у дзіцячай і падлеткавай літаратуры не можа быць забароненых тэм. Секс, наркотыкі і рок-н-рол, палітыка, вайна і гвалт — пісаць можна пра ўсё. Толькі для дзяцей гэта павінна падавацца пад правільным «соўсам». Сутыкаць дзіця з жыццёвымі праблемамі трэба асцярожна, тактоўна, з веданнем дзіцячай псіхалогіі. Не варта навязваць дзіцяці пэўнага меркавання, трэба падводзіць яго да самастойнага разумення, што добра, а што кепска. Вось ханжаства — гэта дакладна кепска. Таму ніякіх забароненых тэм быць не павінна. Але, бясспрэчна, павінны быць забароненыя ідэі.

Што ж мы (бацькі, школа, дзяржава) можам зрабіць сёння, каб заахвоціць дзяцей да чытання? Я не ведаю нейкага глабальнага эфектыўнага рашэння. Ёсць некаторыя захады, але іх цяжка ажыццявіць належным чынам, і не факт, што яны дасягнуць патрэбнага выніку.

Так, трэба выпускаць беларускую і замежную дзіцячую літаратуру прыгожымі, густоўнымі выданнямі. (Дарэчы, я не бачу ніякай праблемы ў тым, што друкаваныя кнігі здаюць пазіцыі і саступаюць электронным. Кніга — гэта найперш тэкст, а тэкст адзін і той жа, на паперы ён ці на экране, яго ўздзеянне на чытача ад гэтага ніяк не залежыць. Ёсць некаторыя нюансы ў зрокавым запамінанні тэксту пры чытанні з экрана, але гэта не вельмі істотна. Затое істотная карысць для экалогіі. І для сямейнага бюджэту. Можна мець дома бібліятэку любімых, каштоўных, прыгожых кніг, але навошта купляць у папяровым выглядзе ўсё, што спатрэбілася ці захацелася пачытаць.)

Цудоўным сродкам папулярызацыі літаратуры з’яўляецца кіно. Вельмі часта пасля прагляду фільма, знятага па незнаёмай кнізе, узнікае жаданне гэтую кнігу прачытаць. Таму варта, нават на бюджэтныя сродкі, здымаць фільмы паводле літаратурных твораў, прычым здымаць якасна, і шырока паказваць іх у кінатэатрах і па тэлебачанні з належнай рэкламай. Можна ладзіць у тэлеэфіры нейкія праграмы з абмеркаваннямі літаратурных твораў з яркай, прывабнай падачай, каб гэта не наганяла нудоту.

Ёсць яшчэ адна невыканальная ідэя: замест рускай літаратуры ў беларускай школе варта было б увесці сусветную літаратуру (якая будзе ўключаць і найлепшыя творы з рускай), на якой дзеці будуць займацца чытаннем і абмеркаваннем найлепшых твораў свету пад кіраўніцтвам настаўніка, вучыцца аналізаваць, разважаць, выказваць уласныя думкі, нарэшце, дзяліцца ўражаннямі і перажываннямі. Разам з беларускай літаратурай, гісторыяй, грамадазнаўствам і мастацтвазнаўствам (якое дарма скасавалі са школьнай праграмы) гэта неабходны прадмет гуманітарнага цыкла. Толькі ўсе разам яны могуць выхаваць чалавека, асобу і грамадзяніна.

**Іван ЯСЮК,**
**магістрант філалагічнага факультэта БДУ**

## Не прачытаць, а *пражыць*…

Калі бяру ўдзел у гутарках пра сённяшніх школьнікаў, якія «амаль перасталі чытаць», пачуваюся ніякавата. Я сам не так даўно быў школьнікам, філалагічны факультэт БДУ скончыў толькі летась. І зараз, «з вышыні філалагічнай адукацыі», мне ўжо нават непамысна згадваць, якім бейбусам я быў у школе, як філоніў ад заняткаў па мове і літаратуры.

На пятым курсе я праходзіў педагагічную практыку ў *alma mater* — чытаў лекцыі і праводзіў семінарскія заняткі на другім курсе рамана-германскага аддзялення філфака. Натуральна, вельмі хваляваўся, бо ў аўдыторыях сядзелі студэнты ўсяго на тры гады маладзейшыя за мяне. Але самым запамінальным уражаннем ад тых заняткаў у мяне было не хваляванне і не душэўнае трымценне, а той факт, што я неаднаразова лавіў сябе на ментарскіх інтанацыях, на тым, што час ад часу дазваляў сабе абурыцца адсутнасцю належных ведаў у другакурснікаў: «Як?! Вы не абазнаны ў творчасці Максіма Гарэцкага?! Вы не маеце ўяўлення пра Лукаша Калюгу?! Вы не чыталі «Вязьмо» Міхася Зарэцкага?! Гэта ж школьная праграма! Чым вы ў школе займаліся?» А тады ўспамінаў сябе —колішняга-вучня і неймаверна бянтэжыўся… За пяць год вучобы на філалагічным факультэце маё стаўленне да літаратуры кардынальна змянілася. І сёння я неверагодна ўдзячны за гэта сваім універсітэцкім выкладчыкам.

Але пачатак майго захаплення айчынным прыгожым пісьменствам усё-ткі меў месца менавіта ў агульнаадукацыйнай школе. Зараз са шчырым здзіўленнем згадваю, якую цярплівасць і вытрымку мелі мае школьныя настаўнікі, якім я некалі наўпрост заяўляў, што не хачу марнаваць час на «ўважлівае ды ўдумлівае» чытанне якіх-небудзь эпічных узораў рускай ці беларускай класікі, што не лічу патрэбным глыбока разбірацца ў іх ідэйна-мастацкім змесце. Лічыў, што дастаткова прабегчы вачыма старонкі «па дыяганалі», дастаткова мець агульнае ўражанне… Узгадваю — аж смешна робіцца. І смешна, і прыкра.

Мой «цярністы і няпросты» шлях да беларушчыны пачаўся з твораў У. Караткевіча. На ўроках літаратуры мы вывучалі «Каласы пад сярпом тваім», а я ніяк не мог прымусіць сябе прачытаць раман. Пачынаў, але праз тры старонкі кідаў. І ўрэшце наўпрост прызнаўся ў гэтым настаўніцы — маўляў, наўрад ці агораю гэткі «вялікі тэкст». І мая настаўніца (вялікі-вялікі дзякуй, шаноўная Галіна Міхайлаўна!) спакойна і стрымана мне параіла «зрабіць намаганне» і прачытаць не тры, а хаця б трыццаць старонак. І ўпэўнена дадала, што гатова паспрачацца — калі «адужаю» трыццаць старонак, то ўжо не змагу адарвацца ад гэтага твора. Ха! Я ёй не паверыў, але вырашыў «зрабіць эксперымент». Добра памятаю той вечар. Гэта быў па-свойму пераломны момант у маім жыцці. Я насамрэч не мог адарвацца ад рамана да самай раніцы. Дарэчы, нядаўна я прачытаў раман Л. Рублеўскай «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію». У гэтым творы ёсць эпізод пра юнака, які раптам усведамляе сваю нацыянальную прыналежнасць. «Аднойчы ўзяў у бібліятэцы старую кнігу з незнаёмым прозвішчам на вокладцы: «Караткевіч». Чытаў усю ноч, з ліхтарыкам пад коўдрай. А нараніцу ведаў: у яго ёсць радзіма». Гэта дакладна пра мяне!

Пасля «Каласоў…» мяне ўжо нельга было адарваць ад беларускай кнігі. Я адкрыў для сябе цэлы свет. Маё чытанне ахоплівала межы нашмат шырэйшыя за школьную праграму. І напрыканцы школы, калі многія мае сябры вагаліся ў сумневах «куды пайсці вучыцца», для мяне нават не было пытання аб выбары далейшага шляху. Я стаў студэнтам філфака БДУ.

Якім чынам прываблівацць сучасных падлеткаў да чытання, я не ведаю. Да кожнага патрэбен свой падыход, бо ўсе дзеці вельмі розныя. Думаю, у нашай літаратуры ёсць творы на любы густ, настаўніку толькі трэба своечасова параіць вучню, што прачытаць (з улікам індывідуальных зацікаўленасцей дзіцяці, вядома).

Падзялюся яшчэ адным асабістым фактам. На пятым курсе філфака я наведваў спецкурс дацэнта Л. Алейнік «Сучасная беларуская літаратура для дзяцей і падлеткаў». Калі сказаць па-шчырасці, на той час мае навуковыя зацікаўленасці былі ўжо даволі пэўна вызначаны, я засяродзіў увагу на айчыннай літаратуры першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя — на «нашаніўскім» і «ўзвышаўскім» перыядах. Але вырашыў «пашырыць досвед» ды паслухаць, што ўяўляе сабой сённяшняя

літаратура для юных чытачоў. Хаця, мушу прызнацца, загадзя быў упэўнены, што твораў, якія я змагу «запоем» прачытаць у свае дваццаць два гады, такі спецкурс не прадугледжвае. Як жа я памыліўся! З вялікай цікавасцю прачытаў «Афганскую шкатулку» А. Федарэнкі, «Памалюся Перуну, пакланюся Вялесу» А. Наварыча, «Сэрца мармуровага анёла» Л. Рублеўскай, «Адна капейка» У. Сцяпана.

Некаторыя творы — напрыклад, аповесці В. Гапеева «Ведзьміна тоня» і А. Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» — мяне надзвычайна ўразілі. Лічу, што гэта менавіта тыя творы, якія здольны не проста зацікавіць сучасных падлеткаў, але нават крануць іх да глыбіні душы, прымусіць асэнсаваць і пераасэнсаваць погляды на жыццё. Праз такія творы ў школьнікаў можа ўвогуле абудзіцца цікавасць да беларускай літаратуры.

Цяжка прагназаваць, што будзе далей — ці павялічыцца з цягам часу ўвага дзяцей да кнігі, ці яна будзе страчвацца і далей. Зразумела, электронныя носьбіты, лічбавыя гаджэты ды найноўшыя сродкі камунікацыі выцясняюць друкаваную кніжку. А з друкаванай кніжкай сыходзіць у нябыт цэлы пласт культуры. Але мне хочацца аптымістычна глядзець у будучыню. Міжволі згадваецца эпізод з фільма «Масква слязам не верыць», дзе герой сцвярджаў, што неўзабаве «не будзе нічога, адно скразное тэлебачанне». Прайшло некалькі дзясяткаў год, але прагнозы таго персанажа, як бачым, не спраўдзіліся. Вось і з мастацкай літаратурай, па-мойму, тое самае. Песімістам хочацца адказаць: «Не дачакаецеся!» Бо калі зрабіць (нават збольшага, «наўскідку») агледзіны бягучага літаратурнага працэсу, то відавочна, што кожны год у нас з’яўляюцца новыя цікавыя творы. Пры тым, творы розныя паводле жанравай прыналежнасці, розныя паводле тэматыкі ды праблематыкі. З таго, што выйшла за апошні час, напрыклад, я б вылучыў цыкл навел У. Сцяпана «Дзеці» («Маладосць» № 5, 2013), аповесць А. Федарэнкі «Ціша» («Маладосць» № 7, 2013), раманы Л. Рублеўскай «Авантуры Пранціша Вырвіча — шкаляра і шпега» (2012) і «Авантуры студыёзуса Вырвіча» (2014), кнігу В. Гапеева «Я размалюю для цябе неба» (2013)... Аднак, нягледзячы на жанрава-тэматычную адрознасць пералічаных твораў, ім уласцівы некаторыя агульныя якасці: цікавыя сюжэты, эмацыйнасць, вобразная мова. Чалавечнасць і маральнасць, калі хочаце! Безумоўна, філолаг-прафесіянал павінен ацэньваць літаратурныя ўзоры па пэўных крытэрыях, браць пад увагу і форму, і змест. Але галоўны крытэрый для мяне асабіста — гэта тое пачуццё, з якім я перагортваю апошнюю старонку кнігі. Калі я адчуваю, што не проста прачытаў мастацкі твор, але ***пражыў*** разам з героямі іх жыццё — сумаваў і радаваўся з імі, цярпеў паразы і атрымліваў перамогі, тады гэты твор застаецца са мной назаўсёды, робіцца часткаю майго жыцця. На маю думку, менавіта такой павінна быць сучасная літаратура для дзяцей і падлеткаў.

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

## Трэба араць сваю ніву, нягледзячы ні на што…

Паводле многіх мемуарных сведчанняў, пачынаючы прыкладна з сярэдзіны XIX ст., усе дзеці — школьнікі, гімназісты — захапляліся прыгодніцкімі, фантастычнымі і дэтэктыўнымі гісторыямі. У савецкі час традыцыя зусім не перапынілася, хутчэй, наадварот, улічваючы ўсеагульную адукаванасць. Выходзілі некалькімі выданнямі «Библиотека приключений», зборы твораў Майн Рыда (у 6-і тамах), Ф. Купера (у 6-і тамах)., Стывенсана (у 5-і тамах), Жуля Верна (у 12-і тамах), Джэка Лондана (у 13-і тамах), Вальтэра Скота (у 20-і тамах), «Библиотека советской фантастики» (у 25-і тамах), Івана Яфрэмава (у 6-і тамах), Аляксандра Бяляева (у 5-і тамах) і іншыя падобныя выданні.

Можна запярэчыць аўтару: «Не параўноўвай сваё дзяцінства ў сталічным горадзе, у элітнай сям'і з яе велізарнымі магчымасцямі набываць кнігі, і дзяцінства вяскоўцаў». Але не згаджуся: у той час, у 1950—1970-я гады, сетка бібліятэк была намнога шырэйшая, чым цяпер, і бібліятэкі, хоць бы школьныя, былі ў самых глухіх кутках, а кнігі для дзяцей выходзілі мільённымі накладамі. Творы Жуля Верна ці Стывенсана, В. Скота ці Я. Маўра хоць і не ў выглядзе збору твораў, але асобнымі выданнямі знаходзіліся літаральна ў кожнай дзіцячай бібліятэцы. Акрамя таго, у адаптаваных для дзяцей выданнях выходзілі творы сусветнай класікі: «Гарганцюа і Пантагруэль» Ф. Рабле, «Дон-Кіхот» Сервантэса, «Прыгоды Рабінзона» Д. Дэфо, «Прыгоды Гулівера» Дж. Свіфта. Іх таксама рэкамендавалі падлеткам бібліятэкары і школьныя настаўнікі. Так незаўважна ўваходзілі ў свядомасць эпахальныя, агульначалавечыя вобразы сусветнай літаратуры. А прыгоды і фантастыка выхоўвалі пэўны тып чалавека-энтузіяста, які верыў у дабро, у высакародныя пачуцці і бязмежныя магчымасці людзей, быў цікаўны да свету, дапытлівы, аптымістычны. Ён, у адрозненне ад сучасных амерыканскіх палітыкаў, добра ўяўляў сабе геаграфію Зямлі; у яго свядомасці выразна адбіліся гістарычныя падзеі, прычым не у выглядзе сухіх лічбаў і імёнаў, а ў выглядзе жывых вобразаў; ён авалодваў універсальнымі кодамі, сімваламі культуры, веданне якіх якраз і аб'ядноўвае людзей, дае ім магчымасць адчуваць сябе адзінай чалавечай сям'ёй.

Дзейсныя рамантыкі, выхаваныя на адпаведнай літаратуры (мяркую хоць бы па сваім бацьку і яго сябрах), перамаглі ў самай крывавай вайне, надзвычай хутка адбудавалі краіну, паляцелі ў космас, знайшлі карысныя выкапні (на сёння галоўны выток валюты ў постсавецкіх краінах), стварылі лепшае ў свеце кіно, балет, ды, па вялікім рахунку, як бачыцца з вышыні часу, і архітэктуру, скульптуру, жывапіс...

Сёння да нас на філфак (на філфак!) часам прыходзяць дзеці, якія не тое што не чыталі класіку прыгодніцкага ці фантастычнага жанру, але і сусветна вядомых казак не ведаюць. А ва ўніверсітэт усё ж ідуць лепшыя...

У свядомасці апошняга пакалення людзей, нашых сучаснікаў, цэлы каласальны пласт сусветнай культуры проста адсутнічае. І гэта мне ўяўляецца велізарным дэфектам у іх адукацыі і выхаванні. Сёння маладых аб'ядноўваюць іншыя коды — Чалавек-павук, Супермен, Гадзіла і падобныя. Здаецца, так і патрэбна: «новы час — новыя песні». Ды толькі новыя героі анімацыі і масавай кінапрадукцыі не маюць дачынення да сапраўднага мастацтва — гэта параджэнні масавай культуры, значыць, контркультуры, антыкультуры, якая паразітуе на сапраўднай і выцясняе яе. Падкрэсліваю: паразітуе, гэта значыць, шырока выкарыстоўвае знойдзеныя класічным мастацтвам прыёмы, метады, сюжэты, але без гармоніі цэлага, без адпаведнай эстэтычнай меры, па сутнасці механічна. Такія творы, такія вобразы ў вельмі невялікай ступені валодаюць выхаваўчым, пазнавальным і эўрыстычным патэнцыялам. Пры гэтым, як вядома, дабрабыт паразіта знаходзіцца ў адваротнай залежнасці ад дабрабыту арганізма, на якім ён паразітуе. Ужо сёння дзякуючы дзейнасці паразіта — масавай культуры — кола сапраўднай культуры звузілася да мінімуму.

Акрамя таго, кінамастацтва, як і іншыя віды мастацтва, заснавана на першай сігнальнай сістэме (успрымаюцца пры дапамозе органаў пачуццяў), і толькі адна літаратура — на другой, прама звязана з мысленнем. Прагляд кінастужкі ў прынцыпе не адрозніваецца ад нашага натуральнага знаёмства са светам пры дапамозе зроку і слыху — гэта шлях вельмі лёгкі, які не патрабуе значных намаганняў. Чытанне ж — актыўная мазгавая работа, калі задзейнічаны значныя групы адпаведных нейронаў, устанаўліваюцца шматлікія сувязі, якія ў далейшым робяцца асновай розных відаў памяці і лагічнага мыслення. Толькі чытанне як бы дабаўляе да ўласнага жыццёвага вопыту чалавека іншы вопыт, робячы асобу мудрэйшай і, што надзвычай важна, больш гуманнай.

Менавіта чытанне фармуе два тыпы мыслення: паняційнае (інтэлект) і вобразнае, абумоўленае дзейнасцю розных паўшар'яў кары галаўнога мозгу — левага (рацыянальнага, навуковага, моўнага) і правага (вобразнага, інтуітыўнага, прасторавага, музычнага).

У паняційным мысленні асноўныя формы высноў — індукцыя і дэдукцыя. У вобразным мысленні асноўная форма — трансдукцыя.

Трансдукцыя — асаблівая форма высноў, якая ўзнікае ў працэсе ўлоўлівання аналогіі, падабенства асобных прадметаў і з'яў. Валоданне трансдукцыяй — вялікі дар прыроды.

Звычайна дзеці ад 2 да 5 гадоў твораць на аснове менавіта трансдукцыі, выкарыстоўваючы толькі ўласны, хоць і невялікі, жыццёвы вопыт, цікава яго камбінуючы, напрыклад: «Індычка — гуска з банцікам». Ужо вучні ў старэйшых класах дабаўляюць да жыццёвага вопыту нейкі літаратурны канон або нават самі ствараюць літаратурныя творы паводле гэтага канона. Вось чаму, каб выхаваць творчага чалавека, так важна ведаць канон, а ён утвараецца ад чытання многіх твораў.

Мастацтва сёння ўвогуле (у прыватнасці, літаратура) — на апошніх ролях. Інфармацыйная эпоха, інфармацыйная рэвалюцыя. Але занядбанне мастацтва, гуманітарных навук у навучанні прывядзе і ўжо прывяло да з'явы страшнай — усё меншай здольнасці чалавека да творчасці. Адсутнасць творчага пачатку ў чалавеку — паказчык яго дэградацыі. Разам з чалавекам дэградуе і грамадства. Што мы і назіраем на працягу апошніх дзесяцігоддзяў.

Вярнуся да вопыту свайго і маіх сяброў. Ужо ў 1980 гады рамантычны пафас, узнёслыя парыванні нашага пакалення сталі не патрэбныя — народ у пераважнай большасці прагна імкнуўся ў спажывецкае грамадства, і яму было не да ідэалаў. У пачатку 1990 гадоў жыццё проста жорстка пасмяялася з нас, рамантыкаў. Але, скажам, я ні пра што не шкадую — любы вопыт каштоўны. Увогуле, хто плюе ў сваё мінулае — той не мае будучага...

А моладзь усё роўна — нават у спажывецкім грамадстве — рамантычная па сваёй сутнасці і прагне незвычайнага ў жыцці. Юнакі 1990 гадоў захапіліся не навуковай фантастыкай, як папярэдняе пакаленне, а літаратурай фэнтэзі, дзе дзеянне адбываецца не ў нашым свеце, а ў паралельным, часта казачным. Мне здаецца гэта натуральнай рэакцыяй на празмерную матэрыялістычнасць грамадства, на культ прагматызму і рацыянальнасці. Калі крамы забітыя рэчамі і можна лёгка паляцець ці то на Канары, ці то ў Тайланд, то няма да чаго імкнуцца, і ўсё робіцца нецікавым. Гэта той стан асобных людзей ці нават усяго грамадства, пра які ў народзе гаварылася: «Праз горла лезе...» Калі ўсяго зашмат, яно абясцэньваецца. І таму ўласны свет, напоўнены рэчамі, робіцца нецікавы. Цягне або ў іншы свет, з іншымі рэаліямі, або свой хочацца перарабіць на ўласны густ. Таму захапленне падлеткаў фэнтэзі мне бачыцца заканамерным і натуральным. Гэта форма адыходу ад рэальнасці, у якой няма прыцягальнасці.

Нас, дарослых, зацікавіла надзвычайная папулярнасць у пачатку XXI ст. кніг англійскай аўтаркі Джаан Роўлінг пра Гары Потара. Кнігі, а затым фільмы паводле цыкла пра хлопчыка-мага шырока разышліся па свеце. Гэта быў, бясспрэчна, выдатнейшы камерцыйны праект — піярыўся ён не проста выключна ўмела і маштабна, а, можна сказаць, геніяльна. Але стаўка зроблена правільна — дзяцей усёй планеты захапілі кнігі і сам галоўны герой. Можна лічыць выключна станоўчым фактам ужо хоць бы тое, што многіх малых гэтыя раманы прывучылі да пастаяннага чытання. А чытаць прыходзілася шмат, бо кнігі тоўстыя і іх ці не сем-восем. Мне яны здаліся занудлівымі, бо памяць філолага захоўвае многія літаратурныя факты з нашмат большай сілай фантазіі і майстэрствам іх аўтараў, але ў дзяцей свая логіка і сваё ўспрыняцце рэальнасці, тым больш казачнай рэальнасці. Яны ўважліва прачыталі кнігі Роўлінг, якія сталі стымулятарам, узбуджальнікам фантазіі, абудзілі прагу да фантастычнага змянення свету, нават да ўласнай творчасці. Мне ўжо прыходзілася пісаць пра

кнігу дванаццацігадовай Лады Ксенафонтавай, якая па-свойму інтэрпрэтавала цыкл пра Гары Потара.

...Мае прагнозы аб вяртанні любові дзяцей, падлеткаў да чытання песімістычныя. Але песімістычныя ў адносінах да сённяшняга грамадства — спажывецкага і па вялікім рахунку, сапраўды, нецікавага. Па-першае, у ім няма мэты, акрамя прагі камфорту, па-другое, не выхоўваецца любоў да працы, а чытанне — таксама праца. Нашто чытаць, калі можна праглядзець фільм у інтэрнэце ці пагуляць у чарговую гульню-стралялку. Па-трэцяе, увогуле залішне многа спакус-забаўлялак, каб маладога чалавека раптам пацягнула да кнігі. Толькі ў іншым грамадстве — больш аскетычным — магчыма вяртанне культу чытання. Калі прыходзіцца эканоміць электрычнасць, як цяпер ва Украіне, не будзеш качаць кінастужкі ў свой камп’ютар — міжволі звернеш увагу на кнігу. Безумоўна, не дай бог жорсткай эканоміі, і я да яе не заклікаю, але мяркую, што ўсё магчыма ў нашым свеце, таму скарачаць бібліятэкі, асабліва на перыферыі, што ўжо робіцца, бадай, зарана.

Ёсць яшчэ адзін шлях прывучыць да чытання літаральна з першага класа. Для гэтага неабходна да кожнай тэмы па любой дысцыпліне — фізіцы, хіміі, геаграфіі, гісторыі, нават матэматыцы — падабраць адпаведныя мастацкія тэксты, урыўкі з мастацкіх твораў. Толькі ў такім выпадку забяспечваецца гарманічнае развіццё левага і правага паўшар’яў мозгу, адно будзе дапамагаць другому, чаго цяпер у навучанні не назіраецца — левае падаўляе правае. Я разумею, што гэта абсалютная ўтопія, але толькі такім — у абрамленні мастацкіх тэкстаў — мне бачыцца вывучэнне школьных прадметаў.

Што ж тычыцца нас, літаратараў, то мы, нягледзячы ні на што, павінны працягваць прапаганду кнігі, араць сваю ніву, і калі-небудзь зярняткі, кінутыя намі, узыдуць, можна спадзявацца, добрым жытнім полем...



**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

# ЧАЛАВЕК ЯК ЧАСЦІНКА СВЕТУ

У кнізе народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа «Жыццёвыя клопаты» неяк прачытаў: «Янка Маўр адкрыў мне, які вялікі, багаты і прыгожы свет, што нас акружае, навучыў бачыць не толькі тое, што перад вачамі, але і далёка навокал». Каб стаць дзіцячым пісьменнікам, трэба, як сцвярджаў Вісарыён Бялінскі, ім нарадзіцца, быць асобай няўрымслівай, шчодрай, любячай, узвышанай. Янка Маўр быў менавіта такой асобай. Вось што расказала некалі ў пісьме да аўтара гэтых радкоў Эдзі Агняцвет: «...У маім уяўленні Янка Маўр заставаўся даверлівым, шчырым, цікаўным і хітраватым, як вялікае дзіця.

Успамінаецца, як у час з'езда беларускіх пісьменнікаў у 1954 годзе падышоў да мяне ў перапынку. Гэта было ў фае тэатра Янкі Купалы. У калідоры тэатра няма крэслаў, і я села на падаконнік. Іван Міхайлавіч весела ўсміхнуўся і сеў побач. «Вось так і трэба! — сказаў ён. — Для таго, хто піша для дзяцей, не павінна быць умоўнасцей. Сядзіш на падаконніку і адчуваеш сябе, як у дзяцінстве!»

У гутарках з дзецьмі Я. Маўр імкнуўся прывіць этыку паводзін, неабходную для рэалізацыі станоўчых якасцей школьнікаў, умеў дыягнаставаць узровень развіцця іх светапогляду. Разам з тым яго хвалявалі псіхарэакцыя паводзін дзяцей, матываванасць іх учынкаў.

Менавіта Я. Маўр сваёй аповесцю «ТВТ» прадвызначыў эстэтычную праграму дзеяння (гайдараўскія цімураўцы яшчэ пісаліся), якая набыла рэальную форму міжасабовых зносін і дыялогу ў клубах па інтарэсах, у розных аб'яднаннях, студыях асобаснага росту, адукацыйных секцыях «Я і сусвет», згуртаваннях юных псіхолагаў (занятак апошніх — трэнінг). Праз гульню (структурны сродак арганізацыі сюжэтна-кампазіцыйнага матэрыялу), праз тайну (невядомасці выніку), Я. Маўр вывеў сваіх герояў на прадметнае поле калектыўнай творчасці. Маўраўская канцэпцыя актыўнага героя абапіралася на сістэму гуманістычных каштоўнасцей, развівалася, кажучы па-сённяшняму, праз сацыяльна-культурную мэту, вызначаную фактарам рэфармавання школы ў святле новай, распрацаванай вучонымі канцэпцыі навучання і выхавання.

Нагадаем «Палескіх рабінзонаў». У ракурсе сённяшняга дня гэты твор — пачатак мадыфікаванай школы выжывання ў экстрэмальных сітуацыях. Менавіта Я. Маўр як педагог вызначыў праблему асабістага эксперымента, вучыў жыццю праз разумовую дзейнасць, гульню, выкарыстаўшы, ужо як пісьменнік, асаблівую спецыфічную жанравую форму аповесці, што і дазволіла яму ўключыць герояў у сістэму сацыяльна-маральных сувязей.

Янка Маўр — заснавальнік прыгодніцкага жанру і фантастыкі. Жанр гэты уяўляе сабой сімбіёз прытчы, казкі, фальклору, эмацыянальнага кантрасту і асацыятыўнага паралелізму, сімволіка-алегарычнай умоўнасці, драматычнага імператыву дыялагічнага характару. Прыгода «як якасць эстэтычнага раду» (вызначэнне вядомага даследчыка А. Вуліса) адыгрывае значнае месца ў творах М. Лынькова (сфармуляваў рамантычны стыль героіка-патрыятычнай аповесці, разглядаючы праблему гераічнага як псіхолага-сацыяльную), У. Караткевіча (выявіў дыялектыку сувязі агульнага, адзінкавага, адшукаўшы карані нацыі ў

гісторыі), Л. Дайнекі (раман «Меч князя Вячкі» вывучаецца ў школе), У. Паўлава (аповесць «Пажарніца» рэкамендаваны для пазакласнага чытання). Апошні не паслухаўся прыхільнікаў падзейнай эпатажнай аповесці, а даў узор твора псіхалагічнага кшталту. Я. Маўр жа расцэньваючы чалавека як часцінку сацыяльнага свету, сцвярджаў агульнае інтэрнацыянальнае, распрацоўваў характары, бачачы ў іх форму праяўлення грамадскай псіхалогіі.

Субстанцыя гульні ў прыгодніцкіх творах Я. Маўра — гэта асацыятыўная сувязь паміж сацыяльным статусам дарослых і дзяцей, узнаўленне страчанай гармоніі, адсутнасць якой сказваецца на змесце крытэрыяў дарослaсці герояў. Па сутнасці, аўтар прыгодніцкай аповесці ў 30-я гады ўзняў актуальную праблему перабудовы чалавечага мыслення. Звярнуўшыся да парадаксальна-зваротнай ідэнтыфікацыі сітуацыі (калі не дзеці бяруць прыклад з дарослых, а наадварот), ідучы «ад праціўнага», Я. Маўр у «ТВТ» імкнуўся высветліць псіхалагічна сацыяльную праблему: дарослыя абавязаны ставіцца з разуменнем да ўнутранага; свету маладога пакалення, якое фарміруе сваю самасвядомасць і камунікатыўныя якасці, выхоўваючы ў сабе ініцыятыву, самастойнасць, адказнасць, спадзеючыся, аднак, на падтрымку дарослых.

Праблема аховы прыроды ўзнята Я. Маўрам у «экалагічнай» прыгодніцкай аповесці «Палескія рабінзоны». Пісьменнік, беручы на сябе ролю арнітолага. батаніка, біёлага, растлумачыў чытачу шматграннасць форм жыцця жывёл, раслін. Ён сцвердзіў ідэю матэрыяльнасці свету, пераканаў чытача: чалавечы вопыт абапіраецца на дасягненні ўсіх папярэдніх пакаленняў. Разам з тым, светапоглядная дамінанта аповесці складаецца з паказу прыроднага і чалавечага фактараў.

У пошуках узаемадзеяння паміж агульным і індывідуальным, аўтар вытлумачвае працэс пазнання дыялектычна (пра гэта сведчаць дыскусіі паміж Міронам і Віктарам аб прыродзе і грамадстве). Героі «Палескіх рабінзонаў» разумеюць асаблівасці ландшафту, могуць растлумачыць спецыфіку ледніковых адкладанняў на мясцовасці. Віктар і Мірон знаходзяцца ў свеце прыроды, яны кожны раз адкрываюць для сябе штосьці новае. Яны зацікаўленыя хлопцы. Сустрэча з новым аналізуецца ў аспекце не толькі пазнавальным, але і псіхалагічным. Аматара заалогіі Віктара і нястомнага батаніка Мірона з героямі Сетан-Томпсана («Малыя дзікары») аб'ядноўвае пачуццё пазнання. Тым не менш героі замежнага аўтара не адчуваюць патрэбнасці ў эстэтычным перажыванні. Адрозніваюцца і абставіны, у якіх дзейнічаюць героі твораў. Мірон і Віктар, як і старажытныя людзі, здабываюць агонь, не маючы запалак, выкарыстоўваючы «дынама-машыну» (сабраную з дошчачак). Для герояў Сетан-Томпсана Сэма і Яна — агонь не клопат. З дапамогай трута агонь атрымлівае Кларк, паляўнічы, які ўвесь час знаходзіцца каля дзяцей. Персанажы ж Маўра самі пабудавалі жытло, пры тым без сякеры, а ў Сэма і Яна ёсць не толькі сякера, а і нож. Віктар і Мірон калеюць на холадзе. Тыя ж прыхапілі з сабой коўдру, у начны час, калі яны спяць, іх тайна наведваюць бацькі. Сэм і Ян па вечарах калоцяцца ад страху, баючыся з'яўлення ляснога духа-баншы. У Мірона і Віктара гэты факт выклікаў бы, напэўна, пачуццё жалю. Сэм і Ян не забіваюць птушак. Аднак гэта прадыктавана не ўсведамленнем каштоўнасці пярнатых, а ўяўленнем забабоннага характару. Героі Сетана-Томпсана — хлопцы па натуры жорсткія. Сустрэўшыся з вавёркай-ляцягай, «дзікуны» ссякаюць дрэва. Звярок гіне. А вось сустрэча герояў Маўра з ляцягай мае характар зацікаўленасці.

Сэм і Ян жорстка распраўляюцца з янотам. Мірон і Віктар у аналагічнай сітуацыі паводзяць сябе па-іншаму. Знайшоўшы ў лесе нямоглых барсукоў, яны прыносяць іх да сябе.

Характэрна, што ў замежнай літаратуры, якая распрацоўвае тэму рабінзанады, паказ далучэння герояў да прыроды прыводзіць да негатыўнай пераацэнкі маральных каштоўнасцей, да праяўлення, кажучы словамі Горкага, «звярынага

анархізму». У персанажаў, скажам, У. Голдзінга («Уладар над мухамі»), паралізаваны духоўны пачатак, што, па сутнасці, і прыводзіць іх да фізічнай гібелі. Першая пралітая кроў кружыць ім галовы, выклікае імкненне абняславіць свет прыроды. Пісьменнік намячае той бар'ер, пасля якога ягоныя героі ператвараюцца ў звяроў. Калі пошук прыгод для герояў У. Голдзінга — самамэта, то для Віктара і Мірона — абставіны іншага кшталту.

Уводзячы аповесць у рэчышча рамантычнага напрамку, Я. Маўр не парушыў адзінства і пераемнасці жанравай формы. Дарэмна некаторыя крытыкі сцвярджалі, што сённяшнім хлопчыкам і дзяўчынкам «сумна быць толькі каля Мірона і Віктара», бо яны «значна багацейшыя за маўраўскіх герояў» (Ванкарэм Нікіфаровіч, «ЛіМ» 1965, 13 ліпеня).

Зліўшы педагагічную ідэю, зарыентаваную на фарміраванне калектыўнага пачатку праз індывідуальны стыль і накірунак дзейнасці асобы, з мастацкай, Я. Маўр паказаў, як адбываецца працэс фарміравання здольнасцей, выпрацоўваюцца якасці, неабходныя для рэалізацыі жыццёвых планаў. Нікіфаровіч не ўлічыў аднаго: справа не ў аддаленасці ў часе, а ў маральнай пазіцыі Мірона і Віктара, у іх светапоглядзе. Бескампраміснасць герояў Маўра — катэгорыя маральная. Яны радуюць сваёй актыўнасцю, умеюць пастаяць за сябе, не праходзяць міма несправядлівасці.

Безумоўна, Я. Маўр у сваёй творчай практыцы звяртаўся да вопыту замежных папярэднікаў. Не сакрэт, што яго хвалявалі асноўныя вехі дыялектычна складанага і ўнутрана супярэчлівага зменлівага працэсу ўзаемадзеяння прыроды і чалавека ў творах Ж. Верна, насычаных пазнавальным матэрыялам. У Ж. Верна сапраўды існуе канцэпцыя прыроднага паскарэння. Прырода ў яго ўзор гармоніі. Аднак прырода і чалавек у французскага класіка знаходзіцца па-за сацыяльным кантэкстам. Маўраўскі ж праект ідзе ад Евангелля (Евангелле азначае «благая весть»), бо скіраваны на «нравственный» аспект паказу чалавечай стомленасці ў грамадстве бяспраўя, ад хвароб, насілля, здзекаў над асобай. Таму ў творах Я. Маўра і выступае выразна «нравственная» рэформа прыроднага жыцця, рэалізуецца асобасная экзістэнцыя, што патрабуе ад герояў фізічных і маральных намаганняў у справе актыўнага выхаду да разумення рэалій жыцця Ж. Верна, у якога Я. Маўр вучыўся абыходзіцца «з фонам».

Дастаткова прыгадаць, як Ж. Верн апісвае знаходжанне падводнай лодкі каля праліва Магелана. Ён паведамляе пра фукусавыя водарасці ў традыцыйным плане — аб'ём, колер, памеры. Батанічна існуе такі від расліны — вельпа з лістамі «ў чатыры футы» (Ж. Верн «Дваццаць тысяч лье пад вадой»). Гэта тая самая альга, аб якой расказвае Я. Маўр, паказваючы сваіх пастаянна галодных герояў у хвіліну рэдкай радасці: «Знайшлася нават «гародніна»: маладое лісце альгі, якое з'яўляецца досыць добрай стравай. Набралі яго, палажылі ў гаршчок, згатавалі і наеліся так, як даўно ўжо не елі. Трэба памятаць, што зяляніна для чалавека наогул вельмі неабходна, а нашы навасёлы на працягу месяца і ў вочы яе не бачылі» («Сын вады»).

У Ж. Верна, аднак, натуральна-батанічны фон нейтральны, у Я. Маўра ж гэты «фон» агорнуты ў сацыяльную абалонку. Я. Маўр разглядае падзеі і з'явы пад своеасаблівым ракурсам. Займальнасць у яго вынікае з кантраснасці прыроднага і чалавечага быцця. Так у аповесці «У краіне райскай птушкі» маляўніча падаецца прыродны фон, але ён трывожны. Насцярожвае ўсё. Расліны, якія імкнуцца адшурхнуць суседа (слабыя не вытрымліваюць канкурэнцыі і застаюцца ўнізе без сонца), ратангавая пальма, што прызвычаілася жыць за чужы кошт, ліяны, смяротна ахапіўшыя лес. Там, дзе Ж. Верн акадэмічна-рацыянальны, Я. Маўр непасрэдна-раскаваны. У Ж. Верна цяжка знайсці параўнанні, звязаныя з ладам жыцця чалавека. Зрокава набліжаючы прадметы да чытача, французскі раманіст не адушаўляе іх. Ён знаходзіць даступныя сродкі, каб зафіксаваць з'яву, растлумачыць яе. Прырода ў ягоных творах — не толькі фон выяўлення характараў, але

і сродак пазнання. І тут празаік не бясстрасны, таму што героі знаходзяцца ва ўзаемасувязі прыроднага, грамадскага аспекта.

Пранікаючы ў прыроду класавых адносін, пісьменнік у рамане «Амок» выдзеліў з асяроддзя яванскага народа тых, хто стаў гонарам нацыі. Як вядома, правячая каланіяльная вярхушка ўсёй сістэмай мер імкнулася духоўна абяззброіць людзей, пасеяць у іх душах пасіўнасць, выхаваць пакорлівасць да лёсу. Я. Маўр падышоў да гэтай праблемы як мастак-аналітык. Ён паказаў, што капіталістычная сістэма з яе тэорыяй «раздзяляй і ўладар» і схіляла народ да актыўных дзеянняў, які выявіў у сваім асяроддзі людзей, здольных весці такую барацьбу. Празаік пановаму (скажам, у адрозненне ад бульварнай літаратуры 20-х гадоў) асэнсаваў катэгорыю гераічнага і трагічнага.

Трагічны рок не вісіць над героямі Я. Маўра: сам аўтар не прызнаваў фашызму ў лёсе чалавека, які ўзяў у рукі зброю, каб змагацца. Пісьменнік аптымістычны нават тады, калі яго персанажы стаяць каля апошняй развітальнай мяжы. Аптымізм пісьменніка абгрунтаваны і пераканальны. Актыўных герояў не пакідае вера ў святасць справы, за якую аддадзена жыццё. Я. Маўр паставіў у цэнтр твора праблему ўсвядомленага маральнага выбару. Персанажы прызнаюць толькі адну логіку — логіку барацьбы, якой і падначалены іх справы, а ў цэлым — усё жыццё. Героі Я. Маўра выверяны часам і эпохай: іх барацьба прадыктавана не збегам абставін. Заслуга пісьменніка ў тым, што ён вярнуў гераічнаму пачатку рэальную аснову.

Ліхаманкавасці кавалерыйскіх наскокаў герояў бульварна-авантурных кніг Я. Маўр проціпаставіў сапраўдную рамантыку барацьбы. Упершыню ў беларускай дзіцячай літаратуры пісьменнік распрацаваў канцэпцыю чалавека, які дзейнічае ў незвычайных абставінах. Гераічнае і трагічнае па Я. Маўру — форма праяўлення неабходнасці, арганічны прынцып адзінства. Адзінства гераічнага і драматычнага — частка канцэптуальнай тэорыі пісьменніка ў яго разуменні духоўных і фізічных сіл чалавека, які дзейнічае ў асаблівых абставінах, супярэчных нярэдка прыродзе чалавечых магчымасцей. Тое, што Я. Маўр заўсёды прытрымліваўся сваёй канцэпцыі, сведчыць і пісьмо Э. Агняцвет, адрасаванае аўтару гэтых радкоў. Старэйшая дзіцячая паэтэса, узнагароджаная Міжнародным Ганаровым дыпломам Х. К. Андэрсена за паэтычныя творы, напісаныя ў перыяд з 1960 па 1967 гады, узначальвала секцыю дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР.

«Чамусці захаваўся ў мяне пратакол пасяджэння, — дзеліцца яна, — секцыі дзіцячай літаратуры ад 24 кастрычніка 1960 года (сама дзіўлюся!). Там абмяркоўвалася хрэстаматыя па беларускай літаратуры М. Пятровіча. Янка Маўр двойчы выступаў на гэтым пасяджэнні. У першым выступленні ён гаварыў аб выкарыстанні ў хрэстаматыі матэрыялаў кнігі «Ніколі не забудзем»: «Не трэба баяцца таго, што ў апавяданнях з кнігі «Ніколі не забудзем» шмат трагічнага» (сакратар пасяджэння Ул. Шахавец)».

Зборнік «Ніколі не забудзем», у якім расказваецца аб злачынствах фашыстаў на беларускай зямлі, Я. Маўр рэдагаваў сам (кніга выйшла ў 1948 годзе), апрацоўваў пісьмы дзяцей, якія зведалі горыч страт і перанеслі жудасныя пакуты. Размова ідзе такім чынам не аб праяўленні індывідуальнага; творчай манеры пісьменніка, а аб выключнай цэласнасці светапогляду аўтара.

Першы твор Я. Маўра «Чалавек ідзе» (1926) быў навуковым па змесце, дзве аповесці «У краіне райскай птушкі» (1925), «Сын вады» (1927) у рамках жанру неслі палемічны зарад, утрымлівалі класавую ацэнку ідэалогіі капіталізму. Гэтыя аповесці падрыхтавалі з’яўленне гісторыка-рэвалюцыйнага рамана «Амок», створанага на матэрыяле барацьбы яванскага народа ў 1926 годзе.

Духоўны свет герояў Я. Маўра шырокі, бо шматграннай уяўляецца перспектыва іх жыцця. За спінамі герояў не абязлічаная маса, а людзі, якія самі твораць гісторыю ў сілу ўсведамлення сваёй ролі ў ёй.

Узбагачаючы ідэйна-вобразную структуру твораў, прыглядаючыся да канонаў замежных класікаў, Я. Маўр пераасэнсаваў шматлікія кампаненты з творчай практыкі М. Рыда, Ж. Верна, Ф. Купера, сплавіўшы ў адзінае цэлае псіхалагізм і вастрыню дзеяння.

Сюжэтны дынамізм класікаў, пастаянна нарастаючы, Я. Маўр у сваіх творах нечакана запавольваў, калі гэтага вымагала творчая задума, уводзячы ў мастацкую тканіну іх эўрыстычны матэрыял, што не паслабляе напружання, а ўзмацняе яго.

Умела карыстаўся Я. Маўр прыёмам кампазіцыйнай інверсіі. Так, першы раздзел «Амока» завяршаецца захопам паўстанцамі галандскага карабля «Саардам» на чале з камуністам Салулам.

У другім раздзеле з'яўляецца пан Мінгор ван Декер, які падарожнічае па Яве ў пошуках патрэбнай зямлі пад кафейныя плантацыі. У сапраўднасці гэта галандзец Гейс, які ў час захопу карабля далучыўся да яванцаў: паўстанцкі камітэт даверыў яму падшукаць месца для захавання зброі, што была на «Саардаме». Пісьменнік дачасна не выдае сакрэту, захоўвае інкогніта героя. Пад імем прадстаўніка фірмы Гейс трапляе на баль генерала-губернатара, атрымлівае каштоўную для паўстанцаў інфармацыю.

Нярэдка выкарыстоўвае Я. Маўр у гэтым рамане і прыём храналагічнага змяшчэння. Падаючы адпаведны факт, ён не да канца расказвае пра з'яву, нечакана абрывае дзеянне, пачынаючы новы раздзел з апісання іншых абставін. Зацікавіўшы чытача, праз некаторы час вяртаецца да апісаных раней падзей. Так рэспектабельны мінгер Піп, які прыехаў на Яву «па ўражанні», пажадаў уведаць, што робіцца на гары, на якую мясцовыя бадувісы пад пагрозай смерці забараняюць каму б там ні было ўзнімацца (сітуацыя пераклікаецца з эпізодам з рамана Ж. Верна «Дзеці капітана Гранта» праз гару — таба).

На зямлю спусцілася ноч, а Піпа ўсё не было. Затое наступны раздзел пачынаецца з пытання: «Што здарылася з Піпам?» Прыём храналагічнага сумяшчэння (пры адпаведнай падсечцы — урэзцы дзеяння) характэрны і для аповесці «Сын вады». У шостым раздзеле паведамляецца, што Манг пасля працяглай адлучкі, дабраўшыся да месца, дзе жылі бацькі, не знаходзіць іх. Празаік, узмацняючы напружанне, расказвае аб прычынах пераезду іх толькі ў восьмым раздзеле.

Загадкавасць — галоўная спружына руху сюжэта і ў аповесці «У краіне райскай птушкі». Удзельнікаў экспедыцыі Скота трывожыць таямнічы конь на фоне небасхілу. Качу і Хунь-чжы, сочачы за кампаніяй золаташукальнікаў, рухаліся паралельна маршруту экспедыцыі. Хвалюе ў творы і тайна з'яўлення прыколатага пальмавага ліста (такім спосабам праваднік экспедыцыі Чунг-лі дае знаць аб сабе Качу і Хунь-чжы).

Увогуле Я. Маўр івыкарыстоўвае і іншыя атрыбуты прыгодніцкага жанру (экскурсы ў мінулае герояў, сумяшчэнне разнапланавых з'яў). Нярэдка ён ставіць персанажаў у складаныя абставіны, неабходныя для лепшага праяўлення характару персанажаў. У аповесці «У краіне райскай птушкі» ёсць такая сцэна. Трое сяброў, абкладзеных зграяй Скота з усіх бакоў, трапляюць у каменны мяшок. Але Скот, сціскаючы кальцо, не знаходзіць у цясніне тых, на каго паляваў (сябры схаваліся за вадаспадам).

Ставячы на карту жыцці герояў, пісьменнік канчаткова авалодвае ўвагай чытача. Аднак займальнасць не самамэта для яго, а толькі сродак. Каб адарвацца ад кампаніі золаташукальнікаў, Чунг-лі («У краіне райскай птушкі»), добра разумеючы, што ён увесь час пад наглядам, вырашае сарвацца ў бяздонне. Здраднік Файло зразумеў намеры кітайца і рынуўся следам за ім. Абодва сашчапіліся ў смяртэльным паядынку на выступе. Чунг-лі добра арыентуецца на мясцовасці. Ён адпіхнуў ад сябе Файло, але той, падаючы ў прорву, паспеў учапіцца за нагу юнака. Трывога нарастае: куст, за які ўхапіўся кітаец, трашчыць. За паядынкам наглядаюць знізу Качу і брат кітайца (Качу, маючы ў руках вінтоўку, стрэліць не можа, каб не параніць ці забіць свайго).

Як і класікі прыгодніцкага жанру, Я. Маўр быў перакананы, што магчымасці чалавека бязмежныя, а ў барацьбе са стыхіяй ён загартоўваецца. Аднак класікі больш апелявалі да прыроднага фактару (паядынак Жыльята Гюго ў «Працаўніках мора»), супрацьборства з горным смерчам майнрыдаўскага Морыса-мустангера ў «Конніку без галавы», паядынак Нема з акулай у Індыйскім акіяне ў «Дваццать тысяч лье пад вадой»).

Філасофска-эстэтычная пазіцыя Я. Маўра разыходзілася з накіраванасцю Ф. Купера, Ж. Верна, М. Рыда. Несумненна, Я. Маўр добра разумеў, чаму абарыгены праяўлялі трывогу пры з'яўленні ў іх паселішчах белых, такіх, якія ўведзены ў тканіну «Пятнаццацігадовага капітана», як Лівінгстон і ідучы па яго слядах збаўца Стэнлі. У Лівінгстона і Стэнлі тэорыя расавага прыярытэту спрацоўвала ў такой ступені, што падарожнікі выкарыстоўвалі ў адносінах да туземцаў крайнія меры.

Іншы погляд у Ф. Купера. Амерыканскі пісьменнік апаэтызаваў саюз белага і індзейца. Фізічная і маральная дасканаласць Чынгачгука і Нацці Бэмпо не выклікае пярэчання. У пенталогіі Ф. Купера разведчыкі пракладвалі шлях капіталістычнаму ладу, які, кажучы словамі М. Горкага, затым асудзіў іх як злачынцаў.

Горкі лічыў фігуру Бэмпо алегарычнай. Я. Маўру не было патрэбы выкарыстоўваць алегорыю ў адносінах да станоўчых вобразаў. У адрозненне ад Ф. Купера ён укараніў у літаратуру вобраз не ахвяры сацыяльнага ладу, а змагара за праўду. Пазіцыя Я. Маўра, які паставіў пад сумненне ідэальны саюз каляровых і белых, была вынікам яго светапогляду.

Янка Маўр не хаваў сімпатый да абарыгенаў. Тут ён ішоў ад Міклухі Маклая, увёўшы ў аповесць «У краіне райскай птушкі» вобраз славутага падарожніка ў процівагу Ж. Верну, які, як вядома, распрацаваў у «Пятнаццацігадовым капітане» пабочную сюжэтную лінію «Лівінгстон — Стэнлі». Прывядзём урывак з дзённіка Міклухі Маклая:

«Тубыльцы адзін за другім узнімаліся на трап, а пасля на палубу. Там яны акружылі мяне, працягвалі рукі, гладзячы па плячах і па спіне, паўтараючы маё імя з дабаўленнем «уян, уян» (добры, добры) і «кавас, кавас» (сябра, сябра)».

І Я. Маўр прыглядаецца, як аднясуцца папуасы да кітайца, які трапіў да іх: «Чунг-лі зрабіў салодкую міну, заківаў галавой і сказаў: — Кавас! Кавас! — што азначае прыяцель, прыяцель. Папуасам, відаць, гэта спадабалася. Яны апусцілі рукі, але ўсё роўна чакалі яго да сябе. Што заставалася рабіць — патрэбна было злазіць. Чунг-лі ўлез у лодку, зрабіў выгляд, што ён вельмі ўдзячны за іх ласку і ўсё паўтараў: — Уян, уян (добра, добра)!».

Пісьменнік Пятро Рунец у сваёй кнізе «Чалавек з крылатай фантазіяй» сцвярджае, што Я. Маўр быў знаёмы з кнігай Міклухі Маклая «Падарожжы», якая выйшла ў Маскве ў 1923 г. Эпізод — загадка, эпізод, які выклікае роздум. Адкуль кітаец знаёмы з некаторымі словамі з лексікона папуасаў. Дзе і калі ён чуў іх? Пісьменнік не спяшаецца з адказам, пераводзячы дзеянне ў бытавы план. Ён расказвае пра побыт і культуру туземцаў, паказвае складаныя ўмовы працы тых, хто выкарчоўвае лес, каб потым калектыўна ўрабіць поле.

Янка Маўр нанёс сакрушальны ўдар па тых, хто, прыкрываючыся тэорыяй «вышэйшай расы», ужо ў сярэдзіне XIX стагоддзя стварыў у гэтых рэгіёнах шэсць брытанскіх калоній, якія цягам часу былі аб'яднаны ў дамініён Вялікабрытаніі. Ён не стаў сістэматызаваць антрапалагічныя дадзеныя аб папуасах, як гэта рабіў вучоны Міклуха Маклай (даследчык засведчыў, што «папуасы — нармальныя людзі, валасы ў іх растуць не групамі ці пучкамі, а так як і ў нас»). Перад Я. Маўрам стаяла іншая задача. Веру ў абарыгенаў ён увасобіў у пераканальныя вобразы. Абапіраючыся на гуманістычныя прынцыпы каланіяльнага рамана, Я. Маўр знаёміць чытача з Мапу, правадыром племені. Мапу па сутнасці не адрозніваецца ад майнрыдаўскага Ацыёлы. Той памяркоўны, разважлівы. Правадыр семіёлаў нясе адказнасць за свой маленькі народ.

Янка Маўр не любіць гатовых характараў. Ён схільны да выяўлення аргументаваных матываў і ўчынкаў герояў, імкнецца адлюстраваць працэс псіхалагічнай перабудовы персанажаў пад уплывам абставін. Ён умее адшукаць і паказаць чытачу той момант, з якога пачынаецца маральны рост героя, прадыктаваны чымсьці істотным, той рашаючы крок, які раз і назаўсёды мяняе лёс чалавека.

Чытаючы раман «Амок», задумваешся: чаму людзі розных нацыянальнасцей галандзец Гейс і яванец Нонг, ідучымі рознымі шляхамі, уключыліся ў нацыянальна-вызваленчы рух.

З Гейсам мы знаёмімся ў момант незвычайнага напружання фізічных і духоўных сіл. Ён фактычна стаіць перад выбарам: далучацца альбо не далучацца да паўстанцаў. Можа, застацца з палоннымі, якіх пераможцы плануюць высадзіць з «Саардама» на востраў? Далучыўшыся да паўстанцаў, Гейс выконвае адказнае заданне камітэта, праяўляючы ў безвыходных сітуацыях вытрымку і кемнасць.

Пры распрацоўцы гэтага вобраза Я. Маўр сутыкнуўся з поўнымі цяжкасцямі. З першых старонак заўважаецца некаторая аднабаковасць у паказе ўнутранага свету героя. То тут, то там сустракаюцца павярхоўныя аўтарскія заўвагі — рэмаркі, накшталт «Відаць было, што з ім адбываецца нешта незвычайнае, што ён перажывае нешта большае ад усіх іншых». Альбо: «Гейс нервова ўздрыгануўся і выйшаў за дзверы, нічога не адказаўшы».

Празаік змог пазбавіцца недахопу, выкарыстаўшы жульвернаўскі варыянт «звязкі». З Гейсам увесь час знаходзіцца адзін з кіраўнікоў паўстання Салул. Салул і Гейс дапаўняюць адзін аднаго, выяўляючы індывідуальныя рысы характару. Абодва ходзяць па сутнасці па вастрыі ляза. Паспрабуем уявіць, што Салул, які пераўвасобіўся ў слугу Гейса, раптам дзесьці выдасць сябе неасцярожным словам, рухам. Што тады рабіць Гейсу, які, схаваўшыся пад маскай прадстаўніка фірмы, выконвае заданне камітэта паўстанцаў, шукае месца, дзе б магчыма было захаваць зброю. І наадварот.

Любы пралік ван Дэкера-Гейса будзе каштаваць жыцця Салулу. Сяброўства Салула і Гейса ўзбагачае абодвух. Салул — па прафесіі слесар. Неаднойчы яго веды, вопыт выратоўвалі паўстанцаў. Янку Маўра цікавіла, вядома, не так прафесія яванца, як эвалюцыя чалавека як асобы. Таленавіты ад прыроды Салул умее падначаліць справе нацыянальна-вызваленчай барацьбы кожны свой крок. Менавіта вызваленчы рух запатрабаваў ад яго дысцыпліны і ўнутранай засяроджанасці. Кожны раз перад тым, як прыняць рашэнне, Салул раіцца з паплечнікамі па барацьбе (людзі даверылі яму свае лёсы).

Нацыянальна-вызваленчы рух яванскага народа выявіў нямала таленавітых арганізатараў. Узяць Гудаса. Шмат пабачыў стары на сваім вяку: рыбаліў, служыў на караблях, цярпеў здзекі. Вельмі важны штрых: менавіта Гудас становіцца капітанам захопленага інсургентамі «Саардама». Гудас — практык. Ён можа ўсё: правесці карабель праз рыфы, мабілізаваць людзей на выкананне адказнага задання. Абвяргаючы ілжывыя домыслы аб няздатнасці каляровых ажыццяўляць кіраўніцтва, Я. Маўр на вобразе Гудаса сцвердзіў думку аб таленавітасці народа. Давер'е людзей акрыляе гэтага чалавека, здольнага ўзяць на сябе ўсю адказнасць у небяспечныя хвіліны, правесці карабель там, дзе змог бы зламаць сабе шыю вопытны галандскі шкіпер. Імкненне Гудаса дзейнічаць разглядаецца аўтарам як маральная неабходнасць. Празаік рамантызуе свайго героя: «Але чым бліжэй да рыфаў, тым мацней стаяў ля штурвала. Босы, з голай галавой, у расшпіленай падранай кашулі, з бліскучымі вачыма, ён здаваўся адным з тых капітанаў-зданяў на зачараваных караблях, аб якіх ходзіць столькі легенд сярод маракоў усяго свету».

Штосьці збліжае іх: Гудаса і майнрыдаўскага Зеба Стумпа. Хутчэй за ўсё, відаць, пачуццё адказнасці перад сабой, людзьмі, уменне спакойна разабрацца ў абстаноўцы, аб'ектыўна аналізаваць, прымаць правільныя рашэнні. Істотнае ў тым, што Зеб Стумп здольны не толькі адшукаць праўду, але і

пастаяць за яе («Коннік без галавы»). Калі б не дзейны ўдзел Зеба Стумпа, наўрад ці змаглі б улады рэабілітаваць мустангера Морыса. Гудас і Зеб Стумп не даюць магчымасці, каб здзейснілася подласць, несправядлівасць. Мастацкі вопыт М. Рыда падказаў Маўру: адметнасць нацыянальнага характару звязана з канкрэтна-гістарычным разуменнем героем уласнай ролі ў барацьбе. Сыходзячы са сваёй канцэпцыі героя ў асаблівых абставінах, Я. Маўр узняўся да абагульнення: асабістыя якасці Гудаса з'явіліся ўвасабленнем гераізму і стойкасці многіх байцоў, што ішлі ў бой супраць прыгнятальнікаў, не маючы зброі.

У рамане «Амок» паказаны і складаны працэс фарміравання светапогляду Нонга. У свой час юнака прагналі з плантацыі. Цяжка давялося яму: хварэе маці, у хаце голад. Нонг пакуль што кіруецца пачуццём крыўды да каланізатараў. Ён яшчэ палітычна не выспеў як асоба. Патрэбен быў нейкі моцны псіхалагічны штуршок, каб вывесці яго з часовага бяздзеяння. Канец гэтаму бяздзеянню паклала смерць звар'яцелага з гора бацькі. Пасля ягонай смерці Нонг далучаецца да паўстанцаў, абясшкоджвае здрадніка Като. У крытычны момант прымае на сябе агонь салдат рэгулярнай арміі. Цаной свайго жыцця патрыёт выратаваў таварышаў па зброі. Подзвіг Нонга — акт высокай грамадзянскай і палітычнай свядомасці яванца-барацьбіта.

Вопыт класікаў прыгодніцкага жанру ў стварэнні вобразаў, несумненна, спатрэбіўся Я. Маўру, але пісьменнік і тут ішоў сваім шляхам. Маем на ўвазе перш за ўсё трактоўку вобразаў адмоўных герояў. У Ж. Верна быў свой эстэтычны прынцып — ён даваў ім права на выпраўленне, знаходзіў нейкія змякчаючыя абставіны. Выносячы суровы прысуд подласці, двурушніцтву, Ж. Верн, М. Рыд ніколі самі не здзяйснялі расплаты (Айртан у Ж. Верна, Колхаун у М. Рыда). Героі твораў класікаў станавіліся злачынцамі, імкнучыся ўзбагаціцца. Героі ж Я. Маўра становяцца адмоўнымі ў сілу адступніцтва ад перакананняў, здрадніцтва і інтарэсаў народаў. Гандаль ідэаламі Я. Маўр не дараваў: у гэтым сэнсе яго маральная планка была ўзнята на значную вышыню.

Вобразы людзей мізэрных, сквапных да нажывы, класікі жанру падавалі як завершаны тып ліхвярства, паталогіі. Я. Маўра не задавальняла такая пазіцыя, ён даходзіў да самой сутнасці падзення персанажа. Паспрабуем глыбей разабрацца ў маўраўскай канцэпцыі дабра і зла.

Фарысеем і двурушнікам паўстае перад намі, вуаліруючы сваё драпежнае нутро, Нягора («Пятнаццігадовы капітан»), у якога «бегаючыя вочы і казліная барада». Нягора — гандляр рабамі, Кандаракі — гандлёвы агент. Тое, што ў Кандаракі бегаюць вочы, Скот, мабыць, не бачыць, бо гандлёвы агент размаўляе з ім, як правіла, нізка прыгнуўшыся. І яшчэ адна дэталь: ніхто не ведае, пры якіх абставінах трапіў Кандалакі на востраў. Чалавек-ніадкуль (таксама як і Нягора) ходзіць ціха, можа нечакана знікнуць і раптоўна з'явіцца. Чалавек-прывід стане анёлам, калі запатрабуюць абставіны. Кандалакі можа быць любым — вось што страшна.

Нягора да нейкага часу імкнецца не кідацца ў вочы. Хцівы, крывадушны Кандалакі — увасабленне паслужлівасці і паслухмянасці.

Жуль Верн выкарыстоўвае мастацкі прыём «двайной праекцыі» з мэтай паўнаты абмалёўкі тыпа (пісьменнік часова ізаліруе героя). Высадзіўшыся на мацярык пасля караблекрушэння, спадарожнікі заўважаюць, што Нягора знік. Праваднiком спадарожнікаў становіцца амерыканец Гарыс — рэальнае ўвасабленне пачварнага Нягоры. Яго духоўны двайнік, яго цень, яго прывід.

Нягора, які стаяў перад раскрыццём, адыграў у творы сваю ролю. Ускладняючы мастацкую інтрыгу, Ж. Верн засяроджвае ўвагу на характары галоўнага героя Дзіка Сэнда (з'яўленне Гарыса, які вядзе падарожнікаў у рукі гандляроў рабамі павінна ўзмацніць пільнасць пятнаццігадовага капітана, ярчэй выявіць яго вострую праніклівасць). Гарысу неабходна праявіць вынаходлівасць, каб развеяць сумненні падарожнікаў (яны ж знаходзяцца не ў Амерыцы,

а ў Анголе), выдаць жырафаў за страусаў, усяляк прыхаваць сляды сланоў і бегемотаў. З'яўленне побач персанажа высвеціла псіхалагічны стан усіх герояў. Дзік здагадваецца, што адбываецца штосьці падазронае. Ён не мае маральнага права сказаць аб гэтым місіс Уэлдан: у яе на руках дзіця. Дый і сама жанчана прадчувае нядобрае (Дзік часта павінен вытрымліваць яе запытальны позірк, каб неяк рассеяць трывогу).

Інтрыга трымаецца на ўяўнай адпаведнасці з рэальнай сітуацыяй. Ж. Верн, даючы Нягору выгаварыцца ў гутарцы з Гарысам, усё ж не раскрывае моманту, на які звярнулі ўвагу на караблі да крушэння — на ашыйніку сабакі Дзінга выгрывіраваны дзве таямнічыя літары. Да таго ж, як толькі на палубе з'яўляецца Нягора, Дзінга гатова разарваць партугальца на часткі (падарожнікам дадзена самім раскрыць стан чацвераногага сябра ў фінале). Такія ж неардынарныя сюжэтныя калізіі і ў творах Я. Маўра. Лад жыцця вызначае і лад думак наглядчыка плантацыі Файло. На гаспадароў ён глядзіць з замілаваннем: Файло карыстаецца ад Скота і Брука на плантацыі пэўнымі выгодамі. Яму тое-сёе дазваляецца. Зыходны ракурс знойдзены Я. Маўрам удала: Файло прадастаўлена права здекавацца з людзей. Для Файло з яго ненажэрнай прагай улады — гэта ўсё. Файло, хоць ён і выхадзец з народа, лічыць сябе чалавекам вышэйшага гатунку. Ёмкае слова знайшоў Я. Маўр для характарыстыкі нягодніка — паночак. Не пан, а менавіта паночак. Файло вылузваецца са скуры, каб даказаць гаспадарам сваю адданасць, захаваць за сабой права хоць маленькага, але адміністратара.

Празаік-грамадзянін вучыў распазнаваць сяброў і ворагаў, вучыў прадбачыць небяспеку, якую нясе ў сябе чалавек, здрадзіўшы ідэі і справядлівасці.

Наватарства Я. Маўра ў трактоўцы адмоўных вобразаў заключаецца ў тым, што аўтар пазбягае шаблону, стэрэатыпных рашэнняў. Зыходзячы са спецыфікі жанру прыгод, з вялікім майстэрствам пададзены вобразы-антыподы, сутыкаюцца характары розных па ідэалагічных поглядах людзей. Полюснасць вобразаў — істотная рыса прыгодніцкіх твораў Я. Маўра, асаблівасць ягонай творчай манеры.

Пісьменнік зарэкамендаваў сябе майстрам мастацкай інтрыгі. На гэту якасць ягонай мастацкай манеры неабходна звярнуць асаблівую ўвагу. Адзін толькі эпізод у Я. Маўра мацуе ўсе сюжэтна-кампазіцыйныя звенні, выклікаючы падзейную ланцуговую рэакцыю. Усяго такі прыклад.

Двое папуасаў перад пачаткам падарожжа Скота прынеслі на плантацыю кавалак золата з просьбай памяняць яго на зброю. Яе Скот ім не даў і загадаў спаіць пасланцоў. Дабіраючыся да свайго паселішча, пакрыўджаныя, зняважаныя папуасы заўважылі лодку, на якой Скот выехаў на пошук золата, і пачалі сачыць за ёй.

Калі ў час чарговага прыпынку Брук выбраўся на паляванне, яны пазналі крыўдзіцеля і даставілі англічаніна ў паселішча.

Адна падзея ў творы зніткавана з другой. Адпаведная сітуацыя як звяно ўтрымлівае ўвесь ланцуг падзей. Я. Маўра не папракнеш у нелагічнасці. Робячы чытача саўдзельнікам таго, што адбываецца, ён аргументуе кожны ўчынак персанажаў: «Каб зразумець, як гэта яны пехатой зраўняліся з маторнай лодкай, трэба глянуць на карту Новай Гвінеі. Мы заўважым, што ад паўднёвага берага, дзе была станцыя (ля ракі Марэгед), да пачатку ракі Фляй ёсць два кірункі: або па зямлі, проста на поўнач. У першым выпадку будзе кіламетраў шэсцьсот—семсот, а ў другім — якіх-небудзь сто—сто дваццаць».

Аднак Я. Маўр ніколі не лічыў, што вастрыня дзеяння павінна быць прынесена ў ахвяру малаверагоднасці падзей. Гэта супярэчыла б логіцы развіцця характараў, прывяло б да парушэння жыццёвай праўды.

На нашу думку, знаходжанне Брука ў палоне — ключавы эпізод твора. Брук быў знішчаны папуасамі. Аднак аўтар не лічыць гэты варыянт аптымальным. Брук павінен быў выратавацца і паведаміць «сваім» пра выпадак. Не гонячыся

за таннай займальнасцю, Я. Маўр бярэ шырэй, імкнучыся заглыбіцца ў характар іншага чалавека — Скота. Якое рашэнне прыме ён? Працягваць экспедыцыю? Вяртацца назад? Скот жа добра разумее, што тыя двое, споеныя спіртам, не вінаватыя. Няма віны і племені папуасаў, на суд якіх быў прадстаўлены памочнік Скота як заложнік. Увесь час, пільнуючыся праблемы ўзаемаадносін белых і каляровых, аўтар імкнецца адшукаць новыя грані ў характары людзей, давесці вобраз Скота да апраўданага лагічнага фіналу.

Гаспадар фірмы, кіруючыся пачуццём брытанскага гонару, кінуў супраць абарыгенаў узброенае да зубоў войска. Што там людзі! Каляровая брыдота. Так факт прыходу папуасаў з добрымі намерамі да белых набыў у творы ланцуговую рэакцыю. Паступова, нетаропка Я. Маўр падвёў чытача да вываду: прадстаўнікі хвалёнай англійскай дзяржаўнасці не нясуць культуру забітым і адсталым народам. Да месца выявіць яшчэ адну патаемную спружыну сюжэтнага механізма рамана. Калі Скот кінуў у баі свой атрад, папуасам у гэты дзень давялося адбівацца на два франты: на іх напала суседняе племя. Гэта было на руку брытанскім палітыканам. Сам сабой напрошваецца вывад: у барацьбе супраць белых заваёўнікаў плямёны павінны выступаць адзіным фронтам, міжусобная вайна ўнутры нацыі толькі на руку каланізатарам.

Унікаючы шаблону, Я. Маўр малюе вобраз Скота запамінальнымі фарбамі. Чыста паголены, скупаваты на жэсты. Пагляд працяглы, рэакцыя крыху запаволеная. Аднак у сваёй сутнасці ён злавесны. Можа спакойна загадаць, каб чалавека збілі да крываўкі. Можа і іншае: гэтаксама спакойна выслухаць непрыемную навіну. У аповесці «У краіне райскай птушкі» не сустрэнеш рэмарак, накшталт: «Скот засмяяўся і весела сказаў». Скот загадаў, Скот патрабуе. Ніякіх эмоцый. Чалавек-статуя. Заслуга Я. Маўра ў тым, што ён паступова адыходзіць ад знешняга малюнка вобраза, выкарыстоўваючы магчымасць ускосных характарыстык.

Правобразам Скота для Я. Маўра мог паслужыць камандзір англійскай марской станцыі Вільсан. У дзённіку Міклухі Маклая расказваецца аб тым, што Вільсан, каб адпомсціць абарыгенам Новай Гвінеі за пагібель сваіх чатырох аднадумцаў, вырашыў спаліць паселішча папуасаў. Маклай папрасіў Вільсана ўзяць яго з сабой, каб прадухіліць крывавае пабоішча. Гэта яму ўдалося, паселішча не было зруйнавана, праўда, загінула чацвёра тубыльцаў.

У творах Янкі Маўра распрацоўка характараў вядзецца ў адзінстве з займальнасцю сюжэта. Пісьменнік імкнецца зазірнуць у душу персанажа, намаляваць вобраз у перспектыве. Зусім інакш робяць Ж. Верн, Ф. Купер. Іх творы ў большай ці меншай ступені адлюстроўваюць ступень рызыкі. Яны стараюцца раскрыць характары, але працэс фарміравання гэтых характараў не прасочваюць. Нават пры вельмі высокай ацэнцы, якую даў творам Ф. Купера В. Бялінскі, крытык ніводным словам не нагадаў аб майстэрстве разгортвання ім характараў.

Янка Маўр не выключаў магчымасці выкарыстання пасляслоўяў, заключэнняў, але і тут ён заставаўся верным сабе, дапісваючы, дамалёўваючы вобразы ў сацыяльным плане.

Нагадаем гутарку яго з супрацоўнікамі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Інданезіі Кхо Куатліятам, які пазнаёміўся з «Амокам» (да вайны раман быў перакладзены на англійскую мову). Пераступіўшы парог кватэры пісьменніка ў 1960 годзе, Куатліят быў уражаны, што Я. Маўру ніколі не давялося пабываць на Яве. Факт пра паўстанне ён узяў з парыжскай эсперанскай газеты. Госць зацікавіўся кукішам, да якога малайцы прыносілі ахвяры. Ці існаваў ён на самай справе?

У рамане «Амок» ёсць легенды пра гарматы. З дапамогай іх яванцы збіраліся абараняцца ад каланізатараў. Але абаронцы пасварыліся паміж сабой, і тады адна гармата засталася на плошчы, а другая ў сярэдзіне вострава. Яванцы верылі, што

гарматы пры ўмове салідарнасці людзей сыдуцца разам і тады наступіць канец насіллю. Да гарматы, што ў горадзе, яны ішлі. Каланізатары, даючы зразумець народу дарэмнасць спадзяванняў і надзей прымацавалі да яе кукіш.

Госць быў нямала здзіўлены, калі Іван Міхайлавіч паклаў перад ім, маладым дыпламатам, фотаздымак з гарматамі, атрыманы ад яванскага настаўніка. Што паўстанне пацярпела няўдачу, былі свае прычыны. Акупантаў арыштавалі ў Батавіі. Напярэдадні паўстання адбыўся правал у Сурабіі і Суракарце. Да таго ж паўстанцы мала агітавалі ў арміі (а там можна было знайсці саратнікаў у барацьбе). Эпізод аб сустрэчы з Куатліятам Я. Маўр уключыў у тканіну рамана, перавыдаючы яго ў 1960 годзе.

Дакументальныя факты празаік, як вядома, браў з газетных першакрыніц, пасвойму пераасэнсоўваючы. Дарэчы, падобным шляхам ён рабіў часам і ў малых жанравых формах. Так апавяданні «Слёзы Тубі», «Незвычайная прынада» — гэта па-мастацку ўвасобленая тэма пратэсту супраць гвалтоўных капіталістычных законаў.

У прыгодніцкіх творах Я. Маўр выкарыстоўвае гумар. Часцей ён з’яўляецца тады, калі пісьменнік бачыць неадпаведнасць паміж формай і зместам у характарах герояў. Нельга без усмешкі чытаць у аповесці «У краіне райскай птушкі», як Чунг-лі разбівае аб галаву Брука чыгунок з клейкім гумавым сокам. Брут нават не бачыць, куды страляе. У стварэнні камедыйных сітуацый празаік ідзе ад адваротнага, паказвае спачатку, што думае аб сабе сам герой і што ён уяўляе ў сапраўднасці (Брук лічыць сябе вельмі паважаным чалавекам). Я. Маўр знаходзіць спосаб развянчаць ягоную напышлівасць. У час экспедыцыі Брук трапляе ў асінае гняздо, і кампанія каланізатараў, замест таго, каб дапамагчы таварышу, кінулася наўцёкі. Тут ужо праз аднаго характарызуюцца і іншыя. Адна каларытная маўраўская фраза — і перад намі жывы вобраз. Пісьменнік заўважыў пра Скота, які шукаў золата: «Паважаны містэр Скот поўзаў на карачках і капаўся ў зямлі, як самы просты чалавек, і, здаецца, зусім забыўся аб англійскай дзяржаўнасці, аб тым, што ён павінен трымаць на належнай вышыні свой аўтаратэт».

Гумарыстычная накіраванасць характэрна і для рамана «Амок». Дастаткова ўспомніць баль у генерал-губернатара. Пачуўшы выбух кінутай кімсьці бомбы, губернатар стрымгалоў пабег да выхаду, забыўшыся пра свой высокі сан. Аўтар не проста прыводзіць факт, а надае яму ёмкі сэнс (за некалі секунд да выбуху чыноўнік аб’явіў тост за дабрабыт народа). Той жа губернатар, апамятаўшыся, робіць выгляд, што памкнуўся да дзвярэй, каб навесці парадак. Такім чынам, выпадковая невыпадковасць — адметнасць камедыйнай сітуацыі.

Асабліва дакладна «спрацоўвае» на гумар спалучэнне патэтычнага і «будзённага» стыляў пры трактоўцы вобраза. Гумар праяўляецца ва ўсёй стылявай манеры пісьма. Фразеалагічныя і марфалагічныя формы шматгранныя, узрастаючая эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка грунтуецца ў тэксце аўтара на вобразным стылістычным падтэксце.

У Я. Маўра практычна няма нейтральных сродкаў: лексічная, марфалагічная, сінтаксічная сінаніміка разнастайныя, як і ўся арганізацыя моўнай сферы. Пісьменнік актыўна ўжывае слоўныя значэнні тропаў: метафары, параўнанні, метанімію — ва ўзаемадзеянні з сінтаксісам стылявых канструкцыяй. Словы розных эмацыянальных афарбовак аўтар нярэдка ставіць побач.

Ашчадна вядзецца адбор моўных сродкаў. І ўсё ж у прыгодніцкіх творах пераважае сарказм, які з’яўляецца вынікам кантраснага адлюстравання пісьменнікам рэчаіснасці. Усяго двума-трыма мазкамі малюецца англійскі рэстаран «Касмапаліт» («Сын вады»). Але кожнае слова дакладна перадае сацыяльны аспект бачання Я. Маўрам грамадскіх праяў (не толькі беднаму, але і сярэдняга дастатку чалавеку нельга было думаць аб тым, каб наведаць гэты «палац», дзе адна лапка жабы каштуе два рублі золатам).

Напісаныя ў 20-я гады мінулага стагоддзя творы Я. Маўра заваявалі вялікую папулярнасць. Ён даказаў: прыгодніцкі жанр здольны адлюстраваць працэс маральнага ўдасканалення асобы ў дынаміцы, у руху праяўлення структурна-разнастайных сувязей. Эфект уздзеяння прыгодніцкіх твораў на розум і сэрцы падрастаючага пакалення абавязваў пісьменніка да прадуманай расстаноўкі акцэнтаў, паколькі недабор маральных крытэрыяў, падмена сапраўдных каштоўнасцей фальшывымі, як правіла, прыводзіць да супярэчнасці паміж ідэяй аб'ектыўнай і суб'ектыўнай.

Антыкаланіяльны дух твораў Я. Маўра дытычыць і праблем рэлігійнага светапогляду. Аўтар вонкава, знешне пільнуецца антырэлігійнай ідэалогіі. На самай справе ў творах засакрэчана парадыгма пра чалавечую свабоду на ўзроўні выявы экзістэнцыяльнай хрысціянскай пульсацыі герояў. У сваіх антыкаланіяльных творах ён прытрымліваецца расповеду Матфея, Марка, Лукі, хаця і не гаворыць аб гэтым адкрыта. Але ж станоўчыя героі Я. Маўра маральныя рэфарматары, выразнікі евангельскіх ідэй Хрыста, які завяшчаў: «И если кто услышит мои слова и мне не поверит, я не сужу его; ибо я пришёл не судить мир, но спасать мир» (Іаан 12, 47). Несумненна, Я. Маўр ведаў прытчы Евангелля, у якім сказана «И проповедано будет сие Евангелие царства во всей вселенной во свидетельство всем народам» (Матф. 24, 14).

Такім чынам, ідэя пераўтварэння прыроднага парадку на аснове актыўнасці асобы тычыцца ў Я. Маўра праблемы «нравственного» выбару (праца над сабой) і пошуку ісціны.

Вера па Я. Маўру — гэта здольнасць успрымаць ісціну, пратэстуючы супраць механізма духоўнага знішчэння чалавечай асобы і выступаючы ў супрацьборства з яе прыхільнікамі — антыподамі. Герой пісьменніка без веры — нішто. Эфект прысутнасці ідэй homo sapiens у творах Я. Маўра — адносіны да ідэі як да ідэалу, які фарміруецца ў барацьбе персанажаў за людское шчасце, свабоду і незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.



Іван САВЕРЧАНКА

# ПОЛЕ ДУХОЎНАГА ЎЗВЫШЭННЯ

Народны пісьменнік Беларусі Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў (1934—1996) — выдатны празаік, публіцыст і драматург, класік беларускай літаратуры. Ён пакінуў багатую літаратурную спадчыну, якая не страціла сваёй мастацка-эстэтычнай і інтэлектуальна-духоўнай вартасці.

Майстэрства І. Чыгрынава шліфавалася падчас працы над невялікімі апавяданнямі і замалёўкамі. Менавіта тады сфармаваўся яго своеасаблівы стыль і адметная творчая філасофія. Аптымістычны погляд на жыццё, вера ў магчымасць шчасця на зямлі выказана ў раннім апавяданні: «Шчаслівае месца» (1965). Галоўны герой твора — Чарэнда, якога вайна разлучыла з сям’ёй, змог адшукаць сваю адзіную дачку, выратаваную людзьмі, у мястэчку паміж Кармой і Слаўгарадам.

Талент І. Чыгрынава найбольш поўна выявіўся пры адлюстраванні падзей *Вялікай Айчыннай вайны*. Яго пяру належаць пяць выдатных раманаў — «Плач перапёлкі» (1970), «Апраўданне крыві» (1976), «Свае і чужынцы» (1983), «Вяртанне да віны» (1992), «Не ўсе мы згінем» (1996). Падзеі разгортваюцца на Касцюковіцкай зямлі, у асноўным у вёсцы Верамейкі, правобразам якой паслужыла ягоная родная вёска Вялікі Бор. Мастацка-аналітычным зрокам пісьменнік ахоплівае перыяд ад пачатку вайны да параду партызанскіх брыгад і атрадаў у Мінску на плошчы перад Домам урада.

Назва першага рамана — «Плач перапёлкі» — відавочна, мае алегарычны сэнс. Перапёлка плача, бо нехта пабурыў яе гняздо, знішчыў дзетак. Яе плач сімвалізуе незлічоныя беды і пакуты людзей, якія апынуліся пад уладай чужынцаў, надзвычай каларытна перададзена атмасфера першых дзён вайны, якая прынесла разгубленасць і страшэнны перапалох. Нават кіраўнікі калгаса — Радзівон Чубар і Дзяніс Зазыба — дакладна не ведалі, што належыць рабіць і як быць з агульнай маёмасцю. Супярэчлівая дырэктыва зверху патрабавала знішчэння ўраджаю, адпраўкі ўсяго інвентару, коней і дойнага статку на ўсход. Уласнае стаўленне да падобных распараджэнняў І. Чыгрынаў выказаў прымаўкай: «Хто з роднае зямлі ўцякае, той ворага не перамагае».

Пісьменнік пераканаўча паказаў, што краіна не мела належных абарончых збудаванняў на заходніх рубяжах. Насельніцтва, у асноўным сяляне, вымушана было капаць акопы, калі немцы ўжо наступалі. І. Чыгрынаў не замоўчвае шматлікіх фактаў дэзерцірства з Чырвонай Арміі. Разгубленыя садаты і нават афіцэры ўцякалі дадому, хаваліся ў родных вёсках. Прыведзена цікавая дэталь: многіх чырвонаармейцаў, якія з баямі адступалі і неслі велізарныя страты, цікавіла пытанне пра адказнасць тых, хто своечасова не паклапаціўся пра ўзвядзенне надзейных абарончых ліній. Так, герой рамана Шпакевіч увесь час вяртаецца да адной «небяспечнай» думкі: «Ці будуць пасля гэтай вайны судзіць тых, хто вінаваты, што мы пагана сустрэлі вайну, палажылі ўжо столькі народу і ўсё адступаем?»

Праўдзіва ўзноўлена атмасфера насцярожанасці і страху, якая запанавала сярод мірнага насельніцтва з прыходам немцаў. Але вясковыя людзі непрыязна ставіліся да акупацыйных уладаў і асабліва да стварэння імі паліцыі. Галоўныя героі — старшыня калгаса Радзівон Чубар і яго намеснік Дзяніс Зазыба —

з пачаткам вайны праходзяць праз неверагодныя выпрабаванні і разам з усім народам церпяць страшэнныя пакуты.

Надзвычай дэталёва паказана як расло супраціўленне фашыстам на Беларусі, як фармаваліся партызанскія атрады. Першыя з іх былі створаны рашэннямі райкамаў партыі сумесна са штабам 13-й арміі. Ядро атрадаў склалі раённыя актывісты, старшыні сельсаветаў і кіраўнікі калгасаў. Разгортванне барацьбы ў тыле ворага істотна адрознівалася ад дзеянняў рэгулярных часцей на фронце і мела свае законы.

Важны элемент мастацкага метаду І. Чыгрынава, які выявіўся яшчэ ў першым рамане, заключаецца ў тым, што ён паказвае вайну вачыма простых людзей, звычайных вяскоўцаў. Яны стваралі сем'і, нараджалі і гадавалі дзяцей, займаліся гаспадарчымі справамі, жылі побытавымі клопатамі і былі далёкія ад палітыкі. Але менавіта яны, на думку аўтара, сталі галоўнымі ахвярамі крывавай бойні, развязанай гітлераўскай Германіяй. Пры гэтым народнае жыццё не прыхарошваецца, сялянскі побыт падчас вайны і ў даваенны час не ідэалізуецца. І. Чыгрынаў не займаецца павучаннямі і маралізатарствам, а праўдзіва, амаль натуралістычна расказвае пра асобныя негатыўныя ўчынкі і непрыглядныя паводзіны вяскоўцаў. Так, ён прыводзіць гісторыю пра дзікунскае задушэнне братамі Сёмачкінымі старой жанчыны Домны Варонінай, якую яны западозрылі ў тым, што яна, нібыта, наслала на іх праклён. Не абыдзена ўвагай і такая агідная з'ява, як даносы адзін на аднаго і на сваіх жа мясцовых кіраўнікоў — старшыняў калгаса і сельсавета, на загадчыка гаспадарчай часткі.

Найбольш дасканалы ў мастацкіх адносінах апошні раман пенталогіі — *«Не ўсе мы згінем».* Галоўны пафас твора — вера людзей у аднаўленне і адраджэнне Беларусі ў пасляваенны час. Пісьменнік асвятляе перыяд вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прыход Чырвонай Арміі і ўсталяванне савецкай улады.

Іван Чыгрынаў справядліва завастрыў пытанне аб немэтазгоднасці адпраўкі неабстраляных навабранцаў і колішніх партызан на перадавую, у самае пекла баявых дзеянняў. Тым больш, што яны не мелі ні дастатковага вопыту вядзення баявых дзеянняў на лініі фронту, ні належнага ўзбраення. Пісьменнік са скрухай канстатуе: «Партызанаў ці не адразу ж з атрадаў мабілізоўвалі ў армію ды накіроўвалі на фронт, лічы, у лапцях, без вайсковай перападрыхтоўкі; у вёсках бабы наракалі — гоняць мужыкоў, як звычайную жывёлу, на забой. Яно так і выходзіла, як гаварылі людзі — на гэтай жа Проні ўжо было ажно некалькі спробаў зрушыць немцаў далей, на Дняпро, але дарэмна, затое кожны раз пахавальным камандам надоўга хапала работы».

Не абыдзена ўвагай у заключным рамане пенталогіі і бязлітаснае знішчэнне Чырвонай Арміяй былых паліцэйскіх і фашысцкіх паслугачоў. Рашэнне аб гэтым, паводле слоў І. Чыгрынава, было прынята ў Маскве з тым, каб не дапусціць у будучым узнікнення супраціўлення. Вуснамі савецкага генерала Зеленадольскага, гаворыць: «Да таго ж прыйшло ўказанне са стаўкі: адшукаць усіх фашысцкіх памагатых на вызваленай тэрыторыі, інакш можам стварыць умовы для ўнутранага супраціўлення, паліцэйскія ператворацца ў свядомых бандытаў, арганізаваўшы ў лясах ачагі супраціўлення савецкай уладзе».

Сцэна пакарання крутагорскага бургамістра Барысевіча ўражвае жорсткім натуралізмам. І. Чыгрынаў лічыў прысуд яму цалкам справядлівым і лагічным, але ён зусім не цешыцца з трагедыі чалавека, які аказаўся на службе ў ворагаў: «Салдаты надзелі чалавеку на галаву пятлю, пакруцілі яе на шыі для зручнасці, тады неяк раптоўна, быццам крадком, выбілі з-пад ног табурэтку. І ўсё. Нямецкі паслугач нават не таргануўся, акурат ужо быў нежывы дагэтуль. Затое зверху, быццам у адказ на тое, што адбылося, пасыпаліся снежныя крупы, ажно льга было падумаць, што гэта неба сухімі слязамі аплаквала яшчэ адну загубленую чалавечую душу».

Шмат гаворыцца пра трагічныя здарэнні на вызваленых тэрыторыях, прыгадваюцца факты дзікай помсты і самасуду партызан над сем'ямі колішніх палі-

цэйскіх. Востра крытыкуецца «барства» ў Чырвонай Арміі, выкрываецца рэзкі падзел паміж афіцэрамі і радавымі, чаго не было нават у царскай арміі. Невыпадкова генерал Зеленадольскі заўважае: «Смешна, аднак па германскай вайне помню, што нават тады паміж афіцэрам і салдатам больш дэмакратычнасці можна было назіраць, чым цяпер, калі народ і армія адзіны».

У рамане паказана расчараванне і страта ў людзей надзеі на хуткае вызваленне Беларусі ўвосень 1943 г., калі Другі фронт прыпыніў наступленне на ворага. Сцэна разбураных Верамеек сімвалізуе знявечаную ворагам Беларусь, народ якой страціў амаль усе набыткі і аказаўся загнаным пад зямлю. Людзі вымушаны былі жыць у зямлянках, яны неверагодна пакутавалі ад хвароб, каросты і вошай. І. Чыгрынаў, аднак, не ўхваляе стаўленне мясцовых людзей да магіл нямецкіх салдат, з крыжоў якіх яны паздзіралі надпісы. Ён нагадвае аб тым, што падчас акупацыі — у сорак першым, сорак другім і сорак трэцім гадах — магіл савецкіх салдат і афіцэраў, над якімі ўзвышаліся чырвоныя зоркі, ніхто з немцаў не кратаў і не ганьбіў.

Упершыню ў мастацкай літаратуры І. Чыгрынаў узняў тэму беларускага нацыянальнага руху падчас вайны. Пісьменнік слушна адмяжоўваў калабарацыяністаў, здраднікаў і адступнікаў, ад тых, хто ва ўмовах акупацыі спрабаваў развіваць нацыянальную культуру. Адзін з галоўных персанажаў твора — паэт Масей Зазыба — якраз прадстаўнік беларускай творчай інтэлігенцыі. Да вайны ён быў несправядліва арыштаваны і апынуўся ў лагеры недзе ў далёкім Марыінску. З прыходам немцаў Масей пазбягаў усялякага супрацоўніцтва з імі, але выпадак прымусіў яго пайсці пісарам у валасную ўправу.

Масей Зазыба і поп Дворскі, якія ва ўмовах акупацыі імкнуліся хоць штосьці зрабіць дзеля беларускай справы, выразна ўсведамлялі, што яны не будуць мець істотнай падтрымкі. Слушна падкрэслена: «Ні Масей, ні Дворскі не падманваліся ні наконт савецкай улады, ні наконт акупантаў, яны моцна пачувалі сябе людзьмі тутэйшымі, гэта значыць, беларусамі, дарэчы, якія ні бальшавікам, ні немцам, калі разважаць шчыра, не патрэбны былі. Маўляў, штосьці прамежкавае, — ні народ у выразным значэнні гэтага слова, ні нацыя. Карацей кажучы, ні тым, ні другім так званы беларускі нацыяналізм не падыходзіў».

Катэгарычна адмовіўся Масей Зазыба супрацоўнічаць і з партызанамі, бо выразна ўсведамляў, што за гэта непазбежна будуць пакараны не толькі яго родныя, а магчыма, і ўся вёска. Ён не чакаў літасці пасля вайны, хоць нічога кепскага не зрабіў людзям. Масей не верыць савецкай уладзе, не спадзяецца на справядлівасць бальшавіцкага суда. Па яго перакананні: «Ад савецкай улады не абароніць нават вялікае геройства. У савецкай улады заўсёды павінны быць вінаватыя. Яна без гэтага не можа». Зазыба-малодшы аказаўся ў безвыходнай сітуацыі. Са скрухай у сэрцы ён кажа: «Савецкай уладзе задаўжаў, дарма і дасюль не ўцямлю, чаму, якім чынам; прыйшла на змену нямецкая ўлада — і ёй, аказваецца, вінаватым зрабіўся. Адну віну давялося адбываць спярша ў турме, потым у лагеры, другую — у валаснай управе пры іншым рэжыме». Ён, урэшце, вымушаны паінуць радзіму, спадзеючыся знайсці на зямлі куток, бяспечны для жыцця і працы.

У рамане «Не ўсе мы згінем» значна ўзмацніліся філасофскія і экзістэнцыянальныя матывы, І. Чыгрынаў часцей разважае пра асноватворныя рэчы, сутнасць чалавечага жыцця. Так, на думку аўтара, кожны павінен пакінуць пасля сябе нейкі след, добрыя справы і ўчынкі, але вайна не дазволіла ажыццявіцца планам людзей, разбурыла здаровую плынь жыцця, а чалавек можа «пракаціцца па зямлі і ні за што не зачапіцца».

Аўтар рамана выказаў уласнае разуменне сутнасці ўлады, прыйшоўшы да высновы аб адказнасці кожнага чалавека перад краінай і сваім народам. Ён звярнуў увагу на неабходнасць звяраць учынкі з уласным сумленнем: «Улада — рэч жорсткая. Яна не заўсёды разумее чалавека. А вось сумленне. Народ. Тут кожны павінен ведаць, што яго ніхто не пазбаўляў і не пазбавіць ад адказнасці перад імі».

І. Чыгрынаў асудзіў рэпрэсіі, якія адбываліся ў часы Яжова і Берыі. Пераслед і вынішчэнне яркіх асоб неверагодна траўміравалі грамадства, сеялі страх і боязь

сярод людзей. І толькі вайна, па яго меркаванні, прыпыніла махавік рэпрэсій карных органаў супраць уласнага народа, бо для змагання з акрутным ворагам спатрэбіліся валявыя і мужныя людзі.

Пісьменнік-гуманіст падкрэсліваў, што вайна — цалкам абсурдная з'ява, якая без разбору забірае жыцці тысяч і мільёнаў людзей, у тым ліку і зусім нявінных. У вайну, нават тады, калі Чырвоная Армія ўжо наступала, панавала абыякавае стаўленне да людзей, якіх зусім не шкадавалі. Часам іх выкарыстоўвалі як гарматнае мяса, як звычайны расходны матэрыял. Пісьменнік паставіў пад сумненне «геройства» тых мужчын, якія пакінулі свае сем'і ў небяспецы, на згубу немцаў, а самі падаліся ў лясы. І. Чыгрынаў праўдзіва напісаў аб тым, што беларускія сяляне ў аднолькавай ступені пакутавалі і ад немцаў, і ад партызан, якія абіралі вяскоўцаў да ніткі. Жахлівая смерць Марфы Давыдаўны — жонкі Дзяніса Зазыбы, ад рук п'янага партызана — прыклад абсурду і дзікунства падчас вайны.

Мастацкімі сродкамі І. Чыгрынаў раскрыў антычалавечую сутнасць вайны. Пра галоўнага героя твора Дзяніса Зазыбу пісьменнік піша: «Дзяніс Яўменавіч імкнуўся паглядзець на чалавечы лёс не ўвогуле, а, як кажуць, у больш асабістым разуменні, і яму нават і ў галаў не прыходзіла, што ў вайну штосьці падобнае наканавана ледзь не кожнаму другому чалавеку, незалежна ад таго, прымае ён чынны ўдзел у падзеях ці трапіў у іх выпадкова, стаўшы так званай нявіннай ахвярай». Страта сям'і парадзіла ў душы галоўнага героя Дзяніса Зазыбы адчай і роспач, адчуванне безвыходнасці і безнадзейнасці. Герой прамаўляе: «Жыццё ўжо гарыць, быццам свечка, з абодвух бакоў».

Паводле высновы пісьменніка, падчас вайны разбураецца ўсялякая мараль, знішчаюцца людскія законы, выкараняецца ўсё светлае і годнае. Вуснамі Масея Зазыбы ён гаворыць: «У маралі, хлопцы, свае законы. Яна не падпарадкоўваецца ні немцам, ні бальшавікам. А вайна — яна ўся амаральная. Чорная, крывавая і брудная. Што ёй нейкі паэт? Што ёй ягоны бацька, маці? Што ёй вёска? Для яе гэтага дабра хапае паўсюль».

На думку І. Чыгрынава, менавіта вайна сталася асноўнай прычынай трагедыі ўсяго беларускага народа, які аказаўся на акупаванай тэрыторыі. Людзі трапілі ў пастку, апынуліся ў безвыходным становішчы. З усіх бакоў іх падсцерагала смяротная небяспека. Акупанты вынішчалі цэлыя вёскі ў знак помсты за ўдзел у супраціўленні і падрымку партызын, а савецкая ўлада не магла дараваць людзям, што яны нешта рабілі пры немцах, імкнучыся выжыць у складанейшых умовах. Герой твора Іван Дзюнін падчас спрэчкі з Масеем Зазыбам, кажа: «Ды цяпер, калі хочаш, падобныя пасткі расстаўлены на кожнага».

Іван Чыгрынаў выказаў думку, што істотным падмуркам палітычнай незалежнасці Беларусі можа быць нацыянальная гісторыя, імкненне ўсяго народа да адбудовы ўласнай моцнай дзяржавы. Вуснамі героя Масея Зазыбы ён прамаўляе: «Геапалітычнае становішча нашай Бацькаўшчыны такое, што на нешта зусім самастойнае і разлічваць не даводзіцца. Бяда наша яшчэ і ў тым, што ніхто не спрабаваў глыбока капнуць нашу гісторыю, звесці асобныя падзеі ў дзяржаўную канцэпцыю. Дасюль нас адно разрывалі на кавалкі, абгрунтоўваючы гэта кожны па-свойму, баяліся, каб мы, крый бог, не надумаліся аб'яднацца па-сапраўднаму». Пісьменнік выказаў сум з тае нагоды, што вайна прымусіла многіх людзей падацца на чужбіну зусім не па сваёй ахвоце. Ён адзначаў: «Проста, з гэтай вайной адбываецца штосьці накшталт зыходу з радзімы вялікай часткі народу… Бо ўвогуле народ ніколі не бывае вінаваты. Толькі асобныя людзі».

Аповеды пра трагічныя падзеі густа перамяжоўваюцца пейзажнымі замалёўкамі, якія выконвалі важныя сімваліка-алегарычныя функцыі. Яны дапамагалі аўтару больш дакладна перадаць душэўны стан герояў і агульную атмасферу ў грамадстве. Амаль кожная больш-менш значная мастацкая сцэна завяршаецца маляўнічым апісаннем прыроды, зусім натуральным і арганічным. Сам І. Чыгрынаў адзначаў, што паміж прыродай і чалавекам існуе несумненная сувязь: «Што ні кажы, а змены ў прыродзе заўсёды неслі з сабой і змены ў чалавеку, перайначваючы новай эмацыянальнасцю і псіхалагічны стан». У шэрагу эпізодаў з мэтай

больш выразнай характарыстыкі сітуацыі і ўнутранага свету персанажа, прыводзяцца апісанні розных раслін і кветак, у тым ліку і вельмі рэдкіх, як, напрыклад, булаўніцы: «Па моху расла так званая грыбная лапша — булаўніца, але чамусьці не жоўтая, як звычайна, а чырванаватая, нават аранжавая: здаецца, ступіш на яе нагой, і мох навокал адразу акрывяніцца».

У творах І. Чыгрынава нямала цікавых дэталяў. Так, ён піша пра выток Бесядзі, расказвае пра шматлікія вёскі, мястэчкі і гарады. У яго мноства арніталагічных назіранняў, звестак пра птушак, што гнездаваліся на Беларусі. Расповед пра ястраба-перапёлачніка ў «Плачы перапёлкі» набывае сімвалічнае значэнне. Алегарычнымі сродкамі аўтар паказваў, што ястраб-перапёлачнік бесперашкодна ласуецца безабароннымі птушкамі да таго часу, пакуль на яго шляху не паўстане сур'ёзная перашкода.

У раманах шмат народнага гумару, розных жартаў і каламбураў. Персанажы, ацэньваючы падзеі або характарызуючы іншых людзей, вельмі часта ўжываюць яркія прымаўкі і трапныя выслоўі: «Пайшоў па попел, а чорт па дарозе і ўхапіў», «А ён рот нараспашку ды язык на плячо», «Ранні зайчык заўсёды цярэбіць зубкі, а позні вочкі прадзірае», «Здаецца ж, як той сабака, ніколі бліноў не пёк, а цестам еў», «Напрасткі адна варона лятала, затое дома не бывала».

Відаць, у часе працы над пенталогіяй, І. Чыгрынаў зацікавіўся *перадваенным* часам, палітычнымі падзеямі і геапалітычнымі гульнямі напярэдадні вялікай вайны. Так, у п'есе *«Ігракі»* (1989) ён паспрабаваў раскрыць грамадскія абставіны і сацыяльна-палітычныя перадумовы, што прывялі да развязвання найбольш крывавай у гісторыі чалавецтва бойні. Драматург бліскуча перадаў атмасферу ў вышэйшых дзяржаўных колах СССР і Германіі ў 1939—40 гг. На думку аўтара, палітычны альянс Сталіна з Гітлерам, з аднаго боку, — спрыяў вызваленню Заходняй Беларусі і ўз'яднанню беларускага народа, а з іншага — вёў да ўмацавання фашысцкай Германіі і рэалізацыі захопніцкіх планаў Гітлера.

Слушна адзначана, што дзве краіны вялі небяспечную для Еўропы і ўсяго свету гульню. І. Чыгрынаў нават падаў версію, што Сталін меў таемны план з кодавай назвай — «Навальніца», які прадугледжваў маштабнае разгортванне савецкіх войск на заходняй мяжы і апераджальны напад на Германію. Зроблена смелая выснова пра наяўнасць стратэгічных памылак у Сталіна і яго Генеральнага штаба. Яны, на думку пісьменніка, моцна пралічыліся, мяркуючы, што Гітлер, які вёў вайну з Англіяй, не рызыкне ваяваць на два франты. Так, у п'есе Сталін кажа: «Хутчэй за ўсё, што Германія не гатова ваяваць на два бакі. Стала быць, мы сапраўды будзем мець часу для сваіх спраў. У тым ліку і ваенных. Канцэпцыя патрэбна».

Як пісьменніка І. Чыгрынава надзвычай цікавілі падзеі сівой *даўніны*, жыццё беларусаў у мінулыя стагоддзі. У апавяданні «Цар і мой прашчур» (1983) ён звярнуўся да падзей пачатку XVIII стагоддзя. Сюжэт апавядання пабудаваны на дакладных фактах знаходжання цара Пятра І у Горках, дзе ён правёў агляд Праабражэнскага палка і адстаяў малебен у мясцовай царкве, аб чым пакінуў запіс на старонках «Псалтыра». І. Чыгрынаў таксама апрацаваў гістарычнае паданне пра артылерыста Андрэя Кажанова, які ўразіў Пятра Аляксеевіча сваім ваенным майстэрствам. У апавяданні праўдзіва перададзена атмасфера, якая панавала ў атачэнні расійскага цара, паказаны яго звычкі і манеры, стаўленне да падначаленых і духоўных асоб.

Мастацкае асэнсаванне Крычаўскага паўстання 1744 г. пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы ажыццёўлена ў п'есе *«Следчая справа Вашчылы»* (1988). Пісьменнік надзвычай грунтоўна падрыхтаваўся да напісання твора, аб чым сведчыць яго шырокая гістарычная абазнанасць і мноства дакладных фактаў, якія прыводзяцца. Вельмі слушна вызначыўшы сутнасць і мэты паўстання, якое насіла антыфеадальны характар, з'яўлялася адной з першых праяў палітычнага змагання нізоў за ўласныя грамадзянскія правы. Галоўны герой Васіль Вашчыла шукае «волі», але не знаходзіць яе ні ў Расіі, ні ў панскай Польшчы. У размове з Манахам у Кіеве ён з жалем вымушаны канстатаваць: «Чалавек, ойча, шукае, дзе лепей, дзе меней прыгнёту. А ён, аказваецца, паўсюль».

Зроблена спроба пранікнуць у псіхалогію кіраўнікоў паўстання, раскрыць іх унутраны свет, паказаць іхнія разважанні і меркаванні, сумненні і ваганні, падазрэнні і расчараванні. Палонны Васіль Вашчыла ў размове з сотнікам Міколам кажа: «А я вось думаю, сотнік. Выходзіць, падняў мужыкоў на змаганне, а толку даць не здолеў, нібыта дарэмна ўсё — і кроў, і пакуты, і здзекі».

Іван Чыгрынаў доказна пацвердзіў, што ўлады панскай Польшчы і царскай Расіі ў аднолькавай ступені баяліся выступлення нізоў. Яны ўзгаднялі свае дзеянні дзеля падаўлення іх. Напрыклад, для расследавання Крычаўскага паўстання была створана змешаная польска-расійская камісія, месцам размяшчэння якой стаў прыгранічны горад Мглін. Правячыя колы Польшчы і Расіі выразна ўсведамлялі, што просты люд паўсюдна прагне волі, хоча забеспячэння сваіх палітычных, эканамічных і грамадзянскіх правоў. Падчас размовы з расійскім генерал-губернатарам Лявонцьевым Вашчыла, на пытанне аб прычынах і мэтах паўстання, кажа: «Волі хацеў, не было ўжо як пад князем жыць. Задушыў ён нас сваімі арандатарамі. Таму я і хацеў даць людзям волю».

З'явай нацыянальнай літаратуры стала п'еса *«Звон — не малітва»* (1988), у якой раскрыта драма Рагнеды — жонкі кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча, якая воляй лёсу апынулася ў Заслаўі разам з малодшым сынам Ізяславам. Гісторыка-літаратурная каштоўнасць твора палягае якраз у тым, што аўтар асвятліў малавядомы перыяд жыцця славутай палачанкі, пра які летапісы не ўтрымліваюць фактычна аніякай інфармацыі.

У назве п'есы І. Чыгрынаў зашыфраваў уласнае разуменне глыбінных сродкаў суцяшэння асобы ў моманты асаблівага напружання, падчас душэўных і фізічных выпрабаванняў, калі чалавекам авалодвае скруха і адчай. Па ўсім відаць, ён лічыў істотным для чалавека не вонкавыя праявы веры — «звон», а ўнутраныя пошукі, дыялог з уласным сумленнем — «малітву» душы. У першую чаргу паказаў характар сутыкнення язычніцкіх вераванняў і хрысціянскага вучэння на беларускіх землях, жорсткае змаганне паміж іх прыхільнікамі. Цалкам слушна даведзена, што сутычкі на рэлігійнай глебе і крывавыя войны за чысціню веры — бессэнсоўныя і, галоўнае, яны не маюць аніякага апраўдання. Вуснамі князя Ізяслава, які палемізуе з хрысціянскім місіянерам, аўтар сцвярджаў думку пра гістарычную зменлівасць рэлігій і веравызнанняў: «Багі, прэсвітэр, аказваецца, таксама не вечныя. Пакуль што вечныя сонца, месяц, зоркі…» Пісьменнік катэгарычна асудзіў дзікунскі звычай язычніцкага ахвярапрынашэння. Не прымаў ён і чужароднай сутнасці хрысціянскай веры, якая не мела нічога агульнага з традыцыйнымі славянскімі ўяўленнямі пра прыроду, чалавека і сусвет.

Выступаючы супраць жорсткасці і прымусу ў пытаннях веры, І. Чыгрынаў меркаваў, што галоўным у гэтай справе павінна быць жаданне і асабісты выбар кожнага чалавека. Відавочна, асуджаў сродкі, якія выкарыстоўваліся валадарамі дзеля насаджэння Хрысціянства. Так, Рагнеда ў спрэчцы катэгарычна заўляе: «Нельга прыводзіць людзей да паслушэнства крыжам і мячом». У іншым месцы яна кажа, што князю Уладзіміру будзе нялёгка ажыццявіць хрышчэнне ўсходнеславянскіх зямель, сілай прымусіць людзей адмовіцца ад традыцыйных вераванняў.

Гучыць глыбокая вера ў народ, яго здольнасць зберагаць уласныя каштоўнасці — святы, традыцыі і абрады. Невыпадкова Рагнеда ўпэўнена заўляе, што многія звычаі продкаў захаваюцца праз вякі, пры ўсіх абставінах і пераменах ніколі не страцяць сваёй прыгажосці: «Гэта нам, князям, толькі здаецца, што народ падобны на статак. І ўвогуле святары новых рэлігій дарэмна ганяць нас, язычнікаў, маўляў, і такія мы і гэтакія… Быццам толькі і робяць, што гібеюць у дзікунстве. А нашы карагоды, нашы язычаскія святы, напрыклад, Купалле… Хто яго забудзе?». І. Чыгрынаў гістарычна дакладна паказаў, што з узыходжаннем на полацкі прастол князя Ізяслава — сына Рагнеды, — у прадаўжальнікаў рода Рагвалодавічаў з'явіўся шанец на адраджэнне Полацкага княства і яго ўзвышэнне, што і сапраўды адбылося ў часы князя Усяслава Чарадзея.

З твораў гістарычнай тэматыкі найбольш выйгрышная п'еса *«Осцей — Альгердаў унук»* (1996), што ўспрымаецца як амаль самастойны літаратурны помнік.

Невыпадкова аўтар вызначыў жанавую форму п'есы як «гістарычную згадку». Ён звярнуўся да падзей канца XIV ст. Асновай для твора паслужыў дакладны гістарычны факт: удзел у 1382 г. літвіна Осцея, унука князя Альгерда, у змаганні жыхароў Масквы з ордамі Тахтамыша.

Гістарычны матэрыял быў глыбока вывучаны, таму бліскуча перададзена атмасфера таго часу, калі ў Вялікім Княстве Літоўскім валадарылі дзеці і ўнукі князя Альгерда. І. Чыгрынаў раскрыў складаныя дачыненні паміж усходнеславянскімі князямі, паказаў змаганне продкаў беларусаў, украінцаў і рускіх са знешнімі ворагамі — ардынскімі ханамі і Лівонскім ордэнам. Надзвычай дакладна акрэслена дзейнасць галоўных палітычных цэнтраў таго часу — Вялікага Княства Літоўскага са сталіцай у Вільні, Маскоўскага княства, а таксама Бранскага, Разанскага, Смаленскага, Ніжагародскага і Кіеўскага княстваў.

Адметнасць твора ў тым, што ўсе персанажы — гэта рэальныя гістарычныя асобы: тагачасныя князі і ваяры, магнаты і шляхта. Галоўны герой паўстае як мужны змагар і таленавіты военачальнік. Осцей стаў паплечнікам Дзімітрыя Данскога, здолеў абараніць вялікую княгіню Яўдокію і яе дзяцей ад ганьбы і здзеку. Осцей загінуў, але не здрадзіў уласнаму абавязку, не парушыў славянскай лучнасці.

У творчасці І. Чыгрынава знайшла адлюстраванне тэма *Чарнобыльскай катастрофы*. Бяда закранула яго роднае Прыбяседдзе і вёску Вялікі Бор. Пісьменнік стварыў яркі драматычны абразок пад назвай: *«Толькі мёртвыя не вяртаюцца»* (1989). Намалявана каларытная сцэна вяртання старых Лукаша і Матруны ў родную вёску, якая апынулася ў зоне радыяцыйнага забруджання. Асноўная думка аўтара твора палягае ў тым, што чалавек надзвычай моцна знітаваны з роднай зямлёй. Дзеля вяртання на Радзіму, да звыклага ладу жыцця, чалавек гатовы пераадолець любыя перашкоды, прабрацца праз «калючы дрот», і яго не палохае аніякая небяспека, нават смерць.

Іван Чыгрынаў — і выдатны публіцыст, аб чым красамоўна сведчыць яго ўнікальная кніга: *«Паміж сонцам і месяцам: роздум над жыццём, культурай і літаратурай»* (1994). Пісьменнік-інтэлектуал смела выступаў за неадкладную распрацоўку новай канцэпцыі развіцця беларускай культуры, якая мусіла б абапірацца на народныя традыцыі і гістарычную спадчыну. Яго надзвычай непакоіла становішча роднай мовы, катастрафічнае звужэнне сфер яе ўжытку. І. Чыгрынаў адстойваў неабходнасць вяртання гістарычнай памяці беларусаў. Патрабаваў ашчаднага захавання нацыянальных помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Сярод галоўных задач творчай інтэлігенцыі ён бачыў стварэнне «поля духоўнага прыцягнення».

Вялікую гістарычную і пазнавальную каштоўнасць маюць дзённікавыя нататкі, аб'яднаныя агульнай назвай: *«Бабруйскі кацёл»* (1989). У іх пісьменнік надзвычай цікава расказаў пра ўласны ўдзел у першых дэмакратычных выбарах у Вярхоўны Савет. Падаюцца сапраўды ўнікальныя звесткі пра характар тагачаснай палітычнай барацьбы, цікавыя сустрэчы з людзьмі, выступленні перад працоўнымі калектывамі на прадпрыемствах краіны. У творы шмат разважанняў пра стан грамадства і будучыню Беларусі.

Такім чынам, Іван Чыгрынаў — непаўторны майстар мастацкага слова, які ажыццявіў глыбокае і панарамнае адлюстраванне важнейшых праяў рэчаіснасці. Ён выявіў рэдкае веданне розных вымярэнняў народнага жыцця ў пераломныя моманты нацыянальнай гісторыі. Пры адлюстраванні падзей арганічна спалучаў уласны жыццёвы досвед і глыбокія навуковыя веды. Менавіта таму яго творы не толькі дасканалыя ў мастацкіх адносінах, але надзвычай праўдзівыя і гістарычна дакладныя.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ПАПЯРОВЫ СНЕГ НЕ РАСТАЕ...




*Віктар Шніп.*
**Першы папяровы снег.**
*Выбранае (1978 — 2008).*
*Мінск — Чатыры чвэрці, 2014.*

Кніга «Першы папяровы снег» адкрываецца адным з ранніх твораў Віктара Шніпа. Хоць, калі разабрацца, не такі ўжо ён і ранні: першы свой верш цяперашні знаны беларускі паэт, а да ўсяго празаік, эсэіст, перакладчык, дый гумарыст таксама апублікаваў 17 жніўня 1977 года ў газеце «Чырвоная змена», пад гэтым жа безыменным творам пазначана: «7. 12. 1982»:

Першага снегу святло,
Ты для мяне як свята.
Сонца памалу ўзышло
З коміна крайняй хаты.

Вецер сцяжыну маю
Ноччу замёў на лузе.
Ціха на ганку стаю
Снег патушыць баюся.

Думаецца, В. Шніп невыпадкова свой аднатомнік, што выйшаў у серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», адкрыў менавіта гэтым вершам. Нават з агледзін сённяшняга дня, калі аўтарам яго напісана шмат, няцяжка заўважыць, што майстэрства ў творы навідавоку. Далёка не кожнаму ўдаецца сказаць так шчыра, прасветлена, пачуццёва і ў больш познім узросце. Галоўнае — па-свойму і, што таксама важна, з тым даверам, які характарызуе лірычнага героя толькі з лепшага боку. А шчырасць, давер заўсёды кранаюць. Дый сведчаць на карысць таго, што паэт, які валодае гэтымі якасцямі, не заблудзіцца на творчых ростанях, абавязкова знойдзе сваю сцяжынку, якая пазней стане ягонай мастакоўскай пуцявінай. А што В. Шніп піша па-свойму, адметна, засведчыла і ягоная першая кніга. Зразумела, з вершам «xxxПершага снегу святло…» і з гэтым самым святлом у самой назве — «Гронка святла». Выйшла яна ў 1983 годзе, а праз чатыры гады В. Шніп атрымаў за яе Усесаюзную прэмію імя Уладзіміра Маякоўскага. Пагадзіцеся, падобную высокую ацэнку атрымлівалі далёка нямногія. Дый здзіўляцца надта не трэба: заўважаюць таго, хто талент мае. Талент у В. Шніпа жыццядайны, бо каранямі сваімі ён жывіцца сокамі зямлі, якая дала яму жыццё: «Ёсць на Валожыншчыне вёска Пугачы, // Дзе рэчышчы сцяжын не зараслі ў лугах, // У агародчыках красуюць касачы, // Буслы на захад сонца коцяць па дубах. // У сэрцы ёсць таксама вёска Пугачы, // Таму сцяжыны не губляюцца ў лугах, // У агародчыках красуюць касачы, // Буслы на захад сонца коцяць па дубах».

Вершы кнігі «Гронка святла» па-ранейшаму ўражваюць дакладнасцю аўтарскіх назіранняў, свежасцю ўжытых метафар, уменнем паэта сказаць так, што прамоўленае ім не проста запамінаецца. Яно адначасова становіцца

арганічнай часткай твайго бачання і твайго светаўспрымання. А ўсё таму, што В. Шніп нічога не выдумляў (чаго прытрымліваецца і па-сённяшні дзень). Ён сам успрымаў рэчаіснасць праз гэтыя вобразы, жыў імі і хараство іх перадаваў сваім чытачам. Дастаткова ўсяго некалькіх прыкладаў, узятых з розных твораў, каб упэўніцца, што ў паэзію, літаратуру ўваходзіў самабытны паэт: «Холад ля хаты пасе снегіроў. // Сонца замецена снегам у полі»; «Гарацъ апалыя лісты, // І дым галіны дрэў бінтуе. // Па садзе холад малады // З вятрыскам весела вандруе». // Сцяжына дрэмле ля агню — // За лета шмат папрацавала»; «Вогнішча рабінніку дзяўбе // Снегірок — вясёлы сын зары».

Сваю наступную кнігу В. Шніп назваў «Пошук радасці» (1987). Па другой жа кнізе звычайна мяркуюць: адбыўся паэт, ці не адбыўся. Агульнавядома, што нярэдка той ці іншы аўтар так і не можа ўзняцца вышэй свайго дэбюту, а то часам і застаецца толькі аўтарам адзінай кнігі. Зразумела, я маю на ўвазе не такі яркі дэбют, як «Вянок» Максіма Багдановіча, што стаў адной з самых выдатных старонак беларускай паэзіі. В. Шніп жа ў «Пошуках радасці» здолеў пацвердзіць, што ягоныя першыя паэтычныя набыткі былі невыпадковымі. Магчыма, і таму пацвердзіў, што рана засвоіў такую ісціну: «А талент ад душы, // Не ад святога духу. // А без душы паэт, // Нібы рака без руху». Істотна і тое, што ўжо ў другой сваёй кнізе зрабіў першыя захады дзеля таго, каб пачаць спасцігаць душу самога народа.

Не трэба баяцца гучнасці падобнага сцвярджэння. Ніякай нацяжкі ў ім няма. Менавіта ў кнізе «Пошукі радасці» В. Шніп упершыню звярнуўся да жанру балады. Яго цікавасць да падобных твораў невыпадковая. Прычыну найперш трэба шукаць у самой сутнасці згаданага жанру, які мае распаўсюджванне, пачынаючы з вуснапаэтычнай творчасці, у розных галінах мастакоўскай дзейнасці. У літаратуры — гэта ліра-эпічны жанр, у аснове якога ляжаць легендарна-гістарычныя ці казачна-фантастычныя сюжэты.

Першыя беларускія балады, як вядома, з'явіліся ў XIX стагоддзі і былі напісаны па матывах народнай паэзіі. Найперш — «Нячысцік» Аляксандра Рыпінскага, «Травіца брат-сястрыца» Вінцэнты Дуніна-Марцінкевіча, «Хцівец і скарб на святога Яна» Францішка Багушэвіча. Пазней свае сілы ў гэтым жанры спрабавалі Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Якуб Колас. У гады ж Вялікай Айчыннай вайны балада набыла папулярнасць з-за магчымасці ўславіць подзвіг савецкага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і асудзіць тых, хто пераступіў агульначалавечыя нормы маралі — класічны прыклад «Балада аб чатырох заложніках» Аркадзя Куляшова. У пасляваенны ж час да жанру балады звярталіся многія паэты, а Янка Сіпакоў дык увогуле напісаў цэлую кнігу — «Веча славянскіх балад». Дарэчы, наколькі плённым было «ўваходжанне» беларускіх паэтаў у баладу, можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся са свайго роду анталогіяй «Беларуская балада», што пабачыла свет у 1978 годзе.

Да жанру балады В. Шніп не мог не звярнуцца, як мне здаецца, не толькі таму, што ці не кожны паэт хоча паспрабаваць свае мастакоўскія магчымасці ў асваенні як мага большай колькасці жанраў. Не менш важна і тое, што ягоная творчасць, пры ўсім іншым, нясе ў сабе моцныя гістарычныя аспекты, што тычацца як адлюстравання пэўных падзей мінуўшчыны, так і асэнсавання таго, што было зроблена ў розны час знакамітымі людзьмі. Апроч таго для яго, як і для пераважнай большасці ўсіх нас, важны сам шлях да Храма — як крок да маральнага ачышчэння і духоўнага ўзбагачэння (невыпадкова адна з кніг В. Шніпа называлася «На рэштках Храма». Тым самым аўтар засяроджваў увагу на тым, што за доўгія дзесяцігоддзі былі падарваны асновы сапраўднай духоўнасці, паслаблі спаконвечныя карані). Шлях жа да Храма вымагае менавіта ліра-эпічнага падыходу ў асэнсаванні маральнага і духоўнага ачышчэння чалавека. Пачаўшы пісаць балады, зместам сваім звязаныя з даўнімі падзеямі, ён паступова перайшоў

і да нядаўніх, тых, сведкамі якіх ужо былі нашы сучаснікі.

Адна з першых у спасціжэнні жанру балады — «Балада пра каваля» — была змешчана ў кнізе «Пошук радасці»:

…Прывялі каваля ў ланцугах.
Князь устаў, даў напіцца вады:
— Меч зрабі, каб я ўсіх перамог,
І цябе адпушчу я тады!
І згадзіўся каваль:
— Я зраблю…
Яго ў кузню на ноч завялі.
Звон аж зоры страсаў на зямлю
І вуголле каціў па зямлі.
А як сонца ўзышло, звон заціх.
— Меч нясіце мне! —
Князь загадаў.
…Ды каваль князю выкаваў плуг
І наранак сканаў.

Міжволі ўзнікае паралель са знакамітым «Гусляром» Янкі Купалы. Але падабенства ў вырашэнні сітуацыі чыста ўмоўнае. В. Шніп усё ж пайшоў сваім шляхам. Ён не паўтарыўся, а па-свойму выказаў думку пра тое, як сапраўдны майстра не захацеў рабіць тое, што пойдзе на шкоду чалавеку; тое, што працівіцца ягонай, майстравай душы.

Паступова жанр балады ў творчасці В. Шніпа заняў дамінуючае месца, у чым лёгка ўпэўніцца, знаёмячыся нават з тымі ягонымі творамі, напісанымі ў жанры балады, што трапілі ў аднатомнік выбранага з кніг «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008)… Балады В. Шніпа спалучаюць у сабе розныя часавыя паясы. У лепшых з іх паэт дасягае аднолькава высокага майстэрства, незалежна ад таго, пра што піша — пра дзень колішні ці пра сённяшні, звяртаецца да воблікаў тых, хто жыў у іншых стагоддзях альбо гаворыць пра людзей, якія яшчэ нядаўна былі з намі поруч. Гэтыя балады дазваляюць меркаваць аб яго творчых магчымасцях у згаданым жанры, аб ягоным уменні багаты фактычны матэрыял уціснуць у абмежаваныя рамкі, пры гэтым не згубіўшы галоўнага і вызначальнага. З шэрагу такіх твораў «Балада Сымона Буднага»:

...І ён у Варшаве, і ён у Парыжы
Мог замкаў, маёнткаў сабе накупляць,
Але ён друкарню будуе ў Нясвіжы,
Каб кніжкі на мове сваёй друкаваць.

І нехта смяецца і злосна пытае:
«Навошта ён грошы на школы дае?»
І восень ідзе, як Арда залатая,
Што ў дыме стагоддзяў, як дым, растае,

Бо ўжо не вярнуцца і не паўтарыцца
Таму, што было тут, на нашай зямлі.
У Храм ён ідзе, каб за бедных маліцца,
Каб людзі, як людзі на свеце жылі.

Як бы ні вабілі далёкія землі, колькі б ні абяцалі табе грошай за вялікімі марамі, за высокімі гарамі — сапраўднае шчасце на зямлі, якая Беларуссю называецца. Памятаў пра гэта Сымон Будны. Памяталі і іншыя выдатныя сыны нашай Бацькаўшчыны, якія прысвяцілі свой талент яе далейшаму росквіту.

Цудоўна напісана «Балада Турава», да якой эпіграфам паэт узяў добра вядомы радок Уладзіміра Караткевіча «На Беларусі Бог жыве». Малюнак, пададзены В. Шніпам, атрымаўся настолькі зрокава асязальным, што быццам наяву знаходзішся ў старажытным Тураве. Больш за тое: кожнай сваёй клеткай, нервам кожным успрымаеш тое, што некалі там адбывалася. А за ўсім гэтым — дыханне самой эпохі, загадкавай для нас і вабнай адначасова. Дыханне, што перадаецца праз сам голас яе:

Турыны рог у Тураве гучаў,
І праз туман, як праз стагоддзі, з траў
Зноў усплывала сонца, як шалом,
Што, як крывёй, напоўнены святлом.

Турыны рог, пададзены як неад'емны атрыбут свайго часу, сваёй эпохі, становіцца і ўвасабленнем самой Беларусі, што пачыналася ў тых даўніх стагоддзях:

...рог турыны ў Тураве гучыць
І жывіць беларускую душу,
І мы, нібы трава пасля дажджу,
Да сонца цягнемся, што як шалом,
Які напоўнены святым вінoм,
Якое піць, нібы сябе паліць
За гэты свет, дзе нам турыны рог
Гучыць над пыльнай вечнасцю дарог,
Каб ты і я маглі свой край любіць,
Як любіць Беларусь наш Бог…

Так і з’яўляецца ў кнізе аб’ёмны вобраз, што спалучае ў сабе ўсю гэтую «пыльную вечнасць дарог». І няхай ён прама не прысутнічае ў астатніх баладах, тым не менш гэты матыў адчувальны шмат у якіх з іх. І ў «Баладзе Івана Шамякіна», калі чалавек хоць яшчэ і жывы, але ўжо ў небе анёлы, жураўлі яго «клічуць за сабой і горка плачуць»; і ў «Баладзе Алеся Пісьмянкова», у якой «на пытанне, што гучыць прыцішана: // «Дзе паэт? Дзе Саша Пісьмянкоў?»// Чуецца з нябёс узвышана: // «Ён да Аляксея Пысіна // У яго дывізію пайшоў...».

Здаецца, В. Шніп сваёй, калі можна так сказаць, баладнай увагай не абмінуў ніводнага знакамітага прадстаўніка, які назаўсёды прапісаўся ў гісторыі Беларусі. Дакладна гэта прыкмеціў тонкі і дасведчаны знаўца беларускай дый сусветнай паэзіі Уладзімір Гніламёдаў, які, як ніхто іншы ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве адчувае адметнасць таго ці іншага творцы: «Выразна гучыць у В. Шніпа багдановічаўскі радаводны матыў нацыянальнай памяці. Героі яго вершаў і балад — беларускія гістарычныя дзеячы, паэты, пісьменнікі, мастакі, якія з’яўляюцца носьбітамі духу і руху гісторыі. Ён хоча верыць услед за М. Багдановічам, які не траціў надзеі, што «яшчэ адзін народ не знікне з твару зямлі, што не змарнатравіцца бясследна велізарная псіхічная праца многіх пакаленняў, і беларуская культура — стварэнне гэтай працы — устаіць супраць напору іншых сіл і плыняў». Як і М. Багдановіч, ён паслядоўна і настойліва змагаецца супраць пачуцця нацыянальнай непаўнацэннасці, комплекс якой сёння замінае многім з нас».

Дарэчы, прысвячаючы баладу таму ці іншаму годнаму прадстаўніку Беларусі, В. Шніп пад назвай твора абавязкова ўказвае даты нараджэння і смерці. Гэта таксама важна, бо па-свойму актывізуе памяць чытача, дапамагае лепшаму запамінанню шмат з таго, што грэшна не ведаць. Як і важна тое, што асобныя балады паэт прысвяціў знакавым падзеям, бітвам, нават гістарычным мясцінам ці населеным пунктам. Стварыў ён і баладны радавод Шніпаў, расказваючы пра сваіх далёкіх і блізкіх родзічаў: «Балада Германа Шніпа», «Балада Язэпа Шніпа», «Балада Кандрата Шніпа», «Балада Яські Шніпа» і іншыя. Само па сабе ўжо тое, што В. Шніп так добра ведае ўласны радавод, заслугоўвае ўвагі. Тым больш ухвальна, што ён сваім продкам прысвячае творы. Увогуле ж, ягоныя набыткі ў жанры балады ўнушальныя. Усяго В. Шніпам напісана каля 500 балад, з іх добрая палова пра знакамітых асоб. Хоць бярыся ды падавай заяўку на занясенне ягонага прозвішча ў кнігу рэкордаў Гінеса.

Аднак, несумненна, В. Шніп не цураецца і іншых паэтычных жанраў, Пры гэтым аднолькава ўпэўнена адчувае сябе як у традыцыйнай манеры пісьма, так і ў верлібры, у свабодным вершы без косак-кропак. Зноў жа нельга не пагадзіцца з У. Гніламёдавым: «Калі ты паэт, ты павінен не толькі мець талент, але і быць асобаю, сцвярджаць свае прынцыпы і пазіцыю. У лірыцы В. Шніпа выяўляецца яго душэўны лад, сумленнасць і непакой, здольнасць да душэўнага судакранання з навакольным светам, з радзімай, яе лёсам. У яго ёсць і лепшыя, і горшыя вершы, а ёсць проста выдатныя». Маленькае ўдакладненне: «лепшыя і горшыя вершы» — гэта, безумоўна, калі мець на ўвазе ўсю творчасць паэта. У кнізе ж «Першы папяровы снег» прадстаўлена толькі самае лепшае. Сярод самага лепшага, У. Гніламёдаў згадвае і «цудоўны верш «Беларускае мора», якім «паэт сустрэў XXI стагоддзе»:

Залатымі манетамі зорак
Зноўку свеціцца неба над намі.
Неба ў нас — беларускае мора
З белакрылымі ў ім караблямі.

Адабраць у нас мора хацелі,
Наша мора адзінае ў свеце,
Каб на мора мы больш не глядзелі
І жылі па лясах, як мядзведзі.

Мы ў вяках зберaглі сваё мора,
І нас мора ад бед зберагае,
Залатымі манетамі зорак
Уначы яно нас абсыпае.

З мора нашага нехта смяецца,
Але мора ў нас ёсць, як і ўчора.
Маё цела зямлі застанецца,
А душа — пераселіцца ў мора.

Сапраўды гэты верш цудоўны. На дзіва непаўторна, так, як ніхто да яго, В. Шніп выказаў (каторы раз) сваю любоў да Беларусі, але разам з тым нешматслоўна, але ўражліва, пераканаўча перадаў той пакутны шлях, які прайшлі беларусы для таго, каб кажучы словамі Янкі Купалы, «людзьмі звацца». Больш за тое, пачуваць сябе годна сярод іншых народаў. Беларускае мора — у дадзеным выпадку маю на ўвазе не назву твора, сам аб’ёмны вобраз створаны паэтам — гэта і ўвесь беларускі Космас, які ўбірае ў сябе трыадзінства ўчарашняга, сённяшняга і будучага. Адначасова ў ім прысутнічае дух кожнага чалавека і дух усёй нацыі. Гэта тое, чым мы жылі, жывём і будзем жыць. В. Шніп у вершы «Беларускае мора», як і ў шмат якіх іншых сваіх творах, нічога не дэкларуе. Гэта і невыпадкова, бо навідавоку не публіцыстычнасць, а ўнутраная напоўненасць радка. Душэўны стан лірычнага героя такі, што ён проста не можа не выказацца. Але гэта, як у сапраўдным каханні. Гучнасць не да месца, яна стане выглядаць няшчырай, надуманай, затое прамоўленае ціха, аднак даверліва, спагадліва — якраз тое, што па-сапраўднаму кране, абудзіць светлыя пачуцці, адэкватныя пачуццям таго, хто ўсё гэта прамаўляе.

У адным з вершаў В. Шніп з жалем прызнаваўся:

Няма Караткевічаў новых,
Няма і Стральцовых.
І сумна, і крыўдна жывецца,
І мы ўсе ці варты граша.
Паэт памірае — душа застаецца,
Заўжды застаецца душа!
Ды дзеліцца слава,
Як доўгая лава.
Нат магілкі дзелім з вянкамі.
А хто раздзяляе?
Хто славы не знае,
А хоча здрадніцца з вякамі.
Найлепшых губляем, бядуем.
Жывых жа не чулі, не чуем,
Што славу прыносяць Айчыне…
А хто нас наступным пакіне?
Няма Караткевічаў новых,
Няма і Стральцовых.

Напісана дваццаць гадоў таму, але сказана нібыта і сёння. І рэч, безумоўна, не толькі ў самім сцвярджэнні, што «Няма Караткевічаў новых, // Няма і Стральцовых». Нават не столькі ў ім, бо, пры ўсім іншым, у гэтым сцвярджэнні прысутнічае і пэўная доля рытарычнасці. В. Шніп узнімае свой голас супраць бездухоўнасці. І не толькі супраць бездухоўнасці ў жыцці ўвогуле, якая, падобна нябачнаму спруту, захоплівае грамадства ў свае клешні. Адбываецца і не менш страшнае, а ў чымсьці і больш горшае: сёння бездухоўнасць запаланіла літаратуру, не ў апошнюю чаргу літаратуру маладую, планка маральнасці ў якой апусцілася недаравальна нізка. Адначасова адбываецца і крытычна небяспечнае зніжэнне творчых крытэрыяў. І гэта страшна, бо можа прывесці да поўнай дэвальвацыі мастацкага слова. Дзе ж выйсце?

Выйсце ў тым, каб з’явіліся такія пісьменнікі — паэты, празаікі, драматургі, якія б, падобна Уладзіміру Караткевічу і Міхасю Стральцову, адчувалі б сваю высокую адказнасць і за прамоўленае слова, і за тое, што яно, гэтае слова, у сабе нясе. А мы іх, новых Караткевічаў і новых Стральцовых, зачакаліся. Але адначасова не можам не радавацца, што ў нашай літаратуры нямала творцаў, якія годна працягваюць традыцыі нашых выдатных папярэднікаў, у тым ліку У. Караткевіча і М. Стральцова. У шэрагу іх, безумоўна, і В. Шніп. Аднак не толькі па іх звярае ён свой творчы шлях, не толькі арыенцірамі, вызначанымі імі, кіруецца ў асэнсаванні дня ўчарашняга і сённяшняй рэчаіснасці.

У сувязі з гэтым нельга не згадаць верш «*** Пра што мае вершы…», якім завяршаецца кніга «Першы папяровы снег». У гэтым творы В. Шніп як бы прыадчыняе тыя дзверы сваёй мастакоўскай лабараторыі, якія вядуць туды, дзе хаваюцца сакрэты таго, што яго ў першую чаргу хвалюе, чаму ён надае прыярытэтнае значэнне, калі садзіцца за пісьмовы стол. Калі ж глядзець шырэй — як жыве, што з таго,

чым непакоіцца сам, укладае ў душу свайго лірычнага героя, каб ён, з'яўляючыся ў пэўнай ступені ягоным двайніком, дазваляў выразней убачыць і самога паэта як асобу. Аднак не толькі гэтым прываблівае згаданы твор. У ім В. Шніп, што ўжо назіралася неаднойчы, зноў дае зразумець, што для яго не толькі як мастака слова, а і грамадзяніна, сына сваёй зямлі, уласны лёс непадзельны ад лёсу Беларусі. Толькі тады, калі яна шчаслівая, ён таксама можа адчуваць сябе шчаслівым:

Пра што мае вершы? Пра тое, як мы
Ідзём, адзінокія, з вечнай зімы
І ў снезе знікаем, нібыта ў вяках,
Нібыта паэзія ў чарнавіках.
Знікаем, каб зноўку з'явіцца на свет,
Нібыта раса раніцой на траве,
Як светлыя слёзы на нашых вачах,
Калі да канца ўсё ж мы пройдзем
свой шлях…
Пра што мае вершы? Пра тое, як ты
Будуеш з туману над Летай масты,
А вецер іх бурыць, і белы туман
Прад намі бялее, нібы акіян,
З якога пачнецца ізноўку жыццё,
Нібыта на дрэве вясною лісцё
Ізноў зашуміць і абудзіць душу…
Пра што мае вершы? Пра што я пішу?
Я Богу пра вершы свае адкажу,
Я Богу за вершы свае адкажу,
А вам не скажу,
А вам не скажу…

Сімвалічны сэнс мае назва кнігі — «Першы папяровы снег». Чаму першы, здагадацца няцяжка. Змест гэтага аднатомніка склалі лепшыя творы, напісаныя В. Шніпам на працягу 30 гадоў, калі ж канкрэтна, то ў 1978 — 2008 гадах. Але ж плённа, актыўна ён працуе па сённяшні дзень, аб чым сведчаць публікацыі ў часопісах «Полымя», «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», іншых перыядычных выданнях. Значыць, цягам часу набярэцца вершаў, балад і яшчэ на адну кнігу выбранага. Гэта ўжо будзе, хутчэй за ўсё, «Другі папяровы снег». Так і напрошваецца параўнанне з вядомым выслоўем: рукапісы не гараць. Не гарыць, не растае і папяровы снег. Гэта таксама сведчыць на карысць таго, што лепшае з напісанага В. Шніпам, як і лепшае з таго, што яшчэ будзе напісана ім, не «згубіцца». Што ж, так заўсёды бывае з літаратурай высокай мастацкай вартасці. Дый з такой літаратурай, якая, пры ўсім іншым, адпавядае духоўным запатрабаванням чалавека.



# СНЕЖАНЬ

* * *

У **снежні 1922 года** выйшаў першы нумар часопіса «Полымя».

Рашэнне аб яго выданні прымалася на самым высокім узроўні. 11 лістапада таго ж года Цэнтральнае Бюро КП (б) Беларусі прыняло пастанову, у якой было запісана:

«а) выдаваць марксісцкі часопіс на беларускай мове пад кіраўніцтвам аддзела прапаганды і агітацыі ЦБ; б) часопіс выдаваць пад назвай «Полымя»; в) скласці рэдакцыйную калегію ў саставе: Жылуновіча, Кудзелькі, Бядулі, Ігнатоўскага і т. Нодэля, прадстаўніка ад АПА ЦБ».

Уражвае, з якой хуткасцю выконвалася пастанова: літаральна праз месяц пасля яе прыняцця першы нумар новага выдання быў ужо звярстаны.

*«Толькі тады, калі кончылася грамадзянская вайна, пытанні культуры пачынаюць высоўвацца на належнае дзеля іх месца, толькі з канцом грамадзянскай вайны перад працоўнымі грамадамі асабліва гостра вытыркаюць пытанні аб культурнай працы, аб патрабаванні ўздыму культурнага ўзроўню шырокіх працоўных гушчаў, каб праз гэтае самае стварыць магчымасць для іх удзелу ў чыннай дзяржаўнай і гаспадарчай працы»*. Гэта цытата з рэдакцыйнага артыкула пад назвай «Нашы заданні». Сапраўды, пасля заканчэння грамадзянскай вайны перад маладой краінай паўсталі новыя задачы, у тым ліку, і ў галіне культуры. Апроч таго, канец 1922 года — гэта падпісанне Дагавора аб стварэнні СССР, што таксама накладвала свой адбітак на культурную палітыку дзяржавы. *«Вырашэнне пытанняў дзяржаўных мы не разумеем сабе ў асобку ад працоўных усёй Расіі,* — пісалася ў рэдакцыйным артыкуле. — *Інтарэсы Беларусі, інтарэсы працоўных гушчаў Беларусі — гэта толькі часцінка інтарэсаў працоўных усёй Расіі. Загэтым для нас няма і не можа быць асаблівай праграмы адмяжованнага дзяржаўнага будаўніцтва. Загэтым мы й вітаем кожны крок, яшчэ цясней збліжаючы працоўнікаў Беларусі з працоўнікамі ўсёй Савецкай Федэрацыі»*.

Што ж прапаноўвала чытачу рэдакцыйная калегія часопіса (пасады галоўнага рэдактара тады яшчэ не было, першым рэдактарам — аж праз дзесяць гадоў — стаў Платон Галавач) у тым снежаньскім нумары? Трэба прызнаць, літаратурны блок быў не дужа багаты ні на імёны, ні на творы. З прозы друкавалася толькі апавяданне Янкі Нёманскага «Над Кроманню», на ўласныя паэтычныя творы для новага перыядычнага выдання расшчодрыліся Цішка Гартны, Міхась Чарот, Змітрок Бядуля (усе трое — члены рэдкалегіі), Алесь Гурло, Андрэй Александровіч, Янка Журба і Міхайла Грамыка.

Але трэба мець на ўвазе, што тагачасная беларуская літаратура яшчэ толькі набірала свае сілы — у тым ліку, колькасна. Праўда, набірала вельмі імкліва. Літаральна ў наступным, 1923 годзе, утварылася суполка «Маладняк», якая неўзабаве стала надзвычай масавай (хутка ў ёй налічвалася ўжо каля 500 сяброў-пісьменнікаў) і вельмі паспрыяла актывізацыі творчасці маладых аўтараў і ў якой гартаваўся талент Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Кузьмы Чорнага, Кандрата

Крапівы, Міхася Лынькова і многіх іншых творцаў, што пасля сталі класікамі айчыннага прыгожага пісьменства. Дарэчы, у тым жа 1923 годзе пачаў выходзіць і часопіс «Маладняк», а ў 1927-м — часопіс «Узвышша» (орган аднайменнага літаратурнага аб'яднання, якое ўтварылася ў многім дзякуючы расколу ў «Маладняку»), аднак абодва напачатку 30-х спынілі сваё існаванне. А 23 красавіка 1932 года была прынята пастанова ЦК ВКП (б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый», следам за ёй — 27 мая таго ж года — выйшла пастанова ЦК КП (б) Беларусі «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР», у якой, сярод іншага, было запісана: «Правесці арганізацыю Саюза Савецкіх Пісьменнікаў БССР, які павінен аб'яднаць усіх пісьменнікаў, якія стаяць на платформе савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве. Усе пісьменніцкія арганізацыі падначаліць аргкамітэту. Перадаць у распараджэнне аргкамітэту літаратурныя часопісы». 1-ы Усебеларускі з'езд пісьменнікаў прайшоў у Мінску з 8 па 14 чэрвеня 1934 года. На ім арганізацыйна было аформлена ўтварэнне Саюза Савецкіх Пісьменнікаў БССР, членамі якога сталі 62 пісьменнікі — як бачым, непараўнальна менш, чым уваходзіла ў ранейшыя літаратурныя аб'яднанні. Але трэба мець на ўвазе, што членамі гэтых аб'яднанняў часта былі людзі, якія мелі малое дачыненне да сапраўднай літаратуры. Вось, напрыклад, што пра гэта ўспамінаў Ян Скрыган: «У Мінску мы адразу апынуліся ў сапраўднай літаратурнай атмасферы — сходы, дыспуты, літаратурныя вечары і выступленні. У асноўным полацкім зямляцтвам арганізавалі сваё аб'яднанне — «Літаратурна-мастацкую камуну», на так званай мясцовай футурыстычнай платформе. Арганізацыя гэта заснавалася не ад духу часу і творчай патрэбы, а ад зухаватасці і пратэсту: «Ах, вы нас у «Маладняку» не прызнаяце? Ну дык мы зробім сваё згуртаванне». А ў згуртаванні тым шмат хто нават яшчэ не спрабаваў пісаць.

Цяпер дык я проста дзіўлюся, як мы асмеліліся з такім актывам ісці да ўрада і прасіць, каб нас зацвердзілі як творчую арганізацыю. Мы ледзьве набралі дзесяць чалавек, патрэбных па статуце, загадзя ведаючы, што добрая палавіна з іх уключана ў спісак толькі дзеля нормы. І з гэтым спісам пайшлі да старшыні Саўнаркома таго часу Мікалая Галадзеда.

Галадзед сядзеў за шырокім сталом, у ваеннай гімнасцёрцы, з гладка зачэсанымі назад валасамі. Ва ўсёй яго постаці, прамой, акуратнай, адчувалася прастата і ўнутраная дысцыпліна. Толькі не стасавалася з прастатой дзелавітасць, з якой ён адразу неяк усё бачыў і разумеў. Прагледзеўшы наш спісак, ён запытаўся:

— Усе пішуць? Усе пісьменнікі?

— Будуць пісаць, Мікалай Мацвеевіч, — адказаў Шукайла. — Гэта ўсё новыя, маладыя сілы.

— Бачу, — сказаў Галадзед і ўсміхнуўся. — Думаеце, ваша аб'яднанне патрэбна літаратуры?

— Абавязкова! — Шукайла цвёрда ткнуў у падлогу кіем і сцяў губы, што азначала таксама, што ён гаворыць бясспрэчную ісціну. — Рэвалюцыйная літаратура павінна шукаць новых слядоў.

На адну хвіліначку я ўбачыў ваганне, калі Галадзедава рука ўзяла і крутнула ў пальцах асадку. Ён падпісаў наш спісак».

Праўда, тады, у 1934 годзе, не ўвайшлі ў Саюз Савецкіх Пісьменнікаў БССР і некаторыя вядомыя пісьменнікі: напрыклад, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, пакольκі яны ўжо былі арыштаваныя як «ворагі народа».

Друкаваным органам новай арганізацыі і стала «Полымя», якое на той момант ужо два гады як называлася «Полымя рэвалюцыі» (першапачатковая назва яму была вернута ў красавіку 45-га).

За 90 гадоў існавання часопіса выйшла больш за тысячу яго нумароў. Зразумела, былі сярод іх больш і менш цікавыя, часам выходзілі здвоеныя нумары, некалькі разоў выданне мяняла свой фармат і аб'ём, вокладку і лагатып. Але «Полымя» заняло сваю

адметную, хочацца спадзявацца, нішу ў літаратурным, культурным і грамадскім жыцці Беларусі.

* * *

У **снежаньскім** нумары «Полымя» за **1997 год** была змешчана публікацыя, якая не магла не прыцягнуць увагу чытачоў: часопіс надрукаваў падборку вершаў нікому невядомай Лесі Беларускі. Пад вершамі стаялі даты, з якіх вынікала, што пісаліся яны альбо за некалькі гадоў да пачатку Вялікай Айчыннай, альбо ў першыя гады пасля яе завяршэння. Факт дзіўны і нечаканы: да моманту той палымянскай публікацыі гэтае імя ні разу не было зафіксавана ў гісторыі беларускай літаратуры, пры тым, што актыўнае вяртанне шырокаму чытачу многіх імёнаў і твораў пачалося яшчэ ў другой палове 80-х, і, здавалася, усё, хоць крыху вартае ўвагі, ужо было вернута, уключаючы і рэпрэсаваных аўтараў, і пісьменнікаў-эмігрантаў.

А тут — вершы, міма якіх не магла б прайсці крытыка ні ў трыццатыя, ні ў саракавыя:

*...То абыякавасці глетчар,*
*то льды сардэчнай мерзлаты.*
*Цішэй, мой сябра,*
*шчэ не вечар,*
*а наступленне цемнаты.*

*Мой сябра, Дух далёкіх Продкаў,*
*клянуся гонарам сваім:*
*калі мне час — у шлях кароткі,*
*расстрэленай ступлю па ім.*

*Апошні крок — з Радзімай мілай,*
*нібы з дзіцяткам на руках...*
*Яе ўтрымаю над магілай —*
*ёй жыць пасля мяне ў вяках.*

Дык хто ж такая Леся Беларуска і чаму толькі ў 1997-м з’явіліся ў друку яе вершы?

Чытаем у пасляслоўі да публікацыі, якое напісала паэтка Ала Канапелька:

*«Ішоў міжнародны кангрэс, прысвечаны абароне правоў жанчын, наладжаны Усебеларускім жаночым фондам Святой Ефрасінні Полацкай. Слова папрасіў пажылы мужчына — сівенькі, з прасветленым тварам, — і з хваляваннем у голасе загаварыў. Ён прыйшоў сюды ў надзеі расказаць пра цудоўнага чалавека, выдатную паэтэсу, з якою лёс звёў яго на далёкай Калыме ў гады сталінскіх рэпрэсій. Вось ужо крыху больш за пяць гадоў ён жыве ў Мінску, але ні разу і нідзе не знайшоў і згадкі пра Лесю. І каб прысутныя зразумелі, што размова ідзе пра чалавека незвычайнага, таленавітага, Васіль Андрэевіч Малагуша — як пасля высветлілася, украінскі паэт, — прачытаў яе верш, прысвечаны Ефрасінні Полацкай.*

*Верш, што прагучаў, не проста спадабаўся — ён уразіў. Так упершыню прысутныя пачулі імя невядомай дагэтуль Лесі Беларускі і яе вершы. У перапынку мы пазнаёміліся з Васілём Андрэевічам, а ўжо праз некалькі дзён ён запрасіў мяне завітаць да яго дамоў. І вось мы сядзім за шырокім сталом, які займае ледзь не палову невялікага пакойчыка, і Васіль Андрэевіч выкладвае перада мною папкі з паперамі, газетныя выразкі, ксеракопіі, часопісы, паштоўкі — усё, што нейкім чынам тычыцца Лесі.*

*— Я раскажу вам усё, што ведаю, — паабяцаў гаспадар. — Вось вершы Лесі Беларускі, якія я вывез з Калымы. У яе былі два тоўстыя рукапісныя сшыткі: «Я голас ваш» — вершы і «Сага аб вечнай мерзлаце» — проза. Я іх чытаў. А вось гэтыя вершы, — ён падаў стос пажоўклых старонак, — я паклаў на рускую мову яшчэ там, у лагеры. Некаторыя запісаў пасля смерці Лесі: мне іх начытвала па памяці мая нябожчыца-жонка — Алена Грубэ, якую Леся лічыла названай сястрой. Алена кіравала на лесапавале той брагадай, дзе працавала і Леся...»*

З той самай палымянскай публікацыі можна было даведацца, што сапраўднае імя Лесі Беларускі — Ларыса Пятроўна Марозава. Марозава — гэта па мужу (дзявочае прозвішча невядома), якога, афіцэра НКУС, арыштавалі і расстралялі неўзабаве пасля іх вяселля (*«па расказах Ларысы, Аляксей Марозаў быў сумленным чалавекам. Тое, што адбывалася ў органах, яго не проста непакоіла»*). А ў студзені 1939 года і сама Ларыса была арыштавана і саслана ў жаночы лагер Паўночнага Упраўлення

Дальбуда на Калыме «Эльген». Там яна і пачала пісаць вершы, прыдумаўшы сабе два псеўданімы. Пад арыгінальнымі вершамі яна падпісвалася як Леся Беларуска, а пад перакладзенымі на рускую мову — Эрынія. Восенню 1946 года ў лагер мастаком-афарміцелем быў прызначаны Васіль Малагуша. Яму і было вызначана лёсам стаць яе перакладчыкам, пасля захаваць (многае — у памяці) і праз шмат гадоў перадаць беларусам літаратурную спадчыну таленавітай і мужнай жанчыны. Самой жа паэткі не стала ў 48-м, на стары Новы год. Па словах Васіля Андрэевіча, толькі ў гэты дзень яна даведалася, што муж даўно расстраляны. Жыццё страціла ўсялякі сэнс. Яе знайшлі ў сумёце, у пачарнелым ад часу вэлюме, які ёй немаведама якім чынам удалося правезці з сабою ў ссылку.

Трагічная і адначасова рамантычная гісторыя паэткі, мяркуючы па вершах, надрукаваных у «Полымі», сапраўды, таленавітай, не магла нікога пакінуць абыякавым. Пра аўтарку гаварылі, пісалі, яе вершы трапілі ў анталогію беларускай паэзіі дваццатага стагоддзя «Краса і сіла» і ўжо рыхтаваліся для зборніка «Расстраляная літаратура», як раптам паэтка Валянціна Коўтун (між іншым, у тым самым снежаньскім нумары «Полымя» пазначана, што падрыхтоўка да друку і публікацыя вершаў Лесі Беларускі належыць ёй, а таксама Але Канапельцы і Васілю Малагушы) прызналася, што, на самай справе, усе гэтыя вершы напісала… яна. І каб «дакументальна» засведчыць сваё права на іх, выдала кнігу «Малітва да Калымы», на вокладцы якой стаяла імя Леся Беларуска, а ў выходных дадзеных — Валянціна Коўтун. У літаратурных колах да падобнага прызнання і да містыфікацыі ў цэлым аднесліся даволі стрымана, хоць не сказаць, што абыякава. Галоўнае пытанне, якое тады задавалася ў сувязі з гэтай гісторыяй, — наколькі яно ўвогуле апраўдана: прыпісваць свае вершы аўтарству рэальнай жанчыны, якая загінула ў лагеры? На што паэтка не раз адказвала: яна настолькі праніклася лёсам Лесі Беларускі, што ў моманты творчага натхнення адчувала сябе амаль адным цэлым з ёю. А да містыфікацыі біяграфіі Ларысы Марозавай (калі такая існавала наогул) яна ніколі не мела ніякага дачынення. І хоць такая пазіцыя непазбежна выклікала іншыя пытанні, усё ж, думаецца, ключ да разумення яе паводзін хаваецца менавіта ў словах «праніклася лёсам». Той, хто добра ведаў Валянціну Коўтун, відаць, памятае яе споведзі пра тое, як ёй, калі пісала пра Цётку ці Еўфрасінню Полацкую, даводзілася не проста ўжывацца ў вобразы сваіх гераінь, а жыць імі, пакутуючы разам з імі і часам самой знаходзіцца на мяжы — іх ці свайго? — жыцця і смерці. Звярніце ўвагу на стылістыку яе рамана-жыція «Пакліканыя», штуршком для напісання якога, па словах пісьменніцы, стала аб'яўленне ёй Еўфрасінні Полацкай: ёсць у гэтай стылістыцы свой своеасаблівы рытм, нешта самнамбулістычнае, звязанае з падсвядомасцю.

Між тым, у мове і стылістыцы вершаў, падпісаных псеўданімам Леся Беларуска, адчуваецца сучаснасць, літаратурнасць, якія не зусім характэрныя і для той эпохі, і для тых умоў, у якіх яны маглі б пісацца. На жаль, некалькі гадоў як няма сярод нас Валянціны Коўтун, яшчэ раней пакінуў гэты свет Васіль Малагуша. Міф, які тычыцца жыцця і творчасці Лесі Беларускі, даўно развенчаны. Хоць і сёння ў інтэрнэце можна натрапіць на сайты, дзе прапануецца гэтай жанчыне паставіць помнік у Маладзечне, адкуль яна, як даводзіў Васіль Андрэевіч Малагуша, родам.

Ці ведалі ў «Полымі», друкуючы вершы Лесі Беларускі, хто на самай справе з'яўляецца іх аўтарам? Бадай што не. Прынамсі, Валянціна Коўтун ганарар атрымала толькі за іх падрыхтоўку да друку і публікацыю.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2014 ГОД

## ПРОЗА



## ДРАМАТУРГІЯ



## ПАЭЗІЯ

## ГАЛАСЫ СВЕТУ



## У ЛУЧНАСЦІ БРАТНЯЙ



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



## КНІГАРНЯ

## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## ДЗЁННІКІ

## СПАДЧЫНА



## ПОСТАЦІ



## СТАРОНКІ ЛЁСУ



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## НАВУКА



## ДАКУМЕНТЫ ЭПОХІ



## НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ



## СЦЭНА



## МАСТАЦТВА



## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ПУБЛІКАЦЫІ

## ДЫСКУСІЯ



## НАШ КРАЙ



## ЭПІСТАЛЯРЫЙ



## ЮБІЛЕІ



## ХРАНАТОП



***Падрыхтавала М. МІХАЙЛАВА.***

